*Алесь ЖУК*

# Водсветы зорак

*ВЫБРАНАЕ*

Аповесці, апавяданні



Мінск
«Юнацтва»
1997

УДК 882.6-93
ББК 84(4Беи)6
Ж 85

*Для старэйшага школьнага ўзросту*

Мастак В. А. МАКАРАНКА

Жук А.
Ж 85 Водсветы зорак: Выбранае: Аповесці, апавяданні: Для ст. шк. узросту/Маст. В. А. Макаранка. Мн.: Юнацтва, 1997.—351 с., іл.
ISBN 985-05-0220-7.

У кнігу выбраных твораў лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь Алеся Жука ўвайшлі лепшыя аповесці і апавяданні, напісаныя ім у розныя гады.

ББК 84(4Беи)6

ISBN 985-05-0220-7



# ПАЛЯВАННЕ НА АПОШНЯГА ЖУРАЎЛЯ

*Івану Паўлавічу*
*МЕЛЕЖУ*

А вы дакарайце,
Толькі не журыце,
Ціха ўспамінайце
Васілёчкі ў жыце.

*(З народнае песні)*

Дзевятнаццатага лістапада ў дваццаць гадзін чатырнаццаць хвілін дзяжурны раённага аддзялення міліцыі прыняў паведамленне ад участковага міліцыянера Жоглы з далёкае вёсачкі Альховыя Крыніцы пра тое, што ім на полі знойдзены цяжкапаранены Сцяпан Дзямідчык. Тыя, хто страляў, уцяклі на машыне. Цераз хвілін пятнаццаць у сваім службовым кабінеце быў начальнік міліцыі. Разам з аператыўнаю групаю ён выязджаў на месца здарэння. А палове першае ночы злачынцы былі затрыманы.

Паранены ў гэты час ужо быў у раённай бальніцы. У свядомасць ён так і не прыйшоў. І хоць снег, першы снег, сыпаў густа і непраглядна, са сталічнага аэрапорта, закрытага з-за дрэннага надвор'я, трывожна паміргваючы агнямі,

выйшаў на ўзлётную і падняўся ў снегавую каламуту, узяў курс на раённы цэнтр верталёт санітарнае авіяцыі. Там, у сталіцы, па тэлефоне быў ужо выкліканы ў клініку хірург, прафесар Александровіч. Дзесяткі людзей не спалі ў гэтую ноч першага, недаўгавечнага яшчэ снегу з-за двух стрэлаў у далёкай палявой вёсачцы Альховыя Крыніцы, на полі ля Чортавых Жорнаў. Рэха іх, трывожнымі паведамленнямі ў эфіры, пракацілася на нябачных хвалях па ўсім свеце.

# I

Познявосеньская цемра рана апускалася на зямлю, глуха, замглёна, як быццам белы свет засыпалі шэраю кудзеляю і ён усё меншаў і меншаў вакол вёсачкі. Прыцемак заходзіў з пустых пляцоў на двары, дабіраўся да вокан хат. Глухая пара позняе восені. Навокал не відаць ні агеньчыка, не чуваць ні гуку. Сцяпан ведаў, што вечар і цемра прыходзяць да Альховых Крыніц ад бору, па лагчыне. Яны непрыкметным ценем высцілаюцца адтуль. Таму бор першы расплываецца, раўняецца з полем у вечаровай прыцемені. Па гэтай лагчыне некалі даўным-даўно, можа, калі і бору яшчэ не было, цякла вялікая рэчка, каб уліцца ў яшчэ большую. Таму за вёскаю, у алешніку, ад яе засталіся, спрадвеку стаяць і ўзімку і ўлетку сочацца чыстаю вечнаю вадою крыніцы, на якіх зрабілі, перагарадзіўшы запрудаю, азярцо.

Сцяпан паставіў пры ганку веранды вядро і ўсё роўна як хацеў адысціся ад наступаўшага змроку, пайшоў да варотцаў, адчыніў іх, выглянуў на вуліцу, пустую і ціхую, і зноў вярнуўся на двор, стаяў пры варотах, быццам прыслухоўваўся і прыглядаўся да нечага.

Яго заўсёды турбавала гэтая часіна. Нешта мулка варушылася пад грудзямі, мучыла сэрца журбою і сумам — нібыта балела ў яго душа, па самім сабе, як аднекуль здалёку глядзеў ён на вёску, на сябе самога, адзінокага ў глухім мораку, які наплываў на зямлю, наплываў на поле, на хаты, як вада вечнага забыцця, і здавалася, можна задыхнуцца ў гэтай вадзе.

У такія часіны яму заўсёды здавалася, што ён чуе голас, а калі не голас, то водгалас прызыўнага, адлётнага крыку Апошняга Жураўля, пра якога яму яшчэ некалі расказваў дзед. Высока, аднекуль здаля, абзываўся ён, зліты з небам,

і з полем, і з цішынёю, тужлівы, адзінокі развітальны жураўліны кліч.

— Сцяпан, ты пакарміў на ноч курэй? — жонка спытала з парога, і ён аж сцепануўся ад нечаканасці, як дзіця, якога злавілі ў нейкай дзіцячай шкодзе.— Во, зноў стаіць, слухае...

Жонка яшчэ нешта забубніла на яго, забрала вядро і зачыніла дзверы веранды. Сцяпан уздыхнуў, яшчэ раз глянуў на вуліцу.

Не было ніякага жураўля. Толькі глухі, позні асенні вечар.

У хаце, на большай палавіне, жонка запаліла святло, і ад гэтае віднаты ў вокнах яшчэ цямней, няўтульней і халадней стала на дварэ. Чутно было, як загаварыў у хаце тэлевізар.

Сцяпан завярнуўся ўжо, каб ісці ў хату, калі далёка, здавалася, з-за краю зямлі, угледзеў два па-ваўчынаму роўныя агеньчыкі, якія ішлі па дарозе, потым скіравалі ў поле. У яго аж тахнула сэрца — зноў прыехалі. Боль, крыўда, злосць за тое, што яго ашукалі і што ён паверыў, захлынулі яго. Ад гэтага стала горача ва ўсім целе, зашумела роўным шумам у галаве.

Ён яшчэ пастаяў, глядзеў туды, дзе паўзлі агеньчыкі. Нешта нахабнае, упэўненае было ў іх. І ўпэўненасць тая была з-за таго, што ён нічога не можа ім зрабіць.

Сцяпан скора, як баяўся спазніцца, пайшоў у сенцы, скінуў там куфайку, надзеў кажушок, спяшаючыся, каб не выйшла з хаты жонка, у старой фанернай шафе ў сенцах узяў стрэльбу, выбраў з шуфляды, дзе ляжалі гатовыя патроны, шэсць штук, укінуў у кішэню кажушка і скорым ходам шухнуў з двара, цераз вуліцу, па запусцелым дварышчы суседняе хаты туды, у поле, дзе плылі два чырванаватыя ў вечаровай імгле агеньчыкі.

З засады яму добра было відно поле. Рунь на ім гэты год густа, цёмна закусцела, ляжала, як вывернуты калматы кажух. Рунь паказвала на добры ўраджай. Ён прыходзіў, глядзеў яе ўдзень.

Сядзець было халаднавата. Сцяпан пашкадаваў, што паленаваўся, не абуў замест ботаў валёнкі — пачыналі настываць спадыспаду ногі. Устыла ад марозу зямля, і ад яе цягнула, як ад звадзянелага снегу, холадам. Можа, таму, што пад мароз было яшчэ і вільготна, туманліва. І неба замазалася, не паказвала на яснасць і на зоркі.

Машына хадзіла па полі, як добра навучаны сабака, чаўнаком, прынюхвалася да кусцістае зеляніны белымі насамі фар, усё бліжэй і бліжэй падбіраючыся да таго краю, дзе сядзеў у засадзе Сцяпан.

Месца гэтае ён нагледзеў сабе даўно. Тут некалі стаяў млын, на гэтых узгорках, якія называлі Партызаншчынаю. Ад млына асталася на ўзгорку яма, якая з часам зарасла быльнягом, цыкорыяй, асотам, травою. Сюды, да гэтае ямы, пасцягвалі і паспіхвалі з поля валуны, падаставалі патайнікі і таксама пасцягвалі ў гэтую крушню. Месца сабе Сцяпан выбраў за вялікім каменем, які ён памятаў яшчэ з таго часу, калі быў малы. З яго некалі пачалі былі вычэсваць камень на жорны ў млын, абрабілі ўкруга, зраўнялі зверху, аставалася толькі адкалоць знізу ўсё лішняе і прасвідраваць дзірку. Але чалавек толькі пазначыў, як будзе адсякаць другую палавіну каменя, і не кончыў работу. Расказвалі, што яго вечарам ля каменя чорт напалохаў. Камень так і звалі спрадвеку Чортавымі Жорнамі.

Сцяпан паклаў старэнькую курковую дубальтоўку на камень, як на стол, стуліўся за ім у зацішку.

Машына ўсё вынюхвала рунь, і амаль не чутно было яе матора.

Здавалася, што вёсачка была недзе далёка, як маленькі астравок ці карабель, на якім свяцілася толькі некалькі агеньчыкаў. Ад гэтае яе далечыні, ад велічыні поля, якое мёртва ляжала, туга схопленае марозам, ад таго, што яму, здаецца, няма канца, такім малым і слабым здаўся Сцяпан сам сабе. Як на дне яны былі з машынаю, а над усім гэтым уставала нешта высокае, неспазнанае, недасяжнае, вечнае, і да яго цягнула, і яно палохала сваёй велічынёй і неспазнанасцю... На нейкую часіну Сцяпану здалося, што ён усё роўна як падымаецца ад зямлі, здалося, што зараз адкрыецца яму ўсё да канца. Ад гэтага прадчування сэрца сціснулася соладка і трывожна.

Сцяпан аж здрыгануўся, хаця яшчэ і не зразумеў, што перамянілася. Міжволі рука прывычна ўхвацілася за шыйку прыклада стрэльбы. У полі ўспыхнула на машыне трэцяя фара, высвеціла тупы круглы капот і трапяткога, бездапаможна выцягнутага ў палёце над зялёным звярка. Капрызна фыркнуў матор, і машына пайшла ўслед, не выпускала шарака з лютага белага калідора. Машына даганяла яго. Як усё роўна не імчала следам, а ўцягвала яго ў сваю белую пашчу. І ён з яшчэ большым адчаем высільваўся, аж слаўся ўвесь — каб толькі ўцячы туды, да канца

поля, да лазняку абапал палявое дарогі — сценкі! Там было яго ратаванне. Коратка, чырванавата пырснула святло з машыны. Нямоцна трэснуў стрэл. І шарак, як падрэзаны, мякка пакаціўся клубком. Клюнула носам, тармазнула машына. Нежывога яго не выпусціла са святла. Сцяпан адчуў, як б'ецца сэрца, нібы перад машынаю прайшоў сваім смяротным прабегам не заяц, а ён сам.

З машыны выйшаў чалавек. Паволі падышоў да звярка, падняў яго за пярэднія ногі, патрос перад сабою — паказваў таму, у машыне, вярнуўся да яе, адчыніў заднія дзверцы, кінуў туды здабычу. Патухла пражэктарная фара, і машына зноў пачала нюхаць рунь.

Сцяпан пераламаў стрэльбу, правёў пальцам па патронах, хоць памятаў, што яны ў ствалах. Надыходзіла яго пара. Ён расшпіліў кажушок і прыціснуў рукі пад пахамі — каб былі цёплыя. Прывычка даўняя, яшчэ з партызан.

Машына разы са два прайшла па полі, але не гэтак старанна, як хадзіла спачатку. Пасля таго як стралялі і ганялі, наўрад ці што асталося на гэтым полі. Няма дурных зайцоў сядзець тут. І ў лад Сцяпанавым думкам машына запаліла пражэктар, прайшла наўсцяж па полі, сюды, да Сцяпана, да выхаду на дарогу. Пайшла скора, лёгка пакалыхвалася на разорах.

Пад рукою ў Сцяпана прывычна суха трэснулі ўзведзеныя куркі. Ён ведаў, што цяпер машына не ўцячэ ад яго, што ён зарадам карцечы выб'е ў коле дзірку з кулак. Тады, хто б яны ні былі, не схаваюцца, ён прывядзе іх да людзей, да Жоглы... З гэтаю палёгкаю ён устаў за каменем на калена і, як толькі машына амаль што параўнялася, стрэліў у пярэдняе кола. Яшчэ не падняў галавы ад стрэльбы, з радасцю ўгледзеў, як павяло машыну ўбок, як спатыкнулася яна і не стала ў яе бегу. З палёгкаю ён разагнуўся, гатовы падхваціцца да машыны. І ў гэты час на яго, як на звярка, пырснуў люты сноп святла, і разам з ім на яго аднекуль скочыў па-рысінаму драпежны звер... Сцяпан адчуў, што ён скочыў, чырвона бліснулі вочы, пеканула збоку шыю, якую мёртваю хваткаю рванулі зубамі. Сцяпан выпусціў стрэльбу, абедзвюма рукамі схапіўся за шыю і нахіліўся ніцма, на Чортавы Жорны, абліваючы халодны камень крывёю. Ён яшчэ пачуў, як недзе высока ў небе самотна ўскрыкнуў Апошні Журавель. Усё роўна як з перапуду ад таго, што нарабілася, патухлі фары, і машына рванулася з месца, б'ючы і калоцячы аб дарогу прабітым колам.

Потым стала ціха і глуха. Пачынаў церусіцца, як асмельваўся, першы снег. І па тым, як ён пачынаўся, і па той цішыні, якая залегла над зямлёю, было вядома, што снег кладзецца на ўсю зіму, што прыйшла яго пара і ніхто нічога не пераменіць.

Але так зроблена на гэтым свеце, што лес усё чуе, а поле ўсё бачыць. І таму быў трэці чалавек, які бачыў і агеньчыкі двух сустрэчных стрэлаў, чуў, як уцякае падбітая машына, ведаў, што там зрабілася. Мярцвеючы ад здагадкі, ён вывеў з двара трохколавы матацыкл са згарэлымі глушыльнікамі, завёў яго, усё роўна як расстраляў заснулую вясковую цішыню з буйнакаліprobернага кулямёта, і цераз грэблю, паўз возера памчаў на Партызаншчыну, да Чортавых Жорнаў.

## II

*...Стары бабёр выправіўся ў дарогу цёмначы. Толькі недзе далёка на ўсходзе крыху абазначылася светласць на небе, але была яшчэ ноч, кароткая, летняя. Над вадою слаўся туманок, рэдкі, празрысты, які знікне адразу, як толькі прагляне сонца. Стары бабёр ціха, не плюскануў, выйшаў з-пад вады недалёка ад свае хаткі, доўга прыслухоўваўся, паволі падгрэбваючы да невялікага астраўка. Вылез на яго, сядзеў, прыслухоўваўся і прыглядаўся.*

*Недалёка сонна крыкнула вадзяная курка, зашалпаталася ў траве, ціха, як незадаволена, адазвалася на яе крык за трыснягом крыжанка, і зноў усё супакоілася.*

*Стары бабёр яшчэ раз азірнуўся на хатку, сышоў з астраўка і паплыў, нячутна, толькі лёгка разыходзілася па вадзе хваля.*

*Плыў да самага берага, дзе пачыналася тупкае і куды яны, бабры, не любілі выходзіць. У іхняй калоніі былі накапаны норы, забалочана, і туды ніхто не мог дабрацца. Тут быў чысты бераг, палоска адкрытае, не захінутае нічым вады.*

*Стары бабёр доўга стаяў на месцы, прыслухоўваўся, потым усё ж, быццам пераступіў мяжу, вылез на бераг, прысеў.*

*Тут віўся маленькі ручаёк. Выцякаў ён з крыніц за кіламетры два адсюль, з-пад двух вялікіх, як горы, узгоркаў. На адным з іх стаяў стары панскі будынак. Цяпер яго цяжка пазнаць, Ён даўно перароблены пад*

*школу. Некалі ў лагу ляжалі вялікія сажалкі. Цяпер яны зараслі трыснягом, чаротам, але з іх выцякала вада, бегла ручаём, які пакрысе большаў і які перапынілі плацінаю невялічкага заводзіка, дзе рабілі газіраваную ваду. Нявычышчанае азерца густа зарасло трыснягом, толькі перад самаю плацінаю, на глыбейшым, быў плёс. А далей, дзе ручаёк рабіў завоіны, у балотнай лагчыне, парослай алешнікам, яшчэ адну плаціну даўным-даўно паставілі бабры. Там, дзе яны забалоцілі сабе месца, і жыла іх невялікая калонія. З аднаго боку ад рэчачкі стаяў на ўзгорку бор, пад ім хат з пяць маленькае вёсачкі. І гэты заводзік. Сюдою мала хто хадзіў, мала хто ездзіў, і яны жылі тут спакойна, без клопату. Хапала на іх і лазы, і карэньчыкаў, і травы. Тут была іх маленькая радзіма.*

*Але стары бабёр ведаў, што сюды яны прыйшлі. Прыйшлі з вялікае, прасторнае рэчкі, не раўня гэтаму раўчуку, які праз пяць кіламетраў прападае ў чыстым полі.*

*Сюдэю паўз лес, па глыбокай лагчыне, дзе ўвесну, як на рацэ, шумела расталая вада, была дарога да вялікае рэчкі, дзе жылі спрадвеку вольна і неабсяжна бабры. Стары бабёр памятаў і ведаў гэта. Цяпер ён сабраўся пайсці туды. Ён шукаў дарогу да свайго прасторнага спрадвечнага пасялення.*

*Ісці трэба было цяпер. Стары бабёр адчуваў, што трэба ісці не пазней чым гэтым летам. Бо пазней невядома, ці астанецца ў яго сіла, каб прывесці туды маладую сваю сям'ю, пабудавацца і пакінуць іх там, на спрадвечным месцы. А зрабіць гэта можа толькі ён адзін, бо ён памятае пра тое, што яму расказвалі старыя бабры, яго бацькі, і толькі ён адзін можа знайсці дарогу.*

*Дарогу гэту яму трэба было цяпер пазнаць, пазнаць тое месца, пра якое яму расказвалі старыя бабры, дзе было гэтак прасторна і адкуль іх выгналі вялікія машыны, якія не пакінулі на рацэ ні прысадаў, ні травы, ні самое глыбокае ракі. Тады яны пакінулі сваю радзіму. І ўвесь час яны расказвалі пра яе. І стары бабёр памятаў іх расказы. Стары бабёр хацеў вярнуцца назад, туды, дзе было гэтак вольна і шчасліва. А там, дзе вольна, здавалася, што і сіла будзе другая, і другое будзе здароўе, і там ён будзе жыць вечна.*

*Стары бабёр ішоў павольна, сапраўды старэчаю хадою, бо хадзіць бабры не любяць і не ўмеюць. Ідуць толькі тады, калі іншая рада не служыць.*

*Стары бабёр выйшаў нарэшце з поплаву, укуп'елага невысокімі купінамі, якія парастоптвалі чароды кароў, што каторы год пасвіліся тут. За поплавам пачыналася ворная зямля. Поле. Пераступаючы палявую мяжу, стары бабёр азірнуўся — ён быццам пераступаў у новы свет, чужы, з якога невядома ці можна будзе вярнуцца. За ўсё жыццё стары бабёр нікуды далёка не хадзіў, тым больш не выходзіў у чыстае поле, з аднаго боку якога чужа стаяў пахмуры ранішні лес. Яго аднолькава палохаў і лес сваёй дрымучасцю і непрыступнасцю, невядомасцю таго, што хавалася там, у яго прыцемненых шатах. Палохала і поле — сваёй адкрытасцю, раўнатою, на якой нідзе няма вады, і таму схавацца яму, калі што, не будзе дзе.*

*Поле, на якое выйшаў стары бабёр, было засеяна лубінам. Густы, як дрот, калючы залёнымі струкамі, ён як знарок заблытваў падарожніка, калоўся. І тое, што спачатку нырнуў у лубін, як у ваду, цяпер не цешыла бабра. Цяпер ён зразумеў, што ў яго не стане сілы прабівацца скрозь гэты зараснік. Трэба было выходзіць з лагчыны да лесу, на горку. Але ён ведаў, што выходзіць туды небяспечна. Трэба ісці сюдою, логам. І ён ішоў, пакуль неспадзявана не спатыкнуўся ў вымыты дажджавою вадою раўчук. Вада некалі прайшла тут нахабна, зламыла па дарозе лубін, намыла на яго пяску і пакінула пасярод поля, па лагчыне, пакручастую дарогу-прамыіну, над якою сыходзілася зялёнае поле.*

*Стары бабёр з палёгкаю ўздыхнуў — след вады не абмане, прывядзе да вады. Даўным-даўно, мабыць, тут, дзе гэтая лагчына, цякла вялікая рэчка да яшчэ большае... Але гэта так даўно было, што памятае пра той час, мабыць, адна толькі зямля, больш ніхто не памятае...*

*У зялёным лубянішчы бабру здалося, што ён плыве ў зялёнай вадзе тае, даўняе рэчкі і што яна прывядзе да вольнага спрадвечнага месца. Ён ішоў упарта, цвёрда.*

*З-за цёмнага лесу пырснула першым промнем ранняе летняе сонца...*

Сцяпан устаў рана. З тою спрадвечнаю трывогаю сенакоснае пары, якую ён памятае з малых год. Трэба скасіць, высушыць, састагаваць сена. Пакуль пагода на дварэ. У памяці гэтая пара жыла пахам дзёгцю, якім тлуста падмазвалі колы, ранняю гаманою на вуліцы — і жанок, і дзяцей. Ён заплюшчыў вочы — на імгненне нейкае, як

цень махнуўся перад вачамі, жыва ўсплыло тое далёкае. Ён толькі ўсміхнуўся яму.

Ціха было ў вёсцы. Спала і жонка. Склала дзве рукі — далоня да далоні,— падклала пад шчаку і спала, як быццам прылегла ў абед адпачыць у полі і задрамала.

Сцяпан асцярожна, каб не пабудзіць яе, падняў руку, паглядзеў на гадзіннік. Асцярожна, каб не пачула жонка, ён злез з ложка. Яна ўсё ж расплюшчыла вочы, няўцямна паглядзела на яго.

— Спі яшчэ... Рана.

І жонка зноў заплюшчыла вочы — пагадзілася з ім спрасонку.

Сцяпан выйшаў на двор. Абдало адразу не ранішнім зябкаватым халадком, а душным, настоеным за ноч павевам — сухою зямлёю, сухою травою, сухім ветрам. Усім сухім. І не пахла сенам, расою ранішняю, калі за ноч зямля крыху адляжа ад спякоты.

Ад успамінаў пра гарачыню ён уздыхнуў — згарэла збажына. Толькі дзе на лагах выстаяла, выгарнулася ў колас і налілася. І там яшчэ, дзе хоць крыху крапянула дажджу. Гэтак добра перазімавала поле, гэтак хораша ўзялося з вясны — і згарэла. У полі, асабліва дзе на ўзгорках, як нечая гарачая вялізная далонь прыгладзіла збажыну — і яна забялелася яшчэ ззеляну, пустая і маленькая, да часу ласівелая.

Спадзяваліся на бульбу. Але ішло на тое, што сонца сасмажыць і яе, не дасць павязацца.

Сцяпан сам не заўважыў, як неўпрыкмет выйшаў на вуліцу і паволі пайшоў да старое ліпы, дзе ад самае вайны ён вешаў нарад. Вось так, з самага досвітку. Размашыста хімічным алоўкам было распісана на лістку, каму грэбці сена, каму падаваць, каму стагі вяршыць. На ўсю старонку з вучнёўскага сшытка. І не хапала яшчэ месца — на другім лістку дапісваў, размяркоўваў вясковы клопат на цэлы дзень...

Цяпер на ліпе не было і дошчачкі. Знак астаўся толькі на тым месцы. След ад сякеры — прачос зроблены быў, іржавыя цвікі. Пахіліўся стары, яшчэ з коланых напал круглячкоў плот. Ад лаўкі, на якой зранку сядзелі і курылі мужчыны, толькі два слупкі стаялі. За плотам высока і густа расла крапіва.

За ёю відзён быў камень. Той, што ляжаў ля парога.

Ад таго, што жыў тут чалавек, нічога больш не асталося. Толькі гэтая пустка за пахіленым плотам. Тут стаяла

хата брата Васіля, старэйшага. Ужо шэсць гадоў як памёр. Толькі ліпа, на якой вешалі нарад, так і цяпер асталася — Васілёва ліпа. Дзе стаяла братава хата, некалі была іхняя, бацькоўская. Кожнага разу, калі на вока пападаўся камень пры дарозе, Сцяпану здавалася, што гэта той камень, які ляжаў некалі пры парозе бацькоўскае хаты. Той, праўда, помніцца, быў вялікі. Але ж то дзіцячыя вочы бачылі. Ды і крапіва цяпер абрасла навокал.

Сцяпан не прыпыніўся пры дрэве, на якім вешаў некалі нарад і дзе некалі збіраліся мужчыны.

— Зцямна гаспадаруеш?

Жогла стаяў, абапёршыся на вароты. У старых міліцэйскіх штанах з кантамі і блакітнай, з выцертым каўняром расшпіленай міліцэйскай рубашцы, з-пад якое туліўся да варот, вялікі пад белаю майкаю, як падвешаны жывот. З-пад кусцістых павек Жогла прымружана глядзеў на Сцяпана.

— Дзень добры,— Сцяпан падышоў, падаў руку. Спрадвеку ў вёсцы мужчыны віталіся адзін з адным за руку.

— А ты зранку пільнуеш?

— Кожнаму сваё. Табе гаспадараваць, а мне пільнаваць.

— Па такім сторажы!..

Сцяпан махнуў рукою. Жогла дабрадушна ўсміхнуўся.

— Цяпер няма каму ні работу рабіць, ні красці... А некалі, помніш, не вельмі хто адважыцца ўзяць у мяне на ўчастку.

Жогла ўздыхнуў, усё роўна як шкадаваў таго часу, калі многа кралі і яму трэба было лавіць.

— Самагонкі не гоняць, «чарніла» п'юць... Хіба хто на патрэбу сабе зробіць. Некалі кралі, цяпер проста бяруць. Так што мне лягчэй, чым табе. Зямлі яшчэ больш стала, а людзей менш.

Сцяпан усміхнуўся — Жогла любіў пахваліцца, як добра ён умее прыстроіцца ў жыцці. І тое, што стаў міліцыянерам, ставіў сам сабе ў пахвалу. Сцяпан успомніў таго пасляваеннага ўчастковага Жоглу, калі яшчэ ў лесе і ў балоце хаваліся паліцэйскія недабіткі. Тое, як ён прападаў начамі, туляўся па хлявах, баяўся начаваць дома, пакуль не палавіў іх.

— Ты, Федзя, мне дзякуй гавары. Каб некалі я не адказаўся ад гэтае работы, быў бы я ўчастковым.

— Ну, там ведалі, каго трэба браць. Куды ты выбраўся?

— Прайду пагляджу на балота. Цімафееўку пара забіраць. У порах высахла.

— Цяпер не згніе, не бойся... Колькі там тае цімафееўкі. Прыедуць з падборшчыкамі і машынамі — за дзень і скружаць табе яе.

— Ну, як сказаць,— буркнуў Сцяпан.

Яго злавала паблажлівая насмешлівасць Жоглы. І гэты намёк, што толку мала ад яго брыгадзірскага клопату. Недзе праўда была ў тым, пра што гаварыў Жогла. З трыццаці сямі двароў чатыры двары не пенсіянерскія. І то жанкі на кароўніку, на штатнай рабоце. Жогла гаварыў праўду — каб і была патрэба, то ён са сваёй брыгадаю нічога не зробіць і не прыбярэ з поля цімафееўку. Калі б нават падняў на работу ўсіх сваіх пенсіянераў. На Альховыя Крыніцы астаўся толькі адзін конь, стаіць у кароўніку разам з каровамі. За коней Сцяпан пасварыўся са старшынёй. Старшыня запомніў яму гэта. Коні спатрэбіліся старшыні, каб даздаць план па мясу. Пляцы людзям заараць старшыня браўся калгаснымі трактарамі. Дзямідчык ведаў, што з гэтага будзе. Вёска без каня як не сапраўдная. Як без душы жыве.

Сцяпан выйшаў у канец вёскі. Ён думаў пра коней і ўсміхаўся. Ад гэтых думак было цёпла на душы. Ён памятаў коней, кожнага як і звалі, і кожнага па мордзе, усё роўна як і людзей, якія жылі і якіх ужо не стала ў вёсцы. Адышлі людзі, адыходзяць і коні, кажуць, адыходзіць, вымірае і сама вёска. Вось дажывуць яны, цяперашнія старыя, і не будзе больш Альховых Крыніц...

Сцяпан цяжка ўзышоў на ўзгорак, спыніўся.

Наперадзе, дзе было балота, там, дзе некалі цякла і рэчка, у лагчыне, лёгка і сівавата слаўся туманок. Балота давала знаць пра сябе нават у гэтае засушлівае, выпечанае сонцам лета. Як астраўкі, над поплавам уставалі купчастыя вершаліны лазовых кустоў, і, як шапка, высілася за туманцом Палянка — некалі на балоце быў такі грудок. Ля яго вёска капала сабе торф. Пасля вайны рэзалі там на балоце торф, сушылі і палілі ім зіму. Балота не толькі карміла сяк-так карову, але і грэла. Цяпер там, пад Палянкаю, зараснікі лазняку на тым месцы, дзе пазаплывалі кар'еры, забалоціліся. Цяпер торф возяць з брыкетнага завода. Першыя гады, як пачалі прадаваць брыкет, не хацелі купляць людзі, казалі, што ў печы салярка смярдзіць. Цяпер нікому ўжо не смярдзіць, бяда толькі, што і дастаць яго не вельмі проста. Чаргу трэба добрую выстаяць.

Адтуль, ад былога балота, усё ж павявала цеплаватаю вільгаццю, і здавалася, што там і сапраўды вада. Гэтага ўсмяглага лета хацелася вады. Вады там не было, цякла канава на месцы былое рэчкі, вузенька і мелка, як ручаёк, імкліва несла бедную сваю ваду некуды далей. А там, пад туманам, ляжала, скошаная касаркамі, сухая цімафееўка, якая добра вырасла гэтага года тут, на нізкім месцы, і куды цяпер можна ўлезці з машынамі. Мокрага года зямля пуставала, бо ні з восені, ні вясною нават з гусенічнымі трактарамі на балота ўсё ж нельга было ўлезці. Ад балота, бліжэй да вёскі, пышнаю, высокаю купаю бяроз, над якімі з краю высіўся адзінокі, купчасты і вышэйшы за іх дуб, зелянелі могілкі. На бярозах там асталіся яшчэ дзедаўскія борці. Пры Сцяпане абгарадзілі новым плотам на цэментавых шулах, запасліва прыгарадзілі вольнае зямлі. Сцяпан сумна ўсміхнуўся — дарэмна гэтак запасліва прыгароджвалі. Бліжэй ад могілак, пад самым узгоркам, стаяў алешнік — цягнуўся паласою туды, да балота, і там пераходзіў у кусты лазняку. У алешніку жыў металічны, вільготны халадок, нават цяпер, у такое пекла. Тут жа ля ўзгорка крынічная лагчына была перагароджана земляною плацінаю, перад якою стаяла невялікае азерца, парослае ў завоінцы трыснягом, з невялікім чыстым люстэркам вады і густою травою там, дзе зноў пачынаўся лазняк, алешнік, які цягнуўся аж да самага пачатку вёскі. Ля яго на ўзгорку зеляне́ў калгасны агарод — ніжэй да крыніцы капуста, потым агуркі, а на самым узгорку памідоры, якія шчодра спелі. За агародам — і сама вёсачка, затуленая садамі, прысадамі, ціхая і пакорлівая нейкая цяпер, у гэты світальны час.

За плячамі Сцяпана, за крыніцамі, далей угору ішло поле. На ім ні за што не магло зачапіцца вока — збажына. Поле і поле, колькі спасцігала вока.

Сцяпан любіў глядзець на поле ўлетку, калі яно стаіць у калоссі. Самае лепшае, што ён ведаў і любіў у жыцці, гэта было поле, якое спелым коласам хілілася, гайдалася, накочвалася хвалямі насустрач чалавеку, быццам лашчылася да яго, хацела, каб ён пагладзіў яго сваёй далоняй. Дзямідчык уздыхнуў — цяпер на полі, як пры лішаі, значыліся выжарыны, і яно не гарнулася ў трубу, а суха, нашчаціне́на стаяла пустым, высмаленым на сонцы калоссем, якое не змагло наліць як след зерне.

Востра свіснулі крыллем над галавою дзве качкі, без аблёту, як дадому, адразу ж спікіравалі на возера, у зараснік травы. Там былі іх вывадкі.

Адсюль, з узгорка, было відно, як з вёскі на калгасны агарод выйшла жанчына, угледзела на ўзгорку Сцяпана, пастаяла і незадаволена пайшла назад. Ён пазнаў Жоглаву Ліду. Усё роўна як сваіх памідораў не хапае. Не можа жыць, каб чужога не ўварваць.

Сцяпан сышоў з узгорка, па грэблі вярнуўся да вёскі і пайшоў уздоўж агарода, паўз самую крыніцу — да брыгаднага двара, гэта значыць да кароўніка з абгароджаным летнім дваром. Тут жа стаялі двое апошніх даламаных калёс і невысокая воданапорная вежа.

Паўз крыніцу густа, у чалавечы рост узяліся крапіва і лапушнік, жоўта, куп'іста цвілі ваўчкі, свежа, забыта і непрывычна за травою, за кустамі цурчала вада. Яе было відаць з-за травы — іржавую жалезнымі разводамі. Была нейкая загадка ў гэтай вечнай вадзе, якую давала зямля. Давала і берагла. Захіляла яе алешнікам, травою густа, што нават і ў самую гарачыню цяжка было дастаць яе сонцу. У вайну, калі не было мужчын і не было каму і на чым вазіць дровы, жанкі высеклі ўвесь алешнік за зіму ў крыніцы і потым не давалі яму падняцца і ўзяцца. І крыніцы пачалі высыхаць і прападаць.

Сцяпан не даў секчы алешнік. Жоглу ўгаварыў, і той сваёй міліцэйскай уладаю таксама заступіўся. Цяпер таму і стаяць дрэвы, ёсць пад вёскаю азерца.

Тады пра яго не думалі, яно не надта і патрэбна было — цякла рэчка, і пакупацца, і рыбы злавіць можна было схадзіць на яе. Цяпер толькі возера асталося.

Паўз алешнік Сцяпан выйшаў за крайнія хаты, да сажалкі, у якой паілі кароў. Ад сажалкі згорблена патупала дадому старая Аўдоця. Да каштана, што рос пры вугле Аўдоцінага плота, быў прывязаны крыж, які некалі стаяў у пачатку вёскі. Такія крыжы пасля вайны стаялі ў кожнай вёсцы. Крыж гэты падгніў, упаў, так і ляжаў пад плотам паўз дарогу, ніхто не адважыўся забраць на дровы, спаліць ці пасекчы. Пасля таго як памёр Аўдоцін Антось, яна падняла крыж і прывязала дротам да каштана.

Канчаўся ранішні Сцяпанаў абход. Даўні абход, які ён рабіў з таго часу, калі стаў старшынёй калгаса. Тады Альховыя Крыніцы былі калгасам. Тут ён прарабіў усё жыццё, не перапыняючыся, толькі два разы перапынак быў. Першы, калі выходзіў асколак, другі, калі, ратуючы калгасную карову ў балоце, прастудзіўся і моцна захварэў на запаленне.

Цяпер не было чаго хадзіць, ён гэта ведаў, але не мог перасіліць сябе. Стараўся, каб яго менш і бачылі гэтаю пароюю.

Дзямідчык ужо заварочваў у вуліцу, калі ў крыніцы пачуў лесніковага сабаку. Той забрахаў люта, усё роўна як мядзведзя ўгледзеў, і аж задыхаўся ад лютасці і хрыпу — гэтак на нешта брахаў. Сцяпан прыслухаўся. Сабака не адступаўся — аж зямлю драў, ваяваў з некім.

Яго адзінокі і такі заклапочаны брэх разносіўся па ўсім наваколлі. Недзе з другога канца вёскі сабаку адгукнуўся певень. І адтуль жаночым голасам гукнулі нараспеў: каровы выганяй!

Рыжы гладкі леснікоў сабака аж захліпаўся, зрываўся на шчанячы віск, гроб зямлю і кідаўся на невялікага рудога звера, які зацята паварочваўся насустрач сабачым наскокам. І тады сабака адкочваўся назад, нібы каб набраць разгону і кінуцца ў новую атаку, заходзіўся брэхам. Калі ён заўважыў Сцяпана, забрахаў, аж зацекаючыся, яшчэ мацней гроб зямлю і ўжо азіраўся на Сцяпана, быццам пытаўся: што гэта такі за звер сустрэўся яму на сваіх агародах, дзе ён вырас змалку, дзе ведаў усё, кожны кусцік.

— Пайшоў вон, дурань!

Сцяпан падняў груду зямлі і замахнуўся на сабаку. Той не чакаў такога павароту, не гэтак ад болю, як ад крыўды і нечаканасці жаласліва віскнуў і, падтуліўшы хвост, кінуўся дадому.

— А ты адкуль тут?

Сцяпан здзіўлена глядзеў на рудога, здаецца, непаваротлівага звера, які ўсё яшчэ натапырана і насцярожана цікаваў цяпер ужо на Сцяпана.

Бабёр падняў галаў, быццам недачуў ці не зразумеў, пра што ў яго пытаецца Сцяпан, завярнуўся і па-гаспадарску паволі пайшоў да зарасніку крапівы, дзядоў і ваўчкоў, за якімі пачыналіся кусты алешніку, пачыналася крыніца, вада. І перад тым як прапасці з воч, бабёр яшчэ прыпыніўся, азірнуўся на Сцяпана, і таму здалося, што звярок кіўнуў галавою — падзякаваў.

Сцяпан заплюшчыў вочы, сцепануў галавою — каб адагнаць гэтае насланнё. Нікога не было перад ім. І следу ніякага. Раніца была сухая, без расы. Толькі пагрэбеная сабакам зямля асталася. Больш ніякага знаку. Але ж бабра ён бачыў, і не маладзенькага, а старога рыжага мацёрага бабра з хвастом, як лапата.

## III

Сцяпан азірнуўся — ці не бачыць яго хто тут. На дарозе стаяў старшынёўскі «газік». Сам старшыня выйшаў, абапёрся рукою на крыло машыны, другую ўпёр у бок, нахіліў набок голаў і глядзеў на брыгадзіра.

Сцяпан, як засталі яго за нечым нядобрым, заспяшаўся да машыны і яшчэ здалёк павітаўся:

— Дзень добры.

— Дзень добры,— старшыня паволі падаў руку.— Што, ужо гербарый збіраеш?

Ён насмешліва падцяў губы, але ў прыжмураных вачах не было весялосці, а злосць. Ён быў яшчэ малады, гадоў за трыццаць пяць, тлуставаты і па-бабску круглаваты ў плячах і а твару.

— Вот выйшаў паглядзець...

— Дзіва што, дзялянку выгадаваў. Дзяды, ваўчкі, крапіва — хоць на выстаўку вязі. Гаспадар! А сметніцу ў пачатку вуліцы зрабіў — любавацца замест работы на яе ходзіш... Хто табе даў права ўчора камбайны з поля адпраўляць?

Нацягнутая ўсмешка і тая прапала з твару ў старшыні. Сцяпан ніяк не мог прывыкнуць да гэтага яго «ты».

— Рана яшчэ тут жаць!

Ён не стаў казаць, чаму рана — мяккае яшчэ зерне, глуму многа, калі жаць. Старшынёва «ты» раззлавала яго.

— Слухай, гаспадар,— старшыня зноў з'едліва ўсміхнуўся.— Думаеш, ты адзін усё бачыш і ведаеш, а мы дурныя і сляпыя?

— Мяккае яшчэ зерне, пасля сушылкі што астанецца...

— Слухай, Дзямідчык, чаго ты ўсюды лезеш? Ты брыгадзір, грошы кожны месяц маеш, як і ўсе. А колькі тут у цябе пенсіянераў? — раз, два — і фіга! Ну і палучай свае грошы, хрэн з табою, штрафуй сваю пенсійную каманду за іх гусей, якія ў патраву лазяць, паглядзі, каб каровы былі дагледжаны — і не блытайся пад нагамі! Не ты ў канцы канцоў сеяў, без цябе і сажнуць!

— Я ж...— пачаў Сцяпан і збіўся: і сеялі, і жаць будуць механізатары. У брыгадзе нават і свірна няма, і ніхто з яго людзей ні на сяўбу, ні на жніво не хадзіў і не ходзіць. У кладовай пашню палучаць, салому з поля гатовую прывязуць...

— Ты быў на праўленні? Быў. Чуў, што было сказана — калі пачаць жніво? Чуў. А ты мне ўчора ўсё сарваў. Адзін «Інтэрнацыянал» ні аднае тоны не здаў.

Старшыня ляпнуў далонню па крыле.

— Ну і што, што парад не ўдаўся? У канцы года падаб'ецца...

— Слухай, Дзямідчык, я ж помню, як толькі камбайны прыйшлі — колькі такія, як ты, трубілі, што зерня на полі многа губіцца, што не трэба камбайны... А цяпер што? Сушылкі на таках, тонамі варочаем, а ён тут усушку шукае... Хопіць, не бойся! І на твой век, і на мой...

Сцяпан глядзеў на старшыню. Ён не прызнаваў таго, што доказваў старшыня — такія гаворкі былі ўжо ў іх. Але цяпер ён думаў пра тую жорсткую праўду, што не сее ён і не жне, не мае нават свайго хлеба ў брыгадзе. І колькі трэба ўгнаення, аграном распараджаецца, і як яго рассыпаць — брыгадзір механізаванага звяна ведае.

На нейкае імгненне ён зразумеў, чаму злосны на яго гэты малады, лысаваты, з раніцы ўжо потны з твару мужчына, на якім увесь калгас. Пачалося жніво, і жніво гэтае ідзе наперакасяк, старшыню трэба вінаватыя.

Але нешта яшчэ больш заела Дзямідчыка, чым гэтая жорсткая праўда — тое, як адмахваўся ад яго, як ад назойлівае мухі, старшыня, тая лёгкасць, з якою ён верыў, што на яго век хопіць.

— Я тады яшчэ жаў, як ты пад стол хадзіў! І перажыў не аднаго такога разумнага, якому ўсяго з калгаса хапала...

— Во-во, больш нічога нам і не асталося, толькі тое, як вы некалі ваявалі, як вы некалі рабілі! А цяпер не замінайце нам рабіць! Памагаць не ўмееце, то хоць пад нагамі не блытайцеся! — Старшыня махнуў рукою — што траціць час.— Вось што, Дзямідчык, ты лепш чым лезці мне папраўляць, тут у сябе парадак навядзі. Во, у цябе пад носам па аўсе калгасным конь месіцца і чарада гусей ходзіць, а ты мне тут маралі чытаеш пра тое, як мне народнае дабро берагчы! Гэтага ты не бачыш! Во-во, паглядзі, пакуль ты ў кустах зранку цвяточкі шукаеш?

Старшыня паказваў пальцам на каня, які ад аселіцы зайшоў у авёс, і на чараду гусей, што шамятавала яшчэ зялёныя мяцёлкі. На твары старшыні праступіла чырвань ад уладарнага гаспадарскага гневу, і ён тыцкаў пальцам, хоць сам толькі што праехаў паўз гэтых гусей і паўз гэтага каня і не ўбачыў іх.

— Я цябе, Дзямідчык, папярэджваю: калі ўзяўся за работу, то рабі яе. Ты ветэран, інвалід, ты сваё адрабіў! Можаш — рабі, а не — паставім таго, хто можа рабіць.

Гэтым суровым папярэджаннем старшыня і кончыў гаворку, ляпнуў за сабою дзверцамі, і машына злосна драпнула коламі пад сабою дарогу, пакурэла ў поле.

Сцяпан плюнуў. У галаве быццам шумела — і ад крыўды, і ад злосці, і ад таго, што не сумеў даць адпору гэтаму маладому гультаю, які развальвае калгас.

Ён ужо на хаду падняў з травы мокрую, у гразі, патырчаку і пашыбаваў да чарады гусей, якія не зважалі на яго, шамятавалі авёс, толькі зрэдку перазываліся паміж сабою. Заўважылі гусі свайго зацятага ворага блізка, трывожна гаргануў гусак, чарада кінулася бегма.

— А каб на вас пранцы, плойма ненажэрная!

Сцяпан улёг за гусямі, папусціў палкаю, папаў па адной. Тая закрычала ад болю, перакацілася цераз спіну, але лопала крыллем, уцякала, кульгаючы.

Сцяпана аж пот прабраў, пакуль вытурыў гусей з аўса, ужо спакойна выганяў каня: конь быў калгасны, меў права на авёс, конь быў адзіны і апошні. Добры, спакойны, дагледжаны конь. І ў тым, што конь стаіць разам з каровамі ў кароўніку, таксама была знявага яго, Сцяпана, брыгадзіра, быццам яго самога паставілі ў той кароўнік ці, як некалі малога, павялі разам з бабамі ў лазню.

Пакуль Сцяпан ішоў з аселіцы да вёскі, там зноў запанавалі цішыня і лад. Гусі пайшлі на ваду ў сажалку, толькі тая адна, з перабітаю нагою, пагогвала ад болю, дабіралася да вады.

Уставала сонца, і раніца яшчэ не была гарачая.

На кароўнік Сцяпан не пайшоў — кароў ужо падаілі, выгналі на пашу, малако адправілі. Летам там яму не надта было чаго рабіць. Зялёная падкормка яшчэ з учарашняга падвезена...

Пара было снедаць.

Сцяпан не прыкмячаў сам, што цяпер паўтараў той, дзесяткамі гадоў нажыты лад жыцця. Так ён пачынаў рабочы дзень тады, калі і зямлю аралі конямі, і з кожнае хаты амаль што было па мужчыну, не кажучы ўжо пра хлапчукоў і хлопцаў, калі касілі і звозілі сена ў гумны, калі жалі і вазілі снапы, і на жніво звінела поле ад песень, калі яму падносілі сноп, калі яму жанкі звівалі вянок!.. А потым там, на траве за крыніцаю, недалёка ад Чортавых Жорнаў, пілі ўсе разам, аж пакуль добра не змяркалася.

Сцяпану здалося, што ён пачуў, як пахне той свежазжатым жытам вянок і сноп, як пахне валошка, і ўздыхнуў, завярнуў з вуліцы ў двор.

Ганна ўжо чакала яго.

— Гэта ты зноў гусеў ганяў? На чорта яны табе! Старшыня едзе на машыне, не бачыць іх, і не шкода яму таго аўса, а ты толькі са сваімі людзьмі гнюсішся...

Жонка будзе бубнець, ён ведаў. Бо гэта ён падняўся на праўленні, каб забаранілі дзяржаць гусей, бо яны гнюсяць усю аселіцу і робяць патраву. Праўленне пастанавіла забараніць, але людзі як гадавалі гусей, гэтак і гадуюць. Хацела, як усе, зрабіць і Ганна, але ён не даў. Ва ўсіх гусі гадаваліся, а ў іх на гэты год не было. І Ганна не магла даравацъ гэтага Сцяпану.

Ён агрызнуўся, пайшоў у хату. Ганна ішла следам.

— Дзе ты бегаеш з самага ранку? На чорта табе гэта брыгадзірства! Ты ж інвалід, пенсію добрую зарабіў. Сядзеў бы дома, зрабіў якую можаш работу і не меў бы клопату. Паглядзі на Жоглу. Жывот, як тыя ночвы, нагадаваў, нікуды не лезе, хоць і ўчастковы, а ты ўсё правуешся...

Яна падала на стол блінцы, паставіла спечанае на скаварадзе сала. Туды ж была ўзліта і смятана.

Сцяпан, каб перабіць яе гаворку, сказаў, як і не было нічога:

— Знаеш, што я сёння бачыў?

— Ну што?

— Бабра.

— Якога бабра?

— Старога, рыжага, вялізнага бабра, з хвастом, як лапата. Хоць хлеб на ёй у печ садзі.

— І дзе ты яго бачыў?

— А во тут, у канцы крыніцы, куды мы смецце носім.

— Ён там і жыве, у смецці, бабёр той? Стары чалавек, калі ты дзяцініцца перастанеш! Хаця не гавары нікому, а то будзе як у таго Палікара, які пад Азярною гарою зебраў пасвіў.

— Пры чым тут Палікар...— паспрабаваў абараняцца Сцяпан, але і сам падумаў, што наўрад ці хто яму паверыць пра бабра, як не верылі таму Палікару, які расказваў, што за вёскаю, ля Азярное гары, цэлую чараду зебраў пасвіў.

Сцяпан моўчкі пачаў есці. Сціхла і жонка, нешта перастаўляла ў печы.

Калі канчаў снедаць, Сцяпан пачуў знаёмы голас Бакасянкі.

— Ці гэта ж людзі, а не злыдні, ці ж гэта ў чалавека совесць? Каб таму вантробы на верацяно павыкручвала, каб ён так нажыўся і набачыўся, як ён гэту гусь угледзеў!

Каб яму на векі вечныя засляпіла, каб ён век гэтую зямлю еў і не мог ёю наесціся!..

Сцяпан выглянуў у акно. Бакасянка, маленькая, тонень-кая і ядавітая, як аса, жанчына ў доўгай спадніцы, несла на руках гусь, тую, якую падбіў Сцяпан. Кляла яна «таго» ад самае аселіцы, але толькі перад хатаю Дзямідчыка пайшла памалей і дала голасу поўную волю:

— Каб табе і тваім дзецям такая доля, як мне, каб ты век свету божага не бачыў, каб цябе насіла і падкідала і на зямлю не апускала! Каб табе, паліцаю, дух заняло і забіла!..

— Ну, ідзі, выдзь на вуліцу, то яна табе мо гэтаю гусею ў морду натыцкае! Убіўся, найшоў Бакасянку, гусі табе трэба. Вуй, дурань стары!

Голас Бакасянкі тым часам паплыў далей па вуліцы. Праклёнам не было канца.

Дома таксама Сцяпану цяпер было не ўседзець. Ён узяў свой капронавы, пажаўцелы ад сонца і ад часу капялюш і шалыгнуў з хаты.

*Стары бабёр, адкаснуўшыся ад сабакі, які заступіў яму дарогу, з палёгкаю нырнуў пад густыя шаты алешніку, адкуль чутна была вада, знаёмы пах вільгаці. Тут, у зарасніку травы, крапівы і на макрэйшых месцах сітнягу, пачыналі сачыцца крыніцы. Бабёр ішоў паволі — дарога была закідана ламаччам, гразкая, і па тым тонелькім ручайку, які пракладвалі сабе крыніцы, нельга было яшчэ плысці. Але адыходзіць ад вады ён не мог — стары бабёр чуў, што побач вёска і што адтуль можа прыйсці той вялізны сабака, які быў заступіў яму дарогу.*

*Неўзабаве алешнік парадзеў, сталі пападацца на дарозе сухія алешыны, і стары бабёр зразумеў, што тут часта стаіць высокая вада. І зусім нечакана, яшчэ ў алешніку, перад ім пачалася вузкая, метры на паўтара палоска чыстае вады, над якою нахілялася асака.*

*Стары бабёр амаль подбегам кінуўся да вады, ад радасці забыўшыся пра асцярогу, нырнуў, быццам не верыў, што скончылася яго сухая дарога. Амаль хвіліну ён плюхаўся, даваў нырца, нават фыркаў, так што адплыліся далей ад канавы ў зараснік травы і вастралісту са сваім вывадкам качкі.*

*Толькі калі нацешыўся, стары бабёр спахапіўся і ціха, так, што нават не аставалася на вадзе следу, паплыў на агледзіны возера.*

*Яно было невялікае. Стары бабёр спачатку абплыў, агледзеў азерца — адзіны таемны выхад з яго быў толькі ў крыніцу, па той канаве, з якое ён увайшоў у возера. Толькі адтуль і можна было сплавіць крыху дрэў.*

*Пасля агляду стары бабёр ужо ведаў, што ў возеры нямала жыве андатры.*

*Стары бабёр пакарміўся карэннем рагозніку, травы, перачакаў, пакуль доўга — аж за абед пераваліла — купалася чародка хлапчукоў і купала прыведзенага з імі белага сабачку, які баяўся вады і адчайна, калькі ставала сілы, звінеў брэхам. Потым прыехаў на матацыкле чалавек і доўга хадзіў па грэблі, шлёгаў спінінгам па вадзе.*

*Гэты плёскат, шум, брэх, якія так моцна ішлі на вадзе, былі чутны з вёскі, турбавалі старога бабра, не давалі яму супакоіцца. Хаця і пакарміўся, выплаваўся ў вадзе, крыху адпачыў, ён адчуваў сябе тут усё ж няўтульна ў гэтым шумным суседстве.*

*Пасля абеду стары бабёр перайшоў грэблю і падаўся далей па крыніцы. Яна яшчэ была шырэйшая, пахла халодным, крынічным, жалезнаю рудою. Потым павузела, пацякла новаю вузкаватаю канаваю, над якою раслі роўныя і стройныя алешыны. Тут было далей ад вёскі, ціха, з аднаго боку ішло поле, з другога была пасеяна трава.*

*Стары бабёр спяшаўся ўслед за вадою. Яна нечакана вывела яго да лагчыны, парослай маладымі кустамі лазняку. У гэтай лагчыне і канчалася крыніца. За лагчынаю яна ручайком упадала ў роўна выкапаную, ужо старую, парослую па берагах лебядою і высокім чырванаватым драсёнам, канаву.*

*Над самаю вадою ў канаве густа сышлася трава. Стары бабёр пайшоў услед і за гэтаю вадою. Па дарозе ён спалохаў чародку курапатак, якія карміліся ў зарасніках лебяды, крапівы і драсёну.*

*Па гэтай канаве стары бабёр дайшоў да большае, з зарослымі травою берагамі. Трава на берагах была акуратна скошана. Канава была крышку шырэйшая, у ёй можна было і плысці, таму стары бабёр апусціўся ў ваду і паплыў насустрач халоднай плыні.*

*Выйшаў ён з канавы на бераг там, дзе агледзеў купчастыя зараснікі лазняку. Там ён знайшоў на запруджанай паводкаю канаве многа трысцягу, рагозніку і травы. Непадалёку дзічалі некалішнія кар'еры, у якіх капалі торф.*

*На гэтай канаве і пераначаваў стары бабёр. Назаўтра ён яшчэ раз абышоў і абгледзеў усё навокал, пасля гэтага сабраўся і тою ж самаю дарогаю пайшоў назад. Ён толькі баяўся, што сустрэне таго самага злоснага сабаку. Але сабаку ён не сустрэў, вярнуўся дадому і прывёў з сабою на новае селішча двух маладых баброў.*

## IV

Чутка пра баброў пайшла пасля таго, як яны запрудзілі канаву, замасцілі так моцна, што прарваць бабрыную плаціну не змагла нават паводка. Тут, перад плацінаю, дзе ўваходзіла ў канаву старыца, утварыўся глыбокі і ладнаваты плёс. Ад гэтага плёса вада зайшла ў старыцу, у старыя, аплыўшыя меліярацыйныя канавы. Па іх бабры сплаўлялі вербы і галлё, якое рэзалі па берагах.

Хату сабе бабры паставілі ў старой глыбокай завоіне на старыцы, пад разложыстым, шырока ўрослым у бераг кустом.

На наступны год бабрам здалося мала такіх абшараў, і яны выйшлі будаваць плаціну на магістральнай канаве.

Кончыць работу ім не далі меліярацыйныя наглядчыкі. Яны раскапалі плаціну і сабіраліся раскапаць і тую, што зрабілі бабры на бакавым калектары.

Там «меліяратараў» і застаў з рыдлёўкамі Сцяпан. Яны ўжо паспрабавалі капаць, але пераплеценая з галля плаціна не давалася. Іван Канюхоўскі, як звалі яго, ляжаў воддаль ад канавы, бліжэй пад кустом у цяньку. Там жа, у кусце, ужо стаяла і бутэлька з сарванаю бляшанаю галоўкаю.

Колькі памятаў Івана пасля вайны Сцяпан, той так нідзе і не быў на сталай рабоце. Ае ён не меў, гэтак жа, як не меў і прозвішча — яго так і звалі проста Іван Канюхоўскі. Ён то наймаўся капаць торф людзям, калі капалі яшчэ самі і сушылі, то браўся касіць сена ўдовам, то працаваў майстрам на цагельнях, як пайшла мода на іх — пры кожным калгасе мець такую цагельню... І нідзе толкам нічога не ўмеў рабіць і не зрабіў. Але гаспадарку трымаў, ці яна трымалася на жонцы. Раслі, павыходзілі ў людзі Іванавы дзяўчаты. Усё меншая норма выпіўкі патрэбна была Івану. Цяпер ён ужо нідзе не блытаўся па людзях, меў сталую работу — раманцёрам на меліярацыйным магістральным канале, які зрабілі пасля таго, як нашчэнт выні-

шчылі рэчку, прарэзалі экскаватарам па ёй канаву. Казалі, што гэта дасць вялікую карысць. Спачатку сеялі на торфе каноплі, кок-сагыз, нават буракі. Потым перасталі, і тыя асушаныя тарфянікі, дзе з'aралі торф, проста адпусцілі пад пашы ці засеялі цімафееўкаю, якая з гадамі дзічэла, але лічылася за сенакос.

Меліярацыя і дала Івану работу і свабоду. Калі дазвалялі раманцёрам мець коней, кожнага дня яго можна было бачыць — едзе некуды ў калёсах, прылёгшы на латцы травы. Часам вочы і глядзелі, куды едуць, часам і нічога не бачылі. Ведаў конь, дзе дом, калі канчаўся рабочы дзень. Потым коней забралі, падавалі маторныя веласіпеды, і Іванаў веласіпед зноў роўна некуды трашчаў сіненькім дымком альбо пакорліва чакаў, кінуты на куст, свайго гаспадара.

Цэлае лета Іван касіў сена. Касіць ён ведаў як — сабе на лепшым, адлогім беразе. Астатні бераг Іван аддаваў у арэнду тым, хто хацеў назапасіць на зіму сена карове. Аплата была такая — альбо чалавек касіў на сябе і на Івана, за работу, значыць, альбо проста чалавек касіў на сябе, а за воз накошанага сена плаціў устаноўленую Іванам стаўку.

Гэтая арэнда і гэтая стаўка былі ў Івана бяздонным калодзежам, з якога цякло моднае цяперашнім часам «чарніла».

І цяпер пры Іване быў арандатар яго берага, іхні, з Альховых, Сашка Навалач.

Стаў Сашка калгаснікам таму, што яму не дазволілі жыць у горадзе, як ён казаў, толькі з-за таго, што там занадта многа ўсякіх магазінчыкаў і піўных ларкоў.

Сашка таксама ляжаў пад кустом і сонна і задаволена глядзеў на Сцяпана. Сцяпан зранку шукаў яго на работу, але і жонка не ведала — пайшоў недзе.

— Ты што, Іван, тут робіш?

— А хіба не бачыш? Вот трэба гэтую трасцу раскарчаваць... Бачыш ты, прывалокся мне гаспадар? Ён жа возьме запрудзіць канал, і тады ўсё пад вадою будзе, увесь бераг залье. Садзіся, тут у нас па каплі яшчэ...

— Спужаўся, што вотчыну тваю забярэ? А ты знаеш, што баброў чапаць нельга? Дзе пасяліліся, там хай і робяць калонію?

— І я яму гэта казаў. Я законы ведаю,— падтакнуў Сашка.

— Які яшчэ закон? Гэта ўсё меліяратары капалі. А канавы трэба чысціць, каб не зараслі. Каб зелле не расло, абкошваць. Такі ў меня загад.

— У цябе загад на магістральнай. Там і касі, а на калгасныя канавы не лезь.

— А я і не лезу, я толькі адсюль гэтага чорта выжану. Бачыў, як ён усе вербы парэзаў? Пні толькі стаяць.

— Ты вот толькі паруш гэтую плаціну, каровы на штраф не хопіць! — прыгразіў Дзямідчык, бо заўважыў, што вочы ў Івана ўжо пабялелі і сталі, як у варанае рыбы. Цяпер яму ці гавары, ці плюй у вочы — усё роўна дождж будзе.

— Правільна, я ж табе казаў, лапаць ты канюхоўскі,— не лезь да баброў!

Сашка падміргнуў Дзямідчыку: віна яны купілі ў запас і рабіць работу цяпер не хацелася.

— Вот што, работнічкі, давайце на той бок канавы з майго брыгаднага поля, каб я і духу вашага не бачыў тут!

— А хто ты такі? Я маю права, дзе хачу...

— Каму права, каму справа. А як мала, то і злева палучыш. Я навучаны. Усё, Пятровіч, я гэтага лапця канюхоўскага вынесу на той бок яго канавы.

Сашка хацеў дагадзіць Дзямідчыку.

Дзямідчык яшчэ пастаяў, паглядзеў, як пазыбаўся да магістральнае канавы Іван, як выпаўз на той бераг, абапіраючыся на рукі, як следам за ім выкінуў рыдлёўкі Сашка, потым вылез і сам з бутэлькамі «чарніла» ў руках, як з гранатамі, махнуў адтуль Дзямідчыку рукою.

На тым беразе таксама былі кусцікі і цянёк. А стаяла сама вясна, і была работа ў брыгадзе і дома.

Дзямідчык тады ж пазваніў старшыні раённага паляўнічага таварыства Дзярэчу. Ён прыехаў знарок у Альховыя Крыніцы, агледзеў бабровае паселішча, з сабою ўзяў і сакратара сельсавета. Гэтым, лічылася, бабровішча было ўзаконена і ўзята пад ахову.

## V

Прымачак сядзеў, прыціснуўшыся да спінкі сядзення, быццам яму было холадна. Шафёр, малады, па-сучаснаму джынсавы і кудлаты, з чорнымі цыганаватымі вачамі, не ляцеў, як прывык звычайна, а асцярожна абрулёўваў выбоіны на гравійцы.

На заднім сядзенні цяжка паварочваўся і соп аграном Пікуза — тоўсты, як злепак, малады мужчына. Таму не сядзелася. Ён моцна і доўга ўздыхаў, але загаварыць да старшыні не адважваўся.

Пікуза ведаў, што старшыню выклікалі на бюро пасля таго, як рэйдавая брыгада праверыла калгас перад жнівом, што старшыні аб'явілі вымову. Ён прадбачыў, што так і будзе, таму, пакуль Прымачак сядзеў у прыёмнай, чакаў свае чаргі разам з гэткімі ж самымі кандыдатамі на начальніцкую ласку, зрабіў патрэбныя захады. Пікуза не першы ўжо год і не з першым старшынёй ездзіў вось так у раён і з раёна. Да кожнага старшыні ў яго быў свой падход. У сумцы, якая стаяла пад нагамі ў Пікузы, ляжаў куплены дадому хлеб і батон, пара бутэлек «белай», якою Пікуза запасся ў раёне, пакуль хадзіў у сельгастэхніку, на базу. З дому ён прыхваціў кавалак сала, а ў райцэнтры ў камісійным магазінчыку купіў кольца вэнджанае каўбасы. Каўбасу гэтую, нейкую як мокрую, быццам яе вэндзілі і ў вадзе мачылі, ён недалюбліваў, але нічога лепшага не было. Яшчэ Пікуза запасся кансервамі, памідорамі і агуркамі, гэта ўжо бясплатна, на базе.

Цяпер ён чакаў, пакуль пад'едуць бліжэй да дому, да свайго бору, каб з'ехаць у лес і супакоіць душу.

Пікуза шкадаваў старшыню. Таму што той маладзейшы за яго і хоць не вельмі, але бярэ ўсё да душы. Яшчэ таму, што па яго, Пікузавых, мерках быў ён не з горшых. Любіў пад гарачую руку шумнуць, накрычаць, але не даганяў, надта не караў. Скажа, пагаворыць, пакрычыць, на тое ён і старшыня. Калі трэба і мяса выпісаць, то можна, і малака. Праўда, калгас пры ім за тры гады яшчэ ў большы доўг улез перад дзяржаваю, даў мінус па мясе і малацэ. Калі пра ўраджайнасць гаварыць, то тут Пікуза быў спакойны. Мінулы год была несусветная засуха, каго вінаваціць? Цяпер усё лета мочыць, як пачало з самае вясны, таксама толку вялікага не чакай — пагноіць і збожжа і бульбу пагноіць.

Прымачак, у брызентавай летняй штармоўцы паверх чыстага касцюма з рубашкаю пад гальштукам, здавалася, драмаў. Апошні час яму пачало шанцаваць на гэты кабінет са сталамі літараю «Т», за якімі сядзелі члены бюро, на крэслах паўз бакі загадчыкі і начальнікі, а ён на тым радзе паўз сцяну, насупраць стала, каб якраз было зручней падыходзіць да стала і стаяць там, тлумачыць, што да чаго і чаму. Тлумачыць надта не давалі. Больш трэба

было слухаць, што гаварыў першы, і менш спрабаваць апраўдвацца. Калі трапіў сюды, то ўжо стой, маўчы, тады не атрымаеш больш запланаванага. Яму сёння намецілі вымову, і ён вёз яе дадому.

Цяпер ён ужо ведаў, што трэба думаць пра новае месца, каб у кабінеце сакратара сядзець збоку, там, дзе прысутнічаюць загадчыкі і інспектары, якія перадаюць загады і кантралююць, каб іх выконвалі.

Прымачак уздыхнуў. Ён часта цяпер думаў, што дарэмна пайшоў старшынёй. Ён інжынер сам. У яго была добрая работа — саўгас, дзе ён працаваў, быў перадавы. Зарабляў добра, меў двух механікаў у памочніках.

Праўда, усё ж хадзіць інжынерам не тое што быць самому гаспадаром. Ды і заработак усё ж. І не толькі заработак. Пра гэта ведалі нямногія — на садовай вулачцы ў райцэнтры Прымачакаў бацька будаваў сабе хату. Цагляны дамок у два паверхі, з паравым абагрэвам, з гаражом, з душавою пад нізам, з гарадскою каналізацыяй. Дом будаваўся роўна і дабротна — старыя жылі ў хатцы побач, з іх хапала яе, а Прымачаку надта спяшаць было няварта.

Пасля сённяшняга бюро, па тым, як гаварыў з ім сакратар, Прымачак зразумеў, што пакуль што яго з работы не будуць адпраўляць — ёсць яшчэ і горшыя гаспадаркі.

Каб яму пашанцавала, каб не папаў на зуб з самага пачатку, то сядзеў бы ціха, як і іншыя сядзяць. А калі ўзялі на заметку... Цяпер на яго наслалі маладога ачкарыка — новага рэдактара раённае газеты. Дай дурню маліцца, ён і лоб паб'е. Распісаў дарогі ў калгасе, камбайны пад дажджом. А дарогі не горшыя, чым ад калгаса да раёна, гэтая, па якой едуць. Тут зерня больш натрасуць, чым у яго на полі. І пакуль тое жніво, возьме Прымачак на дзень машыны, падвязуць зноў пяску, пазасыпаюць ямы.

Прымачак успомніў, як дакладваў рэдактар і усё падпіхаў адным пальцам на носе акуляры, каб не скінуліся. Нават члены бюро і сам сакратар непрыкметна ўсміхаліся з яго мітынгавання. Аднак вымову далі, каб другім навука была.

Прымачак усміхнуўся: вось будзе гэты рэдактар яшчэ чакаць у чарзе кватэру, а ён перабярэцца ў свой дом, будзе ездзіць, як і рэдактар, на службовай машыне і прысутнічаць на гэтакіх жа самых бюро...

— Александравіч, дак, можа, да доміка заедзем? — пытаўся Пікуза, калі насустрач паказаўся замглёны прыцемкамі і дажджом лес.

— А ў цябе ёсць што?
— Знойдзецца, бо і я цэлы дзень галодны, і вы...
Шафёр толькі ўхмыльнуўся сам сабе — Пікуза і зранку, і перад тым, як ад'язджаць з горада, заходзіў у сталоўку.
— Давай, Віця, звярні, чорт з ім! Ніхто за нас нашу работу не паробіць, тым больш тыя, хто толькі і ўмее, што вымовы даваць.
Машына звярнула з гравійкі на зарослую зеллем вузкую палявую дарогу, паволі пагойдваючыся па лужынах, паехала да лесу. У ім было мокра, здавалася, што дождж цёк не з неба, а з ігліцы, з лісця.
Віця завярнуў, што аж драпнула галлём па борызенце, на вузкую лесавую дарогу, і хутка машына апынулася на другой, шырокай, утравянелай. За ўзгоркам, збоч дарогі, за густым зараснікам маладых ліп стаяў так званы домік — збітая з дошак будыніна з закратаваным акенцам. Домік гэты зрабілі сабе паляўнічыя.
Пакуль Прымачак сядзеў у машыне, Пікуза ссутуліўся, выбег пад дождж, адамкнуў вялікі вісячы замок.
У доміку стаяў збіты з дошак стол, паўз сцяну былі зроблены шырокія, як нары, дашчаныя лаўкі. На іх было ўскінута цяперашняга сена.
У кутку ляжаў маток вяроўкі з чырвонымі сцяжкамі.
На стале ў пустой бляшанцы ад кансерваў у пяску стаяў недагарак свечкі.
Пікуза ахвотна, трушком прынёс з машыны сумку, разаслаў на стале газету.
— А я думаю... Былі б мы здаровыя, а на нашу галаву ўсякіх бюро будзе.
Ён быў надзіва паваротны. Прымачак прыкмеціў, што калі выпівалі з Пікузам, той рабіўся гаваркі і быстры. Яго вялікія рукі з тоўстымі кароткімі пальцамі былі спрытныя, як у добрага кухара.
І цяпер ён не пераставаў гаварыць і рабіць рукамі — з-пад іх, як з-пад канвеера, клаліся на стол скваркі сала, разрэзаныя напал памідоры і агуркі.
Калі ж даводзілася бываць разам у каго і той частаваў Пікузу, аграном быў спакойны і памяркоўны, чакаў, як кароль, пакуль яму нальюць і пададуць чарку. І толькі пасля таго, як вып'е, гаварыў:
— А і добра яно, добра!
Шафёр астаўся у машыне — чытаў кнігу. Ён яшчэ не абцёрся, як звычайна абціраюцца пры начальстве шафёры, многага саромеўся, і, мабыць, яму было нязручна, што ён сведка таго, як старшыня і аграном выпіваюць.

Першы шафёр, які астаўся пасля ранейшага старшыні, быў пажылы мужчына, чацвёра дзяцей меў. Той самы, замест Пікузы, гатаваў кожны раз выпіўку, расказваў новыя анекдоты. Ён у любы час і ў любым месцы мог дастаць і выпіўку, і закуску і абмануць любога праўрапальшчыка... Ён і выпіваў разам з начальствам, не баяўся садзіцца за руль пасля чаркі. Яго ведала раённая міліцыя, і ён яе ведаў. І яшчэ надта ж ведаў і любіў жанчын.

Прымачак перавёў яго на малакавоз пасля таго, як гэты самы Пікуза прыйшоў у кабінет старшыні і чуць не плакаў, што Зажэўскі пачынае прыставаць да яго чарнявенькае Тамары.

Быць малакавозам Зажэўскі не захацеў, пайшоў з калгаса, устроіўся шафёрам у няведамаснай ахове.

Зажэўскі быў больш падручны, чым гэты хлапчук пасля школы. Але гэты малы ўмеў маўчаць і нікуды не сунуў носа — вазіў з сабою кнігу, збіраўся на другі год зноў паступаць у інстытут.

— Давайце, Аляксандравіч, вып'ем, перакусім, дак яно і добра будзе,— аграном падняў стограмоўку.

Прымачак выпіў, не гледзячы на яго.

У доміку быў прыцемак, няроўна шумелі кроплі, якія падалі на накрыты толлю дах. Дыхалася на поўныя грудзі, і было ціха.

— Добрыя агурочкі, нежынскія,— не пераставаў гаварыць Пікуза.

Прымачак не слухаў яго. Узяў чарку, наліў сабе зноў, моўчкі выпіў. Пікуза, каб не адстаць, зрабіў тое ж самае.

Толькі цяпер адчуў Прымачак, што галодны зранку, і на галодны жывот гарэлка зразу ж стукнула ў галаў, затуманіла яе. Ён любіў гэтыя першыя імгненні пасля выпітага — калі чалавек быццам адплывае некуды ў іншы свет. Пасля піць было нецікава, ад выпітага толькі цяжэла галава і вольна разыходзіўся язык.

Прымачак прыглядаўся да лесу, да ціхага дажджовага прыцемку ў ім. Успомнілася замглёнае летнім кароткім дажджом бульбяное поле, цёплая пад нагамі ралля. Роўна парыпваюць гужы, бяжыць перад нагамі сошка, падсыпае радкі бульбы. А поле далёкае, узгорак, лагчына, зноў узгорак... За дзень работа лічыцца радкамі, а тыя радкі складаюцца ў гектары, а гектары ў працадні...

Дома, калі пасля вячорак засынаў на сене ў хляве, цёпла гарэлі натомленыя за дзень ступакі. Ноччу яму сніліся добрыя сны — ён у бесказырцы, у цяльняшцы,

высокі і здаровы, едзе дадому ў госці, ідзе пляцам па разорцы між бульбы, і яму ўсе зайздросцяць...

— А гэтыя дарогі мы за адзін дзень засыплем пяском, і добра будзе, паглядзім яшчэ, у каго лепш,— Пікуза паштурхаў старшыню ў плячо.

Той яшчэ ўсё ішоў па пляцы дадому, малады і харошы, у бесказырцы і цяльняшцы... Пікуза гэтым торканнем нібы паказаў яму на сябе цяперашняга, круглага, падкормленага, з раннімі залысінамі і парадзелым чубам, якога лаялі перад бюро, а ён стаяў, як стаяць у кутку вінаватыя школьнікі.

Прымачак наліў поўную шклянку аграному, капнуў сабе, працягнуў руку, штурхануў у аграномаву шклянку, быццам загадаў — пі. Той паслухмяна, моцна каўтаючы, выпіў, укінуў у рот сала, потым паўагурка.

— От і добра... Дак я і кажу, Аляксандравіч, я ўжэ не першы год тут. Работу калгасную не пераробіш, як ні рвіся. Быў калгас і будзе, усім яго хопіць. Трэба ўмець самому жыць.

Прымачак зноў наліў, і зноў аграном адразу ж згодна выпіў. Захацелася ў Пікузы папытаць, ці будзе ён і новага старшыню прывозіць у гэты дамок, каб выпіць чарку.

— Быў бы, Пікуза, у мяне аграном, не такое г..., як ты, ды людзі былі, я б з гэтага калгаса мільярдзера зрабіў!..

Аграном перастаў жаваць — такога ад старшыні ён дасюль не чуў.

— Тут зямля як масла. Толькі што з пяці вёсак тры неперспектыўныя, а ў тых перспектыўных — што? Калі і астаўся хто, то глядзіць, перш чым калгасную работу рабіць, каб сабе ўварваць, так, як і ты...

Аграном наліў сабе зноў поўную чарку — чаго гэта так загаварыў старшыня?

Пікузавы вочы на тлустым твары, здалося, прапалі ў вузкіх шчылінах. Ён глынуў гарэлку.

Невядома чаму, але Прымачак цяпер паверыў — праўду гавораць пра агранома, што крадзе ён, крадзе не першы год і не пры першым старшыні. І ведае, што памяняюць Прымачака, прыедзе другі, а Пікузу ніхто нікуды не будзе пераводзіць, бо ў яго тут свая хата, бо ён тут нарадзіўся, бо яшчэ малады, бо за плячыма мае інстытут і работу сваю ведае... Праўда, папробуй дакажы, што работу ён ведае і робіць, а вялікае аддачы ад тае работы так і не відно. Гэтак рабіць таксама трэба ўмець.

Старшыня глядзеў на Пікузу.

— Камбайны ў нас цяпер, лічы, на хаду. І ўсё будзе добра.

— Добра будзе! Ты гарэлкі хлебанеш, і, колькі я цябе ведаю, добра будзе... Бачыш, якая пагода? Згноіць усё, а табе добра будзе! Мінулым летам згарэла, а цяпер згніе. Давай, паехалі!

Прымачак выйшаў з доміка — лёгка шумела ў галаве, але думалася ясна: з кім ты звязаўся, марачок, малады і прыгожы? Пікуза зерне крадзе, ты матэрыялы сабе на дом праўдаю-няпраўдаю пераплаўляеш і дастаеш.

Хацелася хутчэй паехаць адсюль, як уцячы ад самога сябе. І ад Пікузы.

Той цяжка падгрэбаў са стала рэшткі закусі, калі згроб усё ў свой вялікі партфель, дапіў з горла бутэлькі астатак — каб не прападала дабро.

Ужо з машыны Прымачак глядзеў, як яго аграном доўга чапляў замок у прабой, потым цаляў ключом у замок. У машыну ён улазіў і соп, а як толькі ўмасціўся, адразу ж заціх, толькі ўздыхаў, як карова пасля роснае канюшыны.

Ехалі моўчкі. Пачынала вечарэць, над спелым полем ішоў дождж.

Шафёр паехаў не назад на гравійку, а выскачыў да поля пад Альховымі Крыніцамі.

І там, ля самага канца вёскі, дзе сажалка пасля дажджу яшчэ два гады назад вымыла трубы, машына пстрыкнула заднімі коламі ў вымоіну і забуксавала.

Шафёр аж зачырванеўся ад збянтэжанасці, газаваў, шморгаў машыну, але яна сядзела, як мёртвая.

Яма на размытай дарозе зноў напомніла Прымачаку пра ачкастага рэдактара, які дакладваў на бюро і гаварыў якраз пра гэтую дарогу.

— Тут, у гэтага Дзямідчыка, толку няма, а ўсё хваляць,— прабубнеў шафёр, адчыняючы дзверцы, каб узяць у багажніку рыдлёўку.

Дзямідчык якраз і гаварыў на праўленні пра дарогу яшчэ перад мінулым жнівом. Тады была засуха, абышліся і без рамонту. Успомнілася, што на гэтым месцы тады ён, Прымачак, і сцяўся з Дзямідчыкам. Во, яшчэ ў суддзі Прымачаку і Дзямідчыка не хапае — мала што начальства капае, а ён на кожнай нарадзе лезе, як вош на струп, са сваімі павучаннямі. Сабраўся б са сваімі пенсіянерамі сам, не чакаючы добрае ласкі, паправіў бы дарогу.

На заднім сядзенні смачна спаў, аж пухкаў, баявы намеснік старшыні аграном Пікуза.

Прыйдзецца, чаго добрага, ісці ў вёску, прасіць мужчын і запрагаць таго апошняга каня, які астаўся тут. І зноў без Дзямідчыка не абыдзецца.

Віця вярнуўся ў машыну пасля таго, як падкапаў пад коламі і намасціў каменне. З уключаным перадком «козлік» паволі вылез з прамыіны. «Заўтра трэба будзе даць нарад, каб паправілі дарогу на Альховыя Крыніцы, тут, перш чым дзе жаць, пачынаем»,— падумаў сам сабе Прымачак. Ён ужо цвёрда вырашыў, што заўтра зранку падымецца, да нарада скалане цэнтральную, паглядзіць, праверыць да нарада ўсё. Ён высадзіў па дарозе шафёра, адпусціў дадому, каб заўтра з самага ранку была пад рукамі машына.

Аграном магутна спаў на заднім сядзенні. Трэба было везці яго дадому.

Пікуза жыў на краі вёскі, пры прасторным лузе. Хата была з дрэва, габляванага, высокая і прасторная, на дзве вялікія палавіны, з верандаю. Уся сядзіба была абгароджана пафарбаваным у сіні колер штакетнікам з набітымі зверху белымі планачкамі.

Двор вымашчаны бетоннаю пліткаю — і на пешаходную дарожку, і на заезд машыне. Тут жа, у садку, стаяў і змураваны з белае сілікатнае цэглы гараж. Толькі і ставалася паставіць у яго машыну.

Дзіва, але і п'яны Пікуза слухаў начальства. Ён, як у сне, рабіў тое, што гаварыў яму Прымачак, толькі трэба было прытрымліваць, каб не павяло агранома ўбок.

Пакуль дайшоў да парога, Пікуза крыху і ачнуўся, а на кухні, як паказалася Тамара, прыплюшчыў вочы і загадаў:

— Паглядзі на стол чаго,— і цяжка ікнуў.

— Ой, Аляксандравіч, давайце яго сюды! Ужэ набамбурыўся, капшук гарэлачны!

Яна лёгка забрала пад руку мужа і павяла ў большы пакой. Было чутно, як пад Пікузам цяжка зарыпелі спружыны канапы.

І амаль адразу ж адтуль выскачыла Тамара, лёгка паправіла валасы:

— Дзякуй вам, Аляксандравіч. Вы адзін, без шафёра? Давайце я чаго вам пастаўлю на стол, цэлы ж дзень ездзілі.

Яна была ў даўгаватым гарадскім халаце, калі ступала, полы яго расхіналіся, і яму была відаць яе маладая дзявочая нага. Здавалася, што Тамара адчувае, як ён глядзіць на яе.

— Дзякуй, Тамара. Дома пад'ем.

— Я кампоцік свежы зварыла, выпіце кампоціку.

Яна адчыніла сервант, узяла шклянку, на якой быў наклееены каляровы стары ў аўтамабілі, наліла з графіна ружовага кампоту. Рукі ў яе былі таксама маладыя. Прымачаку падумалася, што ў школе ў яе, настаўніцу, мабыць, закаханы ўсе старшакласнікі.

— Дзякуй, Тамара.

Яна, як свайму, усміхнулася яму, выйшла паперадзе ў сенцы, і ў цемры ён найшоў на яе, адчуў, як яна падалася насустрач, і маладыя рукі абнялі яго.

— Міленькі, каб ты знаў, як я змучылася, міленькі!..

Цяжка было працівіцца яе ласцы, яе жаданню.

Прымачак пачуў, як яна шчоўкнула шпінгалетам — каб нельга было з хаты адчыніць дзверы ў сенцы...

Калі Прымачак выходзіў з хаты, яму здалося, што за цёмным шклом мільганула постаць Пікузы. Аднак усё роўна пасля гэтага старшыня здружыўся з аграномам, і старшынёўскую машыну часта бачылі ля яго дома.

## VI

Цяжка, прамокла шумелі і гнуліся галлём бярозы. Неба плыло нізка, па-асенняму, і тады, калі вецер крыху разганяў хмары, праглядвала ў прасветы сонца. Аблокі ішлі грудаста, панура, як восенню, і вечарам на іх нядобра чырванавата адсвечвалася перад захадам сонца.

Набегла вадою, расцяклася па аселіцы сажалка. Вада ў ёй стаяла рудаватая — ад гліны, з поля.

Прападала збожжа, вымакала бульба. Калі не адступяцца дажджы, згніе на полі ўраджай, якім гэтак цешыліся.

Сцяпан стаяў пад невялічкаю стрэшкаю прыбудаванае да воданапорнай вежы будачкі. У ёй была печка — паліць зімою, каб не замерзла вада. Ён быў у гумавых ботах і накідцы з салдацкага хімкамплекта, якую купіў на базары ў Слуцку ў п'янага прапаршчыка. Накідка была даўгаватая: ніжэй халяваў і не прамакала ні пад якім дажджом. Дождж сеяўся дробна, па-асенняму ўедлівы. Сцяпан курыў, схаваўшы цыгарэту ў кулак мокрае ад дажджу рукі. Адсюль, з узгорка, яму былі відны два камбайны, якія, здавалася, згорбіліся ад холаду сярод поля, бяссільна апусціўшы на зямлю жаткі. З краю поля стаяў гусенічны

трактар. Нязжатае поле было ўсё роўна як выкачанае вялізным зверам. І там, дзе збажына палегла, салома пачарнела, скрозь яе пачынала прарастаць густая зялёная трава.

Каб у пагоду, то дзве новенькія «Нівы» за паўднёўку сшумелі б гэты палетак, толькі б пыл віўся за капніцелямі. Аж палягчэла на сэрцы ад таго, што ўявіў, як суха пахне жнівом, як ляжыць чыстае, бліскучае ржышчам поле і нашатыраныя кучы саломы.

Сцяпан дакурыў цыгарэту, кінуў яе на зямлю, і яна тоненька зашыпела.

Ён не мог спаць спакойна, прачынаўся ноччу ад таго, што шумеў дождж.

Ганька сварылася на яго, і ён ведаў, што яна гаворыць праўду: памагчы ён нічога не мог, ён цяпер і зусім ні пры чым быў пры жніве, бо калі крыху пераставаў дождж і на якога паўдня збольшага абветрывала збажына, на машыне прыязджалі камбайнеры і трактарысты, пачыналі жаць. На лагах, дзе камбайны не маглі прайсці і буксавалі, трактар браў іх на буксір.

Паўз вёску тады шумелі машыны — на цэнтральную сядзібу, на сушылку, і Сцяпан выходзіў к дарозе і чуў, як пахне збожжам.

Але дзень ці два і выдаліся, што абышлося без дажджу. Жніво зацягвалася, зерне пасыпалася, прарастала, чарнела палеглая пад ветрам і дажджом салома.

Адзін толькі палетак стаяў не зложаны ветрам — за крынічным алешнікам, на высушаным некалі тарфяніку, дзе была шмат гадоў цімафееўка, а цяпер зааралі і пасеялі жыта. Яно вырасла густое, тоўстае і моцнае, як чарот. Налілося цяжкім калоссем, і ў лагчыне, затуленае ўзгоркамі, алешнікам, яно не паддалося ні дажджу, ні ветру. Сцяпан амаль кожнага дня цяпер прыходзіў да гэтага палетка — колас цяжка сагнуўся, і калі не прыбраць збожжа з поля, то пасыплецца хутка зерне. Пра тое, каб увайсці на поле з камбайнамі, не магло быць і гаворкі. Камбайны больш стаялі, чым жалі, і на высокіх, не такіх гразкіх, палях.

Сцяпан ведаў, што жыта гэтае прападзе — на большых і сушэйшых месцах будуць прыбіраць.

Ноччу яму пачало сніцца гэтае поле. Саснілася гэтак сонечна, цёпла, што ад паху аж галава закружылася. Жыта пахла суха і чыста, і валошка пахла. А яшчэ сасніліся яму русалкі. Тыя самыя русалкі, якімі пужалі іх, малых, каб не

бегалі гуляць у жыта і не таптaлі яго. У тых русалак былі «жалезныя цыцкі», і калі яны зловяць каго ў жыце, то жывога не выпусцяць, заказычуць гэтымі сваімі «жалезнымі цыцкамі». Чамусьці палохала, што заказычуць і што жалезныя... Цяпер у сне гэтыя русалкі адна за адной выйшлі з жыта, голыя, як маці нарадзіла, і палезлі купацца ў рэчку. Рэчка саснілася не цяперашняя, а тая старая рэчка, з шырокім плёсам. А русалкі былі маладыя, дзяўчаткі, і грудзі ў іх былі белыя і маладыя, як у дзяўчатак, ніякія не жалезныя. Калі прачнууся, Сцяпан успомніў, што сасніліся яму старэйшыя дзяўчаты, якіх ён раз падгледзеў хлапчуком, калі купаліся яны, выпадкова, зусім зблізку, з-пад лазовага куста, і баяўся паварушыцца, каб яны не пачулі яго, хоць было і брыдка, і страшна, і прыемна. У сне ж русалкі не агледзелі яго, пакупаліся, выйшлі, паднялі сярпы і пачалі жаць...

Ён прачнууся, здзіўлены гэтым сном. І тыя сярпы, тыя дзяўчаты ўжо не давалі яму спакою, не выходзілі з галавы.

Раніцаю здалёк падышоў да Ганны:

— А што, каб сярпамі жалі, то ў снапах і сушыць бы можна было, і прыбіраць.

— Чаму ж не. З бабак лягчэй сухія снапы забраць. Толькі ж дзе цяпер і сярпы тыя, і жанцы. Гэта ж не пасля вайны, што людзей была поўная вёска...

Сцяпан паснедаў і пайшоў па хатах. Перш зайшоў да Мароза. Той стаяў у садзе і выбіраў мацнейшыя, непадгнітыя падпоркі ў сад пад галіны.

Сцяпан павітаўся. Пра здароўе не пытаў — Мароз тры гады назад ледзьве выйшаў з бальніцы. І печань, і лёгкія... Адным словам, з бальніцы ледзьве выйшаў і цяпер калі і пыніўся, то толькі пры доме.

— Вот пападпіраць рашыў... А то і дождж лье, і ветрам яшчэ паскручвае галіны.

— Ага, трэба было і мне. Я вот к табе прыйшоў... Як ты думаеш, калі мы збяромся і з сярпамі выйдзем на той палетак, за крыніцу?

— За крыніцу? Ну, яно-то і рады іншае няма. Толькі хто ж выйдзе? Усе грыбы старыя.

— А ты вот выйдзеш?

— Выйду, а чаму ж не. Як магу, але, як і ўсе, выйду... І Волька выйдзе. А што ж тут рабіць? Рады іншае няма.

— Ну, дак гатоўся. Пайду далей.

Як некалі, з хаты ў хату, заходзіў Сцяпан, загадваў на работу.

Пакуль абышоў свой канец, ужо і дагаварыліся, што на нормы мераць не трэба, што так людзі выйдуць і падрад жаць будуць. Хто колькі коп нажне — мера работы. Яшчэ аказалася, што сярпоў няма, а калі ёсць, то тупыя, паржавелыя — апошнія гады і картаплянік ніхто ўжо сярпамі не жаў, абкошвалі мужчыны.

Таму Сцяпан не кончыў абыходзіць усе хаты — цяпер ужо не сумняваўся, што людзі выйдуць на поле. Зайшоў да Данілы. Стары каваль хварэў, нікуды ўжо не выходзіў, нават на вуліцу. Цяжка і са свістам кашляў у хаце на ложку ці на печы. Каторы год ён вось гэтак кашляў, дыхаў са свістам і хрыпам, як стары, лаплены-пералаплены кавальскі мех.

— А, бат, здароў! Як гэта ты да мяне?

Даніла цяжка ўстаў з крэсла. Ён сядзеў, склаўшы рукі на каленях, і глядзеў тэлевізар. Некалі рослы, шырокі ў плячах, каваль цяпер сагнуўся, схудаў, але і ў ссутуленых плячах асталася касцістасць, і рукі былі вялікія, шырокія ў далонях. Кавальскія рукі.

— А я, бат, вот цэлы дзень сяджу і гляджу ў целявізар.

Даніла цяжка засоп. Хата яго была прасторная, добра і моцна зробленая хата, калі Даніла яшчэ быў у сіле. Цяпер, на двух старых, яна здавалася і вялікая, і надта ж пустая.

— А ты ўсё брыгадзірыш?

Даніла папытаўся і паглядзеў на Сцяпана ўжо такімі старэчымі слязлівымі вачамі, што Сцяпану здалося, бы гэта вочы другога чалавека.

— Брыгадзіру. Вот рашылі, што трэба ісці жаць за крыніцаю сярпамі, а то жыта прападзе.

— Да, бат, дзе цяпер тая брыгада? Ні канюшні, ні кузні, ні людзей. Дак ты, бат, мабыць, нешта хацеў, калі прыйшоў?

— Кажу, Даніла, жаць пойдзем сярпамі жыта за крыніцу. Вады наліло, камбайнам туды не ўлезці, а жыта добрае.

— Цяпер, бат, расце, не тое што пасля вайны на пустой зямлі па пяць цэнтнераў...

— Ну, дык жаць хочам ісці, а сярпы старыя, тупыя. Што ты скажаш?

— А-а! Добра, зараз.

Даніла ўстаў, выключыў тэлевізар. Цяжка пасоп наперадзе, павёў Сцяпана на двор, у збітую за хатаю прыбу-

доўку. Там стаяў варштат, старыя, яшчэ з кузні, ціскі. Але і па пыле на варштаце, і па ржы на цісках, па ўсяму было відно, што майстар тут даўно ўжо не быў.

— Во, бат,— Даніла цяжка і доўга закашляўся.

Сцяпан паглядзеў туды, куды паказаў ён. Там стаяла тачыла, тое, з кузні, з вялікім круглым каменем пад карытцам, выдзеўбаным з дзерава.

— Кажы, бат, хай ідуць. Скажы, што Даніла сярпы тачыць будзе. Кузні няма, не адцягнеш, не назубіш, н падтачыць Даніла яшчэ падточыць. Кажы, бат, хай ідуць. Каб толькі пакруціць каму тачыла было.

Пакуль Сцяпан абышоў хаты, першыя ўжо пайшлі з сярпамі да Данілы. Да апошняга Сцяпан зайшоў да Антося. Той рабіў цяляці пойла — закасанаю рукою нешта душыў, перамешваў у вядры.

— Дзяньдобры, дзяньдобры,— адказаў на прывітанне.— Што гэта ты сёння ўсё сяло ўспалашыў?

— А што, вот выйдзем усе, за дзён тры і сажном. Калі добрая будзе пагода...

— Уй, выдумаў ды хрэн знае што!.. Цяпер рукамі ён будзе прыбіраць з поля. Гэта ж не некалі, што людзей поўна было. Вот няма чаго рабіць табе, дак ты ўсё недзе шчэмішся! Я ўсю жызню аджаў, во! А цяпер я на пенсіі і на работу ў брыгаду захачу пайду, захачу не пайду. Я сваё адрабіў, а цяпер хай другія робяць.

— Дак ты не пойдзеш жаць? Ты ж ведаеш, што за крыніцу камбайн цяпер не пойдзе. Прападзе поле.

— Нічога, хай рабочых ці студэнтаў прыганяюць. Я не пайду і сваю Веру не дам. Яна ў мяне пенсіянерка.

Антось выпрастаўся, стары, камлюкаваты яшчэ, цяжкі мужчына.

Сцяпан напроці яго стаяў, худы, жылісты, даўганогі ў сваім цяперашнім ваенным галіфэ, як драч.

— Як хочаш, права ты маеш. Але я табе скажу: быў ты бэкаўцам, сволаччу, бэкаўцам і астаўся. І дарэмна цябе не пасадзілі.

Бачыў, як аж пабялеў Антось, павёў рукою да палкі, якая стаяла пры плоце, і хрыпла папытаўся ці сказаў:

— Цяпер ужэ не пасадзіш, рукі кароткія! А ты дурнем быў, дурнем і памрэш, век з людзьмі правуючыся!

Сцяпан не стаў слухаць больш, завярнуўся і пайшоў з двара.

Даніла ўжо тачыў сярпы. Дастаў і начапіў свой стары кавальскі фартух, які цяпер быў яму амаль да самае зямлі,

на носе прымадэрыў двое звязаных белымі ніткамі акуляраў.

І тачыла цяпер было высакаватае яму. Круціла Марозава Волька, старалася роўна. Даніла ўзлёг грудзямі на станок тачыла, і яго вялікія рукі ляжалі на сярпе, паволі паводзілі яго па камені. Усё роўна як за рулём кіраваў, пакручваў баранку стары каваль, прыглядаючыся да сярпа. Тут жа, ля тачыла, стаяла і вядро з вадою — начоўкі пад тачылам рассохліся за многа год і з іх выцякала вада.

Даніла паглядзеў на серп — на шырокі захват роблены, лёгкі серп, пацямнелы, заржавелы, цяпер ён светла заблішчаў.

— Тагановічава работа. Умеў сярпы рабіць.

Даніла цяжка дыхаў.

— Каб яшчэ перазібіў — век бы служыў.

— На мой век, Даніла, хваціць і гэтага. Колькі ■ ім папарэзала гэтага жыта, аж і падумаць страшна.

— Данілка, а гэты серп ты пазнаеш? — падала кавалю ў рукі серп Юзікава Галька.

— Чаму ж. Я рабіў.

— Вот ты не можаш, каб уперад не выскачыць! — не ўтрывала сварлівая Бакасянка.

— А ты мяне ўсюды пільнуеш! Табе і работы другое няма! — адразу ж завярнулася да яе Галька.

— Ціха, бабы, ціха! Усе ўспеем,— прыкрыкнуў Сцяпан, бо ведаў, што як завядуцца абедзве, да вечара і вадою халоднаю не разальеш.

— Рабіў некалі... Дзень і ноч, бывала, перад жнівом.— Даніла пакручваў у руках серп, быццам прыглядаўся да яго і на ім бачыў тыя далёкія дні.— Тады яшчэ Мінкіна нам былі прыслалі...

Даніла завярнуўся да Сцяпана:

— Ты помніш, як я быў іржышча накасіў і адвячоркам дадому пёр? — Даніла падняў акуляры на лоб.— І ўжэ ў вуліцу вото ўязджаю, а насустрач у вазку курыць старшыня. Ну, думаю, прапала маё ржышча, заверне на кароўнік. А ён мне здалёку рукою махае: «Што, Базылевіч, снапы вазіць памагаем? Маладзец, Базылевіч!» І пакурэў на сваім вазку. Стаў я, аж плюнуў — і куды з ім, такім дурнем, калгас пойдзе?

— Не такі дурань быў. Колькі на аўчарніку баранчыкаў папарэзаў і ў Мінск папавазіў! — пераключылася на Мінкіна Бакасянка.

— Э-э, хто тут не набіраўся,— Даніла махнуў рукою.— Сцяпан, хіба ты мне пакруці тачыла, а то бабы ўсё ж шмаргаюць, не роўна круцяць, а ў мяне і самі рукі шморгаюцца.

Сцяпан стаў да тачыла.

Сярпы кончылі тачыць пасля абеду. Сцяпан памог старому кавалю паставіць пад паветку тачыла.

І толькі тады на двор паказалася Антосева Вера з трыма сярпамі ў руках.

— Вы ўжэ кончылі? А я ж хацела... Патачэце, дзядзька Даніла.

— Што, перадумала, жаць пойдзеце? — папытаўся Сцяпан.

— А што, як і не пойдзем? Начальнік мне. Не з табою ж гавару!

Даніла цяжка соп.

— Спазнілася ты, ужэ не точым,— злосна сказаў Сцяпан.

Яго раззлавалі тры сярпы, якія яна прынесла старому — у запас натачыць, пакуль не памёр.

— А ■ ў цябе не пытаюся!

— Не точым больш, ага...

Даніла закашляўся, завярнуўся і пайшоў пад паветку.

Вера пастаяла, закруцілася і пашыбавала на вуліцу.

Зноў пачынаў крапіць дождж.

— Пайшлі, Сцяпан, да мяне, паабедаем і чарку вып'ем, бат. Мы з табою добра парабілі, бат, добра.

Абедалі яны з Данілам доўга, выпілі паўлітра гарэлкі, з'елі па місцы наварыстых буракоў.

— Ты, бат, бачыў, што мне Вера тачыць была прынесла? Аднаго гэтага бракуса, што ў нас у раёне нарабілі... Гэта ж трэба, бат, я яшчэ жывы, і ты помніш, а на заводзе сярпоў нарабілі, з другога боку назубіўшы! І яна, бат, прынесла, каб я, Базылевіч, гэтае паскудства ў рукі браў, каб я яго на сваё тачыла паклаў! А ты, бат, добра прыдумаў, што трэба поле зжаць, што сярпы трэба натачыць! Добра, бат, прыдумаў... А то я сяджу цэлыя дні, гляджу ў гэты целявізар, і гэтак мне ўжо надаела сядзець і глядзець, што і пайшоў бы, а мяне нешта не пускае, нечага не дарабіў... А добра, бат, от я ўсе сярпы ператачыў, і свае, і Тагановічавы... Як яго там сустрэну, раскажу, як мы з табою сярпы тачылі, бат!

Даніла задаволена засоп.

За акном імжыўся дождж, і пад гэтым дажджом Сцяпан пайшоў дадому.

Дома Ганна папыталася адразу:

— Што ты там дзе гаварыў, што Вера Антосева цябе на ўсю вуліцу кляла?

— Пайшла яна!.. У яе дзе совесць, там мохам парасло! Жаць на поле не можа пайсці, и Данілу сабрала, прыперла ўсе сярпы.

— Хай бы ён яе і праганяў. Чаго ты лезеш? Выдумаў на сваю голаў гэтае жніво!.. Госпадзі, хоць бы ты, як той чалавек, пайшоў на сваю пенсію да пажыў, хоць бы я пажыла пры табе спакойна. Увесь век перад табою бягу — брыдка брыгадзіравай жонцы ззаду быць... Але ж век я ў цябе знелюбелая была! Усё тую камандзіршу помніш...

— Не дурней на старасць год. Мы з табою як людзі век зжылі...

— Ага, на людзей азіраючыся і зжылі. Есці даць чаго? Мо хоць дзень папалуднуем разам як людзі.

— Давай папалуднуем.

Сцяпану не хацелася есці, але ён сеў за стол разам з жонкаю.

*Лілі дажджы. Заасяніла, як перад самым снегам. Сцяпан з напарнікам доўга сядзелі пад кустамі ядлоўцу наводшыбе ад лесу і прыглядаліся да вёскі. Яна цьмяна шарэлася ў тумане і дажджы. На пляцах перад вёскаю відны былі людзі — выбіралі бульбу.*

*— Пайшлі,— скамандаваў Сцяпан.*

*— Куды пайшлі? Чаго на ражон перціся? — яго напарнік, гэтакі ж самы малакасос, як і Сцяпан, праўда, на гады чатыры старэйшы, Васіль Казьмянаў, які пабыў салдатам, акружэнцам, незадаволена азірнуўся на Сцяпана. Яму не падабалася, што Сцяпана прызначылі старэйшым.*

*— Сказана пайшлі — пайшлі! — Сцяпан устаў. Ён камандаваў, і нейкая дурная маладая ўпартая сіла гнала яго наперад. Яму было прыемна, што Васіль не можа не падпарадкавацца яму.— Сказалі разведаць, то трэба і разведаць, а не паляжаць у кустах.*

*Калі падыходзіў да жанчын, Сцяпан прыкмеціў, што тыя здалёк заўважылі іх, але не падавалі выгляду — грэбліся дружна, як куры.*

*— Дзень добры, цёткі,— павітаўся Сцяпан, як падышоў да жанчын.*

— Дзень добры,— адказалі некалькі чалавек уразнабой, зірнулі на яго з Васілём і зноў збіралі бульбу.

— Немцы ў вёсцы ёсць?

Сцяпан стаяў, паклаўшы рукі на карабін, які вісеў на шыі. Сам сабе ён здаваўся высокім, дужым, бравым з выгляду.

— А хто іх ведае, чалавеча. Зранку, як выходзілі ў поле, нікога не відно было. А цяпер хто яго ведае...— коратка адказала адна з жанчын.

— А ў Вераб'ёве, у Будзе?

— Адкуль жа мы ведаем? Нікуды ж не ходзім.

— Вы што, не бачыце, свае мы, партызаны.

— Можа, і партызаны, я ж нічога не кажу.

Хустка ў цёткі была завязана так, што толькі вочы відны былі і нельга было пазнаць твару. Яна была старэйшая, і больш ніхто з жанок у гаворку не ўмешваўся.

— Ладна, Васіль, пайшлі, ну іх...

Сцяпан мацюкнуўся, каб чулі жанчыны, і знарок пайшоў, усё роўна як збіраўся напраскі ўвайсці ў вёску. Угледзеў краем вока, як насцярожана выпрасталася старая жанчына, якая гаварыла з імі. Але тут жа ўвагу яго забрала маладая выбіральшчыца, таксама ў старой абшарпанай куфайцы, у бруднай, з плямамі хустцы. Нешта знаёмае падалося ў схаваным твары.

Ён завярнуў да яе, спыніўся.

— Ну што, і ты не пазнаеш? Ці пазнаваць не хочаш?

Сцяпан стаў над дзяўчынаю.

— Няўжо ж гэта ты, Сцёпка? А я прыглядаюся і не магу пазнаць. Цётка Хадорка, гэта ж Сцёпка Дзямідчыкаў з Борак!

— А госпадзі! А казалі ж, што цябе паліцаі злавілі і застрэлілі разам з бацькамі!

Разагнулася і падалася да Сцяпана тая, каго Ганька назвала цёткаю Хадоркаю.

— Ой, дзеткі, ідзіце адсюль, хай вас бог беражэ!

Жанчыны сабраліся вакол іх, загаварылі наперабой:

— Лазяць гэтыя дні яны ўсюды. І ў Будзе, і ў Вераб'ёве, і ў нас сёння былі, мо яшчэ і не выехалі. І ля дарогі, мужчыны кажуць, сядзяць. Не хадзеце тут, дзеткі. Паб'юць вас. Іх гання цэлая!

— Ладна, і мы самі з вусамі. Разбяромся, што да чаго. Зайду, Ганька, як будзе час, у госці. Будзьце здаровы, жанкі!

*Сцяпан, кругам выйшаўшы да лазовых кустоў на лузе, павёў Васіля на канец вёскі. Той паспрабаваў заікнуцца, што няма чаго лезці на ражон, усё і так ясна: паўз дарогу скрозь засады, немцы чакаюць партызан.*

*— Ладна, ты будзеш чакаць мяне тут. Дарогу назад знаеш. Скажаш у атрадзе, калі што... А я пайду праверу.*

*Яму тады падабалася, што ён пакідае Васіля, што можа пайсці і не вярнуцца. Можна было і з тым, што здабылі, ісці ў атрад — асноўнае разведалі.*

*Сцяпан не ўспеў адысціся ад кустоў, калі пачуў:*

*— Сцяпан, пачакай! Пачакай, не ідзі!*

*Ён пазнаў Ганьку. Яна даганяла яго бягом.*

*— Пачакай, дай я лепш сама першая зайду. А мо не паехалі яны яшчэ. Я табе хусткаю махну...*

*Яна першая пайшла да вёскі, махнула адтуль яму хусткаю. Маці яе ды і бацька, кульгавы шавец Змітрычак, таксама не пазналі яго. І толькі там, у хаце, ён сам адчуў, які ён брудны, абшарпаны, праванялы дымам і лесам. Ганьчына маці запрапанавала паставіць вады, каб памыўся. Ён засаромеўся, сказаў, што не мае часу. Часу і сапраўды было мала. Змітрычак расказаў яшчэ раз, дзе бачылі немцаў і паліцыю.*

*Не адмовіўся Сцяпан толькі ад самагонкі, кавалка сала і хлеба. З Васілём яны выпілі гарэлку і пад'елі толькі тады, калі дайшлі да ўзлеску.*

*Ноччу атрад перайшоў дарогу за лесам, у полі. Там засады не было.*

*Ганьку ён больш не ўгледзеў. У Альховыя Крыніцы зайсці ніяк не выпадала...*

*Пасля партызан яго, параненага, на фронт не ўзялі. Ён рабіў у страхінспекцыі, хадзіў у раённым актыве. У яго быў маленькі сівенькі конік пад сядлом, ППШ, які ён выменяў на свой карабін у салдата. З гэтага аўтамата за сорак метраў ён не мог трапіць чаргою ў пень і таму разумеў, чаму шустры пехацінец абмяняў яго на карабін. Аўтамат вісеў у пакойчыку ў прыватным доме ў Слуцку над жалезным ложкам. Акрамя табурэткі, тумбачкі, больш нічога ў яго не было. І яшчэ пры дзвярах быў убіты цвік, на які ён вешаў свой добра выношаны шынялёк.*

*Аўтамат ён з сабою не вазіў — трымаў пры сабе толькі трафейны нямецкі «вальтэр».*

*Тады ён прыязджаў праводзіць сюды, у Альховыя Крыніцы, сход. Сцяпан запомніў той сонечны красавіцкі*

*дзень, калі аж балелі вочы ад сонца. Снег на дарозе стаў жухлы, у лагчынах набрыняў вадою. Сонца добра прыгравала ў плечы, і цёпла было ўжо і ў Сцяпанавым шыняльку. Толькі балелі вочы ад сонца і слязіліся.*

*Яго мучыў кашаль, і нават пад сонечным прыгрэвам час ад часу праціналі цела дрыжыкі. Ануча ў левым боце была мокрая — у адным месцы лопнуў перад, і вада, калі ступаў у мокры снег, прасочвалася.*

*Пасля сходу Змітрычак сам падышоў і напомніў, як тады, у разведцы, заходзіў Сцяпан да яго, і запрасіў начаваць да сябе.*

*У хаце ў Змітрычка яго яшчэ частавалі бульбаю і самагонкаю — на стол падавала Ганька, але і цяпер Сцяпан памятае гэта як у гарачым тумане. Ён і жартаваў, і ўспамінаў былое, і ўвесь час дзяржаўся, каб не калаціла яго ад холаду.*

*Спаць лёг на шырокай лаве, на якую Змітрычак паслаў кажух. Акрыўся сваім шынялькам. Ноччу яму стала душна ў хаце, ён устаў, каб прыадчыніць дзверы, і больш нічога не памятае...*

*Першае, што ён убачыў ці адчуў, калі ачнуўся,— над ім нехта плакаў. Спачатку яму здалося, што гэта маці. І ён скрозь гарачку ўзрадаваўся, што няпраўда, не застрэлілі маці, што яна жывая. Потым зразумеў, што гэта яму здалося, што над ім нахілілася Лена. Але ж ён ведаў, што яна з мужам у суседнім раёне і тут не можа быць.*

*Над ім сядзела і плакала Ганька. Ён ляжаў на яе ложку, апрытомнеў толькі на пяты дзень. Тым часам пачалася паводка, ні ў раён, ні з раёна сюды ніхто дабрацца не мог. Самае большае, прывозілі да яго мясцовага фельчара, старога, дарэвалюцыйнага яшчэ практыка. Тры тыдні адлежаў ён у Змітрычка, пакуль ачуняў. Але бяда адна не ідзе — адкрылася рана, пачаў выходзіць асколак... Ганька даглядала яго.*

*Калі ад'язджаў, Ганька выйшла да варот правесці. Падала руку яму на каня, глянула і сказала:*

*— Прыязджай сюды. Чаго табе прападаць, Сцёпка, вайна кончылася...*

*Яна не дагаварыла.*

*Як трохі ачахла дарога, ён прыехаў у Альховыя Крыніцы. Потым яшчэ колькі разоў прыязджаў, а на сяўбу ўжо Сцяпан Дзямідчык быў зацверджаны райкомам старшынёй калгаса, які быў тады з аднае вёсачкі, з Альховых Крыніц. Пасля сяўбы ў іх з Ганькаю было вяселле...*

— Ты хіба нездаровы? Чаму не ясі?

Сцяпан схамянуўся.

— Слухай, а чаго ты тады плакала?

— Калі плакала?

— Тады, як я хворы ляжаў?

— Во, выдумаў што! Маладая была, дурная. Страшна было, што памрэш... Вой, як ты кідаўся і крычаў начамі! Усё нейкім балотам адыходзілі, усё справа некага накрываць трэба было...

— Прыкрываць, а не накрываць.

— Бог яго знае.

— Гэта з блакады...

— Ага, і тую Лену ўсё зваў, каб за табою паўзла. Во, дык ты, мабыць, ужэ шмаргануў недзе? А я думаю — сядзіць, нікуды не спяшае, што гэта [redacted] ім зрабілася такое!

— З Данілам паабедалі.

— І той выпіваў?

— Выпіў. Смачная, кажа.

— Хіба перад смерцю, барані божа. Ну, то калі выпіў, то ўжэ нікуды і не сунься. Лажыся і паляжы хоць дзень у гаду як чалавек.

Сцяпан паслухаў жонку. Ці то ад выпітага, ці то ад стомы, але ногі былі нібы ватныя, і сам увесь здаваўся цяжкі, як з доўгае дарогі толькі вярнуўся. Зноў пачаўся дождж, і пад яго Сцяпан заснуў моцным здаровым сном.

## VII

Жалі жыта гуртом. Непрывычна было ні самому Сцяпану, што жнуць гэтак, ні жанцам — спрадвеку, як толькі пачаўся калгас, палетак мералі на нормы. Кожнаму свая паласа. Было відно, як хто зжаў, як хто снапы павязаў, як хто бабкі паставіў.

Цяпер не было каму брадзіць, мераць, дый не было патрэбы. Жалі, як даўно згаладаліся па такой рабоце, быццам правяралі, ці не забыліся, як серп у руках трымаюць.

Але дождж не даваў ніводнага дня пажаць.

Жалі высока, амаль у калена пакідаючы ржышча. Жыта перавілося травою, і было не пацягнуць сярпа.

— Бачыш, прыйшла пара, Сцёпка ходзіць і загадвае, каб высока жалі. А помніш, як мяне і аштрахаваў быў на тыя працадні пустыя, што высока жала? — Бакасянка гаварыла да суседкі, да Ліды, але так, каб чуў і Сцяпан.

— Ну, тады такое правіла было... Тады ж заворвалі ржышча, каб зямля лепш радзіла,— памяркоўна абазвалася тая. Ліда не любіла лішне гаварыць.

— Ага, пад землю закочвалі, а коней і кароў вясною на вяроўках падымалі ды падвязвалі...

— Ты ўжэ не кажы, у нас, у Крыніцах, такога ніколі і не было пры Сцёпку.

— Ні ў нас, дак усюды ў калгасах было!

Бакасянка не здавалася. І яе моцны, сварлівы голас быў чуцён усім. І Сцяпан не злаваў на яе — колькі ні жалі, у іх не было такога, каб не чутно было Бакасянчынага голасу. І цяпер, калі быў чуваць ён, здавалася, што ўсё ў парадку.

Але чым далей аджыналіся ад поля да рэчкі, тым мякчэй рабіўся набрынялы ад вады тарфянік пад нагамі. Сцяпан ужо думаў пра тое, як і на чым будзе вывезці снапы.

На выхадныя тая ж Бакасянка прывяла на поле сына з нявесткаю і загадала выносіць свае снапы на сушэйшае. Гледзячы на яе, пачалі і ўсе выносіць снапы на вышэйшае, павыходзілі на работу і дзеці, якія папрыязджалі на выхадныя з горада.

Прыйшоў і Антось, не прыйшоў, а прыехаў на падводзе, нешта прадундзеў жанкам, што Вера захварэла, ляжыць, не ўстае.

— А ў цябе хіба с... запрэла, на лаўцы седзячы, а то і ты чорта прыйшоў бы,— не ўтрывала Бакасянка, але Антось прытварыўся, што не пачуў.

Ён пачаў накладваць снапы і вывозіць іх на край поля, там ставіць у бабкі.

Зранку хораша свяціла сонца, і вока цешыла золата збажыны навокал. З палёгкаю ўздыхнулася — кончыліся дажджы, пачнецца пагода. Але пасля абеду неяк раптоўна патухла ўсё, заплыло асеннімі грудастымі хмарамі і зацерусіўся дробны дождж. А жаць заставалася на якую паўднёўку яшчэ. Жанкі неахвотна адрываліся ад сярпа, збіраліся дадому.

Сцяпан здалёк угледзеў дзве машыны, якія ад вёскі, буксуючы па гразі, дабіраліся да поля, спыніліся перад крыніцамі. З першай выйшаў рослы мужчына ў ваеннай плашч-накідцы. З другое машыны, Сцяпан пазнаў, выкаціўся старшыня і за ім следам вылаўз аграном. Першы ходка, напрасткі, не разбіраючы дарогі, пашыбаваў да іх так, што і аграном, і старшыня ледзьве ўспявалі следам. І яшчэ следам ссутулена ішоў рослы чалавек у кароткім

балонневым плашчы. Ён вылез з трэцяе, сіняе, машыны, якая дагнала першыя дзве.

Але Сцяпан толькі вокам кінуў на астатніх — глядзеў на першага: у паходцы, у тым, як разляталася ад хадзьбы поламі ў бакі накідка, было нешта вельмі ж памятнае, нібыта такое ўжо ён бачыў аднойчы, даўно.

Сцяпан пайшоў насустрач.

Чалавек у накідцы павітаўся, падаў руку. Рука яго была белая, вузкая, але цвёрдая.

— Гэта наш брыгадзір, Дзямідчык Сцяпан са сваімі пенсіянерамі. Я расказваў вам пра гэтую брыгаду...

Старшыня таксама падаў руку Сцяпану, і следам за ім павіталіся і аграном, і чалавек у балонневым плашчыку — у таго пад плашчом на грудзях быў фотаапарат.

Чалавек у накідцы, здалося, не слухаў, што яму гавораць, аглядаў зжатае поле і нешта думаў сваё.

— А чаму снапы вывозіце?

— Баюся, што і трактар не ўлезе. Балота, а вады гэтулькі ўгаціла.

— А што вы з мокрымі снапамі рабіць будзеце?

— Сноп, ён як мокры, так і сухі. Лета ж усё ж такі. Раскрыў бабкі, ветрам абветраюць, у гумно ўкінем, а абмалаціць цяпер не праблема... Дзяды нашы не дурныя былі — жыта сеялі. Ці засушыць, ці вымачыць, хоць крыха і пашні будзе, і карове і саломы перападзе.

Сцяпан ужо ведаў, здагадваўся, што гэта з раёна і што не малы начальнік, хоць і ў гумовых ботах, калі за ім гэтак бегае старшыня.

Старшыня сурова глянуў на Сцяпана — не мялі лішне, гавары пра тое, што ў цябе пытаюць.

— А чаму ў гумно? Можна і сюды падагнаць камбайн і абмалаціць? — Незнаёмы паглядзеў на Сцяпана — што той скажа.

— Так яно і саўсім добра было б. Але ці будзе той лішні камбайн? Вунь жа ярыны колькі яшчэ. Цяпер трэба хватаць што і як можна з поля. А снапкі і ў гумне пачакаюць, пакуль камбайны на выгул не пойдуць.

Вочы ў прыехаўшага былі блакітныя, глыбокія, сур'ёзныя і строгія вочы, якія бываюць у начальства. І крыху запалыя, мабыць, ад бяссоння, і твар стомлены.

— У цябе ва ўсіх брыгадах жнуць уручную? — папытаўся ён у старшыні.

— Не, Пётр Іванавіч, гэта Дзямідчык у нас спец на...

— А дарма. Карпенка! — паклікаў ён і махнуў рукою, усё роўна як даваў знак таму чалавеку ў балонневым плашчы. Той адразу ж дастаў з-пад плашча фотаапарат.

— Дык гаворыце, Сцяпан,— як вас па бацьку? — Сцяпан Сцяпанавіч, што сярпы яшчэ ёсць і там, дзе не ўлезе ні трактар, ні камбайн, можна зжаць і высушыць? Так дзяды і рабілі?

Пётр Іванавіч нечакана ўсміхнуўся скупою, але цёплаю ўсмешкаю, і маршчынкі, што збегліся да вачэй, і гэтая ўсмешка раптоўна абмаладзілі яго.

— А што, калі, скажам, мы падымем усіх, хто можа жаць і касіць?

— Ну, усяго не сажном. Гэта некалі людзей поўна было тут, а цяпер усе ў горадзе... Але тое, што машына не возьме, можна запраста забраць.

Сцяпану было добра, што Пётр Іванавіч зразумеў яго.

— Так што, Пётр Іванавіч, рана нас яшчэ закрываць і зносіць, як хутаранцаў. Мы яшчэ гаспадары на зямлі.

— Мабыць, рана, Сцяпан Сцяпанавіч.

Зноў нейкая думка заняла галаў Пятра Іванавіча, і твар яго стаў сур'ёзны і стомлены, і ў вачах абазначыўся той строгі начальніцкі халадок.

— А ты, Прымачак, не ведаеш, што ў цябе ў калгасе робіцца. Людзі самі выйшлі... Усе брыгады падымаць трэба, раён...

Сцяпан недачуў, што загаварыў нешта ў адказ старшыня, ідучы побач з сакратаром.

Карэспандэнт тым часам узяў Сцяпана пад руку і пачаў распытвацца, як у іх у брыгадзе нарадзілася такое пачынанне.

— Як вопыт, кажаце, нарадзіўся? Знаеце, у нас ёсць стары каваль, дзядзька Даніла. Кузні цяпер няма, ён ляжыць на печы... А ляжаць яму згадзела. І ў целявізар глядзець згадзела. Вот ён і ўспомніў, як некалі сярпы рабіў, і надумаўся, што трэба сярпамі жаць... А мо ад безрабоціцы захацелася сярпы свае, якія некалі рабіў, патачыць. І перадаў ён, каб неслі сярпы тачыць... Ну, а далей ужо самі бачыце.

Сцяпан стараўся не пасміхацца. Карэспандэнт сур'ёзна нешта памячаў у блакноціку, запісаў прозвішчы Данілы, Сцяпана.

Начальства ля машыны чакала карэспандэнта. Потым селі ўсе ў машыны, і пад дажджом, у шэрым сутонні яны адна за адной пасунуліся па разбрынялай палявой дарозе.

І зноў нешта даўняе падалося Сцяпану — у гэтай шэрані, у гэтай калоне машын.

Ужо як уваходзіў у вуліцу, успомніў, што нагадаў яму гэты чалавек у ваеннай плашч-накідцы. Была вясна. Блакада. Яны ішлі на прарыў цераз балота, па ледзяной вадзе. Сцяпан быў ва ўдарнай групе. Пад'ехала на конях камандаванне брыгады. Першы ішоў камбрыг. Гэтак жа ходка, гэтак жа ад хады расхінаўся плашч-палатка.

Сцяпан аж спыніўся, уражаны ўспамінам — амаль усё паўтарылася так, як было. Стала аж горача.

Тую фатаграфію, якую зрабіў карэспандэнт, надрукавалі ў першым жа нумары раённае газеты. І зверху было напісана: «Увага, новы вопыт!» Сцяпан не зусім зразумеў, што было новага ў тым, што жалі жыта ў яго брыгадзе сярпамі, але так было напісана. І на фатаграфіі можна было пазнаць і яго, і старшыню Прымачака, і сакратара райкома Яновіча...

## VIII

Снапы, якія павыносілі на край поля, высушылі — мабыць, і ў бога пачало не ставаць вады: усё часцей і часцей праглядвала між воблакаў сонца.

Сцяпан чакаў змены квадры — па яго прыкметах, павінна было павярнуцца надвор'е на пагоду.

Дзень надзіва ўдаўся — сушыла як ніколі за лета: прыгравала сонца, хадзіў над зямлёю тугі ветрык. Жыта было гатовае. У абед Сцяпан загадаў жанчынам падмесці, прыбраць у гумне — назаўтра раніцою на нарадзе трэба было браць хоць пару машын ці трактароў з прычэпамі і вазіць снапы ў гумно.

Але ўжо ў гадзін пяць па абедзе раптам апаў ветрык, і на даляглядзе пачало сінявата туманіцца, нібы там нешта варыла вялікая гаспадыня і падымалася над зямлёю пара ад яе варыва. І ад поля, і ад зямлі, угрэтае, вымачанае, раптам дыхнула цёплаю задушліваю парнасцю. Сцяпан ведаў, што без дажджу, калі не цяпер, то вечарам альбо ноччу, не абыдзецца.

Трэба было прыбіраць з поля жыта.

Сцяпан сеў на веласіпед і паехаў на палетак за Партызаншчыну — там зранку скідалі ў сцірты салому. Там жалі два камбайны і ля іх былі машыны, трактары з прычэпамі.

Як толькі ўз'ехаў за ўзгорак, убачыў шырокае, роўна зжатае поле. Адзін камбайн стаяў, а другі спорна ішоў па

полі. За імі была прыбрана і салома. І там, ля свежаскіданае стогакідальнікам сцірты, стаяла машына, два трактары і астатняя тэхніка.

Ля камбайна, які стаяў, лазілі камбайнеры.

Сцяпан падышоў да іх, павітаўся:

— Дзень добры, мужчыны. Зламалася што?

— Вал грохата... Такога паўдня прападзе. А на цэнтральнай як дзе чорт усіх падзеў!

Камбайнер плюнуў, махнуў рукою.

— А гэта мо сын твой, Васіль, за памочніка ў цябе?

— Сын. Ён і тыя ж гады рабіў. Цяпер на канікулах, у інстытут жа паступіў той год.

Сам бацька быў маларослы, худы, з густою чорнаю шчацінаю, якая выступіла на барадзе.

— Не ідзеш, Васіль, на пенсію?

Сцяпан ведаў, што Васіль, як і ён, мае інваліднасць.

— Я сходзіў ужэ. Што ты, братка, летам сядзець склаўшы рукі дома будзеш? Каб жа было хоць каму рабіць, а то во дзеці ж нашыя ўсе паехалі. Хто ў Слуцак, хто ў Салігорск, хто ў Мінск. Ды здароваму чалавеку і сядзець няма як, захварэць можна. Пайшоў я на лета на работу. От і сын прыехаў, хай заробіць і сабе грошай, і мне на карову саломы.

— Цяпер не надта, Васіль, будзе тае саломы. Ні калгасу, ні нам цяпер не вельмі разгонішся.

— Але ж нешта будзе. Цяпер жа ўсё шыферам накрыта, раскрываць няма чаго... А ты чаго хочаш?

— Снапы трэба з поля ўкінуць у гумно. А то на ноч дождж, ці што. Тут во трактары вазьму, машыны. Яны ж незанятыя?

— Дзе ты, братка, бачыў занятыя. Мой жа камбайн стаіць, салому паскідалі ў сцірты. П'юць вунь, сядзяць у капе саломы. Рыжы кажа, што дзень ражджэння ў яго.

— Дак а ты чаго?

— А-а, вот мо механік пад'едзе, хоць назаўтра каб камбайн зрабіць.

Калі Сцяпан падышоў да мужчын, яны сама чокаліся бутэлькамі. На газетах быў раскладзены хлеб, нарэзана сала, ляжалі свежыя агуркі, памідоры.

— О-о, Сцяпанавіч! Прывет доблеснаму брыгадзіру. Дзяржы. Пі за маё здароўе — сёння я нарадзіўся! — Рыжы ўстаў насустрач Сцяпану, расставіў рукі, нібыта ўгледзеў дарагога чалавека, па якім даўно збалеўся душою.

— Ну, добра, што ты нарадзіўся,— Сцяпан не ўзяў бутэльку.— Але я з другім да вас...

— Ну, што тут другое можа быць... Гэта перш.

— Бяры, Сцяпанавіч, хлопцы яшчэ паехалі па гаручае. Да вечара хопіць. Бач, салому ўсю скідалі, рабіць няма чаго.

— Ай, дзядзька, давайце, чаго тут...

Яго не хацелі слухаць. І трактарысты, і шафёры ўжо добра падгазавалі.

— Мужчыны, ціха! Дайце я скажу перш!

— Ну, хай перадавік скажа. Зразу б так, а то яшчэ брыкаецца.

— Мужчыны, там ля поплаву жыта сухое. Трэба яго ўкінуць сёння ў гумно. А то за ноч і дажджу па цяперашняй пагодзе можа нагнаць.

— Го, я думаў, ты мне слова скажаш, [redacted] ў цябе там жыта!

Рыжы пакрыўджана махнуў рукою. Твар яго быў чырвоны, як бурачны, а валасы і бровы белыя, таму яго і празвалі Рыжым.

Астатнія пачалі выпіваць, ізноў загаварылі паміж сабою.

— Мужчыны, жніво ж! Рабочы дзень яшчэ. І [redacted] тут брыгадзір!

— Пайшоў ты!..

Сцяпан азірнуўся, не пазнаў, хто сказаў, але ўсе дружна рагатнулі.

Рыжы забраў з рукі ў Сцяпана бутэльку.

— Ты от што, дзядзька Дзямідчык, нам ты не ўказ. Тваё жыта, ты і думай. Нам другі нарад сёння старшыня даў. Я да цябе як да чалавека, [redacted] ты — жыта. Не збяднее па ім калгас!.. Праўду пра цябе гавораць...

Рыжы не даказаў да канца.

— У баб спадніцы збяры і на бабкі панадзявай! — ляпнуў нехта з маладзейшых — Дзямідчык і не ведаў яго.

На жарт п'янавата, дружна засмяяліся. Сцяпан адчуў, як пачынае цямнець уваччу...

Ён моўчкі завярнуўся і пайшоў па ржышчы да дарогі, там усхваціўся на веласіпед, круціў да самае вёскі, да Жоглавае хаты. Участковага дома не было. Нявестка, якая прыехала на лета з грудным дзіцем, сказала, што вызвалі Жоглу нечага ў раён.

Ва ўчастковага ў хаце быў адзіны на ўсю вёску тэлефон.

Дзямідчык пазваніў у кантору, але ніхто не падняў трубку ні ў кабінеце старшыні, ні ў агранома, ні ў сакратара партарганізацыі. Бухгалтар наздаўгад сказала, што стар-

шыня недзе на полі. «Мацць вашу з гаспадарамі. Штабоў нарабілі. Камбайн стаіць, механізатары п'юць, а нідзе жывое душы не знайсці!»

Дзямідчык не мог супакоіцца. Ён быў бяссільны са сваімі пенсіянерамі і адным канём на ўсю брыгаду. На вочы яму трапіўся тэлефонны даведнічак, які ляжаў побач з тэлефонам. Сцяпан набраў нумар аўтамабільнае інспекцыі.

— Так, п'яныя, на машынах і трактарах лётаюць па вуліцы... Тэрмінова. Брыгадзір гаворыць. Дзямідчык мая фамілія!..

З хаты выйшаў, не гледзячы на маладзіцу...

Міліцыя прыехала хутка, з «варанком». Рыжы пробаваў уцякаць на трактары, перавярнуўся ў канаву, у гразь. Міліцыянеры выцягвалі яго з кабіны, як танкіста з люка. Дзямідчык сядзеў на дамбе над возерам. Паглядзець, як ловяць п'яных, сышліся ў канец вёскі мужчыны і жанкі. Сцяпан не ведаў чаму, але яму брыдка было паказвацца ім на вочы.

Пайшоў ён дадому, калі баталія аціхла і людзі разышліся па хатах. Ён ужо падыходзіў дадому, як яго паклікаў Марозаў гарадскі ўнучак:

— Дзядзька Сцяпан, а дзядзька Саша Навалач схаваўся ў нас у куратніку ад міліцыянераў. Цяпер спіць, не пускае на ноч курэй. Спіць вот так — хру-хру, хру-хру! Дзед яго выцягнуць не можа. Курэй у хлеў пазаганялі.

— А ты, Данілка, туды яму пеўня ўпусці.

Сцяпану было не да п'янага Сашкі, які схаваўся ад міліцыі ў куратнік.

Але гэтым ён надаў на сваю галаў яшчэ адну прыгоду — малы занёс і запёр лютага пеўня ў куратнік да Сашкі, і той, як троха развіднела, даў дыхту — параскплёўваў няпрошанаму кватаранту не толькі рукі, але і твар...

Раніцаю да Сцяпана прыйшоў Жогла. Ён быў адзеты па-дамашняму — у старое міліцэйскае галіфэ, у вынашаную форменную рубашку, тапачкі на босую нагу.

Імглела зноў па-асенняму, надоўга аслізла зямля, а ў садзе, на лісці, на яблыках шэра ляжалі кроплі — быццам упацеў, утаміўся сад трываць гэтакую макрэчу.

— Ну, брат, ты і даў учора! Выцвярэзнік з-за цябе план аж перавыканаў...— Жогла засмяяўся.

— Табе гэта трэба было даваць, а не мне. А то абабіліся аб цябе — ужэ як і не участковы ты. Федзя ў галошах.

— Ну, ну, у мяне ўчастак адзін з лепшых. І па п'янству, і па хуліганству.

— Во так на ўсё вочы прыжмурваеш, дзіва што на бумазе ўсё будзе чын чынаром. Ну, чаго ты хацеў? — Сцяпан ведаў, што прыйшоў Жогла не для таго толькі, каб сказаць яму пра тое, што раённы выцвярэзнік перавыканаў план.

— Прымачак учора ў раён прылятаў. Яму пападзе. Бегаў к першаму. Так што вымову ты яму ўжэ прыляпіў, сама мала... А механізатараў сёння павыпускаюць — за руль жа няма каму садзіцца. Адным словам, ехаў я з Прымачакам учора дадому разам. Ён аж чырвоны ад злосці. Сказаў, каб я загадаў табе сёння раніцаю быць у канторы. Да, брат, цяпер ён з цябе не злезе. Ён гадкі, зацяты чалавек...

— А ты ўсё баішся. Цяпер бы я цябе не тое што камандзірам дыверсійнай групы, але і радавым байцом не ўзяў.

— А думаеш, Сцяпан, цябе б ужэ ўзялі, як тады, у партызанах, думаеш, такі ты астаўся? Жызня, яна, брат...— Жогла махнуў рукою і пайшоў з двара.

Сцяпан глядзеў услед яму — яны ўдвух асталіся з партызан у вёсцы. Злосць аставалася на душы ў Сцяпана кожны раз, калі ён сустракаўся з Жоглам. І той адчуваў гэта, толькі прытвараўся, што паміж імі ўсё, як і раней. Сцяпан не помніць, калі, з якога часу той Жогла, якога баяліся ў наваколлі ўсе пасляваенныя зладзеі, самагоншчыкі і п'яніцы, аброс мохам, стаў тоўсты, мяккі, добры для ўсіх — і для начальства, і для людзей. І адразу ж выбудаваў хату, купіў сабе машыну і сядзеў на сваёй участковай пасадзе, як на цёплай купіне. І яшчэ Сцяпану здавалася, што Жогла хітра пасміхаецца з яго.

Сцяпан ведаў, чаго выклікае старшыня, што ехаць не трэба было б, але, прывычны да парадку, не мог не ехаць.

Ён ужо выводзіў з варотцаў веласіпед, калі здалёку яго гукнуў большы Хведаркоў хлопец — ён спяшаў подбегам па вуліцы:

— Дзядзька Сцяпан, куды вы? Дзед Даніла памёр.

— Як памёр?

— Цётка Уляна казала, устаў раніцаю, на двор хадзіў, вуллі паглядзеў, сад абышоў. З маладое яблынькі, на якой першы год толькі тры яблыкі завязаліся, яблык сарваў. Цётка Уляна на яго сварыцца пачала — нашто ты не даў саспець і сарваў, як малы. А ён усміхнуўся, кажа, баюся, што папробаваць не ўспею. З'еў кавалачак яблыка,

пайшоў прылёг на ложку. Яна пакуль япруку дала, прыйшла, а ён ляжыць: рукі складзены, вочы заплюшчаны і не дыхае ўжэ. Я заходзіў у хату, сам бачыў... Што рабіць, дзядзька Сцяпан?

— Ідзі, Васька, ідзі, я сам.

Як у тумане, Сцяпан вярнуўся на двор, паставіў веласіпед, зайшоў у хату, сказаў Ганне:

— Ты ідзі жанок вазьмі... Даніла памёр, абмыць яго, прыбраць трэба. А я пайду мужчынам загадаю.

— А божа!.. Памёр... Але маладзец, і работы папарабіў, і пажыў...

Са старшынёй Сцяпан сустрэўся назаўтра. Мужчыны сабраліся ля Жоглавай хаты, каб ісці выносіць труну з нябожчыкам, калі старшынёўскі «козлік» на поўным хаду закруціўся ля іх і затармазіў.

Старшыня выскачыў з машыны лёгка, павітаўся з усімі за руку і тут жа папытаў у Сцяпана:

— А ты чаму, Дзямідчык, учора ў кантору не прыехаў? Я цябе не ў госці прасіў.

Дзямідчыка кальнула гэтае «ты».

— Не вялікі пан, сам прыехаў бы. Толькі, дарагі старшыня, ты са мною свіней не пасвіў і каровам хвасты не круціў, каб тыкацца. Ты яшчэ пялёнкі гнюсіў, як я тут пасля вайны калгас аднаўляў!..

— Я табе не наградны ліст сюды прыехаў выпісваць! Ты мне яшчэ адкажаш за гэтую міліцыю, за механізатараў! Гаспадар мне знайшоўся! Снапы яму не звезлі!.. Г.. твае снапы супраць таго, што на полі стаіць! А ўчора паўдня пасля абеду ў мяне камбайны стаялі з-за цябе, з-за таго, што механізатараў ты пасадзіў. Увесь калгас апазорыў! Ён аднаўляў, ён ветэран! Пара ўжо знаць, што кончыўся твой час, што твае Альховыя Крыніцы бур'янам зарастуць! Неперспектыўныя яны, няма чаго на іх глядзець. А ты ўсё шчэмішся!..

— Табе, старшыня, ужэ жыта г... стала? Ты ўжэ нас і зямлю нашу зажыва пахаваў? Яна столькі такіх, як ты, пахавала! Ты вучыш, каб на сноп сёння плюнулі, заўтра на ўвесь палетак плюнуць! Хочаш на старых, на вёску плюнуць — заўтра яна на цябе самога і на ўсіх такіх, як ты, плюне! Аднавухі ты і аднавокі! Колькі мы тут пераражылі такіх, як ты!.. За тое, што ты тут нарабіў, цябе судзіць трэба! Лес табе ў Сібіры цягаць, а не ў начальстве хадзіць.

Сцяпан адчуў, як густым гарачым туманам апякае яму галаў. Але ён ужо не мог спыніцца.

— Ты, Дзямідчык!..

Старшыня ступіў да Сцяпана.

— Не смець мне тыкаць! Вон адсюль, каб нага твая больш не смярдзела на гэтай вуліцы, пакуль я тут!

Сцяпан ужо не помніў, што ступіў насустрач, выставіў перад сабою рукі, усё роўна як збіраўся схапіць старшыню за горла. Той міжволі адступіў назад.

— Дзямідчык, назад! Назад!

Сцяпан не ўбачыў, як бег, цяжка дыхаючы, Жогла. Ён пазнаў той яго камандзірскі голас яшчэ з вайны, калі падхапіўся ў маладой гарачцы пад кулі. Тады гэтак крыкнуў Жогла і ўспеў падхваціцца і ўдарам рукаяткі пісталета паваліць Сцяпана на зямлю.

— Ну ты мне!..

Старшыня асмялеў пры ўчастковым, хоць і пужалі яго дзікія вочы Сцяпана.

Жогла паклаў руку на плячо Сцяпана, другою махнуў на старшыню:

— Давайце, едзьце...

І той неяк радасна і злосна ляпнуў дзверцамі, машына аж грабянула з-пад задніх колаў граззю.

— Ну, феадал мне, на парцізаншчыну пацягнула! Захацеў з-за дурня сесці на старасць?

У Сцяпана стукалі зубы, як ад холаду.

— Як вам не брыдка, чалавека хаваць трэба, а вы над магілаю сварку ўсчалі!

Сварлівы голас Бакасянкі напомніў мужчынам пра тое, чаго сабраліся. У вёску ўязджаў грузавік з музыкантамі.

— І той дурань лепш бы вянок ад калгаса прывёз, дык ён сварыцца прыехаў...

Сцяпан цяжка аддыхваўся, усё роўна як доўга не мог вынырнуць з-пад вады і нарэшце вынырнуў.

У Альховых Крыніцах стала ў той дзень больш на адзін жоўты гурбанок за вёскаю пад бярозамі. І яшчэ на адным двары на наступнае лета бітая нагамі сцежка пачала зарастаць травою...

## IX

Вясна пачалася рана, выдалася зацяжная, халодная, але цяпло пад канец мая ды некалькі спорных, уліўных дажджоў зрабілі сваё — дружна ўзялася рунь, выкінула колас жыта, свежа, зялёна і густа паднялася трава, і касіць трэба было пачынаць, не чакаючы пятровіцы.

Сцяпан адамкнуў вялікае брыгаднае гумно, якое некалі зрабілі на снапы, раскідаўшы старыя гумны, што асталіся яшчэ ад прыватніцтва на пляцах у людзей, хоць і лічыліся за калгасам.

Цяпер у гумне складаюць сена, канюшыну. Сцяпан не заходзіў у гумно — пастаяў у варотах,— вось і ўся яго гатоўка да касьбы: адчыніць гумно, каб скідаць сена, скласці цюкі, калі будзе сцюкаванае. Косамі касіць не трэба, грэбці самім не трэба — чакай, пакуль прывязуць.

Сцяпан замкнуў гумно, пастаяў. Ад гумна выйшаў да былога брыгаднага клуба — прасторнае хаты, якую яшчэ пры ім паставілі на загуменні пад старымі, панскімі бярозамі ў садку. Цяпер клуб гэты запуставаў, былі павыбіватыя шыбы. Восенню яго займаюць студэнты альбо рабочыя, калі прыязджаюць на бульбу,— тут у іх кухня і сталоўка. Гэта яны пад вялікім кустом бэзу выкапалі яму і зрабілі сметніцу.

На дзвярах клуба вісела вымаляваная чырвонаю фарбаю аб'ява:

«Сегодня состоится сход колхозников
БРИГАДЫ № 3.

Повестка дня:

1. Задачи тружеников колхоза «Интернационал» в деле нарыхтовки кормов.
2. Проводы на заслуженный отдых ветерана т. Демидчика С.
Начало собрания в 20 ч.».

Сцяпан пастаяў, пачытаў аб'яву, гмыкнуў, дастаў з кішэні хімічны аловак — у яго, хоць цяпер і не пісаў нарада, у кішэні заўсёды пры сабе быў агрызак хімічнага алоўка, азірнуўся, падышоў да аб'явы, паппляваў на яе, замазаў слова «колхозников», а зверху размашыста, хімічна напісаў «пенсіянераў», яшчэ раз азірнуўся і тады з нейкаю палёгкаю пайшоў прагонам у вуліцу.

Дома ўжо ішла работа — гарэла ў верандзе на ўсе гарэлкі газавая пліта. На стале стаяў намыты посуд.

— Дзе ты ходзіш? Работы табе няма? Хоць памыйся, пераадзенься. Дажджэшся ад цябе помачы!

Ганна з туга завязанай на галаве хусткаю, у фартуху нешта мяшала ў вялікай пяцілітровай каструлі на пліце.

— Гарэлка ў цябе паналівата, прыгатоўлена?

— Прыгатоўлена.

— Добра, што Ліда Жоглава прыйшла. А ён звалокся, ходзіць недзе. Знімі з сябе хоць гэтую гімнасцёрку ды бацішчы. Схадзі на возера, абмыйся троха да адзеньса ў касцюм, а то пойдзеш...

Яна не дагаварыла, хвацілася рукою за накрыўку каструлі.

Сцяпан нечага зазлаваў ад гэтае яе гаварлівасці, ад гэтае яе ўваротлівасці, быццам яна радавалася таму, што яго выпраўляюць на пенсію, хаця бяседу гэтую замадзеў ён сам.

На кухні Жоглава жонка, рослая, худая і шырокая ў плячах баба, перацірала ў вялікай эмаліраванай місцы капусту на салату.

— Прыбірайся ўжэ, імяніннік. Хваціць па гэтых кароўніках лазіць.

Сцяпан нічога не сказаў — думалася, што людзі будуць шкадаваць, што ён ідзе. А тут і жонка радуецца.

У чыстай палавіне хаты, на ложку, была раскладзена яго адзежа: цёмны касцюм, белая рубашка, гальштук, тут жа стаялі паўбацінкі.

Сцяпан пастаяў супраць усяго гэтага — у фуражцы, у зашчытных салдацкіх штанах, хромавых ботах, прапылены, прапацелы, як конь з вялікае дарогі ад вялікага воза, паглядзеў у акно.

Пад яблынямі ў садзе стаялі збітыя з дошак сталы і лавы — на ўсю брыгаду. Гэтак некалі пасля вайны спраўляліся зажынкі і дажынкі — разам.

Сцяпан выйшаў у каморку, знайшоў старую плеценую карзіну. Адна ручка ў ёй адарвалася, і замест яе быў прывязаны дрот. У хаце ён склаў адзежу ў карзіну, выйшаў і цераз вуліцу, цераз суседскі пляц падаўся на агарод, адтуль да крыніцы і паўз алешнік пайшоў да возера.

У кустах раздзеўся да трусоў, павесіў на галіны анучы — як салдат на прывале. Пасля ўвайшоў у ваду. Яна была цёплая і чырванаватая, як чай.

Сцяпан, каб не пырскаць, асцярожна лёг і паплыў, спачатку павольнымі сажонкамі, потым на баку, а потым перавярнуўся на спіну. Здавалася, што вада сама нясе яго, пагойдвае. Успомнілася тая парослая алешнікам лагчына, якую яны ўручную карчавалі ў выхадныя дні, гэтакаю ж самаю парою, як цяпер, да сенакосу, пакуль было крыху вольнага часу. А потым на падводах вазілі пясок і каменне, насыпалі грэблю. За лета перад грэбляю сабралася возера...

А вясною паводка прарвала тую грэбельку, і ўсё пачыналі спачатку.

Чатыры гады назад спусцілі ваду, прыбралі карчы і той балотны востраў з кустамі, які плаваў пасярод возера. Але гэта ўжо бульдозерамі, экскаватарамі, а грэблю падсыпалі скрэпёры.

Высока гайдалася рэдзенькае, гарачае летняе неба, сонца і грэла ў твар.

Тут, на вадзе, успомнілася і гаворка ў кабінеце ў старшыні.

— Тут такая справа, Дзямідчык... Вы камуніст, як кажуць, увесь свой век з калгасам і ў калгасе. Самі бачыце, што цяпер усё памянялася, усё тэхніка, механізатары, усё ўгнаенні, усё навука. Людзей вы ведаеце, арганізаваць іх можаце. Ну, але ж і людзі — пенсіянеры, што зробіш, час ідзе, і асноўная нагрузка, я казаў ужо, цяпер на маладых, на механізатараў. І ёсць такая ўстаноўка, вам трэба яе ведаць, што цяпер у сельскай гаспадарцы, усюды павінны быць спецыялісты, людзі вучоныя.

Прымачак прыпыніўся, паглядзеў на Дзямідчыка. Ён гаварыў паволі, як смакаваў кожнае слова ці нешта расказваў вучню такое, што той абавязкова павінен засвоіць. І Дзямідчыку здалося, што гаворыць гэта ён з радасцю, якую хавае — што вось прыйшла яго пара і што цяпер Дзямідчыку нічога не астанецца рабіць.

— Вы чалавек заслужаны, здароўе ў вас... Мы ж ведаем, што інваліднасць чалавеку так не даюць...

Дзямідчык усміхнуўся — старшыня на «вы» перайшоў, далікатны стаў.

— Паслухайце, старшыня,— Дзямідчык не назваў старшыню па бацьку, але не павярнуўся язык сказаць да яго і на «ты».— Гэта як карася пячы, то на скавараду трэба многа алею ліць, а я не карась. Заяву мне пара пісаць?

— Ладна, калі так. Тут такая сітуацыя, чалавек пасля тэхнікума, яго нам размеркавалі, і мы павінны яго ўзяць на работу.

— А што яшчэ?

— Больш пакуль што нічога.

Мабыць, не змог саўладаць Сцяпан з сабою, нешта было ў яго на твары такое, што парторг, які дасюль маўчаў, таксама ўмяшаўся:

— Што зробіш, Сцяпан, гады і здароўе.

Ён быў гадоў на два старэйшы за Сцяпана, прайшоў фронт, вярнуўся дадому без рукі.

— Не трэба, Толя, чаго ўжэ ты? Я ж то ведаю, якое і ў цябе здароўе...

Парторг збянтэжыўся:

— Гэтак і я... Днём пазней, днём раней.

Ён усё стараўся не сустрэцца вачамі са Сцяпанам.

— Добра, напішу, не бойцеся. Хай будзе і гэтак, па-вашаму.

Назаўтра Сцяпан завёз заяву. Цераз чатыры дні ўжо былі гатовыя провады яго на пенсію, з фермы яму быў адпушчаны падсвінак і паўцяляці. Гарэлка ў Сцяпана была ў запасе.

Дзямідчык ведаў, што старшыня яму не даруе. Ён гатовы быў ваяваць з ім, але ён не чакаў, што гэтак усё будзе абстаўлена, што выжане старшыня яго з пашанаю і Сцяпан за гэта яшчэ частаваць яго пакліча...

Сцяпан крута павярнуўся на бок, як адмахнуўся ад успамінаў, моцна паплыў да берага. Там старанна мыліў голаў, цела, потым спаласнуўся, праплыў, выцерся, па-салдацку, насуха, адзеўся ва ўсё новае. Шапку сваю паклаў на ніз карзіны, зверху скамячыў штаны і гімнасцёрку, боты за вушкі звязаў кавалкам дроту, запхнуў у іх анучы і агародамі, як і прыйшоў, пайшоў дадому. І ўсю дарогу яму не хацелася, каб хто ўгледзеў яго.

Але нікога на пляцах не было, і толькі калі трэба было выходзіць з-за плота на вуліцу, пачуў мужчынскія галасы пры Марозавай хаце на лаўцы.

— Каб разумнейшы быў, то яшчэ рабіў бы. А то вельмі ўсюды лез. Начальства такога не любіць. Старшыні хацеў сваё права правіць...

Дзямідчык пазнаў Антосеў голас. Ён гуў, як у трубу.

— Не кажы, Антось, Сцяпан гаспадар, таму і цярпець не можа, каб абы-як рабілася,— заступіўся за Дзямідчыка Мароз.

— Што ён хазяін, што мы! Цяпер цехніка, старшыня вунь якім калгасам варочае. Людзі цяпер не тыя. Цяпер не некалі — усяго хватае. А ён будзе бегаць, пільнаваць, каб хто там бурачніку, як буракі цярэбяць, карове не прывёз.

Антось махнуў рукою.

— Ён ведае, каго пільнаваць. Ты, як павязеш бурачнік, то пад ім паўскрыні буракоў украдзеш,— абазваўся Жогла.

— Ну і што, як я той кош буракоў вазьму? Дак я ж гэтую норму бяру, дзяру яе. Я ж пенсіянер, магу не браць, і хай стаіць, зарасце зеллем.

— Ніхто яго і не выганяе. Цяпер жа ўсюды вучоных пасылаюць. Раз сюды шлюць, трэба ж работу даваць.

Мароз дакурыў цыгарэту.

— Г... гэта. Прадсядацель знарок з цехнікума заказаў. Нашто тут той вучоны? Альбо ён нажыве тут? — кончыў Антось.

Дзямідчык стаяў і не ведаў, што рабіць. Стаяць больш было брыдка, каб не ўгледзелі, што ён падслухвае. Падумаў, што ўсе тры амаль што яго равеснікі. І маленькі, худзенькі, як верабей, Мароз з востраю бародкаю і маршчыністым тварам, і сусед цераз вуліцу Антось, тоўсты, як баба, на старасць аплыўшы жырам мужчына, і Жогла ў чыстай міліцэйскай форме.

— Каб жа яго... Дзеўка нейкая. Так што, Антось, не радуйся, цераз год які Сцяпан зноў брыгадзірам будзе.

— А чаму гэта Сцяпан?

— А больш у нас няма каго і паставіць.

Сцяпан кашлянуў і выйшаў з-за плота, знарок моцна шкрабянуўшы па зямлі бацінкамі, павітаўся.

— Го, адкуль гэта ты такі? — замест адказу на прывітанне гокнуў Антось.

— З возера ж, а не з таго свету. Гляджу, вы ўжэ сабраліся, чаму і мне не сабрацца. Не век жа мне ў ботах зямлю пляжыць.

Мужчыны дагадаліся, што ён чуў гаворку.

— Не пазнецеся. Ты, Міша, і гармонік вазьмі,— папрасіў Сцяпан Мароза.

— А мы думалі, табе і аркестр прывязуць,— гыкнуў Антось, але ні Жогла, ні Мароз не засмяяліся.

Дома Сцяпан сваю брыгадзірскую адзежу занёс у прыбудоўку за хатаю, дзе ў яго быў складзены на зіму брыкет і дровы, дзе стаялі гумавыя боты і другое гаспадарчае начынне, старыя чаравікі, і там пакінуў усё.

Сцяпан сядзеў за чырвоным сталом, з краю. Побач парторг, старшыня, аграном, дырэктар школы. Перад сталом, на лаўках сядзелі людзі. Дзверы былі адчынены, і ў калідоры тоўпіліся Хведаравы хлапчукі — у аднаго толькі Хведара з Таняю было пяцёра дзяцей.

Старшыня гаварыў па пісанаму:

— Перад намі стаіць вельмі адказная задача, таварышы. Цяпер самая важная пара. Ад таго, як мы будзем рабіць, як мы зможам, будзе залежыць тое, якога і колькі ў нас будзе малака, мяса, як мы выканаем заданне па продажы малака і мяса дзяржаве. Сёлетняя пагода, добрая

вясна, дажджы і цяпло даюць нам права гаварыць, што мы павінны нарыхтаваць кармоў у дастатку, нават з запасам. І не толькі з улікам калгаснага статка, але і на тыя галовы, якія маюцца ў калгаснікаў.

Старшыня прыпыніўся, дырэктар школы першы запляскаў у далоні, і людзі таксама, хоць крыху спазніліся, але падтрымалі яго.

— Мы павінны зрабіць трывалы запас не толькі грубых, але і сакаўных кармоў...

Старшыня гаварыў пра касьбу як пра нешта далёкае, і быццам павінны сіласаваць, касіць і прыбіраць сена і траву з поля нейкія далёкія людзі, нехта, а не тыя, што тут сядзяць, не ён сам.

І словы гэтыя ўсё роўна як закалыхвалі, загойдвалі, нібы ўжо і зроблена, калі сказана.

Сцяпан глядзеў на людзей. У абед ён абышоў усе хаты і сам наказаў на сход, а пасля сходу запрасіў да сябе на пачостку.

У першым радзе, гэтак жа ўтрох, як на лаўцы, сядзелі Жогла ў парадный міліцэйскай адзежы, Антось, Мароз, паўз іх далей іхнія жонкі, потым сем'ямі Юзічак, Гаўрылавіч, затым Волька Канцавая, Марыля Ігнатава...

З маладзейшых толькі Нямковічаў Валодзя з жонкаю, Хведаркова Таня — самога яго не было відно. І ні адзін з іх не рабіў у брыгадзе. Хведарка на машыне, Валодзя ў будаўнічай брыгадзе, Кішава Галя і Таня Хведаркова на кароўніку. Вольчын Пятрок пасля арміі астаўся ў калгасе, але таксама на машыне шафёр... І дзяцей, пяцёра ў Хведаркі, па двое ў Нямковічаў і ў Кішоў...

Апошні штатны работнік у брыгадзе быў ён, Дзямідчык.

Сцяпан яшчэ раз правёў вачамі па людзях — ці не прапусціў каго, ці не забыўся — не, адзін ён дасюль быў брыгадны работнік, сам брыгадзір. І дзевяць дзяцей на ўсю вёску пакуль вучацца ў школе...

Марыля Ігнатава, пад гаворку старшыні, драмала, клявала носам, як спахоплівалася, расплюшчвала вочы, сядзела роўненька, глядзела на прэзідыум, потым зноў галава апускалася, вочы заплюшчваліся.

— ...Але не ўсё ў нас гатова, не ўсе пранікліся пачуццём адказнасці. На сённяшні дзень не адрамантаваная касілка, два прэс-падборшчыкі. Гэта ўжо не ўлазіць ні ў якія рамкі, і за гэта мы будзем караць строга, будзем патрабаваць... Таму што задачу забеспячэння жывёлы

кармамі, якая пастаўлена перад намі, мы павінны выканаць. І мы яе выканаем!

Старшыня рашуча махнуў рукою.

Запляскалі ў ладкі дружна, Марыля Ігнатава, якая на гэты час была зноў прыдрамала, спалохана лыпнула адным вокам — другое не расплюшчылася адразу са сну.

Падняўся парторг.

— Таварышы, мы тут праслухалі выступленне Антона Аляксандравіча пра тыя задачы, якія стаяць перад калгаснікамі нашага калгаса на самы бліжэйшы час. Задачы гэтыя вельмі адказныя. Пра гэта добра сказаў Антон Аляксандравіч, таксама ён дакладна абазначыў, што і як нам трэба зрабіць.

На павестцы дня нашага брыгаднага сходу яшчэ адно пытанне. Можна сказаць, святочнае. Сёння мы праводзім на пенсію аднаго з нашых старэйшых калгаснікаў Дзямідчыка Сцяпана Сцяпанавіча. Вы яго добра ведаеце. З самае вайны ён быў старшыня, а потым, пасля ўзбуйнення, нязменны брыгадзір у Альховых Крыніцах. Партызан, інвалід, ён бяззменна і без адпачынку аддаў усё сваё жыццё гэтаму полю, гэтай зямлі. І тое, што мы тут, на вашым полі, збіраем амаль па трыццаць цэнтнераў з гектара — вы помніце, па шэсць, сем было,— яго вялікая заслуга. Мы ўсе ведаем, як ён душой перажываў за калгас, як ён не даваў спакою ні нам, ні сабе...

Парторг паглядзеў на Дзямідчыка.

— І не ведаў спакою толькі таму, што на першым плане ў яго, камуніста, быў клопат пра нашу агульную справу. І гэта разумелі і вы, і добра разумеем і цэнім мы. Таму мне, які ведае Сцяпана з малых год, неяк і сумна гаварыць гэтыя словы, пачынаць гэтую гаворку. Але ўсе мы не вечныя, гады бясследна не прападаюць, яны пакідаюць чалавеку старасць. Таму мы зразумелі просьбу Сцяпана Сцяпанавіча — пайсці на заслужаны адпачынак, хаця нам бы хацелася, каб ён яшчэ папрацаваў.

Парторг прыпыніўся, потым сказаў:

— Ад вяскоўцаў хоча сказаць слова таварыш Жогла Фёдар Антонавіч.

Жогла ўстаў, кашлянуў, абцягнуў на жываце рубашку, разгарнуў лісток.

— Таварышы калгаснікі, сёння мы сабраліся, каб з гонарам правесці на пенсію нашага дарагога земляка, нашага Сцяпана Сцяпанавіча Дзямідчыка, якога мы ўсе

добра ведаем, любім і паважаем, Сцяпан Сцяпанавіч быў патрабавальны і шчыры, ён усю сілу аддаваў на работу. Ён не любіў, каб работа рабілася абы-як, каб чалавек абманваў, краў, рабіў патраву на калгасным. Вы ўсе гэта добра ведаеце. Сцяпан быў у партызанах, цяжка паранены. Ён заслужаны чалавек, таму і адпачынак яго сапраўды заслужаны. Тым больш што цяпер усюды навука, цяпер маладым і вучоным трэба даваць месца. І Сцяпан як чэсны чалавек і камуніст не стаў замінаць на дарозе, калі яму сказалі, напісаў заяву...

У зале засмяяліся, засмяяўся і сам Дзямідчык.

Жогла адарваўся ад пісанага, паглядзеў на старшыню, які пачырванеў, седзячы за сталом. Старшыня таксама ўсміхнуўся, але шаргануў па ўчастковым вострым позіркам, і ад гэтага позірку Жогла зусім разгубіўся, глядзеў у паперку і не мог знайсці і пачаць далей.

— Таму, як той казаў... Сцяпан заслужыў адпачынак, таму мне... таму я ад імя суседзяў, усіх нас горача віншую Сцяпана ў гэты яго радасны дзень!

Далей словы не звязваліся, Жогла зноў запынуўся:

— ...А таксама шчыра віншую Сцяпана і ад імя нашага раённага аддзела ўнутраных спраў!

Яму заапладзіравалі весела. Жогла яшчэ раз азірнуўся на прэзідыум, сеў на сваё месца.

— Дарагія таварышы,— старшыня ўстаў,— цяпер дазвольце мне ад імя праўлення калгаса ўручыць Сцяпану Сцяпанавічу наш памятны падарунак.

Аднекуль з-за спіны, з падлогі старшыня падняў і паказаў зале транзістарны прыёмнік.

Ён выйшаў насустрач Сцяпану перад сталом, падаў прыёмнік, пацiснуў руку і памкнуўся абняць Сцяпана, але той не скрануўся з месца, стаяў, як корч, толькі кіўнуў галавою.

З калідора, адзетыя ў школьную форму, выбеглі Хведаркавы дзяўчаткі ў піянерскіх гальштуках і падалі Сцяпану кветкі.

У клубе весела пляскалі ў далоні.

Сцяпан завярнуўся, памеркаваў, каб зноў сесці на сваё месца, але па тым, як яму кіўнуў галавою парторг, зразумеў, што трэба нешта сказаць.

— Ну вот... Дарагія таварышы, я дзякую вам, што сабраліся вы, дзякую праўленню, нашай партыйнай арганізацыі, усім вам дзякую!

Сцяпан запнуўся, нечаму стала страшнавата гаварыць пра тое, што толькі думаў — што апошні палявік з Альховых Крыніц ідзе на пенсію.

Ён так нічога больш і не прыдумаў, што сказаць, кіўнуў галавою, як пакланіўся, яму запляскалі, і толькі як перасталі пляскаць, успомніў, яшчэ раз запрасіў:

— Пасля сходу прашу ўсіх да мяне.

Пад яблынямі за сталамі селі гэтак жа сама, прэзідыум: у цэнтры старшыня, дырэктар школы, парторг, Сцяпан.

Першы тост зноў гаварыў старшыня.

Гаварылі потым і ўсё пра адно — які добры быў Сцяпан.

Свяціла з яблыні лямпачка, цёпла, свежа было, і Сцяпану нават здалося спачатку, што малады ён, што гэта ў тую пасляваенную пору вярнуліся. Ён выпіваў за кожны тост па поўнай. Ад выпітага рабілася і сапраўды весела, радасна. Ён дабаўляў на стол бутэлек і сам не заўважыў, як пачаў выпіваць з гасцямі, абыходзячы сталы па крузе. Так усё ішло, ніхто ўжо не слухаў і не хацеў тостаў, выпівалі самі паміж сабою.

— Хваціць ужэ, да нас ідзі. Век усё паўз начальства цёрся. А цяпер пара і да нас, хваціць. Адцерлі цябе, і сядзі з намі. Цяпер разам «чарніла» пад магазінам піць будзем...

Антось ухмыляўся непаслухмянымі губамі. Цяжкаю, як клюшня, рукою ён узяў бутэльку, наліў Сцяпану чарку, потым і Марозу, і Жоглу. Яны і тут сядзелі разам.

Антось нават пасунуўся, каб было месца сесці Сцяпану.

— Ніхто мяне нікуды не адцёр і не адатрэ!

— Го, думаеш, усе дурныя, не бачаць, што цябе сілком выперлі?

— Хто? Думаеш, каб я захацеў, то гэты аднавухі мне ў с... б пацалаваў! — вострая крыўда, якая жыла ў душы, цяпер, пад хмель, ажыла, пеканула ў душы.

Сцяпан азірнуўся — шукаў позіркам таго, пра каго гаварыў. Старшыня, чырвоны ад выпіўкі і ад закускі, усё яшчэ сядзеў за сталом і частаваўся як у сябе дома ці на імянінах у свайго лепшага сябра. Сцяпану здалося, што бачыць ён старшыню аднекуль здалёку, а не за метраў тры ад сябе.

— Гэтага аднавухага праз год ці два... мятлою выметуць з калгаса. Морду, як азадак, наеў, а па калгасе — хоць трава не расці. Па ім такія нахабы, як ты, гэты калгас па гаечкам разнясуць! — Сцяпан ужо забыўся пра старшыню, завярнуўся да Антося.

— Ну, ты не надта распінайся, а то думаеш, што калі я ў цябе ў гасцях, то і па мордзе табе не заеду!

Антось паспрабаваў устаць, але гэта ўжо было цяжкавата.

— Хваціць, хваціць, мужчыны! Не гаварэце альбычаго, бярэце чаркі і выпівайце!

Жогла падапхнуў чарку Антосю, падштурхнуў руку Сцяпана, і яны чокнуліся, выпілі.

— Каб табе зарвала, дурань ты п'яны!

Сцяпан не заўважыў, адкуль аказалася Ганна. Шмарганула яго за руку за сабою:

— Выдзь, камель п'яны, перапрасі! Скарэй!

— Каго перапрошваць? Антося перапрошваць не буду!

— Унь старшыня ў машыну пайшоў! Каб табе твой язык адсох!

— Пайшоў і маць яго!..— гукнуў Сцяпан, каб яшчэ і старшыня пачуў.

На вуліцы ляпнулі дзверцы машыны.

— Ідзі, укладзіся! Налізаўся на старасць год. Людзей сабраў, а сам налізаўся!

— Людзі хай п'юць... Ідзі і глядзі, каб і выпіўка была, каб і закусіць было! Ідзі!

Сцяпан ужо не помніў, колькі піў і частаваў. Цяпер ён любіў усіх. Але нешта цяжка і горача варочалася пад грудзямі — ён даўно не піў па гэтулькі. Хацелася, каб удыхнуць халоднага ветру, каб трохі астудзілася ў грудзях.

Сцяпан сарваў з шыі гальштук, павесіў яго на плот, выйшаў на вуліцу і пакіраваў да лужка, на поплаў, дзе павінен стаяць туманок, дзе павінна было лягчэй дыхацца. Шэра пад туманком ляжала сажалка, але ад яе пахла застоенаю, угрэтаю вадою.

На беразе сажалкі варушыўся вялікі чорны цень.

— Ты, Ворлік? — пазнаў Сцяпан.— Зноў не загналі цябе на ноч, зноў пойдзеш купусту на градах таптаць,— спагадліва загаварыў ён да каня.— Не хочацца і табе летам ноч у канюшні стаяць, дарма што кормяць... І канюшні там няма, няма ў цябе канюшні, у кароўніку ты жывеш, во дажыўся, так, як і я...

Конь пазнаў Сцяпана, даверліва падстаўляў храпу пад яго далонь.

— Адрабілі мы з табою... Ты адзін, а цяпер і мяне няма. Пайшлі мы дадому, косю.

Сцяпан, хістаючыся, павёў каня за грыву да кароўніка, і той пакорліва шкандыбаў капытамі.

У вёсцы ўсхліпнуў Марозаў гармонік, а ўслед за ім нястройна, але дружна падхвацілася ў застоллі:

Ой, сівы конь бяжыць...

Сцяпан прыпыніўся, прыслухаўся да песні. Пастаяў, паслухаў і Ворлік, потым уздыхнуў, і яны абодва пайшлі да кароўніка.

— Думаеш, толькі гэтыя аднавухія намі і камандаваць будуць? Думаеш, не памяняецца ўсё? Папрыязджаюць сюды назад з гарадоў, дзе там усім падзецца. Тут жа ў нас такое месца! Возера, лес!

Сцяпан ужо бачыў, якая вялікая брыгада будзе зноў у Альховых Крыніцах, як яны цяпер, з трактарамі, з машынамі, зямлю абробяць!

У кароўніку Сцяпан вобмацкам паставіў каня ў бравайрыну, падкінуў яму з суседняе, дзе таксама некалі стаяў Каштан, сена, прысеў і сам на сене.

Пасля таго як сеў, не хацелася ўжо нікуды ісці, добра знаёма пахла сенам, хлявом, і Сцяпан у сваім парадным касцюме, пры медалях заснуў у браварыне, на пару з апошнім канём у Альховых Крыніцах.

А ў яго ў садзе за яго провады пілі і гулялі, аж пакуль не стала відно і не трэба было даяркам ісці на кароўнік. Ганне нехта сказаў, што Сцяпан спіць дома, у сваім хляве, на сене.

*З вайны Сцяпану сніўся адзін страшны сон, сніўся пастаянна. Ён нават пачынаў верыць, што гэта не проста саснілася, а што і праўда было з ім, толькі ён забыўся, а вось у сне ўспаміналася, раптам прарывалася скрозь гады нейкая вешчая памяць.*

*Ціхая, аж густая ад цеплыні і цішыні, летняя ноч. Месяц свеціць. Бела, як туманком усё спавіта. Картафлянік мяккі і халаднаваты.*

*Чутно, як лопаюць, ірвуць яго боты тых двух, што ідуць з бакоў і ззаду. Праз кашулю ён чуе ў плечы холад ад вінтовак. Тых двух, што вядуць, ён добра ведае... Добра*

*ведае, бо рос і гадаваўся разам з імі. (У сне ён ні разу не ўбачыў іх твараў, не ўспомніў іх прозвішчаў, усё роўна як нейкія прывіды яны. Ён толькі ведаў, што яны свае, тыя, з кім ён разам рос. І таму ніяк не мог змірыцца, што яны былі чужыя, як холад ад ствалоў, якія яны трымалі абапал.)*

*Самае страшнае, што свае, што больш і пазваць не асталося каго.*

*Босымі нагамі ён чуў груды, іхняе цяпло — цяпло летняе не перасохлае яшчэ зямлі. Ён ведаў, куды вядуць яго. Можа, таму гэтак востра чуў, як пахне картафлянік, як лашчыцца да яго ных ног.*

*Ён бачыў, куды яны вядуць яго. Да сцяны хлява. Пад месяцам шаравата святлелася круглабокае нятоўстае бярвенне. Нізкавата навісала саламяная страха. Каб стаць яму да яе, трэба нагнуцца, а потым выпрастацца і ўткнуцца тварам ў пыльнае павуцінне, аж задыхнуцца ад саламянага пылу. Ён бачыў амаль кожную трэшчынку на бярвенні, да якога зблізку прышыюць яго моцныя вінтовачныя кулі. Але яны ўсё ішлі, паволі, роўна, як лунацікі, ішлі і ішлі, ішлі і ішлі... Ад таго холаду, які веяў ад вінтовачных ствалоў, у яго пачынала ледзянець спіна і ўставаць дыба валасы. Потым яго раптам працінала ўсяго, ён азіраўся ўбок, угору і бачыў нема раскрытыя ад жаху вочы маці, нейкі пакрыўджаны, мілы твар брацiка, які, здавалася, зацёкся ад крыку...*

*І тады з грудзей у самога яго вырываўся такі крык, што аж ірвалася і аблівалася крывёю сэрца...*

*Ён прачынаўся ад вострага болю ў сэрцы, ад таго лютага холаду, які працяў яго там. На першым часе ён яшчэ азіраўся, усё роўна як хацеў угледзець тых, хто яго гэтак мёртва вёў.*

*Яго ніхто так не вадзіў ні разу за ўсю вайну. Ён не мог успомніць, адкуль тая сцяна хлява, якую ён гэтак ведае да кожнае трэшчынкі і кожнага сучка.*

*Адно толькі ён помніў — гэта роспачныя і пакутлівыя вочы маці. Гэтакія яны былі, калі ён развітаўся. Тады ён не ведаў, што бачыць і бацьку, і маці, і брацiка ў апошні раз.*

*Сон не забываўся і не мяняўся і цераз дзесяць, і цераз дваццаць, і цераз трыццаць гадоў. І ён усё не мог пазнаць тых, што вялі яго. І кожны раз толькі яшчэ мацней узрывалася ад болю сэрца, і ён пачаў здагадвацца, што*

*некалі і памрэ ад гэтага, што не вытрымае, парвецца сэрца...*

*Нават калі прачынаўся пасля сну, спакойна думаў, што гэтыя сны, як апошняя блакада, усё бліжэй і бліжэй...*

На сене, побач з Ворлікам, і знайшлі даяркі былога брыгадзіра Сцяпана Дзямідчыка раніцай.

— Каб табе навек засляпіла на гэту гарэлку! Гэта ж трэба дапіцца — пераначаваць з канём у браварыне! Прыйдуць людзі пахмяліцца — як ты ім у вочы глядзець будзеш? — брыла дома Ганька Сцяпана.

Але новая прыгода зацьміла і Сцяпанаў подзвіг — Антось, усчухаўшыся раніцаю дома, на пахмелку выпіў шклянку разведзенага воцату.

Ратаваў яго калгасны ветфельчар, які прыехаў на кароўнік рабіць прывіўкі каровам. Зялёны пасля прамывак і выпалосквання, Антось з чырвоным, падпітым фельчарам прыйшлі на патрусіны, калі людзі пачыналі разыходзіцца...

Дзень быў гарачы, душны, варыла і парыла на навальніцу.

## X

Сцяпану здавалася на першым часе, што ён бег, бег, і ад гэтага бегу аж у вушах шумела, потым раптоўна спыніўся і аглух ад цішыні і спакою. Ён не мог прывыкнуць, што не трэба зранку ўставаць і спяшаць. Прахопліваўся са сну, падняты старым прывычным клопатам, і ўспамінаў, што нічога не трэба, што можна паляжаць яшчэ на ложку. Але не ляжалася. Трэба было ўставаць і нешта рабіць.

Работы ён знайшоў. Сцяпан агледзеўся, як запушчана яго дамоўка, усё роўна як няма ў хаце мужчыны — падгніў, пахіліўся плот, параплёўся галлём, зарос сад, які даўно не прарэджваўся, аблупілася фарба на шалёўцы хаты.

Сцяпан узяўся за работу. Пачынаць прыйшлося з таго, што трэба было ператочыць сякеры, пілу, жалязкі ў гэбліках.

Цэлыя дні ён таптаўся пры рабоце, і рукі яго прапахлі свежымі сухімі галюжкамі. Работа давала супакаенне, упэўненасць у сабе. Яе хапала з ранку і да цямна.

Антось, які кожнага дня па некалькі гадзін выседжваў на лаўцы пад плотам, першыя дні зваў яго:

— Ідзі, Сцёпка, пасядзімо. Куды нам ужэ спяшацца.

Антось прыжмурыста ўсміхаўся, як кот пасля добрае спажывы.

Сцяпан сядзець не ішоў — недзе ў душы ён яшчэ не змірыўся, што так усё і будзе, недзе спадзяваўся, што адумаюцца, паправяць старшыню ў раёне, вернуць яго на работу. Але ішло лета, жалі камбайны, вазілі машыны збожжа, пралятаў паўз вёску на машыне старшыня, аграном. Пра Сцяпана не ўспаміналі. Людскія гусі цяпер спакойна хадзілі латашыць яшчэ зялёны авёс на поле, і Сцяпану хацелася пайсці і выгнаць іх, але ён баяўся, што пачнуць смяяцца з яго.

Брыгадзірам і сапраўды далі дзяўчыну пасля тэхнікума, Галю. Пасялілася яна жыць на цэнтральнай сядзібе, у калгасным доміку. На работу прыязджала на матацыкле. Невысокага росту, таўсматая, крыху ў рабацінні, яна насіла штаны і мужчынскую рубашку. Сцяпана яна не чапала, не наказвала на работу, і ён не ўтрываў сам, падышоў, выбраў час, калі яна была адна на вуліцы, паздароўкаўся:

— Дзеньдобры, Галя.

— Здраствуйце, Сцяпан Сцяпанавіч.

Дзямідчыку здалося, што яна сумелася.

— Прывыкаеш патроху?

— Прывыкаю, хаця прывыкаць няма чаго. Я з такое ж вёскі.

— Яно і відно. А чаму ты мяне абмінаеш? Можа, і я б на некую работу выйшаў?

— Ну, дык вы ж толькі яшчэ... Не аддыхнулі. Дома ж у вас работа.

Яна зусім сумелася.

— Гэта табе дарма на мяне Прымачак нагаварыў. Як трэба што, то я і памагу, і падкажу табе. Я ж тут усё жыццё...

— Я ведаю. А што тут падказваць? Тут падказвай ці не падказвай, ужэ нічога назад не вернеш. Я адраблю свае два гады, а не, замуж выйду...

Яна не дагаварыла. Сцяпан зразумеў, што сказала яна яму праўду — прыехала, каб адрабіць, выйдзе замуж і пакіне гэты калгас альбо і саўсім пераедзе ў горад. А па тым, як яна баялася з ім гаварыць, Сцяпан дагадаўся, што Прымачак папярэдзіў яе.

— Як трэба будзе, я накажу вам на работу.

Галя заводзіла матацыкл, але Сцяпан ужо завярнуўся і пайшоў на свой двор, азірнуўся — ці ніхто не бачыў, як ён

падыходзіў да брыгадзіршы. Ён радаваўся, што не гаварыў многа, а сказаць ён хацеў і пра тое, што пастухі пачалі позна выганяць на пашу кароў, што мужчыны абманваюць яе — за адзін воз накошанае зялёнае сумесі запісваюць два.

Сваім прызнаннем, што чакае, каб толькі адрабіць, брыгадзірша як адрэзала Сцяпана ад сябе, нават больш чым тым, што выконвала наказ Прымачака стараніцца яго і не цягнуць на работу ў брыгаду.

Сцяпан зацяўся. Яму здавалася, што ў вёсцы зласліва пасмейваюцца з яго — даслужыўся.

Ён ніколі нікому не прыслужваў. Ён рабіў. Баранаваў, касіў, араў з малых год, так, як вучыў яго бацька — пагаспадарску. Рабіў разам з людзьмі, слухаючы і паважаючы іх. Усяго было з ім, давалі вымовы і за кукурузу, і за незааранаю канюшыну, але ён ведаў, што мяняецца час, ды не праходзіць на зямлі праўда, чэснасць чалавека, не прападае бясследна тое, чаму навучыў яго бацька, што спасціг сам ён праз сваё жыццё. Каму раптам узбрыло ў галаў сказаць, што гэта не патрэбна, што гэта аджыве і пахаваць усё гэта можна з вёскаю, бо і яна памірае, і няма чаго на яе глядзець, няма чаго ёю даражыць? Дык, можа, і нічым ужо ў жыцці не трэба даражыць, тады набірайся, нажырайся, цешся толькі, як перад пустым канцом?

Як сталася, што стаў непатрэбен тут ён, Сцяпан? Чаму, калі адзін дурань камандуе на ўвесь калгас, усе маўчаць і слухаюць?

І тады як нехта пад'ялдыкваў самога яго: а ты, Дзямідчык, чаму гэтак хораша падняў лапкі? Прыкрыўся сваёю крыўдаю, палучаеш пенсію і нічога не робіш, нават пальцам не паварухнуў.

Але што цяпер мог Сцяпан — гусей з аўса і то не выжанеш, не паплаўнічы нават.

Не, так не павінна быць, Сцяпан гэта ведаў. Ён чакаў, шукаў, з чаго пачаць, каб дабіцца зноў, каб усё рабілася папраўдзе.

Дзіва, але за гэты вольны час ён яшчэ больш пахудзеў, яшчэ бялейшым стаў ад сівізны чуб.

Пасля таго як навёў парадак дома, Сцяпан пайшоў на возера — кожнага дня сядзеў там з вудамі. Падкормліваў, выбіраў прынанку і скора пачаў на зайздрасць іншым выцягваць ладных карпаў і лінёў.

Ён прывыкаў слухаць, як абзываецца з сонцам першая птушка, як уецца, блытаецца ў чубчыках лазовых кустоў ранішні туманок-прыпар над вадою, як гуляе, б'е вадзяное

люстра рыба. Пасля многіх год ён пачаў прыглядацца да гэтага хараства, якое было кожны дзень навокал і якога ён не бачыў — бо ён тут жыў, бо тут была работа, і трэба было яе рабіць, а не глядзець укруга. Разам з вольным часам да яго вярталася тая прыгажосць, якая ўвайшла ў сэрца з малых гадоў, якою і жыве чалавек на зямлі.

Гледзячы, як плаваюць вечарам па возеры андатры, Сцяпану захацелася паглядзець, як жыве той бабёр, якога ён абараніў ад сабакі і які зрабіў тут паселішча. Сцяпан выбіраў месячныя ночы, адзяваўся ў плашч і фуфайку і ішоў у засаду.

Жонка трывожна паглядала на яго — ёй здавалася, што са Сцяпанам робіцца нешта ненармальнае, але сказаць пра гэта не адважвалася, толькі наказвала:

— Ты б хоць вуды ў рукі ўзяў. А то яшчэ скажуць, што, як той Андрэйка, здурнеў і на рэчку раніцаю бегаеш.

— Сама ты Андрэйка!

Сцяпан не хацеў слухаць. Андрэйка, васьмідзесяцігадовы дзед з суседняе Вужы, наглядзеўшыся, што сын, прыязджаючы з Ленінграда ў водпуск, бегаў кожнае раніцы і расціраўся халоднаю вадою з канавы, узяў сабе за моду гэтаксама бегаць і мыцца. Таму можна было яго сустрэць і перад самымі замаразкамі на беразе канавы, сівога і голага. Андрэйка рабіў зарадку, махаў рукамі, потым мыўся халоднаю вадою і расціраўся. Гэтак гартаваўся ён два гады, а на трэці памёр — ад запалення лёгкіх.

Бабра Сцяпан цікаваў мо з месяц, пакуль прыгледзеў, як той плавае на плёсе, як сядзіць на беразе. Туманок быў, замінаў Сцяпану, але ён радаваўся, што выцікаваў, што падгледзеў, і дома жонцы расказваў, як ён і з вады выходзіў, як і плаваў, як і сядзеў на беразе.

Жонка толькі ківала галавою — Сцяпан не заўважаў гэтага.

Хто яго ведае, можа б, так і далей пайшло яго жыццё. Сцяпан збіраўся купіць калоду пчол, развесці сваіх, дасадзіць маладога саду, каб не Антось, які ўсё гэтак жа сядзеў на сваёй лаўцы:

— Вот зарабіўся, няма табе калі і прысесці. На калгаснае так не бегаў, як на сваё бегаеш, ні дня, ні ночы няма. Цяпер жа палёгку далі гадаваць дома і свіней, і ўсяго, то цяпер ты як фабрыкант станеш. Праўду кажуць, што будзеш яшчэ адзін хлеў будаваць? Жогла ўжэ пачынае. Хату ж лепшую, чым у Жоглы, ужэ выгледзеў, то і хлеў трэба рабіць. А то ўсё бегаў, як некалі той Наронскі.

— Ну, ты Наронскага не чапай. Ён не табе раўня. Сядзі, пакуль сядзіцца, пільнуйся, каб с... не прэла!

Але сказанае запала ў душу Сцяпану. Пасля гэтага яму як урэзала — не мог узяцца ні за якую работу дома. Не выходзіў з галавы Наронскі.

*Запомніўся ён Дзямідчыку надзіва рослым, худым з твару, вусатым і з люлькаю. У вёсцы люльку курыў толькі дзед Аляксей, таму дзіўна было, што малады яшчэ мужчына курыць люльку. Хадзіў Наронскі ў чорным галіфэ з некалі жоўтымі леямі, зашмальцаванымі да чорнага, у суконнай чорнай гімнасцёрцы, падпяразанай папругаю, з вечна белым, свежападшытым падкаўнерыкам. Кожны раз, калі заходзіў у хату, распранаўся: восенню і вясною ён насіў шынель, зімою парыжэлую бравэрку — Наронскі акуратна разгладжваў гімнасцёрку пад папругаю.*

*Яшчэ запомнілася Сцяпану, што рукі ў старшыні былі вялікія, як лапаты. Цяпер ён не памятае, адкуль і як з'явіўся ў іх вёсцы Наронскі, мабыць, ён быў адзін з тых, каго пасылалі арганізоўваць і мацаваць калгасы.*

*Людзям у Альховых Крыніцах Наронскі запомніўся найбольш тым, што амаль не ведаў гаспадарку, затое меў многа энергіі і адданасці рабоце, а таксама не мог цярпець ніякую крамолу.*

*Сцяпану ён запомніўся асабліва, можа, таму, што памяць у дзіцяці моцная, можа, таму, што яго ўразіла тое, што ён пазней пачуў пра былога старшыню, ужо калі сам быў у партызанах і на смех хлопцам расказаў, адкуль пайшла прымаўка пра Наронскага, якая ў іх вёсцы жыве дагэтуль: калі хто адкладвае работу назаўтра, то яму гавораць: «Ты, як той Наронскі — адкладзі, Маруська, назаўтра, мяне сёння на бюро выклікаюць!» Мабыць, і не выдумка гэта, так яно і было. Вясною, у самую распуціцу, прыйшла пара радзіць жонцы старшыні. Вось тады і разгубіўся баявы старшыня, папрасіў яе: «Адкладзі, Маруська, назаўтра, сёння мяне на бюро выклікаюць!» Асядлаў свайго сівага коніка і паехаў на бюро. Жонку завозіў у бальніцу Марозаў бацька — у іх стаяў на кватэры старшыня. І нарадзіла тады старшынёва жонка яшчэ аднаго сына, як казаў сам Наронскі, каб было каму душыць гідру міравога капіталізму.*

*Бацька Сцяпанаў пры Наронскім быў брыгадзірам у калгасе, і таму старшыня часта прыходзіў пасядзець да*

іх вечарам, асабліва восенню, калі вечары былі доўгія. Бацька са старшынёй вечарам пісалі нарады. Яшчэ любіў Наронскі заходзіць да брыгадзіра, бо ў таго, аж ад самых дажынак, заставалася закупленая гарэлка. Грэшны быў кадравы рабочы, гутнік, былы чырвонаармеец — любіў выпіць чарку.

Сцяпан з печы бачыў і чуў, як вячэралі бацька са старшынёй, і тады Наронскі здаваўся не такі грозны і страшны.

— Ты, Сцяпан, чэсны чалавек. Ты як рабочы, ты сельскі рабочы, наша костка. Я табе давяраю цалкам. Але тут палавіна...

Старшыня не дагаворваў, махаў сабе перад носам пальцам, потым паўтараў шматзначна:

— Дробнабуржуазнае балота!

Бацька падліваў яму гарэлкі.

— Ты знаеш, Аляксеевіч, я ў сельскай гаспадарцы не бяльмэ. Ты прыйшоў бы да мяне на гуту, я б табе паказаў, што Наронскі ўмее і як умее.

Старшыня пакручваў перад сабою рукамі, быццам іграў на дудцы, і вочы яго загараліся.

— Я, Аляксеевіч, пятнаццаць гадоў на гуце аддуў... Шкода толькі, лёгкія выдуў. Туберкулёз у мяне. Але ты не думай, што калі я ў гаспадарцы ні бяльмэ, то я парційную лінію не знаю. Я калгас наш прама на маяк выведу, не дам з дарогі скрывіць ні на грам! Ты так сваім мужычкам і перадай, што Наронскага не правядзеш!

Старшыня пыхкаў люлькаю, вочы яго гарэлі, але ён быў не страшны, нечаму і праўда хацелася верыць, што калгас ён павядзе і нікуды не саступіць з нейкае тае лініі, якая была вядома толькі яму.

— Ну, давай, Аляксеевіч, паказвай нарад!

У нарад ён звычайна не ўдаваўся, а думаў пра нешта сваё, пыхкаў люлькаю і нязлосна ўсміхаўся.

Але Сцяпан, памятае, баяўся старшыні, калі сустракаў дзе на вуліцы, гэтак жа, як пабойваліся яго і ўсе мужчыны ў вёсцы.

Сама ішло лета, сама жніво ў разгары. Ля лесу, на бліжнім полі стаяла зжатая пшаніца. Была якраз нядзеля, і Сцяпанаў бацька адпрасіўся ў старшыні з'ездзіць на базар. Дарэмна малы Сцёпка прасіўся з бацькам — той не ўзяў яго, а сам паехаў на базар на старшынёўскім вазку. Праехаць на ім і хацелася малому.

Пасля абеду над лесам усталі першыя воблакі — грудастыя, як падушкі. Яны пакрысе пачыналі цямнець —

*у Альховых Крыніцах ведалі, што калі з таго боку пачынаюць уставаць такія воблакі, то рэдка калі бывае без дажджу і без навальніцы. Пра гэта і сказаў стары Мароз, калі старшыня прыехаў на полудзень.*

*— Як гэта граза будзе? А пшаніца яшчэ не прыбрана за грэбляю!*

*Старшыня кінуў лыжку на стол, падхваціўся на ногі.*

*— Пшаніца сырая яшчэ, старшынька, палуднуйце. Сцяпан сам ведае.*

*— Сцяпана няма, Сцяпан на базар паехаў! А ты, стары, мяне не падманвай, у цябе, дзед, стары дух яшчэ чуцён!*

*Старшыня пагразіў пальцам, выскачыў на вуліцу да свайго засядланага канька. Праз паўгадзіны ён тарабаніў з поля жанок і мужчын — каб запрагалі коней і звозілі ў гумно пшаніцу. Той, хто спрабаваў абразуміць і ўгаварыць старшыню, называўся агентам імперыялізму, падкулачнікам, па якім плача Сібіра. Так старшыня і гаварыў — Сібіра, а тады гэтае слова было не дужа ў пашане, і нікому не хацелася быць «урагом народа» і ехаць да тае Сібіры. Старшыня насіўся па полі, пазіраў на хмары, якія збіраліся над лесам,— ён усё роўна як камандаваў боем.*

*Сцёпка тады ўсё ж выйшаў да самага лесу, каб сустрэць бацьку і хоць крыху пад'ехаць з ім дадому. Ён не ўтрываў, пахваліўся, што пшаніцу звозяць з поля і да дажджу, мабыць, успеюць.*

*— Якую пшаніцу?*

*— Тую, што за грэбляю.*

*— Хто сказаў вазіць?*

*— Старшыня.*

*Бацька больш нічога не пытаўся, шмаргануў лейцамі, лізгануў каню па рэбрах і паляцеў да вёскі.*

*Мужчыны спыніліся, як угледзелі, што брыгадзір ляціць цярэспаля на вазку.*

*— Вы што, мужчыны, з глузду з'ехалі? Яна ж за ноч згарыць, вы што, не бачыце?*

*— Бачым, чаму ж не?*

*— А чаго ж возіце? Вы сваё б такое паклалі ў стоўп?*

*— Старшыня нам загадаў.*

*— Як вам не брыдка, дзядзька Тарас? Старшыня! Сказаць яму не маглі?*

*— Казалі, а ён на мяне гідра — крычыць. І ўсіх, кажа, у Сібіру, як урадзіцеляў, адпраўлю.*

*— Скідайце ўсё, што на вазах, і да гумна: выкінуць тое, што састаранілі, а то за ноч згарыць пшаніца!*

*Наронскі з-пад гумна ўбачыў, што мужчыны пачалі скідаць снапы з накладзеных вазоў, і прыляцеў на поле як у кавалерыйскай атацы — прыпаўшы да грывы каня.*

*— Не смець урадзіцельствам займацца! Граза будзе! Снапы трэба ў гумно звозіць, калі граза будзе! Ты, Сцяпан, займаешся ўрадзіцельствам! Ты пайшоў на повадзе ў падкулачнікаў!..*

*Сцяпанаў бацька маўчаў, пакуль старшыня гарцаваў вакол яго на кані, пакуль выгаварыў пра гідру міравога капіталу, паказваючы больш на дзядзьку Тараса. Калі ён крыху астыў, Сцяпан сказаў, каб старшыня ехаў з ім у гумно, там ён яму нешта пакажа. Старшыня паехаў паперадзе вазка, усё падварушваючы свайго коніка. Калі прыехалі ў гумно, брыгадзір падвёў старшыню да стараны, сунуў руку пад ніжнія снапы.*

*— Давайце і вы памацайце,— прапанаваў ён старшыні.*

*Той таксама ўсунуў руку ў снапы.*

*— Ну што, цёплыя?*

*— Цёплыя.*

*— А за ноч што будзе? Згарыць к чорту наша пшаніца, во тады паспрабуй дакажы, на якую гідру хто ваду лье,— прыпужаў старшыню бацька.*

*— А што цяпер рабіць, Аляксеевіч?*

*— Мужчыны зараз прыедуць, выкінем з гумна, пад страхою расставім...*

*— Ну добра, ты тут камандуй... А мне, знаеш, брыдка. Я падумаў, граза ідзе, хаваць ураджай нада.*

*Старшынёўскі конік вінавата патрусіў да сяла.*

*На двары было душна, здавалася, не ставала чым дыхнуць. Задушліва пахла пылам, дзёгцем, спелымі яблыкамі з садоў і збожжам. Мужчыны пачалі выносіць з гумна снапы.*

*Гэта гісторыя так і засталася ў вёсцы як анекдот, які расказвалі і даваенным, і пасляваенным старшыням. А дзядзьку Тарасу на памяць пра Наронскага асталася вулічная, староннямy чалавеку незразумелая мянушка — Гідра.*

*Вечарам таго ж дня ціхі і змучаны перажываннямі старшыня прыйшоў вячэраць да брыгадзіра і папрасіў тае, закупленае, якую ён даручыў ахоўваць і ад самога сябе.*

*Ён быў вінаваты і ціхі, больш успамінаў пра гуту і толькі пасля другое чаркі пачаў ажываць, прарэзаўся ў яго камандзірскі голас:*

*— Але ты не думай, Сцяпан! Тое, што на полі рабіць — твая каманда будзе. А за палітыку я адказваю, запомні, палітыка вырашае. Нам трэба быць начаку! Контррэвалюцыя падымае галаў! У Ляскі жонка нацдэма вярнулася. Трэба быць начаку.*

*— Якая там контррэвалюцыя, баба з дзіцем. Мужык яе пакінуў, такое і ў нас, не толькі ў горадзе, бывае.*

*— Маскіроўка! Знарок развялася, каб уцалець. Трэба чытаць газеты, пільнаваць бягучы момант, ведаць, пра што нас Сталін папярэджвае!*

*Каб супакоіць старшыню, які гарачыўся, а таму аж захліпаўся ад гаворкі і пачынаў глыбока і востра кашляць, бацька пераводзіў гаворку на гуту, і тады Наронскі пакрысе супакойваўся, доўга, забыўшыся пра тое, што ім трэба чытаць нарад, расказваў, як вараць шкло і як з яго дзьмуць посуд.*

*Тады, слухаючы старшыню, Сцёпка запомніў пра нацдэма і пра таго замаскіраванага ворага народа. Восенню, як пайшоў у школу, ён і ўгледзеў, і запаў яму ў вочы той «вораг» — белавалосая, з блакітнымі вачамі дзяўчынка, якую ўслед за маці і яны пачалі зваць на гарадскі лад — Алёнка. Тая Алёнка, з-за якое пасля ён пачаў хадзіць на вечарынкі ў Ляскі, тая Алёнка, з якою ён упершыню цалаваўся на грэблі каля Ляскоўскага млына, тая Алёнка, якую ён потым сустрэў у партызанах ужо жонкаю камандзіра суседняга атрада Яновіча, якую ён потым перагнаў перад сабою па набрынялым лёдзе на другі бераг рэчкі, можна сказаць, ўратаваў, ды, калі павярнуць другім бокам, уратаваўся дзякуючы гэтаму і сам...*

*Але гэта было пасля, калі ўжо ў вёсцы ад Наронскага астаўся толькі ўспамін пра мокрыя снапы, незразумелая мянушка дзядзьку Тарасу, якую той вельмі ж не любіў і ганяўся пад старасць з кійком за дзецьмі, што знарок пацвялялі старога. Ды яшчэ засталася вясёлая прыказка: «Адкладзі, Маруська, на заўтра, сёння мне на бюро трэба».*

*Пра Наронскага і згадаў некалі, пад вясёлы настрой, у атрадзе Сцяпан і неспадзявана там даведаўся, як кончылася жыццё Наронскага.*

*Расказаў гэтую гісторыю адзін з былых акружэнцаў. Сведкам яе ён быў сам. Старшынёўская работа так і не далася Наронскаму, падкасіла слабое здароўе. Перад самаю вайною ён быў загадчыкам смалакурні ў Смалярні.*

*З ім пераехала і яго Маруська, і трое дзяцей. Там і застала яго вайна. Невядома, ці пакінулі яго тут знарок, ці то пабаяўся ён са сваім здароўем ехаць у эвакуацыю, але астаўся Наронскі ў вёсцы, калі прыйшлі немцы.*

*Пакуль праходзіў фронт, пакуль стваралася ўлада на месцах, ніхто не дабіраўся да глухое Смалярні, толькі хіба групы акружэнцаў, якія ўпарта ўсё ішлі, даганялі, прабіваліся да фронту. Яны заходзілі падкарміцца і абагрэцца.*

*Адбылося тое ў канцы верасня, калі ўжо зацвілі, як сінія хвалі, на лясных палянах верасы, калі пасыпалася жоўтае лісце, калі крычалі і не маглі накрычацца, быццам і яны пачулі на зямлі вайну, мірныя шэрыя птушкі жураўлі.*

*Недалёка ад Смалярні група акружэнцаў забіла трох нямецкіх абознікаў, якія толькі што пажывіліся ў той жа Смалярні свінінаю — везлі з сабою трох парсюкоў. Улады рашылі паказаць, каб другім такога не хацелася, што бывае, калі чапаюць немцаў.*

*Раніцаю яны акружылі вёску, сагналі на выган усіх. Мужчын пастроілі асобна. Цераз перакладчыка немец зачытаў, што калі не прызнаецца сам той, хто памагаў чырвонаармейцам, якія хаваюцца ў лесе і якія забілі нямецкіх салдат, то кожны чацвёрты мужчына будзе расстраляны, тут жа, пры ўсіх.*

*Дзень быў лагодны, плыло павуцінне, жаўцеўся ўзлесак, і здалёку плылі, крычалі журавы.*

*Усхліпвалі жанчыны, плакалі ціхенька дзеці, гледзячы на бацькоў, якія асобна стаялі пад суламі нямецкіх аўтаматаў.*

*Немец лічыў да дзесяці:*

*— Айн, цвай, драй...*

*Ён не спяшаўся, нібыта размерана адсякаў адзін за адным жывыя карэнні.*

*Перакладчык спалохана перакладаў:*

*— Адзін, два, тры...*

*Пасля сямі, рассунуўшы рукамі мужчын, наперад выйшаў Наронскі. У ботах, у галіфэ, у расшпіленай гімнасцёрцы, ён выступіў наперад.*

*— Я камуніст. Я арганізаваў засаду на вашых салдат, я карміў акружэнцаў! Смерць вам тут усім будзе! Гэта маё слова, слова камуніста! Людзі, чуйце, смерць ім! Маруська, беражы дзяцей, каб было каму давіць гідру фашызму і міравога капіталу!*

*Усяго і ўспеў сказаць ён, пакуль баязліва перакладаў перакладчык, а афіцэр даставаў з кабуры пісталет.*

*— Смерць фашыстам, слава бацьку Сталі...*

*Канца слова людзі не пачулі. Два разы коратка трэснулі пісталетныя стрэлы. Афіцэр не прамахнуўся абодва разы.*

*Наронскі цяжка ступіў наперад. Закрычала, затуленая бабамі, яго жонка і страціла прытомнасць.*

*Тут жа, над забітым, немцы прызначылі старасту, якога прывезлі з сабою...*

Тое, што гаварыў Антось, успамін пра Наронскага выбіў Сцяпана з каляіны.

Калі на вёсцы пайшла пагалоска, што на канаве панішчылі бброў, Сцяпан з нейкаю нават палёгкаю і радасцю закінуў куркоўку за плячо і пайшоў займацца следствам.

Праз тыдзень у яго ўжо было падазрэнне, што тут не абышлося без старшынёўскай рукі: ніхто так смела не мог развярнуцца, каб не баяўся, што нічога яму не зробяць. Да таго ж старшыні спатрэбілася гэтае поле, якое ён раней не бачыў. Без яго тут не абышлося. З гэтым Дзямідчык сабраўся і паехаў у раён да старшыні паляўнічага таварыства Дзярэчы. Той паслухаў, што яму сказаў Сцяпан, нешта запісаў, сказаў, што з гэтым яны самі разбяруцца, а пакуль не злоўлены — не злодзей.

І непрыкметна перавёў гаворку на тое, што Сцяпану сама і быць старшынёй мясцовых паляўнічых і што ў іхнім лесе завяліся ваўкі, якіх трэба вывесці; ён і прывёз з сабою ўжо ў замаразкі брыгаду, абклалі лес, і Сцяпан якраз забіў аднаго з трох ваўкоў.

Зімою ён сам арганізаваў дзве аблавы. У адной пашанцавала — зноў застрэліў ваўка, у наваколлі набыў новую славу — славу паляўнічага. Зімою ён карміў і ахоўваў курапатак, якіх развялося многа ў кустах, што зноў пачалі брацца на былым высушаным балоце.

Зімою Сцяпан угледзеў на старшыні бабровую шапку і напісаў пісьмо пракурору. Адтуль адказалі, што шапка ў Прымачака куплена ў магазіне.

Летам Сцяпан хадзіў у жніво па полі, пільнаваў, каб камбайны жалі ў разгон, не глумілі пад нажамі птушак і зайцоў, і напісаў дакладную ў раён на старшыню, што той не дае такое каманды камбайнерам.

Нехта за вочы празваў Сцяпана заячым пастухом. Сцяпан дагадваўся, што гэта Антось, які зімою хацеў секчы ў крыніцы на дровы алешнік. Сцяпан не даў рабіць гэтага — бо да вясны ад алешніку асталіся б толькі кусцікі.

Цяпер, калі чужыя машыны снавалі ноччу па полі, расстрэльвалі тых зайцоў, якіх пільнаваў Сцяпан, і на машын не было ўправы, Сцяпан верыў, што тут не абыходзіцца без старшыні, што гэта нехта з яго знаёмых, такіх, як ён, за нейкую ласку тут пасецца. Таму, толькі таму хітры Жогла не хочы ўмешвацца, каб злавіць іх. Сцяпан сабраўся і паехаў да сына — перад гэтым ён да вечара сядзеў і ўсё пісаў, перачытваў і радаваўся, што дакажа сваё. Тады будзе ведаць і Жогла, і Дзярэча, і ўсе, хто думаў, што Сцяпан не знойдзе на іх управу, не паставіць на сваё месца.

Тым, як ён зробіць гэтую работу, і кончыцца нейкі важны, значны круг яго жыцця.

## XI

*На ноч перастаў церусіць дождж, крыху праяснела неба. Вецер не паменшаў, пранізваў халодную вільгаццю скрозь куфайку, якая пахла мокрым кортам. Сашка Навалач, як звалі яго ў вёсцы, курыў з кулака, пазіраў на дарогу, адкуль павінна была паказацца машына: учора вечарам на возеры два паляўнічыя вячэралі самі і частавалі Сашку гарэлкаю, якую налівалі з салдацкае, абшытае мацёраю флягі. Абодва былі ў купленых брызентавых куртках паверх куфаек, у паляўнічых ботах, у берэтах. Адзін барадаты, другі рослы, худы.*

*— Дарэмна мы сюды прыехалі. Тут і сваіх гусей няма, не тое што дзікіх! — гаварыў барадаты і закусваў напоўніцу каўбасою з хлебам і кіслым агурком.*

*— Гэта як сказаць. Калі пашукаць, то ўсюды можна нешта найсці. Бач, колькі тут ад андатры асталося.*

*— Ага, возьмеш яе тут, на агародах. Самога возьме гэты, як яго завуць, гэтага вашага старога? — папытаўся худы ў Сашкі.*

*— Пастух заячы? Сцёпка-брыгадзір. О, ён каго хочаш, яму лепш у рукі не пападайся!*

*Сашка рады быў, што перапала на дурніцу выпіць «белае» — як вёў яго нос вечарам на возера выйсці.*

*Барадаты яшчэ падліў яму.*

— Тут ужэ і зайцоў не асталося, толькі пастух гэты.

Худы ўсё хмыкаў. Яму ўсё было не пад нораў.

— О, няма. А бабры?

— Тут, у полі, бабры? — недаверліва папытаў барадаты.

— Чаму ў полі? На балоце. Зрабілі плаціну, і трэці год тут жывуць, ужэ і маладыя вывеліся.

— Далёка дзе?

— За кар'ерамі, дзе торф капалі.

— Ніколі жывога бабра не бачыў,— барадаты зноў падліў Сашку.— Каб паглядзець хаця.

— Ночы трэба. Удзень не ўгледзіш.

— Дак, можа, Паўлік, паглядзім на баброў, а? — папытаўся барадаты ў худога.

— Ты яму верыш? Чарку выпіў на дурніцу і пляце кашалі з лапцямі.

Худому ўсё было не па душы.

— Я пляту? Сам ты Хама няверуючы. Я тут ужэ чатыры гады жыву.

— Адкуль ты сюды папаў?

Барадаты пытаўся спагадліва.

— Папаў. Жызня праклятая. Мне цяпер тут сядзі і нікуды не рыпайся. Пасялілі мяне — і ўсё, а чуць што...

Сашка чыркануў пальцам па шыі — канцы будуць.

— Ясна, перавучваюць. Адзін жывеш? — худы ажывіўся.

— Жонка ёсць, дзіця.

— Слухай, а ты заўтра падыдзі, як сцямнее, у алешнік ля грэбелькі. Паглядзім мы на баброў, а то век пражывеш, а такога звярка і не ўгледзіш. Ну, як? Мы не за так цябе просім.

— Не ведаю, час ці будзе.

Сашка ўжо захмялеў, але яшчэ дагадаўся, што трэба патаргавацца.

— Бутэлька «белай» твая,— барадаты выліў астаткі гарэлкі з флягі ў шклянку.

— Дзве, што мне адна. На адну і жонка дасць, як суну кулак пад нос, і хадзіць нікуды не трэба.

Сашка рагатнуў ад таго, што ўдала схлусіў. З жонкі, калі б ён не тое што кулак паказаў, а і да смерці яе прытоўк, то ўсё роўна траячкі б не выбіў. Але біць яе Сашка баяўся, таму што Дзямідчык, яшчэ як быў брыгадзірам, сказаў: пасадзіць зноў у турму, няхай толькі паспрабуе піць ці біцца. Сашка не баяўся ўчастковага, а Сцяпана баяўся.

*Цяпер ён стаяў на холадзе і мучыўся таму, што хацелася выпіць, і яшчэ таму, што баяўся — абманулі яго ўчора. Што ім, гарадскім, абмануць, гарэлкі ў іх хапае. Але ён усё ж стаяў. Яму ўспамінаўся горад. Там было светла ноччу, там было многа людзей і можна было пайсці, калі захочаш, як ёсць грошы, у «кабак», там падчапіць кралю... Пасля трэцяе судзімасці гэта яму закрылася, і тут, у вёсцы, дзе ўсе былі навідавоку, не было разгарнення.*

*Машына стала, не даехаўшы грэблі. Свяціліся толькі падфарнікі.*

*Сашка ўзрадавана затрухаўся насустрач. Як толькі падышоў, дзверцы адчыніліся насустрач яму. Сашка ад нечаканасці шарахнуўся назад — апошні раз, калі яны ноччу перакулілі палатку і адтуль забралі віно, якое пілі два дні,— апошні раз яго бралі ў машыну. Вось гэтак жа нявінна адчыніліся дзверцы таксі, і ён не ўспеў і ачухацца, як быў у машыне.*

*Але тут яго ніхто не хваціў за рукі і не пасадзіў на сядзенне. Два чалавекі сядзелі спераду.*

*Сашка ўлез у машыну, зачыніў за сабою дзверцы, рады цяплу і цыгарэтнаму дыму, які быў у машыне.*

*Учарашнія мужчыны былі тут.*

*— Ну, дзе твае бабры?*

*Худому не цярпелася.*

*Сашка сцепануў плячамі — холадна.*

*Барадаты ўсміхнуўся і падаў яму флягу, якая стаяла паміж пярэднімі сядзеннямі.*

*Худы моўчкі вылез з машыны, адчыніў багажнік, нешта выкінуў адтуль.*

*Сашка хлябаў з флягі, пакуль не папярхнуўся. Барадаты моўчкі сунуў яму ў рукі яблык.*

*Худы адчыніў дзверцы машыны:*

*— Давай, нечага рассядацца!*

*За плячамі ў яго вісела стрэльба. У руках быў завостраны жалезны прэнт, цяжкі кол, плеценая лавушка, цэлафанавыя мяшкі.*

*Сашку падумалася, што яму будзе пасля таго, як ён разам з гэтымі гараджанамі паглядзіць на баброў. Ім не паздаровіцца, калі зловяць, а больш за ўсё не паздаровіцца яму.*

*— Не, хлопцы, я сваё... Мне гарэлка не трэба.*

*— Ты, неданошаны,— худы ткнуў яго прутом у бок,— пагаворы тут! Вядзі, паказвай, дзе плаціна!*

*Холадна плылі хмаркі, свяціў месяц, і ад хмар па зямлі ішоў лёгкі хуткі цень. Было відно. Холадна паблісквала вада між купінаў, шатрыста стаялі на кар'ерах лазовыя высокія кусты.*

*Сашка вывеў мужчын да зробленага бабром плёса. Ён аброс наўз берагі сітнягом, збаночкамі, асакою, а сярэдзіна цёмна і холадна глядзела на хмарнае месячнае неба, як страшнае вока. Чамусьці падумалася, што калі ўпруць яго сюды, то ніхто і не знойдзе.*

*— Дзе хатка? — худы пытаўся хрыпла.*

*Хатка была далей, за плацінаю, дзе на старыцы яшчэ адзін плёсік.*

*— А сцежка яго дзе?*

*— Тут,— Сашка паказаў за плаціну. Там паўз кусты ў густой і высокай траве, якая злегла цяпер на восень пад дажджамі, была бабровая сцежка.*

*— Стань тут,— загадаў худы барадатаму.— Могуць ісці ад канавы.*

*Ён больш нічога не сказаў, падаў барадатаму кол. Сашка першы, худы за ім перайшлі па бабровай запрудзе на той бераг і пайшлі да бабровае хаткі, якая кучаю ламачча цямнелася пад лазовым кустом на беразе невялікага плёсіка.*

*Худы больш нічога не пытаўся. Ён абагнаў Сашку. Той глядзеў, як худы спрытна апускае сваю плеценую лавушку ў ваду, і калі апусціў, загадаў:*

*— Пары!*

*Сашка вострым прантом папхнуў у ламачча.*

*— Да канца пары! Усё перапорвай,— худы вылаяўся.— Скарэй! Пары!*

*Слухаючы яго злосны голас, Сашка пачаў папіхаць прутом, як пікаю. Храбусцела ламачча, прэнт раптам праваліваўся ў пустое, адзін раз здалося, што ён уваткнуўся ў нешта мяккае, жывое.*

*— Давай, давай! — падганяў худы.*

*І Сашка даваў.*

*Ён не бачыў, заняты работаю, калі худы выкінуў на бераг лавушку. У ёй кідаўся, грыз дрот чорны хвастаты звер.*

*— Хваціць! — худы вырваў прэнт у Сашкі, каратка, як пікаю, стукнуў звярка па маленькай галаве, і той неяк адразу ж здрыгануўся, выпрастаўся ў клетцы і заціх.*

*Худы адчыніў лавушку, выкінуў забітага бабра ў цэлафанавы мяшок.*

*— Яны дзе дзерава рэжуць? — папытаўся ён.*

*Сашка моўчкі паказаў на бераг канавы, на якім раслі вербы, і паслухмяна пайшоў следам за худым.*

*— Калі яны тут, зараз папруць дадому па сцежцы,— коратка кінуў ён Мішку.*

*Яны прайшлі берагам і завярнулі напрасткі да плаціны.*

*Не даходзячы да плаціны, худы папытаўся:*

*— Што ў цябе?*

*— Адзін, здаровы, мабыць, стары.*

*— Ну, і то слава богу...*

*Худы перайшоў па запрудзе, скінуў на зямлю мяшок і лавушку, зняў з пояса сякеру і пачаў секчы і раздзіраць верх запруды.*

*— Нашто яна табе, пайшлі,— падагнаў яго барадаты.*

*— Хай плаціну разносіць... Думаць будуць, што свае няўмекі.*

*Хутка вада зацурчала ў прасечаным раўчуку, вымываючы гразь і галінкі.*

*Худы падышоў да плёса, старанна выпаласкаў у ім лавушку, потым жалезны прэнт, сякерку.*

*Сашка глядзеў, як вада набірала моц, расчышчала сабе дарогу.*

*Гаспадара не было, не было каму прыходзіць і рамантаваць яе.*

*Ля машыны Сашка чакаў, пакуль наезджыя пакавалі здабычу ў багажнік. Святла не ўключалі. Свістаў аб антэну «Жыгулёў» вецер, выбліскваў з-за хмар месяц. Усё быццам спяшалася.*

*Сашку таксама хацелася скарэй уцячы адсюль, пакуль ніхто яго тут не бачыў і нічога не ведае.*

*Худы адчыніў дзверцы машыны, кінуў на задняе сядзенне стрэльбу. Барадаты тым часам садзіўся ў машыну. Худы падаў з машыны дзве бутэлькі гарэлкі. Яны востра блснулі ў месячным святле.*

*— Малавата, карашкі, за такое...*

*Ён не дагаварыў. Жылістая, моцная, як жалезныя абцугі, рука худога зграбла яго за куфайку на грудзях, здалося, адарвала ад зямлі.*

*— Я табе не карашок, неданошаны! Можа, ты хочаш, каб на цябе запісалі гэтых звяркоў? Я памагу.*

*Сашку білі, калі ён, былы слесар, там, у сталіцы, зусім спіўся і ў рэстаранах з чужых сталоў выпіваў каньяк.*

*Таму ён ведаў цяпер па руцэ, якая яго трымала, што будзе мець за сваю прэтэнзію.*

*Яму здалося, што ў яго адарвалі сківаіцу.*

*Калі Сашка падняўся, машына ўжо ад'язджала. У галаве шумела. Святла ў машыне не запальвалі, толькі як не стала відно машыны, Сашка выплюнуў з рота торф з крывёю. Бутэлькі былі ў яго ў руках. Абедзве цэлыя. Адну ён выпіў па дарозе і начаваў ноч у хляве на сене.*

## XII

— Лёня, вячэраць дзе будзем? У зале? — Марыя выглянула з кухні.

— Не на кухні ж... Такія госці не кожны дзень.

Сын прынёс з балкона, паставіў на пісьмовы стол пяцілітровую эмаліраваную каструлю.

— Паглядзеце, тата, рыжычкі, а? Зараз бульбачкі — і закуска міравая.

Сын удаўся ў Сцяпана — рослы, хударлявы. Дома ён быў у джынсах, у рубашцы з закасанымі рукавамі.

Спяпан сядзеў у крэсле, глядзеў на сына. Ён радаваўся. Хацелася, каб і ўсе ў вёсцы паглядзелі і ведалі, як жыве яго Лёня. У пакоі быў засланы зялёны дыван амаль на ўсю падлогу. Ля сценкі насупраць стаялі кніжныя шафы, напакаваныя кнігамі. На Сцяпанаў розум — кніг гэтулькі не трэба было б. Але пра гэта Сцяпан маўчаў.

Тут, у зале, стаяў тэлевізар, а ля акна ў куце — пісьмовы стол з настольнаю лямпаю, закладзены кнігамі, на падаконніку ляжаў стос газет.

У другім пакоі была спальня.

Нявестка, чутно, заходзіла ў ванную.

— Давайце, тата, у ванну. Гатова ўжо. Пакуль мы тут на стол паставім...

— Ванна — гэта добра.

Сцяпан, калі прыязджаў да сына, любіў злазіць у ванну. Нявестка і не пыталася — адразу ж напускала ваду. Поўная цёплае вады, ванна аж пенілася пахучаю пенаю, і Сцяпан спяшаўся раздзецца.

Цёплая вада нібыта крыху растапіла тую злосць, рашучасць, з якою ён ехаў у горад. Ён супакоена ляжаў у вадзе і адсюль, з белае ванны, з гэтых выгод глядзеў туды, адкуль прыехаў. Тут чалавек нарабіў усяго на самога сябе, на сваю выгоду — і газ, і гарачая вада, і адхожая тут

табе. А колькі дамоў, а колькі чалавек — папробуй нагрэй гэтае вады, набярыся газу, напракладай труб...

У іх на цэнтральнай сядзібе таксама паставілі такія дамы. Пакоі на двух паверхах. І газ, і адхожую зрабілі, і ваду гарачую, як і ў сына, грэць можна газаваю калонкаю. Паагароджвалі, хлявы парабілі. Там спецыялісты жывуць і тыя, хто прыязджае жыць у калгас. Свае ніхто. Свае будуюць, а прыязджаюць — селяцца. Многія з-за гэтых дамоў і прыязджаюць. А ў Альховых Крыніцах і ў другіх вёсках стаяць моцныя, добрыя яшчэ хаты — у іх сяліцца ніхто не хоча. Хіба такога, як Сашку-алкаголіка, запруць жыць у хату. А так давай з выгодамі — механізатарам, даяркам, свінаркам.

Падумаў: а каб яму раптам узялі і сказалі — давай, Дзямідчык, збірайся ў такія выгоды. Ад гэтае думкі нечаму заныла сэрца. І так і не вырашыў — пайшоў бы ці не. Не стаў мучыць сябе тым, чаго не будзе.

Ён ці не задрамаў, бо прахапіўся ад звонкага ўнукавага голасу з калідора:

— Мам, а дзед дзе? Прыехаў?

— Прыехаў, у ванне.

— Дзед, ты тут? Ты яшчэ доўга будзеш там сядзець?

— Не, Ігар, памыюся вот...

— А ты, дзед, калі назад паедзеш?

— Заўтра, Ігарок.

— Добра! Дзед, у Алега сёння дзень нараджэння. Я скора пайду да Алежкі.

— Схадзі.

— А вечарам ты мне казку раскажаш?

— Раскажу.

Чутно было, як унук разуваўся і патупаў на кухню, потым пачуўся яго вясёлы смех — мабыць, папаў у бацькавы рукі і аж вішчаў ад радасці.

Пакуль Сцяпан шараваўся мачалкаю, потым стаяў пад дождыкам, нявестка паставіла на стол вячэру.

— Дзед, дзед, а ты мне што прывёз?

Сцяпан нагнуўся, падхваціў унука на рукі. Шчочка ўнука была яшчэ халаднаватая і тугая — з вуліцы.

— Ой, дзед, ты колешся!

Малы пагладзіў яго па шчацэ, як быццам паспрабаваў, ці і праўда так моцна колецца дзедава шчака, як здалося яму, закруціўся на руках, каб дзед паставіў яго на падлогу.

— Чаго прывёз? А ўсяго... Яблык, груш, мёду прывёз і казку табе на ноч.

— Дзед, а ў цябе пчолкі ёсць?
— Ёсць. Купіў калоду.
— Ой, дзед, [redacted] прыеду на лета к табе і буду карміць іх!
— А як ты будзеш карміць?
— А [redacted] буду наліваць у талерачкі малако і насіць ставіць на домікі.
— Пчолак, унучак, зімою кормяць, цукар вараць і кормяць, калі ім на зіму не хапае. А некалі пчолы самі сябе пракормлівалі і нас мядком кармілі.
— Дзед, [redacted] сабачка ў цябе ёсць?
— Не, няма. Шарык прапаў, [redacted] другога няма.
— А як Шарык прапаў?
— Во так, Ігарок, і прапаў. Пайшоў гуляць адзін у лес, мабыць, далёка зайшоў, заблудзіўся і назад не вярнуўся.
Унук сур'ёзна, вялікімі вачамі глядзеў на дзеда — яму шкода было сабаку, які пайшоў гуляць, заблудзіўся і не вярнуўся.
Сабаку Сцяпанавага нехта застрэліў, ці з дурасці, ці на злосць — у полі за крыніцамі ляжаў.
— Дзед, [redacted] бычок у цябе будзе?
— Ацеліцца зімою карова, можа, і бычок будзе.
— Я прыеду к табе і кожны дзень буду пасвіць бычка і насіць яму траўку, добра?
— Добра, унучак.
— Ігар, а чаму непамыты яблык узяў? Ану, пад кран пайшоў!
Унук знарок пакорліва і нехаця патупаў мыць яблык.
— Ну што, Марыя, гатова ў цябе?
— Гатова. Бульба зараз даварыцца.
— Можа, давай пазвонім Віцю?
— Ну, пазвані.
Сцяпан сеў у крэсла. Цёпла, светла было ў пакоі, за акном хутка шарэўся, гусцеў восеньскі прыцемак. Пасля язды з непрывычкі ў аўтобусе, пасля ванны цела здавалася лёгкае-лёгкае.
Сцяпан сцішана сядзеў у крэсле — мірна і спакойна было, і не хацелася ні пра што думаць.
Прыйшоў Віця — ён жыў на два паверхі вышэй над сынам, сярэдняга росту, з жывоцікам і роўнаю, на ўсю лабаціну, лысінаю, якую акружалі па-жаночаму даўгаватыя, на вушы і на патыліцу, валасы. Апрануты ён быў таксама, як і Лёня, у джынсавыя штаны, цеснаватыя на яго круглы азадак.
Сцяпан ужо ведаў ад сына, што Віця робіць інжынерам там жа, у акадэміі, на вытворчасці, што ў яго галава

«варыць, як у акадэміка» — па некалькі рацыяналізацый выдае ў год, што за гэтыя рацыяналізацыі, як гаварыла Марыя, ён мае і «Жыгулі», і дачу купіў.

Лысы Віця надзіва спорна выпіваў і закусваў, усё роўна як ён зголадаўся і па тым, і па другім. І не забываўся гаварыць і хваліць прывезеную Сцяпанам самагонку:

— Скора, брат, такога напітку і па вялікаму блату не дастанеш, Лёня. Трэба цаніць. Вёска вымірае, вот бацькі нашы адыдуць, а мы з табою нават і рэцэпт не будзем ведаць, як такую гарэлку рабіць. Давайце, дзядзька, за вас вып'ем. О, Марыя якраз і рыбку нам нясе!

Віця прынёс з сабою двух ляшчоў, такіх, якіх Сцяпан памятаў толькі з дзяцінства, як малы яшчэ быў. Іх можна было злавіць у іхняй тады яшчэ не выпрамленай рэчцы. Віця быў не толькі ўдачны рацыяналізатар, але і рыбалоў — на выхадныя ён ездзіў аж недзе пад Чэрыкаў, на азярцо, якое толькі ведае сам, дзе можна яшчэ парыбачыць.

Віця гаварыў «парыбачыць», і вочы яго задаволена і хітравата мружыліся, як у ката.

— Ну, дзе мне, старому, з вамі, маладымі. Не тыя гады, здароўе.

Сцяпан адмаўляўся піць для прыклёпу. Яму прыемна было піць, прыемна было, што лёгка хмялее.

— Ай, дзядзька, вы ж самі ведаеце, не п'еш — адкуль тое здароўе будзе!

У тэлевізары паказвалі канцэрт. Танцавалі ў народных строях старыя, старэйшыя за Сцяпана, жанкі, спявалі прыпеўкі. Потым на змену ім выходзілі маладыя дзяўчаты, усміхаліся на ўвесь экран прыгожымі белымі, як часнок, роўнымі зубамі. А за імі шумелі бярозы, потым хілілася калоссем святочна поле, потым плёскала аб бераг маленькаю хваляю возера.

Сцяпан прыслухоўваўся да гаворкі сына з Віцем пра нейкую атэстацыйную камісію ў Маскве, якая толькі і робіць, што рэжа ўсіх, пра нейкага спраўнага, хто і там сумеў знайсці блат... Ён не ведаў, пра што гаварыць. Яму было цёпла, утульна. І ад гэтае гасціннасці, ад цеплыні не мог адважыцца загаварыць пра тое, з чым прыехаў да сына. Тое было быццам бы дасюль і чужое, далёкае, за дажджом, за пустым полем, за чорным торфам на балоце, за вытрапанымі ветрам кустамі лазы, там, дзе, як сышла вада, пад карчамі рыжавата відаць быў пад вадою ў карэннях забіты малады бабёр... Нязручна было гэтым перабіваць такую спакойную і святочную гаворку за сталом, псаваць сваім

клопатам настрой. Ад таго, што ўспомніў рыжы асенні поплаў цяпер, у галаве сама сабою пачала ўставаць карціна таго, што было ноччу. Ён бачыў, як ноччу спыніўся на грэбельцы старшынёўскі «козлік», як ён разам са сваім мардатым аграномам і шафёрам выйшлі з машыны, як капалі запруду, як потым ставілі лавушкі, як папіхвалі каламі, каб выгнаць баброў з хаты, як потым валаклі іх да машыны...

— ...У нас некалі была рэчка... Рыбы было! Цяпер канава. Праўда, бацька? — Лёня папытаўся ў Сцяпана, і той ачнуўся.— Цяпер, праўда, бабры на яе прыйшлі? Як там, бацька, бабры яшчэ не запрудзілі рэчку, возера не зрабілі?

Лёня не чакаў, што скажа бацька, зноў расказваў Віцю:

— Знаеш, бабёр на высушанае балота прыйшоў, канаву запрудзіў, хату сабе зрабіў. Зараз там цэлая калонія будзе.

— Няма бабра. Прымачак наш раскулачыў яго.

— Як, дзядзька, раскулачыў?

— А так. Прыехаў, запруду раскапаў, каб вада сышла, а баброў пабіў. Адзін толькі, запаролі яго палкаю, астаўся пад карэннямі здохлы. Я, Лёня, таму і прыехаў. Я тут усё напісаў. Пара гэтага панка прыцісну́ць як след! Яму шапку бабровую захацелася!

Сцяпан адчуў, як лёгкая звонкая злосць забірае яго. Цяпер яму трэба было даць на вочы Прымачака, ён бы расправіўся з ім.

— А чаму вы думаеце, што ён? Ну, пасварыліся вы з ім, на пенсію пайшлі. А бабры...

— Адкуль жа ў яго шапка? З ката перакрасіў на бабра? Ты не думай, твой бацька не такі дурны! Ты мне толькі памажы...

— Дзе ж я...— пачаў быў Лёня, але сціх. Ён хацеў сказаць, што ні загадаць, ні даць каманду ён не можа. І невядома, на каго скардзіцца, і нельга вінаваціць толькі старшыню, на якога бацька мае вока.

Але Віця ў пору непрыкметна шмаргануў яго за руку — маўчы.

— Правільна кажа бацька. Цяпер там, на месцах, гэтыя старшыні пасталі, як удзельныя князькі — што хачу, тое і раблю. І ніхто не папра́віць. Вы, бацька, пакіньце нам усё, што запісалі, а Лёня сам тут разбярэцца, як лепш гэта перапісаць і куды паслаць, у газету ці так куды. Давайце яшчэ пакрысе.

Сцяпан выпіў і пачаў гаварыць, як ездзяць на машынах, як ганяюць зайцоў, як рэжуць іх жнучы, як труцяцца яны ад хіміі.

Віця згодна ківаў, устаўляў сваё слова і адначасна гаварыў пра нешта з Лёнем.

Сцяпану яшчэ хацелася і выпіць, і пагаварыць з Віцем, расказаць пра тое, што робіцца ў вёсцы, пра што ў яго за многа гадоў набалела на душы.

Але вярнуўся з гасцей Ігарок, пабыў на каленях у бацькі, у дзядзькі Віці, у дзеда, неахвотна перад мацераю пайшоў мыцца на ноч і ўжо ў адной піжамцы, жоўценькі, пушысты, як куранё, пацягнуў Сцяпана за сабою — расказваць на ноч казку.

Сцяпан мусіў устаць з-за стала і толькі тады, як стаў на ногі і пачуў, што яны не вельмі хочуць яго слухаць, зразумеў, што выпіў ён мнагавата, што больш піць яму нельга.

— Ты ідзі, унучак, кладзіся, а я пайду памыюся і прыйду расказваць табе казку.

У ваннай Сцяпан доўга мыў твар і мачыў галаў халоднаю вадою, пакуль не здалося яму, што крыху праяснела ў галаве.

Ігарок ужо ляжаў у пасцелі і чакаў.

— Дзед, а на лета ты возьмеш мяне? Я ўжо вялікі буду, і мама мяне пусціць на цэлае лета.

— А як жа... Там будзем у лес хадзіць па ягады, у грыбы, рыбу на возеры лавіць будзем. Я цябе плаваць навучу, і ты будзеш плаваць, як рыба.

— І вудачку мне купіш. Не, не вудачку, а такі сачок, як у дзядзькі Віці... Мы будзем плыць на лодцы, а рыба сама ў сачок будзе налазіць. Поўны мяшок!

— Пра сачок я не ведаю, а вудаў у мяне аж пяць. На ахвоту мы з табой пойдзем, я табе пакажу, як прылятаюць жураўлі. Вялікія, харошыя, стаяць у полі, а потым кружацца высока-высока. Сонца, восень, ралля сухая, а яны ўсё кружацца, усё крычаць, аж пакуль з воч не прападуць... Хочаш, я і казку табе раскажу пра жураўля?

— Хачу.

— Даўно было гэта. Маленькае сяло наша было, возера вялікае, а за возерам лес і балоты пачыналіся. Вось з-за тых балотаў, з таго краю зямлі прыляталі пасля Іллі на бераг возера шэрыя птушкі жураўлі. Прыляталі, за чаротам садзіліся... А жыла ў аднаго ўдаўца прыгожая дачка, такая харошая, што і канца-краю няма. І на работу ру-

чая — усё ў руках у яе гарыць, а яна толькі песеньку спявае. Гаспадыняю яе ўсе звалі, бо і дачкі лепшае, і лепшае гаспадыні на ўсю акругу не было.

Захацелася ёй паглядзець, чаго гэта тыя птушкі кожнага вечара туды лятаюць. Выйшла яна, за каноплі схавалася і чакаць стала, калі тыя птушкі ляцець будуць.

— Дзед, а што гэта каноплі?

— Ну, расце такое... Зярняткі ёсць, птушкі кляваць любяць, а з самое, ну, як табе сказаць, вяроўкі ўюць, на лейцы, на вужышчы.

— А што такое лейцы, вужышчы?

— Ну, лейцы — гэта вожкі, якімі каня кіруюць. Хіба вам не казалі ў садзіку?

— Вожжы казалі, а лейцы — не. А чаму ў нас у садзіку так не гавораць, як ты, не вучаць?

— Бо наша гаворка простая, а ў вас тут гарадская. Слухай, унучак... Бачыць тая Гаспадыня, што ўпалі птушкі, жураўлі шэрыя, на зямлю, ды як упалі, так малайцамі і зрабіліся. Адзін над адным лепшы і харошшы, а той, што самы паследні, той самы стройны, самы харошы. Як пайшлі яны ў возера нырца даваць, падкралася Гаспадыня ціха ды і ўкрала пер'е таго самага высокага, самага харошага. Нацешыліся яны ў вадзе, усе ў сваё пер'е адзеліся, толькі яму няма. Пашукалі, пашукалі ды падняліся ўсе на крыло, паляцелі, а ён застаўся адзін услед ім глядзець.

Тады Гаспадыня і кажа:

— Не гаруй, хлопец. Бач, якая я спраўная і харошая. Будзем мы з табою разам жыць. Бо выкінула я тваё пер'е, так ты мне ўпадобаўся.

І пачалі яны разам жыць, і нарадзілася ў іх дачка, яшчэ за маці і за бацьку харошшая і ўдалейшая, і ад яе род наш на зямлі пачаўся і цяпер ідзе.

А той бацька, Апошні Журавель, усё ніяк пра чараду сваю забыцца не мог. Усё выйдзе, як ляцяць жураўлі, на бераг возера, угору глядзіць і песні спявае. Ад песень тых, што такія харошыя яны былі, людзі казалі, аж сэрца заходзілася. Чулі песню тую птушкі, скідалі адтуль па пярку Апошняму Жураўлю. Прыйшла пара, што якраз яму пер'я наскідалі, і зноў ён птушкаю зрабіўся, стаў на крыло і паляцеў у чараду сваю. А жонцы сваёй, Гаспадыні, і дачцэ сказаў, што песню сваю, як душу, ён тут пакідае, каб шанавалі яны яе, каб нікому глуміцца з яе не давалі, бо ён будзе кожнае восені прылятаць, будзе душу сваю гукаць.

І пакуль душа тая будзе, пакуль ён па яе прылятаць будзе, датуль і род наш чалавечы на зямлі будзе.

Але так яно выйшла, што дачку яго, харошую маці, Гаспадыня за чалавека з чужое стараны аддала, а ён дачку жураўлінуую ад песні свае адвучыў, дзецям яна яе не пакінула. А Апошні Журавель усё прылятае, усё тую душу сваю ў нас гукае... Ты спіш, унучак?

Ігарок нічога не адказаў дзеду, яму, можа, снілася, як высока і хораша, бы душы чалавечыя, плывуць над зямлёю журавы...

— Шукае ўсё душу сваю. Ты прыедзеш, я табе пакажу жураўля, паслухаеш песню яго.

Сцяпан паправіў коўдру на ўнучку.

Паслалі Сцяпану спаць у зале на мяккай канапе. І спаў ён моцна і глыбока.

*Ні ад чаго гэтак не баліць душа і нічаму гэтак не радуецца, як роднаму свайму полю, якое праплыве пад шызым крылом тваім. І там, унізе, гэтак жа шыза ляжыць прыціхла і спустошана асенняе ворыва. І ўжо толькі цьмяна паблісквароць на сонцы цёплым водсветам дастаялыя шапаткія аўсы. Але яшчэ грэе роднае журботнае сонца, яшчэ цёпла ад яго і не хочацца да чужога, дзе гэтак ярка, светла, дзе гэтак цёпла і дзе так нудою студзіцца душа.*

*За полем гараць асеннія вогнішчы лесу, як сіняватыя вочы зямлі, ляжаць між парыжэлых, вылінялых за лета броваў асакі, невялікія лужкі і азерцы.*

*Цень Апошняга Жураўля ахіляў поле, лес, азерцы і лужкі, трывожыла яго апошняя песня ціхую паднябесную прастору. Цэлы дзень кружыўся Апошні Журавель над роднымі палеткамі, цэлы дзень ён чакаў, што недзе з зямлі адгукнецца пакінутая ім некалі на зямлі жураўліная яго душа.*

*Праміналі гады, не стала за палямі тых вялікіх і родных балот, і цяпер на новыя паселішчы другая пралегла жураўліная дарога. Але кожнага года прыляталі жураўлі на роднае поле, кружыліся, доўга шукалі пакінутае і забытае і потым адляталі, адляталі туды, дзе няроднае цёплае сонца.*

*Мінулым летам з Апошнім Жураўлём было яшчэ чатыры яго таварышы. Двое не даляцелі ў вырай, двое не адолелі дарогу назад. Маладыя жураўлі не ведалі, не*

*памяталі тых палёў і тае свае жураўлінае радзімы, дзе засталася душа старых жураўлёў, дзеці пачалі любіць за сваё чужое.*

*Апошні Журавель плыў над родным полем. Была залатая восень. Апошні Журавель хацеў пачуць водгук на свой журботны кліч. Але звечарэла, у яго стаміліся магутныя верныя крылы, і ён нарэшце апусціўся на поле, там, дзе спрадвеку яны апошні раз адпачывалі перад далёкаю дарогаю цэлымі чародамі.*

*Цяпер на астравок пацямнелага ржышча сярод асенняга ворыва апусціўся адзін Апошні Журавель.*

*Ён стаяў і грэўся на вячэрнім сонцы. Вочы яго былі заплюшчаны. Ён драмаў і час ад часу ўздрыгваў і прачынаўся. Ён думаў пра свой зямны працяг, пра зямнога брата бабра, паселішча якога так і не знайшоў, не ўгледзеў ягонае затокі, нібы закрылася яшчэ адно вока на роднай зямлі. Гэта трывожыла і палохала, перашкаджала думаць пра тое, што за год ён угаворыць маладых жураўлёў і яны прыляцяць сюды цэлаю чарадою.*

*Пакуль ён адпачываў, як адпачываюць дома пасля далёкае дарогі, не чуў, што на палявой дарозе спынілася машына.*

*З яе вылез чалавек без пінжака, але пры гальштуку.*

*— Міша, давай сюды, скоранька!*

*Ён працягнуў руку, і шафёр з машыны падаў яму стрэльбу.*

*— Гэта ж журавель, Віктар Антонавіч.*

*— Ну і што? Адным больш, адным менш.*

*— Адсюль далекавата.*

*— Тут карцеч здружаная. Яшчэ як секане.*

*Высока і засмучана стаяла пры залатой сцірце саломы асенняя птушка.*

*Чырванавата адсвяцілася сонца на ствале старое стрэльбы. Коратка грукнуў стрэл.*

*І адразу ж, як кінутая ім, птушка ўзмахнула крыламі, адарвалася ад зямлі.*

*Віктар Антонавіч, які памкнуўся следам, каб падымаць здабычу, стаў на месцы. Не бег і шафёр. Сляпіла ў вочы сонца. Птушкі нідзе не было. Толькі крык, асенні, развітальны ўскрык паплыў над полем.*

*— Я ж казаў, далекавата...*

*— Ну і чорт з ім!*

*За машынаю лёгенька падняўся белы асенні пылок.*

*Шэрае мёртвае крыло Апошняга Жураўля ў вечаровым мораку злівалася са скібай асенняга ворыва ў чыстым полі...*

Пра гэта Сцяпан нічога не ведаў.

Паехаў ён дадому назаўтра. Сыну пакінуў усе свае скаргі, напісаныя на паперы ў вучнёўскім сшытку.

Сын знасіў той сшытак да былога аднакурсніка ў газету. Той пачытаў. Папытаўся, што было ў Лёневага бацькі са старшынёй.

— Бач, і сам кажаш, што стары троха прыдзіраецца. Тут прыватнае замешана. Можа, паглядзім, будзе агульны матэрыял пра прыроду, на падвёрстку пусцім.

Але, мабыць, матэрыялу такога не было, і клопат у таго чалавека ў рэдакцыі быў такі ж, як і ў Лёні.

Некалькі тыдняў Дзямідчык чакаў пісьма. Але так нічога і не пачуў. І тады зразумеў, што дарэмна ён ездзіў да сына шукаць праўду.

Цяпер Дзямідчык ведаў, да каго яму трэба ехаць.

## XIII

У аўтобусе было цесна. Перад самым горадам ён напакаваўся так, што шафёр мусіў упіхаць пасажыраў, каб зачыніць пярэднія дзверы. Людзі спяшаліся ў горад на работу. Сцяпан сядзеў, прыціснуты дзябёлаю крутаплечаю маладзіцаю, нашыкаванай духамі і пудраю гэтак, што аж круціла ў носе і хацелася чыхнуць, як сабаку ад табакі.

Сцяпан даўно нікуды не выязджаў з вёскі, яшчэ радзей ездзіў у аўтобусе — калі быў брыгадзірам і трэба было ў раён, то дабіраўся на калгаснай машыне.

У горад спяшалі маладыя і сярэдняга веку людзі. Падумалася, што цяпер сама работа, што трэба дабіраць бульбу, што толькі пачалі церабіць буракі. Усе едуць у горад... А да іх за сто кіламетраў рабочых папрывозілі, з завода, ад сем'яў. Бульбу выбіраюць. Ужо каторы год. Бабы цяпер і моды не знаюць хадзіць у поле — прыедуць студэнты ці рабочыя. Гэта стала іхняю работаю. Буракі, дзе па нормах размерана, трэба самім выбіраць, гэта не на студэнтаў, не на рабочых, таму што і бурачніку карове трэба, сена даюць тым, хто робіць на бураках, накасіць.

Сцяпан глядзеў за акно аўтобуса, запацелае так, што аж бралася вільгаць у кроплі і сцякала ра́гамі. За шклом

туманна і мокра шарэлася раніца, прывя́лая і белая ад расы, бы патаптаная, ляжала прыдарожная трава. Глуха, брудна і мокра было, як і заўсёды, калі пачынаецца глухая восеньская пара.

І ад таго, што пачаў думаць пра работу, што тут кругом ехалі, спяшалі на работу людзі, неяк не па сабе было, усё роўна як заняў ён тут чужое месца, робіць альбы-што. І чым бліжэй пад'язджаў да горада, тым менш рабілася і тае злосці, і дурное ўпартасці, з якою выбіраўся ехаць. І яшчэ было адно — не ведаў, да каго трэба ісці, каб было надзейна, каб ніякі там чыноўнік не мог выкруціцца ці адкруціцца, каб было сказана і зроблена.

Цяпер, калі ўспамінаў пра работу, пра тое, што і ў начальства зараз другі клопат — не пра таго зайца, якога нехта ганяе на полі, а пра ўборку,— упэўненасці паменшала. І настырацца да начальства выходзіла як і не з рукі ўсё роўна...

Але варочацца не было як, трэба было ехаць.

У горадзе выйшаў Сцяпан з аўтобуса ў цэнтры.

Людзі прывычна спяшалі. Дзямідчыку не было куды спяшаць. Яшчэ не было дзевяці. Ён пастаяў на плошчы, прымяркоўваўся, каб прабавіць час, і загадзя прыкідваў, куды лепш зайсці: ці сюды, у стары двухпавярховы будынак, дзе ад самае вайны і было ўсё раённае начальства, альбо цераз дарогу, у новы, цяперашні, са шклом, у чатыры паверхі. У старым ён бываў больш, і як рабіў брыгадзірам, больш заходзіў. Новы быў і непрывычны — на паверхі высока хадзіць трэба было.

Ён спатыкнуўся вокам аб шкляныя вялізныя вокны гастранома за вуглом і з палёгкаю пачэпаў туды — паглядзець, што можна купіць дадому, галоўнае, не забыцца прывезці старой алею.

У гастраноме сонна шахала направа і налева мокраю анучаю па бетоннай падлозе прыбіральшчыца, сонна хадзілі і перагаворваліся, усё роўна як толькі павылазілі з пасцеляў, чыстыя і дагледжаныя прадаўшчыцы. Гэтаю сваёю дагледжанасцю і чысцінёй яны быццам аддаляліся нечым ад яго, вясковага чалавека. Даўно яно так павялося, што тыя, хто паехаў у горад, прыязджалі чыстыя і дагледжаныя. Гэтага хапала, каб зайздросціць і ім, і гарадскому жыццю. Праўда, цяпер ці то прывыклі да таго, што амаль з кожнае хаты ёсць у горадзе гараджане, ці таму, што і на сяле па-другому можна і адзецца, і жыць, усё часцей кідалася Сцяпану ў вока, што з горада маладыя хлопцы прыяз-

джаюць як пакамечаныя якія, быццам там іх у нейкіх вальцах круцяць ці ў падваротнях качаюць.

Але тут, у райцэнтры, дзе, як ні круці, больш людзей вясковых, прадаўшчыцы былі адметныя.

Алею Сцяпан купіў аж тры бутэлькі. Хлеба яшчэ не прывезлі, ды і з напакаванаю хлебам сумкаю было не з рукі хадзіць па начальству.

Пасля магазіна Сцяпан яшчэ крыху патаптаўся на мокрай, нейкай разгубленай, прытуманенай восеньскай вуліцы, дзе ўжо быццам і непатрэбна свяціліся сіняватыя вулічныя ліхтары, чужымі зялёна-чырвонымі вачамі глядзелі на пустых перакрыжаваннях святлафоры.

Ля пад'ездаў і аднаго, і другога будынкаў пачыналі з'язджацца машыны, курылі ля іх і моцна параготвалі шафёры.

Дзямідчык пастаяў і пайшоў у новы будынак — там усё ж павінна быць начальства больш сур'ёзнае.

Пакуль збіраліся людзі ў ранішняй мітуснечы, Сцяпан пачаў абход з першага паверха, каб паглядзець будынак. Яшчэ ён спадзяваўся, што сустрэне некага з тых, каго ведаў і сустракаў, калі бываў некалі на нарадах, хаця начальства мянялася і мяняецца часта, маладыя прыходзяць.

Будынак кіславата пах тынкоўкаю, нявыветраным, спёртым за ноч духам фарбы.

Дзямідчык ішоў па калідоры, чытаў пад шклом надрукаваныя вялікімі літарамі на белай паперы шыльды загадчыкаў, намеснікаў, інструктараў. У канцы першага калідора на першым паверсе наткнуўся замест стандартнае шыльды на больш кароткую з аднае літары. Пакуль ён завярнуўся пайсці, з-за дзвярэй заклапочана выскачыла завітая, у чорным касцюме жанчына, строга глянула на яго, і Сцяпан толькі гмыкнуў з самога сябе і пайшоў на другі паверх.

На апошнім паверсе, як толькі выйшаў з лесвіцы на калідор, яго спыніла знаёмае прозвішча — Яновіч. І дзве вялікія літары: П. І. Пётр Іванавіч, ці Павел Іванавіч, ці Ігнатавіч... Іван Яновіч!

Дзямідчык прывычна пайшоў па калідоры, але ўжо не прыглядаўся да шыльдаў, прабягаў вачамі. А што, можа быць, што Іванаў сын ужо начальнік. Можа. Калі т о й, то даўно можа быць начальнікам.

У канцы калідора, да шырокага, запацелага акна пакамечаным і мокрым асеннім лістом прытульваўся клён.

Дзямідчыку, калі гэтак блізка ўбачыў мокры ліст і набрынялае ад дажджоў голле, здалося, пачуў гнілаваты пах балота.

*Танкі, якія выскачылі з узгорка, білі па іх з кулямётаў і гармат. Яшчэ не сцямнела. На роўным вясновым балоце, якое зусім пусціла і куды танкі не маглі выйсці, адвячоркам людзі былі добра відны. Асколкам Дзямідчыка шмарганула па руцэ, неглыбока. Рука валодала, але і пякуча балела. Ад крыві быў цяжкі рукаў кажушка. Немцы раскалолі атрад папалам. Большая палавіна пайшла другім бокам ад лесу, і тым партызанам, хто апынуўся тут, было горш — яны не толькі забралі на сябе ўсю ўвагу нямецкіх танкаў. Ім яшчэ трэба было, пераскочыўшы па вузкім перашыйку, потым цераз рэчачку, якая разбрыняла цяпер ад вады, перабрацца ў вялікае балота, туды, дзе партызан больш і большая схова.*

*Самае страшнае было тое, што з групаю партызан апынулася многа жанчын і дзяцей. Немцы маглі перахваціць іх на перашыйку перад вялікім балотам і патапіць усіх, як кацянят.*

*Падганяць нікога не трэба было. Ад страху крычалі толькі малыя дзеці, калі блізка ўзрываліся снарады. Потым, калі Дзямідчык успамінаў тую блакаду, найперш усплывала, які чысты, светлы, з роўным тугім сінім небам стаяў надвячорак і якія роўныя абрысы танкаў былі на гэтым сінім фоне.*

*Было відно, як танкі зняліся і пайшлі наўкруг балота.*

*Ратунак заставаўся толькі ў вялікім балоце. Пачалі шукаць пераправу цераз рэчачку. Блізка недзе падыходзілі немцы, трэба было маўчаць, каб не выдаць сябе. У адным месцы, цераз рэчку, там, дзе ляжала зімняя дарога, яшчэ не прарвала лёд. Ён мокрым гурбаном стаяў цераз рэчку. Паступіў загад — ламаць алешнік, слаць яго на лёд.*

*З бакоў па рэдкіх агеньчыках Сцяпан бачыў, што немцы, няхай і паволі, але пакрысе падбіраюцца да перашыйка. Там было сушэй, не расло лесу, і з хмызу маглі падысці танкі. Добра, што гусцеў прыцемак і што немцы не бачылі яшчэ іх. Насустрач немцам выставілі заслон, але Сцяпан ведаў, што ў партызан амаль не асталося патронаў.*

*Людзі стараліся. І ў гэтай цішыні моцна плакала дзіця. Спачатку Дзямідчык не здагадваўся, адкуль гэты*

*непрывычны голас. Дзіця на нейкае імгненне прыціхала, мабыць, маці старалася супакоіць яго. Голас гэты, здавалася, чуўся над усім балотам. Людзі азіраліся на яго спалохана і ціснуліся бліжэй да пераправы.*

*Дзямідчык пайшоў на голас.*

*У аблавушцы, перакручанай вухам наперад, стары дзядзька, сагнуты, як корч, наставіўшы вінтоўку, амаль пхаў перад сабою жанчыну. Яна, без хусткі, у расшпіленым кажушку, на каленях адпаўзала перад ім і ўсё прасілася:*

*— Дзядзечка, што ж вы робіце? Дзядзечка!..*

*— Ты кажушком яго, кажушком закрый і не пачуеш!..*

*— Дзядзечка, сыночак жа!.. Я жонка Яновіча!*

*— Кідай, дурная, а то і табе, і ўсім тут канец будзе. Бач, колькі з дзецьмі збілася? З-за яго канец усім будзе! Жывая будзеш — народзіш яшчэ. Душы, а не — кідай. Ну!..*

*Жанчына ўсё круціла галавою, адпаўзала і не бачыла за сабою глыбокую яму з вадою. Там бы яна і пакінула малога.*

*— Назад! — Дзямідчык амаль пад самую бараду сунуў дзядзьку ствол аўтамата, і той адхіснуўся.— Назад, паскудства!..*

*— А што, каб з-за аднаго ўсіх пабілі?.. З маёй унь трое!*

*— Назад!*

*Дзядзька не баяўся, што Дзямідчык пачне страляць. Страляць тут ніхто цяпер не мог. І Дзямідчык параненаю рукою паволі дастаў з чахла фінку, якая цьмяна і нядобра бліснула.*

*Дзядзька мацюкнуўся і адступіўся.*

*— Уставай! — загадаў Дзямідчык жанчыне.— Пайшла, ну, пайшла!*

*Дзямідчык чуў, як гудзе за ім нядобра натоўп, але не азірнуўся.*

*Ён павёў яе кустамі да пераправы. Яна ціснула дзіця да сябе, але не магла заглушыць яго крык.*

*— Лажыся, паўзі, чуеш, кацiся, паўзі!.. А то правалішся... Там ідзі ў балота! Паўзі!*

*Сцяпан кінуў жанчыне альховую жэрдку.*

*Яна зацкавана глянула на яго, на тую дарогу, на якую ўжо пачалі накідаць галлё, але якую яшчэ не вымасцілі на самай сярэдзіне, дзе больш падлізвала лёд вада.*

*— Жэрдку вазьмі і паўзі!*

*Яна страшнымі вачамі глядзела чамусьці толькі на яго аўтамат. Яна не пазнавала ні голасу яго, ні аблічча. Ён ведаў, што пакідаць яе нельга...*

*Дзіця, здавалася, крычыць гэтак моцна, што аж баляць вушы. Пад аўтаматам ён пагнаў яе на лёд. І як толькі спыняўся ён, замірала ў жаху і яна. Так яны і паўзлі. Ён бачыў перад сабою яе хромавыя, добрыя яшчэ боты, голыя вышэй халяваў ногі.*

*Мякка прасядаў лёд, прамокла адзежа. Толькі на тым беразе яна ўстала. Спадніца была мокрая. Малога, закручанага ў посцілку, яна ўсё ціснула да сябе.*

*— Я Сцёпка, ты не пазнала мяне?*

*Ён ступіў да яе. Яна закруціла галавою — і ён не разумеў, пазнала ці не, бокам пачала адступаць, з жахам азіраючыся на Сцяпана, потым пабегла, тулячы да сябе малое...*

*Ззаду, за рэчкаю, глуха вухнуў снарад, нема закрычалі людзі. На перашыек выходзілі нямецкія танкі, за імі пырскала агнём з аўтаматаў пяхота...*

*У адчаі людзі кідаліся ў рэчку...*

*Больш ён не сустрэў Лену ні разу. Толькі часам, калі нудзіўся, калі ўспаміналася маладосць і на душы рабілася няшчасна, успамінаў яе. Але тую, на вечарынках, а не тую, якая паўзла па балоце, хаваючы пад кажушком дзіця. Ён нікому не гаварыў, але ў такія маркотныя часіны, як быў маладзейшы, верыў, што з ёю быў бы сапраўды шчаслівы, што яна вінавата... Потым, ужо старэйшаму, яму хацелася сустрэцца і паглядзець на таго, хто тады быў дзіцем...*

...Дзямідчык спахваціўся, што зноў стаіць перад дзвярамі, на якіх напісана знаёмае яму прозвішча. Стаіць пасярод калідора і замінае людзям.

Сцяпан адчыніў дзверы і зайшоў у пакой. Перад тым як адчыніць іх, ён некалькі разоў далікатна пагрукаў костачкаю пальца, але нічога яму не адказалі, і ён зайшоў сам.

Сакратарка, чарнявенькая, каротка астрыжаная дзяўчына, нешта друкавала на машынцы, падняла галаву, паглядзела, але друкаваць не перастала.

На яго «дзень добры» толькі кіўнула галавою.

Дзямідчык патаптаўся на месцы і сеў на крэсла пры сцяне.

— У Пятра Іванавіча прыёмны дзень аўторак.

Дзяўчына адразу заўважыла, што Дзямідчык сеў, і перастала стракатаць на машынцы, паглядзела не на яго самога, а на яго карычневую сумку, якая разаслалася на падлозе і ў якой глуха грукнулі тры бутэлькі алею, на яго боты і галіфэ.

Цяпер і з вёскі, мабыць, сюды мала хто прыязджае ў ботах і галіфэ. Пра гэта яму гаварыла жонка і прымушала надзець касцюм.

— Я знаю. Мяне ён прыме.

— Ён пайшоў да першага.

— Нічога, я пачакаю. Я не спяшаю.

Дзямідчык вырашыў, што будзе чакаць гэтага Пятра Іванавіча, пакуль не дачакаецца. Хацелася проста і глянуць — не можа ж быць чалавек, каб не падобны быў ні на бацьку, ні на маццеру. А калі і не ён, усё роўна начальнік.

Дзямідчык думаў пра тое, як раскажа, каб нядоўга гаварыць і ўсё сказаць. Жоглу чапаць не будзе. Бог яго бяры з Жоглам. Пенсіі чакае. А так усё раскажа... І пра калгас...

Ён чакаў доўга, аж надакучыла, і Дзямідчык пачаў прыслухоўвацца да крокаў у калідоры.

Але ці то ён задрамаў, ці так задумаўся, што не пачуў, калі Пётр Іванавіч увайшоў у прыёмную, павітаўся і, нібы пытаўся — хто гэта? — паглядзеў на Дзямідчыка.

Сакратарка падхвацілася і адразу ж за Дзямідчыкавым «дзень добры» адрапартавала:

— Таварыш сказаў, што вы запрасілі яго... Я яму гаварыла, што ў вас прыёмны дзень у аўторак, але ён сказаў, што вы яго прымеце... Мне запісаць яго на прыём на аўторак?

— Не, Ліда. Заходзьце.

Пётр Іванавіч адчыніў дзверы, успеў непрыкметна строга глянуць на сакратарку. Яна пачырванела.

— Мне цераз мінут дваццаць трэба будзе зноў да першага. Не забудзьце мне напомніць. Прашу, прашу... Вы заходзьце. Сядайце. Прабачце, як вас завуць, хто вы, адкуль?

Дзямідчык прысеў да прыстаўнога століка.

— Сцяпан Сцяпанавіч... З Альховых Крыніц. Дзямідчык,— назваўся Сцяпан.

— Ясна,— Пётр Іванавіч усміхнуўся, быццам нешта ўспомніў.— Ну, што ў вас?..

Пакуль Сцяпан збіраўся, з чаго перш пачаць, моцна зазваніў тэлефон.

— Прабачце.

Пётр Іванавіч зняў трубку, прывітаўся, адказаў на жарт.

Голас у трубцы быў, мабыць, начальніцкі, бо Пётр Іванавіч альбо спрабаваў нешта тлумачыць, альбо згаджаўся, а больш слухаў. Рука яго нешта лёгенька крэсліла на паперы. Калі ён хмурыў лоб, на ім глыбока і густа збягаліся маршчыны. І на вісках ляжала сівізна. Дзямідчык падумаў, што па ўзросту рана яшчэ было б гэтак ссівець. Пакуль Пётр Іванавіч слухаў, Дзямідчык заўважыў, якія стомленыя ў яго вочы, які сам ён натомлены — і ў гэта імгненне, калі чалавек за сталом перастаў быць начальнікам, да якога Дзямідчык прарваўся ў кабінет, а проста стомленым чалавекам, ён пазнаў яго — пазнаў па бацьку, па Яновічу: і падбародак быў бацькаў, і нос, і вочы гэтак жа пастаўлены.

А трубка ўсё гаварыла, роўна, упэўнена — Дзямідчык чуў гэтыя роўныя ўсплёскі голасу ў ёй, хоць слоў не чутно было.

Пётр Іванавіч зразумеў, што ад яго патрэбна, і цяпер чакаў, калі кончацца ўдакладненні. Ён ужо ведаў, што трэба будзе яму зрабіць, і таму чакаў, калі начальства выгаварыцца, не перабіваў яго.

Пасля, як скончыў гаварыць, націснуў кнопку на селектары, сказаў сакратарцы:

— Перадай Дубовіку, хай тэрмінова зробіць разлікі — колькі і калі мы можам звыш плана здаць мяса. Тэрмінова няхай зробіць.

І зноў сказаў Дзямідчыку:

— Прабачце, я слухаю вас.

І на твары ў яго не было ўжо ні стомленасці, ні тае адкрытасці.

— Скажэце, гэта ваш бацька Іван Яновіч? Камандзір атрада?

— Мой. Вы ведаеце яго? Разам партызанілі?

— Ну, як сказаць... Я ў «Кірава» быў... А так знаў яго, чаму ж не. Як ён? На пенсіі?

— Няма яго.

— Як няма?

— Скора два гады ўжо.

— Ты бачыш? А такі рухавы быў.

— Сэрца.

Змоўклі. І каб перарваць гэтае маўчанне, ужо нясмела Сцяпан папытаў:

— А маці як, Алена?
— Маці нічога. Вы і яе ведалі?
— Чаму ж, ведаў...
Дзямідчыку раптам захацелася сказаць, што ён і яго ведаў. Па гадах гэта быў ён, тое дзіця, якое закрывала сабою Алена і з якім яна паўзла па распухлым лёдзе цераз балотную рэчку, ратуючы яго.
— Будзеце ў маці, паклон скажэце. Ад Дзямідчыка Сцяпана з Альховых Крыніц... Яна павінна помніць.
Сцяпан устаў. Ён хваляваўся.
— Пачакайце, Сцяпан Сцяпанавіч, вы ж сюды ехалі не толькі, каб у мяне пра бацькоў папытаць. Можа, я вам і памагу? Што ў вас?
— Панадзіліся к нам на поле з машынаю зайцоў біць. Я ўжэ не кажу, што азімыя топчуць. І так мы гэтым удабрэннем усё жывое вытруцілі. А тут, можна сказаць, на вачах у людзей, з-пад фар. Я ўчастковаму нашаму, Жоглу, казаў і прасіў. А ён кажа — начальства, а начальства ўсякае бывае. Яму да пенсіі даслужыць трэба...
Сцяпан адчуваў, што збіваецца на скорагаворку, усё роўна нібы саромеецца таго, што гаворыць. Падумаў, што праўду гаварыла жонка — няма чаго лезці да начальства са сваімі зайцамі, яшчэ канчаюць выбіраць і бульбу, і буракі.
— Ясна.
Яновіч зняў трубку, націснуў на клавішу.
— Дзярэча? Дзень добры. Тут да цябе сёння прыйдзе чалавек. Так, Дзямідчык. Ведаеш ужо, гаварыў ён з табою? Ад майго імя разбярыся, хто гэта, чыя машына. Разбярыся і мне дaложыш. А я ім пакажу зайчаціну! Хто не ўмее на машыне ездзіць, будзе пяшком па раёне хадзіць. Будзь здароў.
Пётр Іванавіч устаў з-за стала, і цяпер Сцяпану падумалася, што ён хоць і не тоўсты, але не па гадах грузнаваты.
— Нас першы збірае зараз,— сказаў ён.— Зайдзеце к Дзярэчу, усё яму раскажыце. Па раёне яшчэ восем працэнтаў бульбы ў зямлі, амаль сорак — буракоў.
Пётр Іванавіч стомлена, як прасіў прабачэння, усміхнуўся, выйшаў з-за стала, каб развітацца.
— Заходзьце, Сцяпан Сцяпанавіч. Што трэба — заходзьце. Не саромейцеся. А я буду ў вас — заеду, пагляджу, як жывяце.
— Заедзьце. А маці скажыце, што я быў, пра яе пытаўся. Не забудзьце, скажыце.

На развітанне Пётр Іванавіч прытрымаў руку Дзямідчыка, усё роўна як хацеў яшчэ затрымаць, каб пагаварыць.

Сцяпан ужо ведаў, што сакратар забыў яго, тую сустрэчу на полі, калі сама ішлі дажджы.

Ад таго, што яго гэтак добра прыняў сакратар, што ён сын Яновіча, было лягчэй. Сцяпан упэўнена пагрукаў па прыступках лесвіцы, усё роўна як усё жыццё толькі тое і рабіў, што хадзіў па гэтых прыступках. І на двары пасвятлела, недзе, мабыць, за туманам, прабілася сонца, і таму ясней і весялей рабілася ў паветры. Не трэба слухаць жанок. Начальства начальству не раўня. А без зайчыка і поле не поле. Гэта ўсе ведаюць.

Паездка выйшла ўдалая. Ад гэтага і маладзей, і весялей было. Думалася пра Алёну — яна, мабыць, такая, як гарадскіх па тэлевізары паказваюць... Яновіч быў старэйшы за яе на гадоў дзесяць. Памёр ужо.

Успомніў яе перад натоўпам. Як жахліва глядзела яна на Сцяпанаў аўтамат! Няўжо не пазнала ці баялася, што ён застрэліць яе з рэўнасці? І ён тады не ведаў, што, ратуючы яе з малым, мабыць, уратаваўся і сам.

Усё ж і цяпер ажыло ў душы тое, маладое, тая крыўда, ці што, на яе за тое, што здрадзіла, выйшла за Яновіча.

Дзямідчык з палёгкаю ішоў па вуліцы, задаволены сабою.

Аднак да лясгаса, дзе было праўленне паляўнічага таварыства, Дзямідчык не надта спяшаўся. Дзярэчу ён ужо і пісаў пра паляванні з-пад машыны, і нават званіў з канторы. Дзямідчык ведаў, што гаспадарка ў Дзярэчы вялікая і што сапраўды, мабыць, у яго было больш важнага клопату.

Дзямідчык выстаяў даволі доўгую чаргу ля гастранома — прадавалі селядцы, а таму, калі прыйшоў да лясніцтва, сказалі, што Дзярэча выехаў на Заганавіцкае возера ганяць браканьераў і будзе толькі пасля абеду. І гэта не засмуціла Дзямідчыка. Ён спакойна выправіўся хадзіць па горадзе — агледзеў магазіны, абышоў базар, патаргаваўся, паглядзеў на цэны, у гаспадарчым магазіне напаў на цвікі, якімі прыбіваюць шыфер, і купіў; выпіў разліўнога піва і паабедаў у сталоўцы на базары, амаль што зусім так, як некалі, калі яшчэ дзяржаў мацёру, калі вазіў прадаваць парасят. Тое, здавалася, было даўно, базар пах ад вазоў дзёгцем, нагрэтым далёкаю дарогаю. Цяпер базар і разбудавалі, і абнавілі, панаставілі паветак, накрытых

разнаколерным пластмасавым шыферам, але брук так і застаўся нечапаны, і таму было адчуванне, што нічога не змянілася.

Пяшком Дзямідчык зноў схадзіў у лясгас пасля абеду, застаў там Дзярэчу, белабрысага, чырванатварага і рослага мужчыну. Ён быў у гумавых паляўнічых ботах, у брызентоўцы, вялікі і чужы за старым, з цыратавым верхам, двухтумбавым сталом.

— А, здароў... Дачакаўся? А мы толькі прыехалі. Знаеш, мінскія інжынеры цэлую схему выдумалі. Плывуць сабе на лодачцы з сачком — і як нічога не было... Накрылі і іх, і схему, і легкавічок. Але і паскудства, я табе скажу. Цэлы багажнік натрамбавалі і яшчэ мяшок цэлафанавы дабіралі!

Дзярэча аж сплюнуў, але быў вясёлы, што злавілі.

— Давай, які там нумар у цябе. Сам мог бы разабрацца, але калі да Яновіча дайшоў, давай, запішу, падключу аўтаінспекцыю. Канечне, Яновіч ім як накруціць хвост, да цябе больш не паедуць, у другое месца панадзяцца.

Ён запісаў нумар машыны, які запомніўся Дзямідчыку. Сцяпану здалося, што Дзярэча адразу ж здагадаўся, чыя машына ездзіла на полі, бо сказаў:

— Добра, я Яновічу далажу. А вот калонію баброў ты, Дзямідчык, не ўпільнаваў. Я думаў, што ў цябе там ніхто не падбярэцца. Слухай, Дзямідчык, як гляджу цяпер на гэтых гараджан... Ну, толькі ж, здаецца, з вёскі выехаў, а як дарвецца сюды, латошыць усё падрад — жывое і нежывое. І, гад жа, ведае, дзе ёсць, і не думае пра тое, каб каліва на развод пакінуць. Абы толькі драць, браць, грэбці. Жыў жа тут, у вёсцы, такое зайздрасці не меў.

— У нас баброў не гарадскія заглумілі. Начальнічкі свае. Яны не горш за гарадскіх.

— Ну, мы пра гэта гаварылі. Не зжыўся ты са старшынёй — гэта адно. Шапка тая яго бабровая законна куплена. Мы ж правяралі. Дарэмна ты на яго ўсё валіш.

— Шапка законная, а другая...

— Ну, ладна, давай не будзем...

Дзярэча махнуў рукою — і Сцяпан не стаў больш гаварыць. Усё думаюць, што ён падазрае старшыню ад злосці, з-за таго, што той выправіў на пенсію з брыгадзірства.

— Што яшчэ ў цябе там чутно? — папытаўся Дзярэча. Ад яго адзежы пахла вадою, полем, лесам, падмоклым брызентам, нейкім блізкім сэрцу, і Сцяпан адчуў, што і яму

захацелася ў поле, у лес, дзе прасторна і дзе пахне цяпер восеньскаю вільгаццю і сіверам.

— Нічога.

Дзямідчык устаў, падаў Дзярэчу руку, той прыўстаў з-за стала, падаў руку на развітанне:

— Слухай, мы збіраем брыгаду на ваўкоў. Давай падключу?

— Далёка куды збіраецеся?

— За Старобін.

— Не, дзякуй, далекавата. Бывай здароў.

— Як хочаш, а то пазвані.

— А не ўжэ. Вы маладыя, куды мне. Ад вас ніякі воўк нікуды не схаваецца, утрубіце яго.

Дзярэча праз акно глядзеў, як паволі, цвёрда, нават з гонарам ішоў па вуліцы Дзямідчык. Хударлявы, лёгкі на нагу, у галіфэ, у салдацкім бушлаціку, у ботах, ён быццам вярнуўся з тае пасляваеннае памяці — тады гэтак адзяваліся мужчыны. Толькі гэтая сумка з цяперашняга часу. Дзярэча нечаму ўспомніў і Альховыя Крыніцы, дзе цяпер пад вокнамі гэтак жа, як ля будынка лясгаса, мокра, сумна і пакамечана цвітуць вяргіні, туманок над алешнікам ляжыць. Поле ўкруга, лясок на гектараў чатырыста, вытаптаны і выхаджаны людзьмі, як сад ці раённы парк, меліярацыйная канава. Там некалі была харошая пакручанка-рэчачка. А цяпер поплаў, забалочаны, часта так пусты, бо замакае ўсё роўна вясною, і нічога на ім не пасееш. У гэтым чыстым высушаным балоце, на былой старыцы ўздумаў пасяліцца бабёр — лазы там па берагах канаў хапала. Загаціў плаціну і пражыў аж тры гады. Потым усё ж раскапалі і хату, і самога забілі. Тады Дзярэча і прыязджаў у Альховыя Крыніцы. Спачатку, каб паглядзець на паселішча, а потым, па заяве таго ж самага Дзямідчыка, каб знайсці віноўнага. Дзе там яго знойдзеш, калі да паселішча і да самае хаткі з паўкіламетра ад дарогі? Ці мала хто туды пад'ехаць можа? Дык і свае маглі пагнацца на шкуру, раскапаць. Спусцілі ваду і пабілі звяркоў.

І цяпер, калі ўспамінаў і тое знішчанае бабрынае паселішча, і самую вёску, і старога Дзямідчыка, Дзярэча са смуткам думаў, што там нічога і не асталося з жыўнасці, хіба дзе які заяц у полі ці качка ў лужку, андатра ў канаве і шэрая курапатка ў полі. Усміхнуўся са старога, які ездзіць і скардзіцца з-за таго зайца. Тут не ўспяваеш ганяць тых, хто ласёў б'е, дзікоў, рыбу трубіць з вадасховішчаў. Смешна было, што Дзямідчык стараўся даказаць, быццам баброў не абышла рука старшыні. Ці не тады гэта было, як

старшыня адпраўляў яго на пенсію? Якраз патрабавалі, каб брыгадзірамі былі людзі пасля тэхнікума. А Дзямідчык тады ваяваў са старшынёй.

Дзярэча стомлена правёў далонню па твары, усё роўна як хацеў сцерці ўспамін, які праступаў туманна з недалёкага мінулага, і толькі востра, быццам гэта зараз было, адчуў смак свежага агурка з грады... Ён усміхнуўся гэтаму ўспаміну, зняў тэлефонную трубку, набраў нумар.

— Цыганкоў, здароў. Дзярэча. Не, не той, не аграном. Ага, я, я. Не дагадваешся? А чаго ж на зайчаціну не пазваў? Якую? А на тую, што з-пад Альховых Крыніц табе на стол прыбягала. Не прыбягала? І ні разу такога не было? А дзевятнаццаць-пятнаццаць не твой нумарок? Не, у цябе трынаццаць. Ну, можа, і трынаццаць, уначы не надта разгледзіш. Не, тут жартачкі малыя. Гэты нумар мне даў Яновіч. Ага, сам. І папрасіў, каб я праверыў і далажыў. Ладна, Цыганкоў. Твая машына, таму ў цябе і пытаюся. Знаю, больш знаю, чым ты думаеш. Глядзі сам, а то другі раз нумарок правільна ўгледзяць. Ладна, ладна, далажу. Усё сваю меру мае. Ладна, дагаварыліся на першы раз. Ну, будзь здароў. Будзь.

Дзярэча ўсміхнуўся — які начальнік упраўлення святы, ён ведаў.

— Аўтаінспекцыя? Дзярэча звоніць. Лаўлю, лаўлю... Такі нумар, падкажэце, у каго ў нас на «козліку»... Дзевятнаццаць-пятнаццаць... Я пачакаю.

Старшыня паляўнічага калектыву акуратна зграб, склаў у стос паперы на стале адною рукою, укінуў у шуфляду стала, замкнуў яго.

— Слухаю, слухаю. Няма ў нас такога нумара? Дзевятнаццаць-трынаццаць ёсць? Ведаю, у Цыганкова. А дзевятнаццаць-пятнаццаць няма ў раёне? Добра. Будзьце.

Дзярэча стомлена, спакойна, быццам наперад ведаў, што і павінна так быць, устаў з-за стала і, ужо стоячы, яшчэ раз набраў тэлефонны нумар.

— Прыёмная? А Пятра Іванавіча можна? Дзярэча звоніць. К канцу дня толькі? Я вас папрашу, перадайце яму, што я праверыў тое, што ён мяне прасіў. Запішыце — машыны з такім нумарам у нас у раёне няма. А мы возьмем пад кантроль Альховыя Крыніцы. Калі ласка. Усяго вам добрага.

Ён паклаў трубку, пастаяў, нібы абапіраўся на яе, стомлена і задаволена ўсміхнуўся: дзень быў сёння ўдалы, накрылі браканьераў, якія надакучылі на Заганавіцкім возеры. Ён стаміўся за дзень і хацеў есці, як здаровы

мужчына пасля немалое, але добра зробленае работы. Старшыня надзеў балонневы плашч, шэрую летнюю шапку і падаўся дадому.

Дзямідчык пяшком дабіраўся да вакзала. Па дарозе зайшоў у сталоўку, выпіў піва, а потым падумаў, што ўдалася паездка, купіў і выпіў бутэльку «Белага моцнага». Ад гэтага яшчэ прыветнейшым здаўся асенні зажураны і затуманены дзень, на які плакаліся вялікія вокны магазінаў, прывяла, мокра ляжала на тратуарах пачарнелае лісце. Дзень быў мяккі, лагодны, пад Сцяпанаў цяперашні настрой. Яму нават пагаварыць хацелася, расказаць каму, што гэтак добра з'ездзілася. Дома, на гаспадарцы, вечна работа, ад яе ніколі нікуды не дзенешся. Гэта ўсе ведаюць. А такую работу, як зрабіў ён, не кожны зробіць. Вось так узяў і пайшоў да начальства, а цяпер хай паспрабуе хто сунуцца ў поле. І яшчэ яму хацелася расказаць, што начальнік гэты — сын тае жанчыны, якую ён некалі любіў, якую праводзіў некалі з вечарынак і з якою нават цалаваўся. І яна была самая прыгожая і самая лепшая ў свеце. І яшчэ ён мог сказаць, што яму і цяпер баліць і што недзе не памерла ў грудзях злосць на Яновіча, які перайшоў яму, Дзямідчыку, дарогу, але ён не мог гэтага сказаць і не хацеў сам сабе ў тым прызнацца, бо Яновіча ўжо няма на свеце, а тым, хто памёр, нельга ні зайздросціць, ні злавацца на іх.

Гэтак лёгка і весела ішоў ён у вільготны, нізенькі рахманы асенні дзень, які, здавалася, вось-вось гатоў замружыцца, расплакацца лёгкаю імжою. Ішоў і адчуваў сябе молада, здарова, усміхаўся сам сабе і сам гаварыў добрыя словы, бо быў ужо стары чалавек і жыццё навучыла яго не гаварыць услых тое, што ўспамінаецца ці думаецца сам-насам, бо людзі не зразумеюць, а потым яшчэ і пасмяюцца, і ад гэтага надоўга ў душы застанецца жыць боль.

Нават тое, што дзяжурная вакзала спачатку дурыла людзям галовы, гаварыла, што аўтобус спазняецца, а потым, калі пачало цямнець, аб'явіла, што аўтобус паламаўся, з гаража не выйшаў і, такім чынам, сёння яго не будзе, можна здаваць білеты, не сапсавала Сцяпану настрой. Вохкалі і клялі яе бабы, потым рассыпаліся ў горад — хто начаваць да радні ці знаёмых, хто галасаваць на спадарожную, якіх не надта ўжо і будзе на ноч.

Выпітае віно крыху выветрылася, і весялосці і лёгкасці разам з ім таксама ўбыло. Смярдзела ад чыгункі мазутам, едкаватым дымам, і Дзямідчыку захацелася выйсці з гэтага тлуму, хай і невялікага, але гарадскога тлуму, захацелася

ў поле, дзе пахне мокраю асенняю зямлёю, выбранаю бульбаю, бурачнікам, мокраю травою і адсырэлым бадылём цыкорыі, быльнягу, лебяды на межах і абочынах палявое дарогі.

Ён пастаяў, пачакаў аўтобуса, каб выехаць за горад, і там, на абочыне, знайшоў палку, пачапіў на яе сумку, у якой быў заказаны жонкаю алей і накупляна смачнага гарадскога свежага хлеба, ускінуў сумку за плечы, выкіраваў на дарогу — хвала богу, дарога-сыпанка, сухая, ісці можна. Некалі і без дарогі хадзілі, па гразі, цяпер распанелі.

Гэтым ён супакойваў сам сябе і стараўся не думаць, што калі ісці, то папапойдзе, як не кажы, дарога няблізкая.

Калі ззаду выбліснула на дарозе святло, Дзямідчык спыніўся, з надзеяй азірнуўся і пачакаў, пакуль машына пад'едзе, нават і рукою махнуў. Машына напорыста шуганула міма і толькі, калі прамінула яго, усё роўна як раздумала, затармазіла, зырка бліснула чырвонымі агнямі.

Дзямідчык падбег, прычыніў дзверцы. З машыны дыхнула цяплом, у ёй было светла, як у хаце, пахла цыгарэтным дымам. За рулём сядзеў малады, без шапкі, з акуратна расчэсанымі валасамі шафёр. І твар яго быў малады, і сам ён здаўся яшчэ зусім хлапчуком. І гэтакім жа чыстым голасам добра ўсміхнуўся, нічога не папытаўся, сказаў: «Садзіся, дздзька, весялей будзе».

Дзямідчык спачатку ўвапхнуў сумку, паставіў і кій, потым і сам умасціўся на сядзенне.

Шафёр увесь час паблажліва, з усмешкаю глядзеў на дзядзьку. І толькі тады, як машына кранулася, азірнуўся цераз плячо і папытаў:

— І куды, дзядзька, паедзем?

— Мне да Альховых Крыніц...

— А мне к цешчы на аладкі.

— Якія ж на ноч аладкі?

— На ноч будзе і скварка, і чарка, а на раніцу і аладкі.

— Хіба што так, а то б чаго гэтак перціся.

Дзямідчыка страсянула на яме, і ён аж ікнуў ад нечаканасці.

— А ты, дзядзька, у газету не пішаш?

— Адкуль ты ўзяў?

— Ведаеш, што каму рабіць трэба.

Шафёр круцянуў руль, аб'язджаючы выбоіну, потым у другі бок, ад абочыны да абочыны. І машына неяк лёгка слухала яго, калі ён коратка паварочваў баранку, усё роўна

як плячом — то адным, то другім — піхаў машыну на абочыну. Пакуль шафёр выкручваўся на дарозе, Дзямідчык прыглядаўся да яго, а потым праз лабавое шкло і на дарогу. Святло ад машыны кідалася ў ноч двума замглёнымі вільгаццю слупамі і быццам разляталася на дробненькія кропелькі, на туман. Гравійка тут, дзе насып амаль раўняўся з полем, была выбіта грузавымі за восень у крутыя, мяккія пад коламі хвалі-выбоіны.

Але як толькі пайшла раўнейшая дарога, шафёр зноў азірнуўся на Дзямідчыка.

— Дык, кажаш, дзядзька, спяшаеш да цёткі на цёплыя ногі?

Дзямідчык зразумеў, што шафёру не маўчалася, што яму хацелася гварыць. Мабыць, начальнік у яго вялікі і сур'ёзны, што цэлы дзень маўчаць даводзіцца. Дзямідчык і адказаў у лад шафёру, насмешліва:

— Я свае аладкі ўжэ даўно паеў і ногі цётчыны адагрэў. Мне б пасля дня да ложка дабрацца. Гэта ты аж са скуры, на ноч гледзячы, да тых ног лужашся.

— Дзе там, дзядзька, і ног тых не захочаш. Заснуць не ўспееш, нацямочку назад трэба ехаць.

— А хіба ты не ў горадзе жывеш?

— Жыў, пакуль жонцы дзіця не зрабіў. А тады мне во такі дзядзька, у каго я жыў, і кажа: не высыпаемся мы з цёткаю, дзіця нам мяшае...

— То хай бы табе твой начальнік памог ужо якую ў горадзе кватэрку агораць.

— Начальнікаў многа, а кварцір мала, дзядзька.

— Не, мой у Мінску, неяк пашанцавала, скора палучыў.

— Каму, дзядзька, шанцуе, той і ўвесь век свой танцуе.

— Яно і праўда. Адзін увесь век сяк-так наўскасяк, а другі не толькі танцуе, але і прыпявае.

Дзямідчык асвоіўся і сагрэўся. За вокнамі машыны прабягалі цёмныя, глухія, зрэдку пазначаныя кропелькамі электрычных лямпачак, асеннія вёскі, і цёмным балахонам ахінала іх восеньская сумота і цішыня. А тут, у машыне, роўна гуў матор, гэта ад яго ішло ў кабіну цяпло.

— Ну што, дзядзька, мне направа, вам налева.

Шафёр збавіў хуткасць. Наперадзе была развілка і чорная палявая ноч. Не хацелася выходзіць у яе з гэтае ўтульнасці і цеплыні.

— А можа, падвязеш мяне, хлопец, а то я колькі паўзці буду, а табе мінут дзесяць, не больш? Я і заплачу табе.

— Бач, зрабі чалавеку добра, яму яшчэ лепш захочацца. Як таму мядзведзю, дай пакласці лапу, ён і сам узлезе.
— А што табе, грошы лішнія будуць? Я і чарку пастаўлю.
— Свая ці з магазіна?
— Ёсць і такая і такая.
— Хлебная?
— Хлебная.
— Э-э, заробіш, дзядзька, на табе, як Заблоцкі на мыле.
Шафёр пераключыў хуткасць, і зноў напорыста загуў матор.
На развілцы ён павярнуў налева, і Сцяпану падумалася, што трэба будзе яшчэ нечым аддзячыць хлопца.
— У мяне цяпер штрыфель, як мёд.
— А мёду няма?
— Не.
— Яблыкамі і мая цешча свіней корміць.
Машына ішла лёгка, быццам па дарозе гэтай шафёр кожнага дня ездзіў. Ён, не пытаючыся, звярнуў і з гравійкі туды, дзе здалёку была відна адзінокая лямпачка над кароўнікам і ўжо не свяцілася ніводнага акна на ўсю вёску.
І святло машыны на вуліцы, і матор яе, здалося, пабудзіць усю вёску. Шафёр ля хаты Дзямідчыка круцянуў руль, завярнуўся і затармазіў амаль ля самых варот.
— Вылазь, дзядзька, як міністра, цябе да парога давёз.
Дзямідчык зашавяліўся, палез у кішэню па грошы.
— Не трэба, дзядзька, грошы. Дзякуй скажы, і добра будзе.
— Як гэта цяпер — скажы дзякуй і будзь здароў. Другі раз і затармазіць паленуешся. Зайдзі хоць на чарку.
— Калі не шкадуеш, дзядзька, бутэльку свае дай, тады я табе дзякуй скажу.
— Можа, у хату зойдзем?
— Не, дзядзька, не. Мне ехаць трэба, а то спазнюся, то яшчэ жонка да суседа збегае.
Сцяпан прынёс шафёру бутэльку і яблык наклаў у кішэню самых наліўных.
Той адкаркаваў бутэльку, добра пацягнуў, моцна ляпнуў па корку:
— Маладзец, дзядзька, гарэлка добрая.
— А ты не баішся за рулём?
— За маім рулём, дзядзька, можна і паўзатора выпіць, абы толькі пасля гэтага ехаць мог. Будзь здароў, дзядзька!
— Заходзь да мяне, як будзеш у нас.

Дзямідчык яшчэ пастаяў на двары, прыслухоўваўся да мокрае і глухое ночы, да вёскі, якая не абзывалася ніводным гукам, правёў вачамі машыну, што прывезла яго ў гэтую цемру і цішыню і знікала двума, як ваўчыныя вочы, агеньчыкамі. Як толькі яны прапалі з вачэй, пайшоў у хату і Сцяпан.

## XIV

Мішка газаваў, як толькі можна было па гравійцы — вакол машыны плыла цёмная восеньская ноч. Невядома, чаму ён павёз гэтага старога — нібы не было чаго рабіць. Але цяпер не каяўся. Прыемна адчуваць, што ты ўсё можаш. Ён любіў прыязджаць да цесця з горада, з цеснага пакойчыка ў старой, прапахлай мышамі драўлянае хаты, дзе яны кватаравалі з Аксанаю. У цесця ўсё было дагледжана, усё зроблена, выфарбавана ў хаце, даведзена да парадку на двары. У цесця заўсёды было часу пасядзець за сталом, выпіць чарку. Дома вечна спяшалася на свой кароўнік маці, вечарам прыходзіў на падпітку з работы бацька, і яны пачыналі сварыцца між сабою. Колькі памятае сябе Мішка Пракаповіч, гэтак было ў іхняй хаце. Бацькі старэлі, але лад не мяняўся, і Мішка прывык да такога жыцця, нібы так і патрэбна было... Цяпер міжволі не надта спяшаўся заязджаць дадому. Ды і выйшла яно неяк само сабою так, што пасля арміі дачка гадавалася ў цесця і цешчы, а таму і яму выпадала прыязджаць туды, ды і грошы на кааператыўную былі цесцевы. Хутка атрымае сваю кватэру, пераселіцца, і тады не трэба будзе амаль кожнага тыдня бываць у цесця. Там, у горадзе, не дастануць Мішку хітравата прыжмураныя цесцевы вочы, якія ўсё ведаюць і ўсё бачаць. Цесць умее неяк непрыкметна паставіць усё так, што Мішка, хацеў ці не хацеў, рабіў па цесцевай указцы. Цяпер Мішка ведаў, што гэта цесць ажаніў яго на Аксане.

Мішка сцепануў плячамі, ямчэй сеў на сядзенні, мацней узяўся за баранку, націснуў нагою на педаль газу, як зліўся ў адно з машынаю...

*...Збіралі вучняў па вёсках раніцаю. Было цёмна, мокра, як заўсёды перад замаразкамі. Мішка і цяпер, калі ўспамінае пра тое, не ведае, што пацягнула яго пасунуцца на лаўцы і паклікаць Аксану да сябе:*

*— Ідзі сюды. Тут месца ёсць...*

*Лаўка была пры самай кабіне, да пярэдняга борта можна было прытуліцца плячамі.*

*Ехалі да Ленінграда цэлымі днямі, прыхватваючы вечары і досвіткі. З дарогі сама больш запомніліся світанні — густыя, асеннія, з нечакана суровым фіялетавым водсветам на небе, які клаўся таксама і на бліскучую чорную стужку шашы. У памяці назаўсёды засталася тая дарога і цёплае, даверлівае Аксаніна дыханне на плячы ў яго. Хацелася, каб яна даўжэй спала і каб даўжэй чуць цяпло яе шчакі.*

*Пацалаваў ён Аксану, калі дарога канчалася, ужо ў Ленінградзе. Пацалаваў, сам баючыся да адчаю, што больш ніколі не будзе так блізка да яе.*

*Пасялілі іх на Кіраўскім базары, у калгаснай гасцініцы, чыстай, барачнага тыпу будыніне.*

*З гадамі ў памяці сцерлася вастрыня ўражання ад вялікага горада, але запомнілася, што ён купіў вінаграду, яблык, цукерак. Яны з Аксанаю не пайшлі ў горад, засталіся ў пакоі, замкнуліся, елі вінаград і цалаваліся да знямогі.*

*Запомнілася, як і вярнуліся з тае школьнае экскурсіі. Ноч была месячная, высокая. Бялела зямля, качаўся па ёй у клубах дарожнага пылу марозны, калючы вецер, перабягала цераз дарогу насохлае калянае лісце.*

*Ён вылез у канцы вёскі. Не свяцілася ніводнае акно ў хатах, толькі месячнае святло плыло над стрэхамі, па сценах хат, толькі белая вымаражаная вуліца, калючы зазімкавы вецер, цішыня.*

*У іх дома гарэла святло, чутны былі галасы. Ён здагадаўся, што бацька зноў п'яны, што дома сварацца.*

*Ён не заходзіў у хату — упершыню за ўсё сваё жыццё адчуў, што не хочацца дадому, як стрэмка, кальнула душу вострае жаданне — каб хутчэй пакінуць усё тут, каб толькі ў іншы свет.*

*Назаўтра вечарам ён пакурэў на веласіпедзе ў Аксаніну вёску. З таго і пачаліся іхнія школьныя сустрэчы...*

Гравійка была перакапана — яшчэ з самага лета пачалі падсыпаць яе. На палавіну дарогі нассыпалі з самазвалаў пяску, потым рассунулі, разраўнялі бульдозерамі. Няўкатаная коламі дарога пасля восеньскіх дажджоў размокла, разбілася ў глыбокія каляіны.

Машына цяжка ішла па пяску, аж падвывала маторам. Мішка ехаў спакойна: ведаў, што машына выедзе — пакуль што яна ішла толькі на заднім мосце, пярэдняга ён не ўключаў.

Цяпер ён усё роўна як здалёку бачыў таго хлапчука-школьніка, з тымі яго наіўнымі жаданнямі і спадзяваннямі нешта памяняць у сваім жыцці. Таму і паехаў паступаць — а паехаў таму, што ўсе ехалі, што некуды трэба было пасля школы ехаць паступаць, такая завядзёнка была не першы год,— паехаў у ветэрынарны інстытут і не паступіў, пасля тройкі на першым экзамене з палёгкаю вярнуўся дадому. На наступны год вясною яго забралі служыць у армію.

*...Аксана не ездзіла паступаць ні ў якія інстытуты — яна паступіла ў медыцынскае вучылішча, там працавала нейкая сваячка Аляксандра. На выхадныя прыязджала дадому, а Пракаповіч да яе — ён сеў у калгасе на старшынёўскага «козліка». Ездзіў як сталы кавалер, машына аставалася пры варотах Аксанінай хаты, а на выхадныя заходзіў вечарам і ў хату, вячэралі разам з будучым цесцем і выпівалі чарку.*

*Яму па душы была такая самастойнасць і павага да сябе, ды і Аксана прывыкла да яго і давярала зусім.*

*Пад вясну ўжо аднаго вечара ён вярнуўся дадому крыху раней, чым звычайна — збіраўся ехаць да Аксаны.*

*У хаце чуліся галасы, ярка гарэла святло. За сталом у большым пакоі сядзеў ужо добра на падпітку бацька, маці падавала з веранды на стол спечаную на патэльні каўбасу.*

*Аксанін бацька, паголены, чырвоны, чысты з твару, у белай сарочцы, зашпіленай на ўсе гузікі, у суконным шарсцяным цёмна-сінім двухбортным пінжаку, як рыжык, моцна сядзеў за сталом. І па тым, як сядзеў ён, і як гаварыў, і нават як закусваў, чутно і відно было, што ён не абы-хто і што без павагі да яго тут ніяк нельга.*

*— А, і ты лёгкі на паміне! Ну давай, давай сюды! — бацька перастаў абдымаць госця, махнуў рукою Мішку.*

*Аксанін бацька мякка, але настойліва супакоіў яго, пасадзіў на месца, прыветна ўсміхнуўся Мішку.*

*— Сядай за стол, Міша. Я вот прыехаў, у госці завярнуў,— ён сам наліў Мішку чарку.*

*— Ты ў мяне глядзі, я, калі што якое! — парываўся нешта сказаць Мішку бацька, але госць зноў супакоіў яго, падклаў на талерку агурок.*

*Маці толькі снавала ля стала, дакорліва паглядзела на Мішку.*

*Толькі пасля трэцяе чаркі, калі Мішка зусім зразумеў, што Аксанін бацька тут не проста так, сам ён і сказаў:*

*— Тут такое дзела, Міхаіл. Я думаў, Аксана табе сказала і ты дома перагаварыў, а можа, і не адважыўся. Дзела маладое,— ён па-свойску падміргнуў Мішку.— Ну вот, я думаю, заеду і заадно са сватамі дагаворымся, калі што і як зладзім. А то ж нягожа, табе ў армію, дзеўка дзіця родзіць незамужняю.*

*— Вы пра каго? — па-дурному вырвалася ў Мішкі, і ён не заўважыў, як само сабою ўзяў на відэлец кавалак мяса з госцевае талеркі.*

*— Ну, ты ж сам памятаеш... Гм, адным словам, мы тут з тваімі бацькамі пагаварылі і рашылі, што другое рады вам няма, як ажаніцца. Я ж думаў, ты не проціў, Аксана не проціў, а мы ўжо са сватам музыку ноймем, гарэлкі выжанам,— Мікалай весела прыабняў, паляпаў па плячах Мішкавага бацьку.*

*— Сынок, мы ж Мікалая ведаем, тут трэба толькі па совесці,— умяшалася ў гаворку маці.— Гулялі разам, тваё дзіця будзе, што ж тут гаварыць.*

*— Давай, зяцёк, яшчэ па кроплі, ды мо падвязеш мяне дадому, а то я ўжэ п'яны сёння, што і не дайду.*

*Вочы цесцевы былі прыжмураны. Мішка цяпер ужо ведае, што цесць ніколі такі п'яны не бывае, каб не магчы ці не помніць таго, што яму трэба.*

*Ён завёз будучага цесця дадому, таксама падпіты і вясёлы. Вечарам лашчыў Аксану і мілаваў, як ніколі, застаўся ў яе да раніцы, бо Мікалай загадаў паслаць ім пасцель у другой хаце...*

Вяселле яны згулялі перад маем. Аксана так і не нарадзіла, пакуль ён быў у арміі. Дачка нарадзілася пасля таго, як ён вярнуўся. Цяпер, калі многае дала армія, калі сам пасталеў і на многае глядзіцца па-іншаму, Пракаповіч ведае, чаму тады цесць справіў ім вяселле.

Пракаповіч уляцеў у вёску, як мог уехаць на машыне толькі ён — каб можна было пазнаць каму хочаш і здалёку, круцянуў да цесцевых варотаў, затармазіў перад самымі імі, выйшаў з машыны, каб адчыніць і паставіць на двор.

Цесць ужо ішоў насустрач — у расшпіленай куфайцы, у кірзавых ботах, халодны і здаровы з марозу, падаў руку, прывітаўся:

— Даўгавата ты недзе быў сёння... Я думаў, мы паедзем, бурачніку з поля прывязём.

— А, старога нейкага з Альховых Крыніц па дарозе падабраў. Падвёз.

— Чаго гэта гарэлкаю ад цябе прэ?

— Гэта ён мне бутэльку вынес, а папробаваў — як спірт.

— Ну, заганяйце гэту машыну на двор, хваціць вам там гаварыць. Толькі ціха, бо малая заснула. Не дачакалася бацьку,— з парога загаварыла цешча.— Аксана не прыехала?

— Не, яе ж у калгас на тры дні паслалі... Заўтра зранку паедуць.

— Дак, можа, праедзем на поле? — спытаў цесць.

— Але на машыне, яшчэ хто што скажа...— не ўтрывала цешча.

— Ну і што? На маёй машыне ніхто тут не зачэпіць. Толькі вазьміце цэлафану, каб задняе сядзенне закрыць, накідаем туды.

— То дай яму, Надзя, мой брызентавы плашч. І пакуль мы закруцімся туды, нам напячы трохі чаго.

Цесць хутка затупаў пад паветку, прынёс скрутак поліэтылену, якім накрываюць сіласныя бурты.

У яго ўсё было, усё ляжала так, што зразу і ўзяць можна было.

Калі праязджалі паўз брыгадны клуб, які свяціўся агнямі, Мішка папытаўся:

— А што, студэнты яшчэ тут?

— Не, паехалі. Рабочых прыслалі на буракі і на сілас. Але спрэс маладыя і весялейшыя за студэнтаў. Кожны вечар танцы, а адзін фокусы паказвае, дальбог, лепш, чым у тэлевізары. І я хадзіў глядзець, і Надзя. Спраўныя хлопцы і дзяўчаты.

К канцу дня на цесцевым твары выступіла густое, як шэрань, шчаціннe і пры святле лямпачкі прыборнага шчытка адсвечвала чырванаватым водсветам.

Па раллі пад'ехалі да куч бурачніку. Ля большае з ім Мішка спыніў машыну.

— Свет патушы, нашто, каб здалёку відно было,— сказаў цесць.

— Цёмна ж будзе.

— Нічога, вочы прывыкнуць скора. Яшчэ не так глуха, як здаецца.

Цесць рассцілаў на задняе сядзенне цэлафанавую плёнку.

Вочы і сапраўды прывыклі да цемры, і яна не здавалася такою глухою, як з машыны, пры ўключаным святле фар.

— Адчыні мне багажнік, а ты бяры, акуратна збірай з гэтае кучы бурачнік.

Пракаповіч у бярэма браў вільготны, лапушысты бурачнік, клаў яго парадкам на задняе сядзенне, так, каб улезла больш. Бурачнік быў адабраны самы вялікі, самы лапушысты.

Цесць патрашыў малыя, непрыкметныя кучкі, і па тым, як у багажніку глуха грукала, Пракаповіч дагадаўся, што там і не пахне бурачнікам, што цесць загружае буракі. Ды пра гэта ён змікіціў адразу, як загаварыў цесць пра бурачнік — цесцеву натуру зяць успеў вывучыць: ён нічога свайго не ўпусціць, возьме колькі трэба, і гэтую хватку яго ён пачаў пераймаць і пераканаўся, што то навука патрэбная, а так не меў бы ні цяперашняе работы, ні кватэры кааператыўнае, якая хутка будзе...

Калі селі ў машыну, цесць крахтануў, папрасіў:

— Правядзі светам там, дзе я браў.

І пакуль Пракаповіч пасвяціў яму, прыбраў пакінутыя на зямлі буракі, акуратна склаў кучкі бацвіння і ў машыне задаволена сказаў:

— Паехалі, але свету далёка не ўключай.

Пракаповіч ухмыльнуўся.

Пакуль дома Пракаповіч складаў у кучу бурачнік, цесць перанёс прывезеныя буракі ў пограб, там, дзе былі ссыпаныя і са свайго агарода.

У хаце ўжо стаяла на стале вячэра. Пад яе выпілі прывезеную Мішкам бутэльку, і пасля гэтага ён яшчэ сабраўся да суседа, трактарыста Віцькі, з ім падаліся ў клуб да рабочых. Там танцавалі да дванаццаці гадзін і з танцаў праводзілі Зінку і Аньку, якія кватаравалі ў Віцькі. Зінка засталася з Віцькам, Анька не надта супраціўлялася Пракаповічу — дзяўчатам было па дваццаць пяць і на жыццё яны глядзелі проста.

Назаўтра раніцаю, калі Пракаповіч ад'язджаў, цесць падняўся яго праводзіць, адчыніў машыну, паглядзеў, ці чыста ў машыне, ці не насмецілі бурачнікам.

— Ты во што, Міша, гэтыя дні пакуль што не прыязджай. Старой скажуць, каго і чаго ты тут вадзіў. Пра Віцьку трубяць. Да Аксаны дойдзе — бяда будзе.

Ён па-свойску махнуў рукою.

Мішка нічога не адказаў. Яму хацелася аблаяць цесця — цяпер Пракаповіч ведаў, што гэта цесцева цыгарэта

свяцілася над плотам, калі яны вярталіся з жанчынамі з клуба.

Прыехаць да цесця ён так і не адважыўся. Цераз два дні сабраўся і паехаў вечарам у поле паганяць зайцоў — каб назбіраць за восень шкурак і пашыць дачцэ шубку.

## XV

Яна жыла адна ў не старым, яшчэ моцным доме, у ціхім садзе, які асыпаўся лістам на зіму. Яна не прыбірала цяпер у ім, на градах, дзе раслі кветкі. Пад дажджамі чарнелася мокрае бадыллё.

Канчалася жыццё гэтага дома, гэтае вуліцы — ад першых хат ужо не асталося і следу, там насыпалі кучы гравію. Дамы ўжо прадалі і знеслі. Прыехалі, разабралі і вывезлі. Старую таксама знайшлі пакупнікі, старгавалі дом.

Ёй здавалася, што з жыццём гэтага дома канчаецца і яе жыццё. Яна не хварэла, ёй яшчэ можна было жыць па старасці, яе адчуванне, што разам з домам канчаецца і яе жыццё, не пакідала старую. Яна прыбрала ў хаце, усё акуратна расклала, прывяла да ладу. Каб усё было гатова. Яна сама не магла зразумець гэтага слова гатова. Але яно здавалася ёй такім вялікім, бяздонным, у якім яна прападзе, растворыцца без следу.

Яна чакала, калі прыедзе сын. Ён напісаў ёй, што адпачывае на курорце і па дарозе дадому заедзе да яе. Сын быў самы блізкі чалавек, але яго яна бачыла рэдка.

Дачка была нібы нейкая чужэйшая. Яна паступіла — бацька добра дапамог — вучыцца ў інстытут, аднак пакінула вучобу з другога курса. Адлічылі яе за тое, што была двоечніца. Вярнулася дадому радасная, год хадзіла на работу ў бібліятэку, пакуль нечакана не выйшла замуж за ваеннага, і цяпер прысылае віншавальныя паштоўкі і рэдкія пісьмы з Далёкага Усходу.

Дзіўна было, што ў адным з пісьмаў яна скардзілася маці на сваю дачку, якая лянуецца, не хоча вучыцца, што ў галаве ў яе адно толькі строі і танцы. Старая здзівілася, бо так некалі яна крыўдзілася на яе, на сваю Іру. Можа, ад гэтага пачынала здавацца, што яна жыве так даўно, што ўжо і не жыве, а толькі ўспамінае пражытае жыццё.

Цяпер ад таго, што раскідалі хату, якую яны пабудавалі разам з мужам — ён быў старэйшы за яе аж на дзесяць гадоў,— а можа, ад усяго пражытага ў жыцці, ёй здавала-

ся, што яна такая старэнькая, якая стаіць на самым краёчку жыцця.

Ёй не хацелася пакідаць нажытае месца. Яна баялася пераязджаць у шматпавярховы дом, жыць там у кватэры. Яна баялася яе халодных сцен, яе вышыні над зямлёю.

Цяпер яна чакала ў госці сына, і гэта была адзіная радасць, да якое яна гатавалася. Яна думала, чым будзе частаваць яго, дзе пакладзе спаць. Ёй хацелася, каб, перад тым як прыйдуць раскідаць хату, у ёй пабыў сын, пераначаваў на сваім месцы, там, дзе некалі стаяў маленькі ложак, дзе потым ён спаў, дарослы ўжо. Пасля таго як старгавалі, ёй здавалася, што хата стала халодная, мёртвая, і ёй хацелася сагрэцца.

У госці да яе прыходзіла адна толькі Вера, Вера Васільеўна, як звала яе Алена. Таму што Вера Васільеўна была некалі настаўніца, і настаўнікаў прывыкаюць так зваць.

Вера Васільеўна дрэнна бачыла нават у сваіх акулярах з тоўстым шклом, таму здавалася разгубленаю і бездапаможнаю, як вінаватаю ўсё роўна. Яна была старэйшая за Алену, але называла,— зноў жа, мабыць, гэта настаўніцкая прывычка — Аленай Міхайлаўнай. Яна так і не выйшла замуж, пражыла ўсё жыццё адна, вучыла чужых дзяцей, і яны толькі часам заязджалі ў госці, і тады Вера Васільеўна расказвала, хвалілася ўсім Федзькам, які цяпер інжынерам на заводзе, хвалілася, як хваляцца сваім дзіцем. І калі слухала гэта Алена, ёй шкада рабілася Веру Васільеўну.

Перад вайною Вера Васільеўна кончыла настаўніцкае вучылішча, пражыла вайну ў вёсцы, а пасля вайны там жа і настаўнічала, пакуль не перабралася ў райцэнтр. Тут яна дарабіла да пенсіі, тут яна і дажывае адзінока свой век — радні ў яе амаль не асталося, толькі на радзіме, гаварыла, жыве яшчэ старэйшая сястра.

Вера Васільеўна вучыла Пятра і радавалася яму гэтак жа, як і Алена.

Цяпер яны абедзве чакалі, пакуль прыедзе Пятро. З тым, што ён прыедзе, нібы звязвалася нейкае спадзяванне, хаця невядома, на што можна было і трэба было спадзявацца.

*Яе прывялі назаўтра раніцаю ў штаб атрада пасля таго, як яна перапаўзла па лёдзе рэчку з малым і цэлую ноч блудзіла ў балоце. Яна ўжо перастала баяцца, бо*

*здавалася, што жаху не будзе канца. Самае страшнае, што яна ўжо палохалася і сваіх — у кожным цяпер здаваўся ёй той дзядзька, які хацеў, каб яна кінула, утапіла дзіця. Потым ёй здавалася, што і Сцяпан хацеў застрэліць яе. Яна пазнала яго і бачыла, што ён пазнаў яе і таму са злосці хацеў застрэліць. Як пачалі біць з танкаў па рэчцы, яна пабегла, каб уцячы і ад яго. Бог ведае, як змагла яна выбрацца з балота — ужо не чула ні рук, ні ног, ні цела, і самае страшнае, здавалася, што і малое, якое яна затульвала кажушком, таксама зледзянела. Яна нікому не аддавала малога, ніхто не мог адабраць яго ў яе. Яе так пад рукі і прывялі ў хату, дзе быў штаб атрада.*

*Яна не паверыла вачам — за сталом, прываліўшыся плячамі да сцяны, у расшпіленым кажушку спаў Іван. Ёй здалося, што твар у яго чорны — можа, так падаў цень ад лямпы. Але і праз многа гадоў, калі яна ўспамінае, памятае, што твар у яго быў чорны, праваліліся глыбока вочы.*

*Ардынарац паварушыў яго за плячо, ён цяжка падняў галаў, паглядзеў невідушчымі вачамі, чаго яго будзяць, хрыпла прагаварыў:*

*— Дапытаць і далажыць.*

*Ёй здалося, што зямля перакруцілася, і яна паляцела ў нейкую прорву, нема закрычала.*

*Ачнулася яна раніцаю ў цёплай пасцелі, спалохана лопнула рукою поруч — цёплы пакуначак з дзіцем быў поруч.*

*Ля ложка сядзеў Іван. Твар яго быў змучаны, але ўжо не чорны.*

*— Дзе ж ты была? Як ты? — Яна не магла нічога сказаць, толькі заплакала, гледзячы на мужа і туляны да сябе дзіця, быццам і цяпер нехта хацеў адабраць яго ў яе.*

*— Госпадзі, Іван, што я перажыла! Каб ты ведаў, што я перажыла!*

*Яна абхваціла яго за шыю, прытуліла да сябе і плакала. Ён маўчаў. Яна адпусціла яго, і ён, здаецца, з палёгкаю выпрастаўся.*

*— Будзеш тут. Цябе дагледзяць. У мяне трэць атрада асталося і амаль няма патронаў. Блакада... У лесе бабы і дзеці.*

*Яна здагадалася — ён зараз пойдзе. Яна думала, што ўсё кончылася, але толькі цяпер зразумела, што ён зараз пойдзе і яна астанецца зноў адна.*

*— Я цябе знайду сам пасля блакады. Ты тут нічога не бойся.*

*Ён устаў, ссутула і згорблена. Яна глядзела на яго і цяпер толькі бачыла, які ён стары, намнога старэйшы за яе. І яшчэ падумала, што ён непрыгожы, што ён, як воран, ссутулены і што яна не любіць, нават ненавідзіць яго. Але цяпер яна нічога не баіцца, сама выжыве, уратуе малога.*

*Муж выйшаў з хаты, не азірнуўся. Яна не заплакала.*

*Яна прастудзілася і доўга кашляла пасля тае блакады і тае ночы ў балоце. Сын застаўся жывы, здаровы, і яна радавалася гэтаму. Недзе праз тыдзень па яе прыехалі на падводзе і забралі ў лес, сказалі, што так загадаў камандзір, бо блакада кончылася.*

*Ён ляжаў у зямлянцы, не прыходзіў у сябе. Калі яна зайшла, нават не паверылася, што бачыла яго чорнага, як асмалка. Здалося, што яе прывезлі да мёртвага. Ён быў жывы, паранены, сцёк крывёю, але жывы. Павярнуў голаў на яе голас і паспрабаваў усміхнуцца.*

*Яна тады не адыходзіла ад яго некалькі сутак, пакуль не пайшло на папраўку. З лагера, дзе хаваліся людзі, яму насілі малако. Ёй расказвалі, што ён вадзіў немцаў вакол мірных лагераў кругавым боем. Калі атрад выбілі больш чым напалавіну, ён, каб не дапусціць карнікаў да жанчын і дзяцей, забраў у атрад старых і трынаццаці-чатырнаццацігадовых хлапчукоў, але бой не спыніў...*

*Калі пачаў папраўляцца, Іван папрасіў, каб яна прынесла паказала яму малога, і яна не ведае чаму, але заплакала — ад жалю да яго, да сябе самое, да свайго маленькага дзіцяці. Канчалася вайна, прайшла апошняя блакада. Яна яшчэ не ведала гэтага...*

*А як вайна пачыналася для яе?*

*Яны выйшлі паглядзець на акружэнцаў. Тыя пілі ля калодзежа. Іх было сем чалавек, маладых, з вінтоўкамі, з гранатамі. Дзівіла, што яны не хаваюцца, не просяць пераадзецца, а спакойна, усё роўна як знарок, каб на іх паглядзелі, не спяшаліся. Не спяшалі да іх і людзі — зводдаль прыглядаліся. Першыя ўсё ж падступіліся да акружэнцаў маладзейшыя, спачатку хлапчукі, а потым і яны, дзяўчаты.*

*— Ну што, беленькая, сваіх не пазнаеш? — чамусьці ў яе першае папытаў той, чарнявы, ладны, які — а гэта лёгка было пазнаць — быў у іх за камандзіра.*

*— Хто ведае цяпер, дзе свае, а дзе чужыя. А вы ж надта смелыя. Тут немцы ўчора былі.*

*Ёй чамусьці захацелася гаварыць з гэтым чарнявым, які так звысоку паглядзеў і на яе, і на старэйшых, якія пазіралі з двароў на акружэнцаў і не выходзілі. Перад гэтым толькі праехаліся па вёсках немцы і прачыталі свой суровы загад пра камуністаў.*

*— Ведаем. Сёння не даедуць,— ён усміхнуўся.— Сёння моста цераз рэчку няма. Як цябе завуць?*

*Яна адказала, але чамусьці не так, як звычайна звалі яе — Алена, Аленка, а назвалася на гарадскі лад — Лена.*

*— А я, Алена, як гавораць, рускі Іван. Іван Яновіч. Старшына сверхсрочнае службы.*

*Ён ступіў да яе:*

*— А цяпер, Алена, вядзі мяне дадому, я з бацькам тваім пагаварыць хачу. Пагарэлец, са мною,— кінуў ён салдатам, і на яго загад адазваўся пажылы ўжо чалавек.*

*— Бацькі ў мяне, Іван, няма,— паспрабавала яна праціві́цца ўжо на хаду.*

*— То маці ёсць. А ў нас, дзеўка, часу мала,— упэўнена растлумачыў ёй Іван.*

*Яна ўлавіла на сабе той яго позірк, якім глядзяць хлопцы на дзяўчат і які яна пачынала разумець, збянтэжылася, заспяшалася дадому.*

*Дзед быў на двары. Ён коратка паздароўкаўся з Іванам, як цераз сілу. І ёй чамусьці быццам і няёмка стала з-за яго.*

*— У нас, дзядзька, да вас патрэба невялікая — есці нам гляньце чаго. Не бойцеся, калі што, то скажаце, што мы сілаю ўзялі, мы ж з вінтоўкамі. Ну, і не ў аднаго толькі вас мы гэтак папросім.*

*Іван, здавалася Алене, усё злосна насміхаўся. Дзед нічога не сказаў — пайшоў у хату.*

*— А ты, Алена, так, прыглядайся... Хто тут што рабіць будзе. Хто за немцам, хто не... Мы з табою размінацца не будзем, калі нас ужо звяло.*

*Ён падміргнуў ёй, і ў яе тады аж затрапятала сэрца — і з-за яго просьбы, і з-за таго, што нутром адчула — нейкая страшная праўда ёсць у яго словах.*

*— Я аб'яўлюся. Калі хто будзе да цябе — так і скажы: той самы чарнявы камандзір заедзе, пагамоніць!*

*Ён падміргнуў, яна пачырванела, не знайшлася што і сказаць. Моўчкі, быццам гэтак толькі і трэба было, стаяў, слухаў іх Пагарэлец. Ён моўчкі забраў у дзеда закручаную ў чыстую анучку ежу, кіўнуў галавою, падзякаваў.*

*— Да сустрэчы,— кінуў Яновіч і па-начальніцку першы пайшоў з двара.*

*Яна разгублена глядзела ўслед, але як толькі яны выйшлі за вароты, дзед улупіў ёй добрага кухталя:*

*— Сунешся ўсюды наперад, маць тваю!..*

*Яновіч спраўдзіў сваё — прыехаў у самы зазімак, вечарам. Ужо тады хадзіла чутка пра партызан. Яшчэ ўлетку яны біліся з немцамі цэлага паўдня і напалілі машын, набілі салдат.*

*Ён быў усё гэтакі ж скоры, насмешлівы і нецярплівы — усё павінна было рабіцца па яго, не інакш. Пакуль гатавалі вячэру, ён адвёў яе на кухню, распытаўся пра людзей у вёсцы — хто да каго. І ў яе аж замірала сэрца — не ведала, што і гаварыць, усе людзі як людзі быццам...*

*Потым ён пачаў наязджаць часцей. І ўжо аставаўся з ёю ў сенцах падоўгу, і менш распытваўся, а больш ухажорыў, як і свае хлопцы на вячорках, а потым прывучыў і цалавацца.*

*Дзед папярэдзіў:*

*— Ты вот што з гэтым Іванам па цёмных кутках... А то прыстроіць — і шукай ветру ў полі. Больш ніякага толку ад вашага шу-шу-шу не будзе! Яму цяпер мора па калена, ён камандзір там.*

*Дзед амаль не памыліўся: зімою вечарам, калі пачалі вячэраць, Іван пасля першае чаркі коратка сказаў:*

*— Жаніцца мне трэба, дзед, з вашаю Ленаю.*

*Баба аж успляснула рукамі, загаласіла:*

*— А горачка, ці ж я табе не гаварыла!..*

*— Маўчы! — абсек яе дзед.— Ты вот што, Іван, там, у лесе, камандуй...*

*— А я не камандую, я гавару. Я з лесу сюды не наезджуся, у мяне там атрад... Ды і тут ужэ не адзін чалавек ведае, хто ў вас бывае... За гэта, калі што, па галоўцы нікога не пагладзяць.*

*— Я цябе сюды не зваў хадзіць.*

*— Зваў ці не зваў, не будзем пра гэта. Ты не думай, што так вайна скора кончыцца, што такой маладой дадуць адседзецца. Ты, дзед, падумай. А можа, ты ёю ад немцаў прыкрыцца хочаш? Што яна ад Саветаў пастрадала? Што бацька яе вораг народа? Ты, дзед, глядзі мне!*

*Іван устаў з-за стала, наліў яшчэ сабе ў шклянку, стоячы выпіў, кіўнуў:*

*— Пайшлі, Пагарэлец.*

*З парога непрыкметна чортам падміргнуў Алене.*

*Прыехаў дзён праз дзесяць. Зноў вячэралі, зноў ён сватаў Алену, але не так злосна, угаворваў, што там ёй будзе спакайней у лесе.*

*А пасля... І цяпер яшчэ расказваюць, мабыць, у вёсцы, як напалі на іхнюю хату паліцэйскія. Кінулі пад акно гранату. Пасыпалася шкло. Стрэлілі разоў некалькі. Іван, мацюкаючыся на старых, ускінуў на Алену свой паўшубак, вывалак на двор паўз хлявы, паўз вішняк, да каня. У яе аж замірала сэрца...*

*Там, у лесе, яны і пажаніліся. Ёй быў семнаццаты год.*

*Потым, цераз усё жыццё, яна колькі разоў пыталася: ці праўда былі тыя паліцаі, хто кінуў пад акно гранату? Ён толькі злавацца пачынаў, нават пад старасць.*

*А «паліцаяў» тых, ні жывых, ні мёртвых, ніхто тады ў вёсцы так і не бачыў. Сапраўдныя паліцаі прыехалі цераз паўтара года, калі ў яе ўжо было ў лесе дзіця, і забралі старых за тое, што яна жонка партызанскага камандзіра. Так іх і расстралялі пад Грэзкам у ямах...*

Ні сама Алена, ні Вера Васільеўна не ўпільнавалі, калі прыехаў Пятро. Ды яны і не чакалі, што ён так пад'едзе — на белай машыне. Нечакана белай, чыстай здалася машына на колішняй вуліцы, а цяпер будаўнічай пляцоўцы, якая зусім раскісла ад расталага восеньскага снегу. Не было дзе нават чамаданы паставіць, і шафёр адышоўся метраў за дзесяць, дзе ляжалі нечыя старыя варотцы, і паставіў на іх.

Алена бачыла з акна, як пыхнула дымам машына, забуксавала коламі і выхвацілася, выехала на тупчэйшае. Алена не магла знайсці сваіх гумавых ботаў. А сын тым часам шырока ступаў цераз гразь дадому.

Маці сустрэла яго на парозе, басанож, заплакала, прытуліўшыся да яго плашча, і ён лёгка ўнёс яе ў хату.

Пакуль ён вярнуўся на двор па чамаданы, Алена шчаслíва выцірала слёзы і ўгледзела боты, успомніла, што, чакаючы сына, знарок ставіла іх ля дзвярэй.

Вячэралі ўтраіх: прыйшла ў госці Вера Васільеўна. Удзвюх яны нарабілі дранікаў, Вера Васільеўна прынесла рыжыкаў, якіх ёй прывёз яе былы вучань, цяпер ляснічы. Яна ўсё называла Яновічу прозвішча, якое яму нічога не гаварыла. Ён ківаў галавою, што памятае, а як жа...

Ён адзеўся, выйшаў, каб паглядзець дом, але вакол было гэтулькі гразі, што ён спыніўся. Раптам здалося, што дом іхні і быў такі ж самы — стары, а вакол пуста, шэра,

няўтульна. Там, дзе аставалася светлая вуліца, на якой свежа і суха пахлі трэскі, расла трава, там стаяла і другая хата — прасторная, светлая. Там быў ён, зусім яшчэ малы, там была яго маці, маладзенькая...

З санаторыя Яновіч пазваніў, і яго сустрэў сакратар райкома. З ім яны паабедалі ў рэстаранчыку, з ім Яновіч дамовіўся, што пра пераезд маці тут паклапоцяцца хлопцы, каб не турбавацца яму. Заўтра зранку тая ж самая сакратарская «Волга» пад'едзе сюды, на былую Траўяную вуліцу, каб забраць Яновіча і завезці дадому, у свой гарадок — цераз дзень трэба быць на рабоце.

Пра тое, што ад'язджае заўтра, ён нічога не сказаў пакуль што маці — каб не псаваць ёй радасці.

— Пятро, а ты ведаеш, нас з Аленай Міхайлаўнай на адной пляцоўцы паселяць у доме... Гэта проста радасць. І таму, што мае вучні пра мяне помняць. Я іх пазабывала, а яны помняць.

Вера Васільеўна блізарука і шчаслівa глядзела на Яновіча.

— Вядома ж, вядома.

— Ой, а фужэры мы забылі працерці!

Яновіч ведаў, што Веру Васільеўну паселяць побач з маці: пра гэта таксама клапаціўся ён.

На стол маці паставіла бутэльку гарэлкі, збянтэжана сказала:

— Цяпер жа ўсе мужчыны яе п'юць. А мне цяпер частаваць іх трэба, калі што зрабіць.

І паглядзела на яго, як папыталася.

— І я п'ю. А з рыжыкамі — гэтак рэдка каму і сніцца выпіць.

Гаворачы гэта, Яновіч дастаў прывезенае з сабою з поўдня віно:

— А гэта вам... Каб мне больш гарэлкі было.

Ён і праўда выпіў са смакам і нейкаю палёгкаю, хоць гарэлку ўжо добры дзесятак гадоў абыходзіў, бярог здароўе.

Ён неяк няўтульна адчуваў сябе перад маці — за тое, што адна яна ў гэтым доме, на пустцы, а ў яго толькі дачка і жонка на цэлую кватэру. І яшчэ нібы крыўдзіла яго, што маці гаварыла і хадзіла, стараючыся дагадзіць, і гарэлку трымае для нейкага слесара і электрыка. Гэта яго маці, Яновіча.

— А я, Пятро, ні разу на поўдні не была. Ты была, Алена? Не. І я не... А ўжэ перад самаю маёй пенсіяй, калі са

школы пайшла, мае старшакласнікі пачалі ездзіць на поўдзень. Мода цяпер, мабыць.

Вера Васільеўна паглядзела на Яновіча, нібы пыталася — як яно там, тое мора, той поўдзень?

— Нічога, тыдняў два першых — нічога, пакуль адлежышся, а потым... Тады ўжэ пачынаеш успамінаць, што ў нас не горш, лепш.

— Я не пра цябе. Такім людзям, як ты, трэба і падлячыцца... Я пра маладых. Мода, усё мода. Як мы былі маладымі, у нас сама ў модзе была работа. І адзявацца лішне сароме́ліся, і гуляць лішне не гулялі. Так вот і пражылі.

Яновіч угледзеў, што Вера Васільеўна па-старэчаму ап'янела ад яго віна — заружавеліся шчокі, нібы на сон, стаміліся вочы.

— Пасля вайны... Як фронт прайшоў, жылі ў нас афіцэры. Два тыдні. Равесніца мая гуляла з імі, песні пад гітару спявала. А я баялася, бо ведама, што і людзі, і вучні потым пра настаўніцу скажуць. І нарадзіла мая Надзя пасля тых гуляў хлопчыка. І байструком яго звалі, і танкістам. Усе тады гаварылі, што я разумная. Я радавалася. Той хлопчык так і рос. І вырас. А цяпер ужо з таго танкіста генерал вырас. Я адна ў сваёй хаце вечарам як успомню пра гэта, плакаць мне, старой, хочацца...

Вера Васільеўна вінавата выцерла слёзы. Яновічава маці не ўмешвалася ў гаворку. Яна глядзела на сына шчаслівымі вачамі і не хацела, каб ёй заміналі.

— Ты лепш, Пятро, нам пра сваю работу раскажы. Раён жа ваш вялікі, перадавы.

— Што гаварыць? Маці ведае, якая гэта работа, па бацьку ведае. Ні дня, ні ночы, ні выхаднога, ні прахаднога... Раённыя будні, як гаворыцца. Хаця скора, мабыць, мне ў сталіцу. Такі варыянт ужэ пракручваецца. Але тады тое і будзе. А работа?.. Прыходзіць да мяне дзядзька, кажа, зайцаў у полі браканьеры б'юць. У раёне бульба не кончана, буракі толькі пачынаюцца... Ну, што зробіш, прыняў я яго. Чалавек верыў, што памагу, калі ехаў к нам... Ага, во, чаму я яго і ўспомніў. Ён, мама, вас ведае. Бацьку ведаў, вас ведае, здаецца, яшчэ з партызанкі. Худы такі, рослы, лёгкі яшчэ стары, здаецца, з Альховых Крыніц.

— Не Сцёпка часам Дзямідчыкаў?

— Правільна. Сцяпанавіч. Сцяпан Сцяпанавіч.

— Вой, Алена, гэта той! — Вера Васільеўна ўспляснула рукамі.— Пятро, гэта ж першая любоў яе!

— Каб ты прапала, Вера! Якая там любоў, з вечарынкі, можа, разоў колькі мяне правёў...

— Не хлусі, Алена, сама гаварыла, што з ім першым цалавалася!

— Во, бач, сынок, як старым бабам віно даваць? І за шалдаціка хоць зараз замуж ісці.

Яновіч бачыў, што маці і збянтэжылася, і расхвалявалася — то перакладала на стале хлеб, то перастаўляла чарку, то ўзялася накладваць яму на талерку рыжыкаў.

— Як ён?

— Ну, здаровы яшчэ мужчына. Як салдат, у ботах, гімнасцёрцы, куртка на ім. Ну, а так...

Яновіч спрабаваў успомніць твар таго чалавека, але не мог. Запомніў яго адзежу, сумку запомніў, ■ твар цяпер успомніць не мог

Маці тым часам памкнулася наліць Яновічу, ён апярэдзіў яе, наліў сам.

— Выпі, сынок, за яго здароўе. Помніш, я табе расказвала, як у блакаду адна асталася, пакуль бацька з атрадам там... Тады, як хацелі цябе ў мяне адабраць, каб крыкам немцаў не навёў. Гэта ён не даў. Каб не перагнаў тады на другі бераг перад сабою... А мне, дурной, са страху здалося, што і ён мяне са злосці забіць хоча. Ты прыедзеш, найдзі яго, сынок, прывет ад мяне перадай. Я некалі Івана прасіла, але той злаваўся. Як прыеду да цябе ў госці, разам да яго з'ездзім. Перад смерцю гляну тыя мясціны, дзе жыла некалі. На магілу матчыну схаджу. Пі, сынок.

Пасля вячэры Яновіч, як і прывык, уключыў тэлевізар, каб паглядзець праграму «Час». А потым правёў Веру Васільеўну, якая ўсё адмаўлялася — бо многа гразі, яна ліхтарык бярэ з сабою. Ён правёў яе і калі ішоў дадому, ужо без ліхтарыка, знарок не надта выбіраў дарогу — не праходзіла адчуванне нейкае незразумелае вінаватасці.

Спаць яму маці паслала на тым самым нікеляваным ложку.

Маці яшчэ тупала па хаце, прыбірала на кухні, калі здарожаны за дзень, здабрэлы ад вячэры і чаркі Яновіч заснуў моцным, здаровым сном натомленага чалавека.

Алена не магла зразу заснуць — ад таго, можа, што ператамілася і перахвалявалася за дзень. Цяпер, ноччу, у цішыні, усё здавалася, што ніяк нельга ўмясціць у адно яе жыццё тое, як पераязджалі яны з горада, перад вайною

яшчэ, нібы ўцякалі. Тады толькі пачыналася яе дзявоцтва, а потым і вайна... І ўсё... Як і не было дзявоцтва, і жыцця не было. Прамінула, змазалася. Так, пакуль сына гадавала, пакуль яе Яновіч яшчэ ў фрэнчы красаваўся... А потым то з аднаго месца яго перасунулі, то з другога. Ніяк не мог пераламаць сябе, агледзецца. Усё думаў, што ён адзін пуп зямлі, што яму ўсё дазволена. Так і кончыў дырэктарам базару — усё ж пры ўладзе, як сам любіў гаварыць. Але ні сяброў, ні павагі не асталося і з-за натуры яго, і з-за чаркі лішняе... Яе так на работу і не пусціў, спачатку з-за свайго вялікага гонару, потым з непатрэбнае рэўнасці да яе маладосці, а потым яго глядзець ужо трэба было. Так што асталіся ўдваіх, і апошнія гады ўжо маўчаў, нічога не гаварыў, калі яна несла на базар кветкі, нават памагаў даглядаць іх. Усё баяўся, што яго ведаюць у наваколлі, баявога камандзіра, як ён на базар выйдзе. Сцерлася і яго жыццё, і яе пры ім сцерлася. Сын, яе сын, які спаў у сваім пакоі, здаваўся нейкім далёкім — яна таго больш памятала і любіла, малога. Цяпер у яго сваё жыццё, якое, можа, яна і не разумее.

Дзіўна, як многа прайшло з таго дня, калі вёз іх з маце-раю дзед з паўстанка на падводзе, якая непрывычна моцна пахла дзёгцем, як горка, бы па нябожчыку, плакала маці, клялася, што Міхась яе не вінаваты. Дзед маўчаў, толькі сурова абзываўся:

— Каб не вінаваты быў, то не засудзілі б. Чаму ж ён зараней угаварыў цябе разысціся з ім?

— Ён баяўся, што і нас з Аленкаю...

— Значыць, было чаго баяцца. Но-о! — дзед шмаргануў за лейчыну. Загрукалі колы. Паўз дарогу, прыпыленая мяккім, як мучным, пылам, стаяла цыкорыя, ляжаў пада-рожнік, з жыта блакітна выступалі валошкі... Калі пад'яз-джалі да вёскі, дзед сурова папярэдзіў: — Ты пра гэту наццэмаўшчыну каб нікому ні слова, ні паўслова! Скажы, што кінуў цябе твой Міхась... Так і скажы, а то заклюнюць і тут цябе.

Але ўтаіць, што бацька засуджаны, не ўдалося. Ратава-ла маці тое, што развод быў узяты да яго арышту. Але за два гады яна быццам звяла і сканала ціхая, як свечачка дагарэла.

Цяпер, калі ўспамінае бацьку, здаецца, што бачыць яго аднекуль здалёку. Ён прыйшоў з універсітэта, стомлена і радасна хваліцца, як добра прачыталася лекцыя па гісторыі. Ён і помніцца такім далёкім і радасным, і пасля

гэтага яна адразу ж бачыць сябе, якую б не пазнаў той малады бацька, бо ніякае сувязі не асталося паміж ім і ёю. І калі яе Яновіч дабіўся — яму муляла вельмі, каб у жонкі была «чыстая» біяграфія,— што ёй прыслалі паперу аб рэабілітацыі бацькі, яна не адчула ні радасці, ні палёгкі, толькі боль, які яе заўсёды мучыў, калі ўспамінала пра бацьку.

З гэтым болем Алена і заснула, і прысніўся ёй нечакана светлы сон, а можа, і не сон, а ўспамін прыплыў у трывожным сне — яна здагадвалася, што сын паедзе заўтра, і ёй хацелася не заспаць, устаць раней, каб больш паглядзець на яго.

*Ішлі яны ўдваіх дарогаю. Яна ў тры белыя ручаінкі цякла, выбітая конскімі капытамі і коламі падвод. З аднаго боку зелена і густа стаяла жыта, а з другога боку слалася пад белым месяцам канюшына. Сцяпан дзяржаў яе за руку, і рука яго была мазолістая і цвёрдая. Яна сама гладзіла пальцамі яго руку і адчувала, як хвалюецца і бянтэжыцца ён. І ад гэтага пачынала хвалявацца сама.*

*У вёсцы быў чуцен яшчэ гармонік, не кончылася вечарынка. Што заўтра будуць гаварыць пра іх? Адно — што праводзіў яе Сцёпка пасля вечарынкі, другое — што яны сёння не дачакаліся, пакуль і вечарынка кончыцца, пайшлі.*

*За паваротам дарогі адкрыўся стары, раскіданы млын, запруда перад ім, купчастыя, старыя, з ніцым голлем вербы. Не, ні ён яе, ні яна яго не павяла, яны разам пайшлі да вярбы. Яна плячамі скрозь сукеначку адчувала, якая цёплая і парэпаная кара, яна сама хацела цалаваць яго і каб ён цалаваў яе яшчэ мацней і балюча, каб не пакідалі яе яго няўмелыя, але ўжо бессаромныя рукі, яна хацела і яшчэ нечага, і цалавала, і задыхалася, і прасілася: «Міленькі Сцёпачка-а-а!.. Не трэба... Міленькі!» І сама цалавала яго, і не працівілася яго рукам.*

*І раптам цераз пляча яго ўгледзела, як адтуль, з-за павароту, з-за жыта выехаў на белай машыне яе Пятрок. Цяперашні, дарослы, у плашчы, і аж замерла ад страху і сораму...*

З гэтым Алена і прачнулася. Ціха і цёмна было ў хаце. Начаваў апошнюю ноч у родным доме яе сын. А сон які сасніла! Сцёпка яе ўсяго разы са тры і правёў з вечарынкі

і адзін раз толькі і пацалаваў. І то яна ўпіралася яму рукамі ў грудзі — бо гэтак зайшлося, застукала сэрца, затуманіла ў галаве.

А потым была вайна. Саладзейшага, шчаслівейшага пацалунку яна так і не зведала ў жыцці. Можа, і другое было б у яе жыццё, другое, не сцерлася б так ні маладосць, ні сталасць.

Алена не адчувала, што плача.

Цераз дзень пасля гасцявання ў маці Яновіч на рабоце распісаў паперы, якія сабраліся, пакуль яго не было, а таксама распісаўся на праекце пастановы бюро з вымоваю начальніку сельгасупраўлення Цыганкову пасля прадстаўлення суда. Пра той выпадак у полі, калі забілі чалавека, ён ужо чуў. Нават крыху і шкода было разваротлівага маладога шафёра Цыганкова. Ён глядзеў машыну лепш, чым іхнія сакратарскія шафёры. Хто б мог падумаць, што з ім можа быць такое?

Паглядзеў на каляндар, дзе звычайна было запісана, што трэба зрабіць тэрмінова. Пакуль што такіх запісаў не было. Успомніў просьбу маці пра таго Сцяпана з Альховых Крыніц і запісаў на календары. Але прозвішча Сцяпана не мог успомніць.

На ўсякі выпадак пагартаў каляндар назад, але там ніякага запісу не было. Зняў трубку і пазваніў Дзярэчу.

— Дзень добры. Яновіч звоніць. Слухай, я прысылаў табе восенню чалавека, ён па тваёй епархіі са скаргаю ў мяне быў. З Альховых Крыніц.

— Дзень добры, Пётр Іванавіч. З вяртаннем вас. Помню. Дзямідчык Сцяпан. Былы брыгадзір, якога выжыў старшыня. Я вам дакладваў тады, што нумар машыны не сышоўся, не было ў нас у раёне такога нумара...

— Добра. А як ён цяпер, ты не бачыў яго?

— А вы хіба не чулі? Гэта ж шафёр Цыганкова яго застрэліў.

Дзярэча змоўк. Маўчаў і Яновіч, паволі паклаў трубку.

Недзе здалёку з памяці выплыла, што той жа Цыганкоў прыходзіў скардзіцца на старшыню «Інтэрнацыянала» за тое, што ён не толькі дабівае калгас, але, як феадал, разганяе і вопытных брыгадзіраў. Ці не пра гэтага Дзямідчыка і тады была гаворка? Ён збіраўся тады выклікаць старшыню «Інтэрнацыянала»... Нейкая тэрміновая работа перашкодзіла. Хаця з Прымачакам пытанне вырашана. Яму ўжо падшукалі пасаду тут, у каранцінная службе,

а сам «Інтэрнацыянал» з новага года далучаецца да больш моцнае «Радзімы»...

Позірк упаў на запіс у календары. Раптам падумалася: а што і як ён скажа маці пра смерць гэтага Дзямідчыка?

Сакратарка прыадчыніла дзверы, каб запытацца, ці можна пускаць у кабінет інструктара, але ўбачыла, што сакратар стаіць пры акне, апусціўшы галаў. Ён не азірнуўся, толькі махнуў рукою, і сакратарка хуценька зачыніла за сабою дзверы.

За акном сутонела, і пачынаў паціху церусіцца на прамёрзлую зямлю чысты снег.

## XVI

*На рунь бралася раса. Сонца ўжо схавалася, але стаяла веснавая светлата на небе і не цямнела. Далей ад поля, на пляцах, засаджаных бульбаю, цеплавата шарэлася зямля. Над ёю ў прыцемку, нібыта белыя аблокі, стаялі сады. Ужо асыпаліся, вялі раннія далікатныя пялёсткі вішань, парадзела на цвет белая груша, а яблыні сама цвілі — святкавалі такую надзіва раннюю і надзіва цёплую вясну.*

*Пахла зялёнаю рунню, зямлёю, вечарам, садам — пахла Юр'ем. Недзе з другога канца вёскі слаба быў чуцен гармонік, а бліжэй, дзе таксама сабраліся сваім зборам — суседскім гуртам,— смяяліся дзіцячыя галасы.*

*На руні былі разасланы льняныя настольнікі, на якіх былі расстаўлены бутэлькі і раскладзена закусь — сала, каўбасы, цыбуля, вараныя яйкі. Тут жа стаяла поўнае вядро ўжо крыху падкіслага бярозавага соку, а на вушку вісела конаўка.*

*Першую чарку ўжо выпілі. Гаварылі між сабою жанкі, гудзелі, як у бубен, адзін да аднаго мужчыны, але яшчэ не закручвалі самакруткі.*

*Сцяпан прыглядаўся да іх і прыслухоўваўся да мужчынскае гаворкі — пра тое, што вясна паказвае на ўраджай, пра тое, што добра цвітуць сады і нішто не перашкаджае ім — ні замаразкі, ні дажджы. Сцяпану бацька таксама даў паспытаць са сваёй шклянкі самагонкі. Яна была смярдзючая і нясмачная, але Сцяпан выпіў яе — вясною ён сам, як сеялі бульбу, араў пляц, а летам збіраўся з бацькам разам стаць у касу. Яго радавала, што ён, як дарослы, выпівае разам з мужчынамі на росу. Гарэлка туманіла галаў, яму здавалася, што сама лепш*

*было б астацца тут, у полі, спаць на руні цэлую ноч, і сюды б наплываў ружовы хмель вясновага саду.*

*Сцяпан не пачуў, як да яго падкраўся Васька і кінуў за каўнер рубашкі жабку. Сцяпан аж перасмыкнуў плячамі ад нечаканага холаду, ад лапак, якія драпнулі яго па спіне, вытрас жабку з-пад рубашкі.*

*— Зябу з'еў! Зябу з'еў! — радасна заскакаў Васька і здагадаўся даць дзёру.*

*Сцяпан падхваціўся ўслед. Мякка слалася пад нагамі рунь, студзіла і лашчыла ступакі. Было радасна бегчы па руні, пакуль дагнаў брата, прайшла на яго злосць. Са шчанячаю радасцю ён папхнуў брата, паваліўся сам, пачаў качаць яго па руні.*

*Васька адчуў, што тумака не будзе, весела, аж захліпаўся, звінеў на ўсё поле:*

*— Мамацка, Сцёпка слакоцацца!*

*І толькі пасля таго як бацька дакорліва і добра спыніў: «Што ты, Сцёпа, як малы саўсім, выкачаеце ж усё жыта»,— толькі пасля гэтага Сцяпан вярнуўся да гурту, несучы на руках брацікa, які даверліва прыціх і прытуліўся да Сцяпана.*

*Тады, на той расе, маці і спявала песню. Нечаму самы блізкі, самы радасны ўспамін пра маці быў гэты. Можа, таму, што побач з ёю быў бацька і падспеўваў, можа, таму, што да Сцяпана прытуліўся і прыціх збродлівы і непаседлівы Васька...*

*Светлыя матчыны валасы былі роўна вычасаны, на ёй вышываная сарочка з кароткім рукавом. І бацька таксама ў вышыванцы, падпяразанай тоненькім паяском. І сабе сарочку, і бацьку вышывала сама маці адным узорам. У бацькі чорны ад загару з вясны твар, толькі бела паблісквaюць зубы.*

*Ой чыё ж то жыта,*
*Чые то пакосы,*
*Чыя то дзяўчына*
*Распусціла косы?*

*Косы распусціла,*
*Плечы засланіла,*
*Да крыніцы выйшла*
*Сустракацi міла.*

*Любы мой свякроўка,*
*Любая свякрыца,*
*То з маёй любові*
*Працякла крыніца.*

*Песня гэтая снілася яму ў партызанах. Снілася маці, сніўся бацька, сніўся брацік Васька, якога ён нясе на руках па свежай руні, снілася яго цёплае і даверлівае цельца. Сніцца пачало ад таго, як цераз сувязных пераказалі, што сям'ю яго расстралялі, а хату спалілі. Ён баяўся*

*класціся спаць, хадзіў цэлыя ночы па лагеры і спяваў сам сабе мацерыну песню. У атрадзе баяліся, што ён звар'яцеў, і схавалі ад яго аўтамат.*

*Праз тыдзень Жогла, тады камандзір падрыўное групы, забраў яго на заданне. Аперацыя не ўдалася — пакуль падышоў цягнік, нямецкі патруль ублытаўся ў шнур і ўзарваў зарад. На гэтую пору наскочыла патрульная дрызіна. Усчалася перастрэлка. Сцяпан адбіўся ад групы, калі адыходзілі да лесу. Цэлую ноч ён валок на сабе параненага Жоглу.*

*На світанні, знясілены, з набеглымі крывёю вачамі ад натугі, ён вывалак Жоглу да дальняга партызанскага дазору і ці то заснуў, ці страціў прытомнасць ад знямогі, бо ачнуўся толькі ў лагеры.*

*З таго дня Сцяпан перастаў хадзіць начамі па лагеры.*

*Цяпер у памяці плыў той Юрай, той пах зямлі, такі востры і свежы, светлы твар маці, яе песня ў два галасы з бацькам, ад якое адтавала сэрца, адыходзіў некуды халодны партызанскі лагер, стогны параненага Жоглы... Над усім гэтым, над усім яго жыццём плыла песня маці, і Сцяпан толькі слухаў яе...*

*А вы дакарайце,*
*Толькі не журыце,*
*Ціха ўспамінайце*
*Васілёчкі ў жыце*

*Песня абарвалася на апошнім слове, і адразу ж нейкая страшная сіла падняла Сцяпана некуды ўгору, у самае неба, і перад ім адкрылася тая самая страшная белая летняя ноч, ён пачуў, як шархаюць па бульбоўніку боты, як грэе яму ў ногі летняя зямля. Ён вось-вось мог пазнаць тых, што студзілі яму спіну халоднымі стваламі вінтовак. І ўжо пад саламянаю страхою ён угледзеў маці з роспачна заломленымі рукамі, учарнелы ад гора бацькаў твар, вялікія ад нямога жалю брацікавы вочы... Ён сніў, як расстрэльвалі яго сям'ю... і яго самога.*

*З дзікім крыкам Сцяпан завярнуўся да тых, хто трымаў вінтоўкі, і ад гэтага раптам перакулілася, упала ўніз неба з белаю поўняю на дне, і ён паляцеў уніз, ад цёплага мяккага бульбоўніку ў белую глыбіню, на самае дно, застываючы ў ільдзіну...*

Паміраў Сцяпан тры дні. У палаце, застаўленай прыборамі, у цішыні і белізне, нават у сваёй перадсмяротнай бледнасці, ён здаваўся чужым тут, нейкім чорным, як корч.

Ён ні разу не расплюшчыў вачэй, не сказаў ніводнага слова, не паварухнуўся нават, нібы доўга і ўпарта плыла ягоная душа тою, не пазнанаю нікім паласою ўздоўж смерці і жыцця, ад цяперашняга свайго веку туды, дзе быў пачатак, а перад пачаткам пустата небыцця. Ён і памёр, так і не ачнуўшыся. Толькі па твары яго за гэтыя дні як па кнізе можна было прачытаць і задумёнасць, і ціхую радасць, і боль, і злосць, і адчай, і крыўду... А перад тым як сканаў, нейкаю дзіцячаю пяшчотнасцю асвяціўся ягоны твар, потым з вачэй скацілася па буйнай, як боб, слязіне, і ён ціха, але жахліва ўскрыкнуў, напружыўся, нібы хацеў ад нечага вырвацца, і заціх.

Ганна не адыходзіла ўсе дні ад яго, не далася нават, каб падмяніў сын. Яна яшчэ нейкі час прыглядалася да заціхлага Сцяпана, уздыхнула, закрыла яму вочы і пагладзіла па твары. На медсястру, якая ўбегла і пачала мацаць пульс, слаба махнула рукою — адыдзіся. Сядзела пры Сцяпану датуль, пакуль не прыйшоў доктар і санітары. Яны сталі ў парозе. Доктар падышоў, абняў за плечы, сказаў адно толькі слова:

— Памёр.

Ганна ўстала, строга паглядзела на яго:

— Я знаю. Яго даўно ўжо пахавалі, дома, у полі сваім.

І пайшла да дзвярэй. Спынілася, сказала сыну:

— Павязём дадому. Там, дзе яго журавель лятае...

Доктар і медсястра пераглянуліся, сын таксама збянтэжыўся і трывожна глянуў на маці.

Яна, не чакаючы нікога і нічога, пайшла па калідоры прэч.

* * *

Пахавалі Сцяпана Дзямідчыка на сваіх могілках. Хавалі з музыкаю, на падушачках неслі ордэны і медалі. Над труною гаварылі прамовы. Стаялі ў ганаровым каравуле піянеры.

На другі год сын паставіў на магіле помнік з ружовага мармуру і срабрыстую белую агароджу.

Ганна першы год пасля смерці мужа нікуды не паехала. Цэлымі днямі паролася дома. Вясною і восенню часта выходзіла начамі на двор, прыслухоўвалася да таго, як высока ляцяць і крычаць пералётныя чароды. Пачалі пагаворваць, што яна звіхнулася. Але потым і Жогла сказаў, што бачыў, як вясною над могілкамі кружыўся і крычаў адзінокі журавель.

Ганну на другі год, як пералежала зіму з запаленнем лёгкіх, забраў да сябе ў горад сын. Хату прадаў калгасу.

Жогла даслужыўся да пенсіі, распаўнеў і далучыўся да мужчынскае кампаніі, якая штодня завітвала да магазіна, п'янеў, мармытаў, што смерць Сцяпана так не сыдзе ўсім — недарэмна ж вясною і восенню кружыць усё тут адзінокі журавель.

— Дурань ты такі, як і твой Сцёпка быў. С... я хацеў на таго жураўля! Каму пара паміраць прыйшла, той і паміраць будзе,— не мог сцярпець яму Антось. Ён і пасля смерці не любіў Сцяпана.

Антось, як і раней, бярог здароўе, выседжваў са сваёй Вераю на лаўцы перад хатаю. Але памёр у вёсцы першы ўслед за Сцяпанам, у адхожым месцы, ад інсульту.

Пасля гэтага перасталі смяяцца з Жоглы, бо і на помніку, які паставіў сын на магіле, праступіў лёгкі абрыс лятучага жураўля. Кляліся людзі, што, як ставілі помнік, на ім нічога не было. Сёй-той пагаворваў, што гэта Жоглава работа. Але легенда пайшла па наваколлі, і многія пачынаюць паўтараць, што чуюць вясною і восенню над палямі кліч Апошняга Жураўля...

З могілак, адвячоркамі, калі нізка апускаецца сонца і выцягваюцца доўгія цені, відаць, як чырванаваты вечаровы водсвет, нібы на лоб, кладзецца на вялікі камень Чортавых Жорнаў, што цяпер, як і спрадвеку, ляжаць на ўзгорку над усім наваколлем. Далей, як на далоні, вывіваецца ручаёк алешніку ў крыніцах — бабровая дарога,— у якім хараша і ўтульна ляжыць азерца, хаця ўжо там пахадзілі і нешта памералі меліяратары. За крыніцамі даверліва прыпадае да зямлі вёска, а за ёй устае лес. Нягледзячы на ўсе санітарныя высечкі, ён набірае сваю цёмную высокую сілу, якая пачынае ўжо гаманіць з небам. А яно над палямі вечнае і халоднае, часам пяшчотнае, а найчасцей ціха і родна зажуранае. І з усім гэтым, вечным, што было і будзе на зямлі, зліваецца неабдымнае поле. Восенню, калі яно чыстае і пласторнае, аблямавана на даляглядзе кусцістаю зялёнаю рунню, захінута ціхім туманком, далёкае ворыва на небакраі раптам пачынае ўставаць на цябе крылом шэрага жураўля, і хто скажа тады, што з неба і сапраўды не чуцен вечны жураўліны кліч?

*1978—1982*



# ХАЛОДНАЯ ПТУШКА

## I

Нядобра, калі на неакрытую снегам зямлю вялікі мароз. Тады на свеце робіцца непрыютна, як у лядоўні; вецер пранізліва-бязлітасны, і ад яго нікуды не дзецца, не схавацца, бытта не засталося на зямлі ніводнага цёплага кутка. І зямля тады робіцца пустою і халоднаю, і страшна думаць, што ў душы ў яе ўсё зледзянела, змярцвела — і больш не будзе на зямлі жыцця.

Анэта чакала, калі зменіцца квадра і пераломіцца надвор'е. Яна нутром прадчувала гэту перамену, ёй нават здавалася, што незаўважна памякчэў, зрабіўся вільгатнейшы вецер. Чамусьці верылася, што пойдзе сухі, марозны снег, а не стане хлюпаць мокры, з дажджом,— цяжка было трываць нізкую плывучую шэрань хмар, хацелася чыстага, белага, святочнага, каб зарадавалася вока і душа.

І яшчэ тым, галоўным, цешыла душу спадзяванне на снег — што не вымерзне рунь. Са снегам адляжа мароз, паменшае вецер...

Анэта ленавалася, не кожнага вечара паліла ў грубцы, а таму хату вышаствала ветрам. На ватнюю коўдру старая ўскідала яшчэ кажушок. Але пад такімі акрыванкамі ад

цяжару балела цела і не было сугрэву. Старая ведала, што ніякія коўдры яе не нагрэюць, бо не засталося цяпла ў целе, выстудзілася яно за доўгае жыццё. А таму трэба прывыкаць да холаду, як прывыкла за многія гады да адзіноты, да пустое хаты, да доўгіх дзён, не занятых работаю; і дні не доўжыліся, бо сілы не ставала і каб парабіць работу пры хаце. Недзе ў душы Анэта і не верыла, што гэта папраўдзе так, бо лягчэй за яе і ўвішней на рабоце не было і не будзе. Ды не вечны чалавек на зямлі, як і нішто не вечна.

Колькі яна перажыла і равеснікаў і маладзейшых?

Нават не верылася, што гэтак доўга можа жыць чалавек, які век рабіў, ішоў усё жыццё, як конь у баразне.

Зжахнула Анэту і бытта спалохала тое, што спарахнелі вербы ў краі вёскі. Тыя вербы, якія яна памятала маладымі, з чыстымі святочнымі лісцікамі; з вербаў ламалі дубчыкі, каб ісці на вербную ў цэркаў. Чатыры вярбы раслі на аселіцы, вялікія, што толькі ўдваіх, узяўшыся за рукі, і абхваціш.

Летам стаяла яшчэ адна вярба. Ад дзвюх не засталося і следу, як і ад тае грэблі, пры якой раслі дрэвы. Ад трэцяе тырчаў толькі высакаваты чорны ашчэмак. Мабыць, восенню пастухі клалі агонь у пні. Пень выгараў з аднаго боку і ўсярэдзіне. Другая палавіна, пабялелая ад ветру і з сярэдзіны абвугленая, стаяла пад маладым травяным покрывам, як ашчэмак вялікага клыка.

Чацвёртая вярба ўжо не давала лісту, толькі дзе-нідзе ад самага карэння спрабавалі ўзяцца ў рост кволыя светлыя атожылкі. Стары, выдуплены з сярэдзіны, невысокі, пакручаны ствол моцна, разлапіста ўшчэплены ў зямлю карэннем і ўверсе растапыраны пяццю вузлаватымі галінамі, таксама кароткімі, пакручастымі, на якіх ужо не засталося вецця; галіны выдавалі як пальцы старое спрацаванае рукі, якія ўжо не могуць выпрастацца, разагнуцца. Ды і сама вярба з пабялелаю ад дажджу, глыбока парэпанаю карою выдавала якраз на вялікую спрацаваную жылістую чалавечую руку, якая бытта сілілася выцягнуцца, дастаць ад зямлі да гэтага па-дзіцячы чыстага і добрага, але высокага, як шчасце, вясновага неба і застыла ў пакутліва-цяжкім імкненні.

Ніжэй галля, у ствале свяцілася наскрозь дзірка. І вярба здалёку здавалася прыбітай да неба тоўстым сінім цвіком.

Анэта не ведала, чаму запала ў душу тая вярба: ці ад здзіўлення, што на сваім веку ўпершыню бачыла, як памірае дрэва, якое помнілася маладзенькім. Бо людское

смерці многа нагледзелася і набачылася. Мінулае вясны памерла самая малодшая Анэціна сястра. Дзве сярэднія памерлі раней, даўно. Пра іх засталася толькі роўная і доўгая прывычная памяць, як пра людзей, якія жывуць недзе далёка-далёка...

Памерла Волька ў красавіку, калі ўжо добра прыгравала сонца і зусім мала засталося снегу ў полі, калі стары чалавек, выйшаўшы з хаты і прыгрэўшыся ў зацішку на сонейку, думае, што пераўжыў зіму і цяпер пажыве ўжо да новых халадоў.

Тады неспадзявана ўсхадзілася мяцеліца, дзень і ноч ляпіла мокрым разлапістым снегам, і ад ветру над Анэцінаю хатаю трывожна і пагрозліва гуў веццем стары вяз. Анэта тае ночы не магла звесці вачэй, усё прыслухоўвалася да лютага, несуцішнага разгулу мяцеліцы, як усё роўна хацелася пачуць што за ветрам...

А ўдзень стала нечакана спакойна і сонечна, як і не прападала сонца і яго вясновая цеплыня. Роўнае яго цяпло растапляла наляпаны ў пазы ў сценах снег, бярвенне мокра чарнела, і ад яго ішла пара. Вуліца была выраўнавана вышэй платоў снегам, снег паабломліваў галлё ў садах.

Вольку пахавалі таго сонечнага дня. Па Анэту ніхто не прыехаў, бо дарогі былі нячышчаныя, а на санях цяпер і моды няма ездзіць. А яшчэ — Анэта дагадвалася — пра яе быў невялікі клопат: дзяцей у Волькі многа, радні ў сваёй вёсцы таксама. Па яе, па Анэту, мо і не паехалі, каб не растрэсці старую бабу і не набрацца бяды.

Але ў тым, што памерла і Волька, а яна, Анэта, і самая старэйшая, і самая нешчасліўшая ў жыцці, засталася жыць, Анэта бачыла нешта несправядлівае і ненармальнае. Чаму б Вольцы не дажыць да яе, Анэціных, гадоў і не пахаваць яе — каб на добры лад? Яна зжыла, дзяцей пагадавала і не рабіла па гаспадарцы так, як яна, Анэта, і жаночую і мужчынскую работу. А вось узяла і памерла тая песенніца і танцорка, тая малая і кволая Волечка, якую некалі і бацька любіў больш за ўсіх, або Анэта мусіла сядзець за кроснамі, а Волечка ў дарэктара дзве зімы вучылася, чытаць умела. Як душа памерла.

Колькі жыцця прайшло, колькі ўсяго сплыло, колькі вялікага гора і крыўд зжылося і перажылося, а той далёкі ўспамін ні з таго ні з сяго раптам выплывае ў памяці, як учора тое было. Бацька, шчаслівы і малады, сядзіць на лаве. У трапяткім чырвоным святле лучыны відно, як

радасна паблiскваюць бацькавы вочы, як глядзiць ён на Волечку, якая прытулiлася ў яго на каленях у кашульцы, з акуратна расчэсанымi валасамi, расказвае на памяць:

Каб ты ведаў, брат-кумiшча,
Што ўчора вiдзеў я!
У паноў было iгрышча —
Дый якое ж — ай-я-я!

Варушацца на сцяне i на шэрым ад марозу акне чырвоныя водсветы, скубе Анэта злосна смыкi з кудзелi, круцiць верацяно, прадзе — толькi галаў нахiляе нiжэй, як бытта акрамя свае работы нiчога не заўважае. А самой хочацца кiнуць усё, заплакаць ад горнасцi, ад крыўды — яе не пусцiлi вучыцца, сказалi, што вялiкая, што дома дапамагаць трэба,— ад зайздрасцi, што не яна сядзiць на каленях у бацькi i не на яе гэтак глядзiць ён...

А Волечка зайздросцiла Анэце, яе дарасласцi, яе ўменню рабiць работу, i любiла, як любяць маладзейшыя старшых братоў i сясцёр.

Анэта цяпер ведае, што ў кожнага свая доля i яна распараджаецца чалавекам, яна ведае, каму i якое жыццё пражыць. Волька так i не навучылася быць першаю ў рабоце, бо i здароўя ў яе не было на гэта. А песнi спяваць умела, танцаваць здатная была. I замуж выйшла шчаслiва, i за гаспадаром век пражыла, у сваёй вёсцы, сярод сваiх людзей i з сваёю раднёю.

Анэта ж пайшла жыць у чужую вёску, у трыццаць тры гады стала ўдавою, з дзецьмi на руках, пачала рабiць i за гаспадара i за сябе, як у баразну стала,— i пайшла.

У кожнага свая доля. А так чаму б ёй, Анэце, гэтулькi жыць? Жыве. А Волька памерла. Анэта цяпер спрабавала ўспамiнаць тыя песнi, да якiх здатная была Волька. I мала што магла ўспомнiць — не да песень было ў яе жыццi. А вось цяпер, як памерла Волька, забрала з сабою свае песнi, бытта менш i цяпла стала ў душы ў Анэты...

Першыя днi па смерцi сястры Анэта моцна занудзiлася была. Начамi плакала ад успамiнаў i ад думак сваiх. Не заўважала, як цяклi слёзы. Толькi калi холадна рабiлася ў твар, выцiрала вочы коўдраю, ляжала спустошаная i лёгкая душою i целам, бытта паволi апускалася некуды ўнiз, апускалася...

I выплывала насустрач вулiца. Не, спачатку палявая дарога...

У сонечнай далечынi, на шырокiх i роўных, як стол, слуцкiх палетках палавела жыта. Ад спякоты пабялелi,

вылінялі пяшчотныя і халаднавата-мяккія пялёсткі валошкі на ўзмежках і пры дарогах. Мроілася разагрэтае сонцам паветра і нібыта цякло да жытнёвага небакраю. А адтуль чорным крылом разгортвалася навальніца. І перад ёю ўсё заціхала, неяк паспешна, быццам захопленае знянацку, нават паменшалі хвалі на тугаватай роўнядзі калосся. І нідзе ні душы. Толькі светлы палетак і пацямнелая далечыня, як з пясчанага берага глядзіш на цёмнае мора. І перад навальніцаю ўсё на зямлі бытта паменшала, і нават вёска здалася маленькай, нібы глядзіш на яе з вышыні, з гэтага магутнага чорнага навальнічнага крыла.

У цішыні пачулася, як мякка і глуха, усё роўна бы па жывым целе, ударылі па глыбокім цёплым дарожным пыле першыя кроплі. А потым раптоўна, неспадзявана моцна рвануў вецер — і абрынулася на зямлю ўсё разам: і прыцемень, і суцэльная, як з лубу, сцяна вады, святло сiняватых ад лютасці маланак, удары грому, ад якіх хацелася сцяцца ў маленькі-маленькі камячок, бо здавалася, што ты толькі адна засталася на ўсім белым свеце. І жудасна адчуваць, што прапала і ты, і твая прыцемная хаціна ў бясконцай лютасці і нястрыманасці стыхіі. І разам з тым была незразумелая, невытлумачальная, шчымлівая, трывожная радасць гэтай яраснай праяве, усё роўна як і ты частачка гэтае непадуладнай нікому сілы...

Не памятаецца, чаму яна тады была адна дома і чаму не пабегла да нікога з суседзяў. І наогул, цяпер, ва ўспаміне, здаецца, што тады на ўсю вёску не было ніводнага чалавека, ніводнае жывое душы, толькі яна, маленькая Анэтка, пад саламянаю страхою паветкі, бо страшна чамусьці сядзець у хаце, калі люта ўспыхваюць маланкі, пякучым бляскам асвятляючы праз невялікія вокны цёмную пад навальніцаю хату,— здаецца, што калі не сядзіш за сценамі, калі бачыш і навальніцу, і адчуваеш зусім побач дождж і вецер, нічога не можа здарыцца з табою...

Анэта і потым, ужо сталым чалавекам, і цяпер, састарэлая, ніколі ў часе самых лютых навальніц, у самыя страшныя рабінавыя ночы не магла і не сядзела ў хаце, выходзіла на двор і стаяла пры сцяне, абапяўшыся посцілкаю...

Яна тады не заплакала, і не закрычала, і не кінулася нікуды бегчы, калі нешта раскалолася, трахнула, здаецца, ля самае яе, і здалося, што абдало яе хваляю паветра, якое незнаёма запахла. Яна адчувала і разумела, што нікуды ўсё роўна не ўцячы і нічога нельга перамяніць, толькі чакай і маліся, каб было ўсё добра.

У тую навальніцу раскалола стары клён, які рос пад вокнамі іхняе хаты. Быццам чорнаю сякераю нехта паласнуў у развілак і разваліў дрэва аж да самага камля, зпажыў на зямлю палавіну яго пышнае зеляніны.

Клён, тая палавіна, якая засталася, стаяў яшчэ многа гадоў, абсмалены, аднабокі, але зялёны, і трымаў буйнае, раскошнае лісце. І ім, дзецям, не трэба было далёка хадзіць па ліст, які высцілалі под печы, калі пяклі хлеб.

Спачатку пачаў аддаляцца гром, чуўся неяк дабрадушней і раскацісцей, здалёку, хоць яшчэ люта, кустамі, успыхвалі і сляпілі маланкі, але непрыкметна пачынала шарэць, і ў тым баку, адкуль прыйшла навальніца, рабілася святлей, адыходзіў, адступаўся ўдалечыню цень навальнічнага прыцемку, пакідаў за сабою спакой, маладое паветра і каламутны ручай пасярод вуліцы, які намываў тугога вільготнага жвіру, што пругка, быццам снег, парыпваў пад босымі нагамі.

Пасля навальніцы прыйшло чыстае святло. Мокра, але ўладарна наплываў водар жыта, вечны на гэтых палях, прыглушаны пахам мокрае лістоты ў садах.

І сведкай усяму гэтаму была толькі яна, дзяўчынка, і нібыта ўсё гэта адбылося дзеля яе.

Цяпер здаецца, што гэта і не ўспамінаецца, а сніцца, бо цяпер не верыцца, што можа быць на зямлі і гэтулькі святла, і волі, і гэтакае моцы. Але ж не, то было і сапраўды, і бачылася маладымі шчаслівымі вачыма дзіцяці ўпершыню. І сярод слуцкага поля ёсць, стаіць і цяпер тая выгнутая ў адну вуліцу велікаватая вёска, хоць рэдка дзе ўжо ўбачыш у ёй тыя старыя, маленькія хаты. Абнавіліся сады, пабудавалі многа новых, прыгожых, з вялікімі светлымі вокнамі хат...

Пасля тае навальніцы не засталося на ўзгорку бярэзіны, дзе спрадвеку жылі буслы, «святая» ў народзе птушка. Па мокрай зямлі рассыпалася сухое ламачча ад былога, за многа год зладжанага жылля і пух з вераб'іных гнёздаў. Буслы таго года не жылі ўжо на бярэзіне, бо мужчыны, ведаючы, што можа ўпасці яна, загадзя, вясною, усцягнулі барану на высокую маладую ліпу.

І ад таго паху мокрае зямлі, ад таго водару з жытнёвага палетка і цяпер, праз многа гадоў, праз цэлае жыццё адзываецца ў душы незабытая радасць жыццю...

І падхопленае плынню радасці, наплывае на змену гэтаму ўспаміну другі: чорнае голле саду на фоне густога цёмна-сіняга неба, фіялетавы стылы водсвет снегу ў полі,

пах пацямнелага, шурпатага лядку на сцежцы, цёплы драўляны пах прагрэтай за дзень сцяны і доўгія матавыя ледзяшы — суслякі,— што звісаюць з саламянае страхі. А пасля гэтых ледзяшоў чамусьці адразу выплывае ў памяці з густога зімовага мроіва заінелы снег бясконцага поля, адзінокі санны след, і заінелая грыва каня, і пах настылага кажуха, у якім так утульна і не хочацца варушыцца. Плыве насустрач снегавое поле, абступае прыцемкавая марозная сінеча. І яшчэ не відаць, але ведаеш, што пакажацца спачатку адзін, а потым і другі слабенькі агеньчык. А следам па дарозе плывуць бухматыя, не надта вялікія — дарога няблізкая — вазы з сенам, якое яшчэ і на марозе свежа пахне сухім вострым пахам стога...

Успаміны ўставалі прыгожыя, сонечныя, высокія і плывучыя, як воблакі на пачатку лета. І нават зімовыя, халодныя, яны наплывалі, бы цёплая вада нешырокае рэчкі, што цякла за вёскаю. Звілістая, глыбокая ў завоінах, парослых на берагах аерам, высокім, густым, як чарот, і заўсёды халаднаватым, нават у самае спякотнае лета. І меленькая, з чыстаю, празрыстаю вадою і белым дном п пяску-мыльцу... А да рэчкі — аселіца з кароценькаю і густою, мяккаю, халаднаватаю і пяшчотнаю, як аксаміт, травою.

І тыя ўспаміны, і тыя пахі да смерці незабыўныя і самыя лепшыя, як успаміны пра дотык матчыных рук, пра яе голас той далёкі, які нікому не паўтарыць, як нікому не сказаць табе тых самых ласкавых, самых шчырых слоў любові, вялікае і адзінае, якою могуць адарыць сябе маці і дзіця. Такая любоў жыве ў дарослага, ужо, здавалася б, агрубелага душою чалавека да роднае зямлі: да лёгкага павеву ветру над полем, нават да сіняе валошкі на мяжы, не кажучы ўжо пра кусцістую, густую, як аўчына, рунь, пасрэбраную першым інеем, які ружова адсвечваецца ў ранішніх сонечных промнях, не кажучы ўжо пра спелы, цяжка і даверліва схілены насустрач селяніну колас жнівеньскага палетка!

А тое свята прасторных, залатых сонцам і саломаю жнівеньскіх дзён, яшчэ не пацямнелага, пахучага ржышча, мяккіх «коцікаў» паміж яго! І потым дзе-нідзе ўжо першыя стомленыя палосы шэрае, спустошанае восеньскае раллі. І першы родны і журботны крык шэрых жураўлёў над аўсяным полем!..

І нішто не можа і не зможа абудзіць у чалавеку самых высокіх і самых вечных пачуццяў, як бацькаўшчына! І не

быў, і не будзе, і нельга быць чалавеку шчаслівым, калі ідзе ён па жыцці без бацькаўшчыны ў сэрцы. Няшчасны гэта чалавек, і, мабыць, цяжка і страшна паміраць яму, бо калі памірае чалавек, улюбёны ў зямлю і ў людзей, якія побач з ім жылі, то ён ведае, што пакідае на зямлі і радасць жыццю гэтых людзей, і след сваіх рук на зямлі, і памяць пра сябе ў душах хоць на адно пакаленне.

Ад гэтых маладых, пранізаных сонцам і шчасцем успамінаў на душы ў старое рабілася лёгка, і не гэтакімі доўгімі выдавалі бяссонныя старэчыя ночы...

Анэта прачыналася радасна, прыслухоўвалася да самое сябе, ці і сапраўды яна такая дужая, маладая і лёгкая, як тое шчаслівае дзіця ў тую далёкую летнюю навальніцу. Потым успамінала, хто яна цяпер, колькі гадоў ёй. Але ўсё роўна заставалася на душы бадзёрасць, упэўненасць у самой сабе, у сваёй сіле — усё жыццё пражыла яна, дзяцей пагадавала, ні на кога не азіраючыся, ніадкуль не чакаючы помачы. І цяпер ведала, як ёй жыць, што рабіць, і другому магла падказаць і параіць.

## II

Вецік у адной майцы выйшаў на двор і мыўся пад рукамыйнікам на ледзяным пранізлівым ветры, з асалодаю адчуваў, як ён астуджвае ўсяго яго і ад гэтага робіцца лягчэй.

Выціраўся ён у верандзе, не спяшаючыся, моцна расціраў твар і рукі рушніком, глядзеў праз невялікія шыбінкі на шэрае прыцемнае неба і зноў адчуваў, як ахінае яго адчуванне адзіноты і непрыкаянасці свае. Гэта не давала спакою ад таго самага часу, калі кончылася ўборка, калі выкапалі бульбу, прыбралі з асушанага балота буракі і засталося чакаць павестку ў войска. Не верылася, што нарэшце ён дачакаўся — збярэцца і пойдзе, і не трэба будзе потым прасіць у старшыні сельсавета даведку на пашпарт, спрачацца з бацькам і з маці. Адслужыць — і паедзе куды захоча, бацька тады не ўтрымае.

І ад гэтых думак было лягчэй і радасней, як заўсёды ў маладосці ад прадчування дарогі.

Нецярплівае чаканне павесткі, якую ўсё не прыносілі, быццам ваенкамат забыўся пра яго, ахінала нудотаю. І тады ён «лячыўся» гарэлкаю з тых прыпасаў, якія трымаў бацька на ягоныя выправіны, ішоў у клуб, дзе збіраліся

школьніцы, абдымаў і ціскаў дзяўчат, якія пішчалі і, як дзеці, падбрыквалі па клубе. Гэта надакучвала Веціку. І тады ехаў да Анюткі. Да Анюткі шмат хто ездзіў і да яго, таму і гадавала яна дачку, невядома чыю, хоць была толькі на гадоў тры старэйшая за Веціка.

Вецік ведаў, што пойдзе ён у войска і пра яго паездкі да Анюты забудуць і ніхто некалі блага не ўспомніць — гуляў хлопец перад войскам.

Вецік вярнуўся ў хату, зайшоў за занавеску, дастаў з-пад ложка сіні абшарпаны чамадан і ўкінуў у яго чысцейшыя рабочыя штаны, стары чырвоны тоненькае вязкі світэр, які браў з сабою апрануць, калі будзе холадна, паношаную старую куртку са скуразамяняльніка. Каб гатова было.

— Ужэ збіраешся. Што б горшае ўзяў. Гэта і дома яшчэ насіць можна.

Маці стаяла, абапершыся рукою на прыпечак, у старым шэрым картовым пінжачку з падкасанымі, бо былі доўгія, рукавамі, у картовай, шырокай, як андарак, спадніцы, з хвартухом, які з'ехаў набок, у вялікаватай, напушчанай на лоб чорнай хустцы, ад якой яшчэ больш хваравітым і бляднейшым здаваўся твар.

Маці на сухіх дрывах пякла сала і мяса, каб паднавіць закусь на двух сталах, за якія бацька на вечар меўся запрасіць конюха Федзьку, паплаўнічага Статкевіча, рамянцёра з канаў Пятра, малакавоза Будкевіча і яшчэ сяготага з тае брацii, пра якую людзі гавораць, махнуўшы рукою: прапашчы за гарэлкаю чалавек, і не завуць, калі толькі можна, за стол іх разам з усёю бяседаю. Клікаў іх на дапоіны стары Дзягель не толькі таму, што ў канаўшчыка можна было ўкасіць сена, Будкевіч мог прыпісаць малаку, якое здавалі, самую большую тлустасць, Федзька заўсёды каня дасць, будзе і збруя, і калёсы, бо цяпер не толькі мала коней засталося, але няма і падвод, і збруі. Яшчэ і таму клікаў іх стары Дзягель, што, хоць і сам цяпер пасмейваўся з іх, былі яны некалі адною кампаніяй. Калі хадзіў Дзягель у брыгадзірах і старшынёй нават быў, Будкевіча паставілі старшынёй сельсавета. Статкевіч фельчарам рабіў. А Федзька пасля франтавое кантузіі, не здымаючы нават лейтэнанцкіх пагонаў, ездзіў па вёсках страхагентам. Усе яны любілі насіць зашчытнага колеру гімнасцёркі з белымі падкаўнерыкамі, камсастаўскія папругі і зашчытныя фуражкі. Цяпер гэтая фуражка засталася толькі ў Федзькі ды ў Дзягеля. Праўда, у Федзькі старая, з паломаным брылём,

а ў Дзягеля ўсё чэсць па чэсці: і фуражка, і боты, і папруга, і белы падкаўнерык чорнае шарсцяное гімнасцёркі.

Астатнія папрапівалі свае фуражкі.

Прыйшла ім пара саступіць месца маладым. Так ці інакш усе яны пасталі тым, чым цяпер ёсць. Будкевічава кар'ера скончылася пасля таго, як ён прыбіў качалкаю суседа за тое, што той адараў у яго на сотках лішнюю баразну. Статкевіч вымушан быў пайсці ў паплаўнічыя, бо ў райздраве разгледзеліся, што быў ён пры медсанбаце толькі санітарам.

А Федзьку зволілі як малапісьменнага работніка, калі скончылася пара пашаны да розных там агентаў. Федзька пасля гэтага запіў, бо не разумеў, чаму яго, самага актыўнага работніка, звольнілі, першыя гады баяўся адзін паказвацца ў далёкія вёскі.

Сам жа Аляксандр Дзягель трымаўся даўжэй. Не запіў, хату выбудаваў, сабраў багацця, але перабег яму дарогу калгасны бычок. Гэтак хітра перабег, што разаслаўся на хаце цынкавым дахам... Вялікае пагалоскі не пусцілі праўленцы, але з брыгадзіраў давялося пайсці за год да пенсіі... Цяпер, думаючы пра ўсю гэту кампанію, якая збярэцца на цэлы вечар у хату і завядзе п'яную гаворку пра мінулае, Вецiку стала не па сабе.

Знаёмы ад самага дзяцінства пякучы жаль да маці варухнуўся ў грудзях. Ёсць жа і апрануць што, ёсць і грошы, бо нікуды іх не трацілі, а толькі збіралі... Цяпер бы пашкадаваць сябе, свайго здароўя, пажыць. Няўжо яна і нарадзілася толькі, каб рабіць работу? У маладосці біў муж, пакуль не адбіў здароўе і не перашалеў. А яна ўсё пыніць дома гаспадарку... Шкадаванне гэтае, можа, было ад таго, што невядома калі ён болей і ўбачыць маці. І нейкая горыч ашынула з-за таго, што і на развітанне не хапіла ў маці нічога іншага, акрамя як пашкадаваць яму адзежыну.

Але маці ўжо не глядзела на Вецiка, снавала ля сталоў няўпэўненаю сваёй хадою, якою яна ходзіць ужо даўно, за якую людзі празвалі маці Сноўніцаю. Так і звалі, быццам і не было ў яе імя. Вецік ведаў, што злосць у людзей і да маці была з-за бацькі, бо ў вёсцы недалюблівалі яго і памяталі тое, чаго не мог памятаць і ведаць Вецік. Вецік падумаў: як маці яшчэ і ходзіць, бо з пазаўчарашняга, калі прыйшла павестка, яна не прысела. І дапамагаць ёй не было каму.

Бацька знарок трымаў да выправін і не калоў парсюка. Як прыйшла павестка, яны ўдвух з Вецікам пасля абеду

закалолі, асмалілі і разабралі яго. За ноч маці мусіла пачысціць кішкі, папарадкаваць усё, напхаць заўтра зранку кілбасы, а потым і варыць і ставіць на сталы, каб да вечара было што даць людзям закусіць. Бацька назапасіў гарэлкі, і Вецік не разумеў, нашто столькі зваць людзей, калі моладзі кампанія была чалавек пяцёх хлопцаў, тых жа самых школьнікаў і дзяўчат. Калі пасля п'яных віншаванняў і наказаў яму ў дарогу пусцілі па сталах засланую хусцінкаю глыбокую міску, здагадаўся Вецік, што меў на ўвазе бацька, як запрашаў шмат людзей, і сам успомніў, што, бываючы на выправінах, клаў грошы «на дарогу». Але цяпер самому зрабілася не па сабе ад гэтых грошай, якія маці раніцою, калі ён ад'язджаў, пералічыла і выдзеліла дваццаць рублёў, а астатнія бацька збіраўся пакласці на кніжку.

На выправінах Вецік глядзеў на п'янае застолле, і здавалася, не п'янеў, хоць і піў нараўне з усімі. І не заўважыў і не памятаў, як яго вывелі і паклалі спаць у сенцах, накрыўшы кажухом, і пад якім было цяжка і нядобра. Вецік не мог падняцца, калі бацька, таксама п'яны яшчэ, у гімнасцёрцы з расшпіленым каўняром, будзіў яго раніцою, дапамагаў збірацца, пасадзіў за стол, прымусіў і маці з імі падняць на дарогу чарку. Вецік наліў сабе піва, маці толькі памачыла гарэлкаю губы і паглядзела на стол, быццам выбірала, што з'есці, але так і не знайшла.

Калі ён выходзіў з хаты, маці апошні раз прыпала да яго, і ён адчуваў, як яе рукі сутаргава абдымаюць і прыціскаюць, нібыта ён маленькі і яна баіцца, не дае, каб адабралі яго ў яе. Ён амаль сілком выслабаніўся з рук, заспяшаў на двор, бо і самому горнасць пераціснула горла. І калі азірнуўся, убачыў праз акно, як маці глядзіць яму ўслед, быццам прыкутая да прыпечка.

Бацька ў варотах прыпыніўся, неяк сур'ёзна і ўрачыста паказаў на складзеную слупком на агародзе і накрытую зверху толлю цэглу:

— Служы, сынок, як трэба. Але галаў сваю беражы, уперад ніколі не сунься. І каб нам брыдка не было. Ты чалавек вясковы, рабацяшчы, там табе цяжка не будзе. Каб мне брыдка не было, бач, Толя распіўся, у турме. Кожны гэтым у вочы мне пора. А як адслужыш, то ў мяне з гэтае гары цэглы гараж будзе, а ў гаражы машына табе стаяцьме!

Бацька горда падняў галаву і паглядзеў на сына. Вецік не ведаў, што сказаць, і толькі недарэчна ўсміхаўся, гледзячы на цэглу.

Ля машыны бацька абняў, нязграбна пацалаваў у шчаку, сунуў у руку яшчэ дзесятку грошай.

Машына выехала за вёску. Наперадзе холадна, як лёд на чыстай вадзе, зазелянелася ранішняе неба. Над зямлёю, умёрзлаю, чужою, пачаўся шэры прыцемак, і ў гэтым прыцемку слабым чырвоным святлом свяцілі аўтамабільныя фары, і веліч прыцемкавага поля быццам праглынула машыну ў сваёй пустэчы і неабдымнасці. Толькі тоненька, напята звінеў недзе ў шчылінцы кабіны тугі напорысты вецер. Вецік крышку прыадчыніў ветравічок, каб свежы вецер астудзіў твар, з палёгкаю ўздыхнуў, быццам нарэшце вызваліўся. Ён даўно ўжо вырашыў, што не вернецца з войска дадому, бо добрыя грошы можна зарабляць не толькі ў калгасе, і ён будзе зарабляць і жыць у асалоду, і ніхто там не скажа, што ён, Вецік, сын таго Дзягеля... Дарэмна абяцае яму бацька і грошы і машыну,— баіцца, што без догляду застанецца яго набытак. Толю ж некалі жывасілам выпраўляў у горад, у людзі...

Але з чыстага марознага досвітку не сталася светлага дня. І ў Веціка таксама не было далёкае дарогі: іхнюю каманду чамусьці затрымлівалі з адпраўкаю, і ў абед ён на рэйсавым аўтобусе прыехаў дадому, да панядзелка. Калі ён вярнуўся, у хаце ваўсю папівалі і даядалі патрусіны. І яго зноў пасадзілі на покуце...

Цяпер, складаючы ў чамадан адзенне і ўспамінаючы доўгі гэты дзень, Вецік шкадаваў, што не пакінулі іх там дзе пры ваенкамаце перачакаць дзень ці два, дома ўжо не было чаго рабіць.

— Ты куды гэта збіраешся? — насцярожана запыталася маці, унёсшы з сянец і ставячы на стол, выцершы фартухом, запацелыя бутэлькі.

— У клуб схаджу, куды яшчэ.

Ён і сам не ведаў, куды пайсці.

Маці недаверліва паківала галавою:

— Не ўдумай да тое хоць перціся! Ад людзей аж брыдка! От прыйдзе бацька з мужчынамі, пасядзеў бы разам, пагаварылі, а то апошні дзень і то не ўседзіш у хаце.

Вецік не захацеў спрачацца. Падумаў, што і сапраўды скора прыйдзе бацька з гасцямі, і тады прыйдзецца заставацца і сядзець.

Ён апрануў новую, на футры, куртку, надзеў пыжыкавую шапку, апрануты прысеў да стала, на хаду зглынуў некалькі кавалкаў мяса, з рыльца выпіў бутэльку напітку

узяўшы пад руку, як дапамагаў бацьку ўгаворваць чалавека Лёня, як пасміхоўваўся Гена.

Вецік паціху пайшоў дахаты, пераадзеўся, завёў трактар і паехаў дадому.

## IV

Музыканты не ленаваліся іграць, не рабілі доўгіх перакураў. Танцавала найбольш моладзь, якой многа сабралася на вяселле — папрыязджалі з горада дзеці на выхадныя да бацькоў. А таму і заказвалі найбольш модныя цяпер танга, шэйкі, казачкі, і ўжо самі музыканты — старэйшым — пачыналі вальс ці дустэп. Да «рускага» яшчэ не дагуляліся, бо не выйшлі з хаты сваты, перавязаныя ручнікамі і добра расчырванелыя ад выпітага і ад гарачыні за сталом.

Міш таксама чакаў сватоў і чакаў «рускага». Ад выпітае гарэлкі пачынала соладка туманіцца ў галаве, лёгенька пазвоньваць у маладыя званочкі. Мішу неставала «рускага», бо цяперашніх танцаў, у якіх маладыя падскоквалі, як козлікі, ён не ведаў і не прызнаваў. Які ты хват, можна паказаць толькі танцуючы «рускага».

А таму, як толькі паказаліся сваты на вуліцы, Міш асцярожна, бы падкрадваючыся, падаўся да музыкантаў, стаў ля барабаншчыка, па-свойску ўсміхнуўся яму, падміргнуў, махнуў рукамі: адною быццам стукнуў па талерцы, а другая ўдарыла булавою. Барабаншчык, маленькі, худы, ужо ў гадах мужчына, зразумеў, што ад яго хочуць, нават ахвотна ўстаў, зняў з пальца сырамятную почапку, падаў талерку і булаву.

Міш, пахіснуўшыся, сеў за барабан, спачатку ўдарыў крыху не ў такт, а потым нахіліў голаў, прыслухоўваючыся, пачаў барабаніць у лад, калі і не чуў, як іграе барабан, то па руках сваіх адчуваў, што ўдарае не надта моцна і не ціха. І як наладзіўся барабаніць, ужо не надта прыслухоўваўся, больш цікаваў сватоў.

Але тыя не спяшаліся. Спачатку курылі, нешта моцна і весела гаворачы з гэтакімі ж самымі чырвонымі ад гарачыні вясельнымі жанкамі. І толькі пасля таго, як Міш збарабаніў яшчэ вальса, на круг выйшаў малады мужчына, доўгавалосы, у штанах з расклёшанымі калошамі, п'янавата папрасіў — «рускага!» — няўпэўнена прайшоў па крузе, спыніўся перад сватамі, прытупнуў нагою, раз, другі, развёў рукамі, запрашаючы ў круг. Першаю на яго запрашэнне азвалася тоўстая, як печ, баба, пайшла ўкруга

хлопца, нечакана лёгка, зграбна перабіраючы нагамі, як падмеценая.

От з ёю Міш і мог станцаваць, як гэта танцавалі некалі, у яго маладосць. І каб гэта было яшчэ зухавацей, Міш прыгнуўся, перакінуў на плечы рэмень барабана і з ім, зыбнуўшыся з першага кроку, ірвануў у круг, ужо забыўшыся пра ўсё. Стараючыся, каб прыгажэй выходзіла, ён сіліўся вытупваць нагамі, але яны, і старыя ўжо, і п'янаватыя, не слухалі і смешна тупацелі, стараючыся ўтрымаць гаспадара, каб той не ўпаў.

Але Мішу тым не менш здавалася, што ён плыве, ляціць па крузе, як вецер. Ён ужо не чуў, што там і як там іграла музыка, лупіў па барабане, усміхаўся і гэтак жа шчасліва на ўсе грудзі вухкаў ад асалоды, як балотны бык.

І сваха, і той малады хлопец, што пачаў танец, шарахнуліся з круга — далей ад барабана і ад булавы, якая шпарыла па ім. Але Міш не заўважаў гэтага, яму здавалася, што ўсе пайшлі танцаваць. Ён бачыў вакол сябе, як варушыліся, смяяліся людскія твары — усе танцавалі разам з ім...

— Давай, Міш, давай! — крыкнуў Бонусь, выціраючы слёзы, якія выступілі на вачах ад смеху, пераможна кіўнуў вокам на Лёню, які гнуўся, таксама задыхаючыся ад смеху, на Гену, які забыўся пра сваю флегматычнасць і ціха прыгаворваў: «Ну дае! Ну дае!»

Было нешта і жаласлівае, і бездапаможнае, і смешнае ў гэтым стараватым ужо чалавеку з вялізным барабанам перад сабою. Смешна, як блытаюцца, падымаючы пыл, нязграбныя ногі, як ён зыбаецца то ўбок, то назад, то ўперад, гатовы вось-вось кульнуцца цераз барабан.

— Гу-ух! Гу-ух! — задаволена гухкаў Міш, і каб яшчэ лепш і цікавей здаваўся танец, зароў на ўвесь голас свае самыя заліхвацкія прыпеўкі, прынесеныя з-за свету, з ваенных дарог.

Ой сарокі, ой вароны,
Чорна пер'е на хвасце,
Не чапайце хлопцы дзевак...

Міш крычаў на ўвесь голас, сп'яна заўважыў, як ажывіўся, зарагатаў натоўп.

Я па садзіку ішоў,
Кірпічы да кірпічы...

Бонусь бачыў, як аж прысеў ад смеху Гена, як ляпнуў па сцегняках Лёня.

Ён радаваўся, што гэтак пацешыў дзяцей.

Натоўп рагатаў, рагаталі музыканты, якія перасталі іграць: без музыкі і сам танцор, і ягонае бухканне ў барабан здавалася яшчэ смяшнейшым, пакуль прыезджы хлопец у белай рубашцы з закасанымі рукавамі, маленькі, хударлявы, але жылісты і крываногі, як клешч, мабыць, дабравата выпіўшы, у гэтых прыпеўках убачыў вялікую зняславу вяселлю, выйшаў у круг, выхапіў з рукі ў Міша булаву, паклаў руку яму на плячо. Міш спыніўся, няўпэўнена пахістваючыся, і, можа, каб не трымаў яго хлопец за плячо, то і не астоеўся б на нагах. У Міша ў запасе было яшчэ многа такіх прыпевак, якія ўпадабаліся людзям, і ніхто не мог перашкодзіць спяваць іх.

— Пайшоў!..— Міш лёгка махнуў рукою і некуды далёка ўбок адмёў гэтага настырнага хлапчука, які замінаў яму. Але гэта толькі здалося яму. Хлопец нікуды не адляцеў, хоць і трапіў яму Міш пад нос. Міш сам пахіснуўся, ледзьве астоеўся на нагах, а хлопец, пакрыўджаны, што за яго добрыя намеры, за яго добрае абыходжанне б'юць па мордзе, па-петушынаму спрытна, аж нават падскочыўшы, стукнуў Міша кулаком па твары, цэлячыся ў сківіцу, але папаў недзе вышэй, у шчаку, пад вока.

Міш лёгка, як гумавы, пахіснуўся, але ўпаў уперад, потырч цераз барабан, кульнуўся цераз яго. Войкнулі бабы, моладзь зарагатала, бо вельмі ж смешна дрыгнуў Міш, падаючы, нагамі.

Адразу ж нехта з вясковых падбег і адцягнуў убок хлопца. Да Міша кінуўся барабаншчык, спужаны за свой інструмент. Нехта з суседзяў падымаў і дзяржаў Міша, які роў дзікім голасам.

— Дай кол! Усіх паб'ю!

Але яго тым часам выбавілі з круга. Каб замяць здарэнне, музыканты прылажыліся да труб, і за музыкаю слаба было чуваць, як плакала і ўпрошвала Міша жонка, якой, мабыць, наказалі і якая прыбегла, як роў яшчэ Міш, але ўжо не так рашуча, больш працяжна.

Аднекуль з натоўпу паказаўся той самы клешчаногі хлопец, ужо спакойны, усмешлівы і падаў музыкантам булаву.

## V

Пасля снедання, пасля чаркі Бонусь з сынам і з зяцем сядзелі на лавачцы пры плоце на двары, курылі. Чакалі, пакуль Лёнеў аўтобус — да яго Гена меўся падвезці Лёню.

— А Вецік учора невядома калі і знік.

— Вецік хоць і сын мой, але некі, як баба! — махнуў рукою Бонусь.— О, Міш, ідзі сюды! Пахмелімся!

Міш быў у сваім учарашнім картовым касцюме, у тых жа самых сандалетах на босую нагу, у руцэ сцябліна, якою ён памахваў на качак, што чарадою, незадаволена пакракваючы, тупацелі паперадзе, за другую руку трымаўся ўнук.

Міш, мабыць, пачуў сваё імя, спыніўся, агледзеўся і ўбачыў Бонусяў на двару.

— Пахмяліся ідзі, кажу табе! — падміргнуўшы, запрасіў Бонусь, які добра ведаў, што пасля выпіўкі Міш не тое што пахмяляцца, а і есці дзён са тры не бярэ.

Міш зразумеў, неяк уважліва, нібыта хацеў прыгледзецца і распазнаць, глядзеў на Бонусяў. І на змучаным, шэрым яго твары, дзе пад вокам і здалёку відзён быў чарняк, адбілася пакутлівае неразуменне. Як бывае ў чалавека, калі ён глядзіць на даўно знаёмае, добра вядомае — і не можа пазнаць ці зразумець яго. І гэтакае ж дарослае сур'ёзнае неразуменне з'явілася і на дзіцячым, занадта бледнаватым улетку, тварыку.

Міш нічога не адказаў, толькі паківаў галавою, неяк горка і дакорліва, і цяжка, старэчым крокам пайшоў следам за качынаю чарадою. Унук яшчэ раз азірнуўся на Бонусяў — быццам хацеў пра нешта здагадацца...

Бонусь толькі кракатнуў, Лёня зірнуў на гадзіннік, і хоць было яшчэ ранавата, сказаў:

— Трэба збірацца.

Гена флегматычна ўсміхаўся, нібы нічога не заўважаў і нічога яго не датычыла ці нявартае было ягонае ўвагі. Але ўсе ўтрох скоранька, як і сапраўды трэба было спяшаць, усталі з лаўкі.

*1975*

# ПАГАРЭЛЬЦЫ

Час ідзе, бярэ сваё жыццё. Сцішана глядзіць вёска з-пад засені векавых прысад на новыя пасёлкі, цэнтральныя сядзібы. І жыве, упэўненая ў сваёй патрэбнасці, сваёй праваце, зносіць ціха і цярпліва, па-сялянску, добрае і дрэннае, успамінае старое жыццё і дзівіцца праявам новага. Хаця здзівіць яе ўжо і цяжка — такога нагледзелася. Летам толькі ажывае галасамі сваіх гарадскіх унукаў,

якіх наязджае болей, чым саміх жыхароў асталося. Слухае і ведае таямніцы бацькоў іхніх, якіх яна нарадзіла, а разам з імі і многа такога, што яшчэ гадоў дваццаць таму ёй і сасніцца не магло. Напрыклад, легкавічкі, якія сёння пыляць па вуліцы, а на ноч хаваюцца ў гаражы, што павыстаўлялі з платоў на вуліцу тлуста пафарбаваныя чырвоныя, сінія, срабрыстыя жалезныя вароты.

Першы даў форсу Віцічак: невялічкі, шчуплы мужчына ў дзігіналевым салдацкім фрэнчы, галіфэ і ботах. Твар у яго заўсёды зарослы рэдзенькай рыжаватай шчэццю. Нават на святы, калі галіўся, усё роўна здавалася, што маленькі твар яго зарослы. А на самім Віцічку не касцюм, а дзігіналевы фрэнч.

Вёска ведала, што Віцічак прагны на работу і на дабро. Як толькі крыху абжылася вёска пасля вайны, Віцічак улёг збіраць грошы: свіней трымаў, бычкоў гадаваў, гусей, качак... Акрамя калгаснай работы зранку і вечарам цягаў мяшкі з зеллем усё лета. Потым падрасла старэйшая, Таня, пайшла ўслед за бацькамі ў работу.

У той час Віцічак быў схадзіў нават і ў начальства — пабыў брыгадзірам. Нядоўга, праўда. Дапамаглі зайздрасць і звяглівасць. Выгледзеў у жніво, што нехта схаваў пад саломай у полі кучу збожжа. Не вытрывала душа, сам паехаў дармавое забраць. На тым і папаўся.

Пасля Віцічак гаварыў канцавому Косціку:

— Нацёрта яно мне было тое брыгадзірства! Толькі з людзьмі настыраешся, а наробку ні каліва. Цяпер цялят пасу, у месяц больш за самога старсыню зарабляю!

Але гэта ўжо пасля строгай партыйнай вымовы і таварыскага суда.

— Дык цялят можна і не камуністам будучы пасвіць. А то ж плаціць трэба,— пад'ялдыкваў Косцік.

— У арміі ж нас, лепшых, прымалі, хто ж яго думаў...

Віцічак спахопліваўся і замаўкаў, на ўсякі выпадак азіраўся, ці няма каго паблізу, акрамя Косціка.

Віцічак ганарыўся, што здагадаўся і не пасылаў сваіх дзяцей у горад у вялікую навуку, як модна было на першым часе. Праўда, і самі іхнія атэстаты падказвалі, што гэтакі блат будзе дарага стоіць ды і невядома, што з яго выйдзе. Сваёй мудрасцю Віцічак потым і пахваляўся.

— А сто цяпер тая навука дае? Нуль цэлых, ... дзесятых. Мая ў сталоўцы робіць, галава не баліць, усяго хапае!..

Рабацяшчая і змысная, яго Таня ў сталоўцы знайшла сваю залатую жылу. Прыязджала дагледжаная, разадзетая.

— Цэлую сумку навезла яды. Сьто толькі хоцясь! — хваліўся Віцічак.

— То і мяне б пачаставаў,— абзываўся Косцік.

— Пайшлі! Яна да мяне без бутэлькі горкай і не едзе!

Віцічак ведаў, што цяпер яго Вера нікуды не дзенецца, выдасць прывезенае дачкой.

Потым Тані і вяселле справіў. Без вялікага размаху, але і не беднае. Маладыя ў сельсавет распісвацца на легкавых машынах ездзілі — зяць працаваў на рэмзаводзе, і Тані з «торгу» «Волгу» выдзелілі.

— Сьто ты хоцясь! У яго рукі залатыя. Усе да яго — выручы!..

Зяць умеў рабіць грошы. Хутка Таня прыязджала на ўласнай «Волзе». Зяць не без дапамогі Віцічка купіў старую машыну, ці перарабіў у новую. Потым на вуліцы насупраць Віцічкавай хаты выраслі штабялі лесу, з якіх потым на ўчастку ў горадзе, які маладыя купілі разам з «урамянкай», устаў звонкі, з вялікімі вокнамі дом.

— Усё сваё. Сад. Агарод, як і не ў горадзе, а на дацы. Толькі кватаранты за ўрамянку шэсцьдзесят рублёў плоцяць у месяц!..— не мог нацешыцца Віцічак.

Таня Віцічкава тым часам злілася ў мажную, моцную, як злепак, маладзіцу. І зяць пакруглеў з твару, заблішчаў, а вусы распушыліся і натапырыліся. Пад домам ягоны гараж ператварыўся ў майстэрню. Аднаго, чаго не хапала Віцічку,— унукаў. Калі спачатку ён мудра пасміхаўся: «Абжыцца трэба, а дзяцей нарабіць навука невялікая»,— то цяпер памоўчваў, не прызнаваўся, што Таня і па дактарах ходзіць, і на курорты ездзіць. Каб насаліць Віцічку, суседка Шура, з якой мяжу на пляцы Віцічак не можа навесці і да сённяшняга дня, гаварыла ўсім:

— Дзе ж тое дзіця будзе? Каб даставаць, усім падстаўлялася. Лякарствы піла, каб дзяцей не было. А цяпер ялаўкай і зжыве!

— Ну што ты ад дурной Сулкі хоцас? — разводзіў рукамі Віцічак.

Але і без Шуркі ведала вёска, што неаднойчы зяць, пасля таго як добра «закідаў» з цесцем, ганяў ноччу жонку з пастронкам у руках па садзе, называў адным толькі словам. Тая скуголіла, а Віцічак з Верай пераймалі зяця і ўпрошвалі:

— Колечка, людзі ж пачуюць! Брыдка будзе...

Тым часам рос і Віцічкаў Вова. Гусей ён яшчэ пасвіў паслухмяна, а далей пайшоў сучаснай дарогай. І як ні

крывіўся Віцічак, а купіць сыну матацыкл у восьмым класе давялося.

— Школа цяперасьняя дзяцей распусціла. Цьорт ведае дзе ўсю ноч на матацыклах лётаюць? [redacted] б то свайму не купіў, але Таня... Грошай хапае, падарыла.

Гэтак гаварыў Віцічак, але вёска ведала, што даў грошы сам Віцічак пасля таго, як Вовік раніцай закрыў шклом комін, калі маці толькі запаліла ў печы, [redacted] дзверы калом падпёр. Давялося Віцічку праз акно вылазіць. Хоць летам гэта і лёгка, але ж не хацелася, каб суседзі бачылі, як дым праз вокны валіць. Вовік прыгразіў, што калі не купяць матацыкл, то не такое яшчэ ўчыніць.

Год пасля школы Вовік гойсаў на матацыкле на ўсе гулянкі ў наваколлі, пакуль не забралі ў армію. Праз два гады Віцічак гаварыў:

— Армія сьтука добрая, мухі выганяе! Таня яго на мясакамбінат прыстроіла. На кааперацыў на царгу стаў. А дзеўку яму я сам добрую прыгледзеў, Мішы з Замосця. Дарма, сьто маладая, але Міша дваццаць тысяч рублёў на каравай даў ёй!..

— А ты, багатыр, нябось зажаўся. Рады, што свата багатага знайшоў,— паддзеў Віцічка Косцік.

— Цяму? Я на ўсю абстаноўку, як палучаць кватэру, даў.

— Пакуль таго кааператыву дачакаешся...

— А ім за каршэнь не капае. У Тані жывуць, ва ўрамянцы. Гэта толькі сказаць, што ўрамянка, [redacted] так нармальная хата. Чакай, колькі табе хоцяцца! Усе разам, як адна сям'я,— завяршаў гаворку шчаслівы Віцічак, і Косцік уздыхаў:

— Што тыя дваццаць тысяч. І я б іх даў, каб хто толькі маю браў.

Ішло жыццё. Зліквідоўваліся, а потым зноў пачалі называцца перспектыўнымі вёскі. Але перасталі ў магазінчыкі, якія былі ў кожнай вёсачцы, штомесяц прывозіць па цэлай машыне «чарніла». А як перасталі прывозіць, то магазінчыкі тыя зачынілі, пару разоў на месяц аўталаўку прысылаць сталі. І ўсё зноў рабілася з клопатам пра чалавечы фактар, а той гэтага не разумеў. І мацюкаўся. Гэтак жа, як і на «пажарнікаў», якія пачалі лазіць па будынках, чамусьці разам з участковымі, і больш нюхаць па кутках, чым аглядаць гарышчы і каміны печаў. Але ж гэта толькі забаўкі ў параўнанні з тым, што перажыла вёска пад сваімі векавымі ліпамі і вязамі, што з ёю выраб-

лялі, малюючы сонечныя перспектывы, пакуль людзей па свеце не разагналі. Меншае і меншае яна, як шагрэневая шкура, а таму кожны чалавек у яе на віду.

Некалькі дзён не паказваўся на людзі Віцічак, і пачалі перапытваць у вёсцы, ці не захварэў? Але не ехала ў адведкі на «Волзе» Таня, і Вовік са сваёй не паказваўся.

Усё адкрылася, калі да Віцічка зайшоў у адведкі канцавы Косцік, які апошні месяц праз дзень ездзіў у горад у гарэлачны аддзел гастранома і гараваў у кампаніі з бутэлькай сваё гора: ягоная дачка пайшла доктарам у армію, у Афганістан.

— Ну, яна ж доктар, а не салдат. І вайна гэта, кажуць, к канцу ідзе. Мо і з мужам адтуль вернецца. Сьто табе Косцік, гараваць вельмі! А ў мяне горш, чым у вайну карацель прыйшоў! Вот воўк навадны вырабіў дык вырабіў! З Вовікавай Ларыскай злёгся! На развод падалі, палавіну ўсяго адсудзілі, селі на «Волгу» і паехалі! Там, кажуць, радыяцыі няма. Куды ж цяпер мая Таня? А Вовік гуляе, грошы прапівае! От вырабіў! Горсь, чым немец прайшоў! Усю жызню — падчыстую! Пагарэльцы мы з Верай! Усю жызню будаваліся, а цяпер на галавешках сядзім. Пагарэльцы.

Віцічак плакаў горкімі слязамі, Косцік ківаў галавой, глядзеў у акно, за якім стаяў душны жнівеньскі дзень. Млелі на сонцы векавыя прысады. З акна відаць было, як па гравійцы пыліла калгасная агітмашына з чырвоным лозунгам на будцы — «Усе сілы на...» — развозіла механізатарам абед у тэрмасах. За ёй уставала густая сцяна пылу, бязлітасна спякотнага пасля чарнобыльскага лета, і асядала на траву, на лісце, на даспелую збажыну.

*1988*

# ХЛОПЧЫК НА КРАІ ПОЛЯ

— Чым гэту падлу дзяржаць, кабана б лепш выкарміў,— Була замахнуўся нагой на рослага, вастравухага і паджарага сабаку, помесь сібірскай лайкі з дварнягай. Той вінавата апусціў голаў і ступіў убок, за гаспадара.

— Падла! Што ты тут, мол, сваё я паказваеш? Ён цябе як пужне! — заступіўся за сабаку гаспадар, сярэдняга росту, круглатвары, як жанчына, Моля. Яго ружовы твар вечна быў парослы рыжаватай шчэццю. Пад пахай ён трымаў фуфайку, у другой руцэ — таўставатую палку.

Молем яго празвалі пасля арміі з-за прывезенага адтуль «мол я», якое Моля пад чаркай устаўляў пасля кожнага слова.

Мужчыны стаялі пры загарадзе. Даяркі пачыналі даіць кароў, і ў надвячоркавай цішыні першыя струменьчыкі востра пазвоньвалі аб дно даёнак. Адыходзіў яшчэ адзін цёплы, сухі, нават і душнаваты жнівеньскі дзень. Але пасля таго як сядзе сонца, свежа, не па-летняму пацягне ветрыкам.

Була быў адзеты ў галіфэ, пінжак і хромавыя боты, на галаве пажоўклы летні капронавы капялюш — усё ж начальства, загадчык аддзялення. Ён лена пацвельваў Молю з-за таго, што зайздросціў таму на сабаку.

А наогул яны вымушаны былі чакаць, пакуль даяркі падояць кароў і па малако прыйдзе з цэнтральнай машына. У вёсцы сваіх пастухоў не знайшлося, і Моля згадзіўся пайсці пастухом на гэтую ферму толькі пасля таго, як старшыня накінуў яму да зарплаты дваццатку — камандзіровачныя, як гаварыў сам Моля. Була таксама вымушаны быў пайсці сюды загадчыкам аддзялення, бо на цэнтральнай яму, пасля выхаду на пенсію, ніякай «кіруючай» пасады не прадбачылася. Сядзець склаўшы рукі яму, здароваму яшчэ мужчыну, не было як, а ісці ў пастухі Булу не дазволіў гонар — у калгасе ён увесь век пражыў на кіруючых пасадах, ніжэй фуражыра не апускаўся, на пенсію пайшоў з брыгадзіраў. Ісці ў пастухі і раўняцца з Молем яму ніяк нельга было, хаця пастухоўскі заробак муляўся яму. Моля зарабляў больш за яго разоў у чатыры, калі не ў пяць. Ён не пабаяўся пакінуць трактар, з механізатара зрабіцца пастухом гадоў дзесяць назад. Тады з Молі пасмейваліся — у даяры б ужо ішоў, каб у газетах распісалі і па тэлевізары паказалі. Моля на смешкі не зважаў — ведаю, што раблю, пасмяецца той, хто будзе смяяцца апошнім. Ён палічыў, колькі на трактары ўдыхае пылу, дыму і іншай мазутнай і саляравай атруты. На пашы ж ён, як на курорце, летам зранку хадзіць босы па расе,— яна не толькі здымае ўсе хваробы, але і здароўе наперад дае. Моля выпісваў цэлы жмут газет, у тым ліку і «Медицинского работника», насіў іх з сабой на пашу і прачытваў за дзень усе ад пачатку да канца. Часу чытаць хапала — на пашы стаялі электрапастухі, ды і Тузік быў навучаны пасвіць гавяду.

— Праўду, Аддзялёны, кажаш.

З-за кароўніка выйшаў, на хаду зашпільваючы штаны, Паваляй, Молеў напарнік. Фуфайку ён надзеў ужо, а галава, сівая, коратка астрыжаная, была без шапкі. Паваляй адзяваў лёгкую спартыўную шапачку з доўгім казырком толькі ў самую спякоту, а так з вясны да асенніх дажджоў хадзіў з «босай галавой».

Паваляй — равеснік Булы, яны некалі разам вучыліся ў школе, разам прызываліся перад вайной у армію. Паваляй за час вайны выслужыўся да афіцэра, астаўся ў арміі і пасля вайны, пакуль яго ў шасцідзесятыя не спісалі ў запас у званні старшага лейтэнанта.

Пасля вяртання дадому ён пахадзіў брыгадзірам, потым загадчыкам фермы, але навык кіравання, які ён набыў у ахоўных войсках, у калгасе не надта падыходзіў, таму паступова ён сышоў да пастуха. Высветлілася яшчэ, што ў час ваеннае неразбярыхі ён умудрыўся — цяпер невядома нашто, хіба каб перад бабамі пакрасавацца? — абмаладзіцца на цэлых пяць гадоў. У свой час, можа, і была нейкая выгада ад гэтага амаладжэння, але цяпер з-за пенсіі даводзілася адрабляць гэтыя пяць маладзёжных год.

— Пужні яго, дык Моля суткі шукаць будзе,— злёгку ў нос прагугнеў Паваляй. Ён быў худы і рослы, на дзве галавы вышэйшы за Булу і за Молю.

— Паспорым, што не пужне,— ружова расплыўся ад усмешкі Моля.

Паваляй ужо спрачаўся з Молем і купіў дзве бутэлькі віна.

— Спорым,— азваўся Була, хаця яшчэ не вырашыў, што рабіць. Занятку не было, і машыны на дарозе пакуль што не відаць і не чуваць.

— На колькі? На два «фаусты»? — Моля сам ступіў да Булы.

Сабака знізу ўгору глянуў на гаспадара, нахіліў набок галаў, быццам хацеў зразумець, што збіраюцца рабіць гаспадар і мужчына, якога Босы добра ведаў і на якога не меў ніякай сабачай злосці.

— Давай, я перабіваю,— Паваляй стукнуў па руках.

Була моўчкі ўзяў з рук у Паваляя гэтакі ж гладкі і ёмкі, як і ў Молі, кій, ступіў да сабакі і замахнуўся.

— Тузік, узяць! — загадаў Моля, і Була толькі ўспеў угледзець чорную сабачую пашчу з белымі клыкамі, выпусціў палку, закрыўся рукамі і не ўстояў на нагах ад мяккага, але цяжкага ўдару ў грудзі.

Калі ён развёў крыху рукі, убачыў над сабой сабачы аскал, пачуў утробнае гырчанне, як над косткай, і кароткае гарачае дыханне.

— Тузік, ка мне! — пачуў ён Молеў голас і адчуў, што сабака саскочыў з яго. Прыпадняўся, ашаломлены і спалоханы, азірнуўся, шукаючы капялюш вакол сябе.

Сабака зноў схаваўся за Молю, які задаволена ўсміхаўся ўсімі сваімі рэдкімі і жоўтымі зубамі.

Паваляй жа сагнуўся ад смеху, толькі і змог папытаць:

— Ну, маць тваю, Аддзялёны... Як? Не адзін я, дурань, паспрабаваў. Уставай!

Усе ўтрох не ўгледзелі, калі пад'ехаў і прытармазіў на дарозе аграномаў «козлік». Дзверцы прачыніліся, і агроном гукнуў:

— Була, ты што, напіўся?

Була падхапіўся на ногі. Усе плечы яго былі запудраны пылам.

— Не, ён з Молевым сабакам падужаўся,— выскаліўся Паваляй.

— Талейку на трактары не бачылі?

— Не,— адказаў Була.

Ляпнулі дзверцы, і машына пакурэла пылам далей паўз вёску ў поле.

— Ён ля пашы араў сёння. Пасля Антось канцавы папрасіў, каб іржышча на пляцы заараў.— Моля ўсё пасміхаўся, цяпер невядома ўжо, ці з Аддзялёнага Булы, ці з Талейкі.— Загуў Талейка, не нойдзе яго агроном. Антось гарэлкі не пашкадуе.

Моля з Талейкам разам вучыліся на механізатараў, і цяпер, хоць Моля і лічыў, што лепш за Талейку ўстроіўся ў жыцці, ўсё ж зайздросціў, калі пра Талейку пісалі ў раённай газеце, нават друкавалі фотаздымкі: Талейка і на пасяўной, і на жніве хадзіў у пераможцах. Ён умеў дагледзець і трактар, і камбайн, любіў сваю работу. Яшчэ Моля дасюль не мог забыцца, што Талейка з-пад носа ў яго забраў Ядзю. Моля быў упэўнены нават, што Ядзя сама больш хацела за яго, за Молю.

— Хай шукае, гэта не наша дзела,— буркнуў Була, зняў пінжак і страсянуў яго ад пылу.

— Ядзя, чула, твой Талейка зноў загуў. Агроном ездзіць шукае,— гукнуў задаволена Моля шыракаплечай даярцы ў белай касынцы, завязанай на патыліцы.

— Загуў, то і адгудзе. А ты як зарыеш, то і нос аблупіш,— адрэзала яна і выставіла да дзвярэй бітон з малаком.

Пад чаркай Моля быў слабы на ногі, а таму часта хадзіў з аблупленым тварам.

— Давай, Аддзялёны, на пашу заўтра валачы «фаусты»,— памятаў сваё Паваляй.

Да кароўніка пад'язджала машына — па малако.

Ядзя вярнулася дадому з кароўніка прыцемкамі. Сына не было дома, мужа таксама. Мабыць, Моля гаварыў праўду. Падаіла карову, і толькі тады на двор на матацыкле ўз'ехаў Коля.

— Дзе ты быў?

— Купаўся з хлопцамі на возеры.

— Бацьку не бачыў? Дзе ён сёння?

— Араў ля пашы.

— Мабыць, нааpаўся ўжэ. Аграном, Моля казаў, ездзіць шукае яго. Праедзь ты паглядзі. Пінжак адзень, холадна ўжо ў адной рубашцы.

Сын быў нечым падобны на бацьку і паставай, і кудлатымі валасамі. Ён і хадзіў, як бацька, пакалыхваючыся з боку на бок. І рукі нёс, як бацька, цяжка, натомлена. Змалку Валодзя вадзіў за сабой і старэйшага, і маладзейшага. Ён любіў быць з дзецьмі, і яны не міналі яму ніколі, якую б работу ні рабіў. Даваў гайку пакруціць, трактарам пакіраваць. Дзеці і прывучыліся да машын. Ядзя з ахвотай некалі адпраўляла з мужам хлопцаў — пры дзецях ён мог дзяржацца, каб не піць.

Бацьку Коля знайшоў хутка — ля кожнага поля ён ведаў бацькавы схованкі. Трактар стаяў збоч поля пад трыма разложыстымі і вялікімі, як стагі, лазовымі кустамі. Матор ціхенька вуркатаў на халастых абаротах, а гаспадар яго на ладным ахапку сена пад фуфайкай смачным храпам перамагаў і матор.

Хлапчук доўга катурхаў бацьку, які адмахваўся ад яго рукамі і мацюкаўся,— спрасонку яму здавалася, што будзіць яго аграном.

— Пайшоў ты, Данілавіч,— адпраўляў ён начальства туды, куды не ходзяць, але пра субардынацыю не забываўся — называў па бацьку.

— А ты, Пятровіч, яшчэ не вылежаўся? — не адступаў Коля, пакуль бацька ўсё ж не расшалопаўся.

— Мілы ты мой, знайшоў прапажу,— Талейка памкнуўся абняць сына. Цяпер ён любіў усіх, нават агранома, які найбольш пільнаваў яго.

— Садзіся, паехалі мацеры здавацца. Дзяржыся толькі, каб не згубіўся.

— Я не згублюся. Куды мне з гэтай зямлі згубіцца? Гэта вы ў свет як у капейку пойдзеце і пагубіцеся. А я тут астануся. Шу-умяць вербы...

— Шумне, шумне маці...

— Не баісь, сын, яна ў нас харошая... Шумяць вербы...

Ядзя адчыніла вароты і чакала іх на двярэ.

— Жонка, мілая мая!..

Талейка падаўся да жонкі, і тая не ўспела адхіліцца, згроб яе ў бярэмя і пачаў цалаваць.

— Мурза ты п'яная! Пусці ж, рэбры паломіш! Дзіця пасаромейся!..

— Мілая ты мая!..

— Пайшлі, пайшлі ўжэ на сена, мілая. Ці вячэраць хочаш?

— Не, нічога не хачу.

— То пайшлі на сена ляж... Ну не лапайся, госпадзі! Дам па руках!

Ядзя завяла мужа на сена, на пасланыя посцілкі, зняла фуфайку, прыкрыла старой коўдрай.

Павячэралі з сынам. Той пайшоў яшчэ пагуляць на вуліцу да хлопцаў. Ядзя зайшла ў хлеў, паглядзела, як спіць муж, паправіла голаў на падушцы, выйшла, пастаяла пры дзвярах і зачыніла іх на затычку.

Назаўтра раніцай, пасля таго як вярнулася з кароўніка і зазірнула ў хлеў, убачыла пустую пасцель. Пры шуле стаяла вынятая з-пад дзвярэй падваротня. Цяпер, калі муж дападзе да цэнтральнай сядзібы, то сапраўды «загудзе» на некалькі дзён — хто не паставіць чарку чалавеку, які не сёння-заўтра будзе патрэбны?

Ядзя зайшла ў хату, пабудзіла сына.

— Уставай, схадзі на работу. Брыдка ж, каб трактар стаяў.

— А дзе ж бацька?

— Панёсся, як цялушка ў партызаны. Пад варотамі, зараза міленькая, вылез.

— Ну дае!

Праз паўгадзіны хлапчук у камбінезоне, у кірзавых ботах з нізка абкасанымі халявамі, з берэткай на галаве, каб не запыліць шавялюру, яшчэ больш падобны на бацьку, ехаў на матацыкле ў поле.

Харытонавіч прачынаўся рана, разам з жонкай, якая ўставала даіць карову. Паволі адзяваўся і слухаў радыё. Стала прывычкай чытаць вечарам газеты, а раніцай слу-

хаць радыё. Потым дапамагаў жонцы карміць свіней. На год яны калолі двух кармлякоў. Аднаго калолі на зіму, другога на лета. Некалі на лета, пакуль былі меншыя, прыязджалі ўнукі. Цяпер падраслі, і ў горадзе ў іх былі большыя інтарэсы. Ды і дзеці прыязджалі рэдка, праўда, пасеяць пляц і выкапаць бульбу збіраліся. А летам Харытонавіч адзін касіў сена на карову. Карову дзяржалі, бо без каровы ўжо нежывая гаспадарка...

Пяты год, як Харытонавіч пакінуў работу ў школе і пайшоў на пенсію. Спачатку радаваўся, што будзе час адпачыць і пачытаць кнігі, якія пакрысе купляў усё жыццё. Але адным чытаннем і ляжаннем не можа адбыць стары чалавек. І Харытонавіч узяўся за сад, потым за платы...

Ён крыху пахудзеў, рукі і твар загарэлі да чарнаты, і загар гэты не сыходзіў за зіму. Перастала мучыць адышка, і ў целе з'явілася нейкая ўжо старэчая хлапчукоўская лёгкасць.

Касіў сена Харытонавіч на меліярацыйных канавах. За тое, што накошваў, павінен быў даглядаць русло. Гэту прывілею даў яму старшыня. Хаця, каб на добры лад дагледзець асушаныя калектары, можна было б і калгасу ўзяць сена, і людзям даць гатовага,— як гэта рабілі суседзі.

Харытонавіч бачыў, як прыгналі кароў, падключылі электрапастуха Моля з Паваляем і селі гуляць у карты. Яны цэлыя дні маглі гуляць у «падкіднога». Пасля палучкі, праўда, дзён колькі па чарзе хадзілі ў магазін і тады да вечара спалі. Сон іхні пільна вартаваў сабака, нікога не падпускаў і блізка.

Молю некалі Харытонавіч вучыў у школе. Ставіў тройкі, бо арыфметыку Моля запомніць ніяк не мог, пісаць не служылі рукі, а чытаць не пafварочваўся язык. Аднаго разу ён прачытаў замест «пёсик, пёсик, иди сюда», «посік, посік, ідзі сюда», за што яго і дражнілі Посікам да канца школы, пакуль не прывёз са службы новую мянушку. Затое Молю нельга было пазнаць, калі дападаў да коней, якіх даглядаў яго бацька, аднарукі пасля вайны. Моля не адставаў ад яго, Моля змалку ўмеў усё: і воз накласці, і касіць, і араць. Ён курыў бацькаў самасад, мацюкаўся, як мужчына. Гэта пасля арміі Моля акультурыўся, кінуў курыць, пачаў хадзіць босы па расе і знайшоў сабе пастухоўскую работу.

Часам Моля падыходзіў да Харытонавіча пагаварыць. Апошнім часам ён любіў пагаварыць разумна і нават павучыць.

— Ты не дагадаўся, Харытонавіч... Трэба табе было перад пенсіяй пайсці і кароў папасвіць. І грошы меў бы, і сена, як калгасніку, прывозілі б.

— Што ты, Моля, кажаш? — за панібрацтва Харытонавіч плаціў мянушкай, але Моля да яе прывык і не звяртаў увагі нават і на тон, якім яму адказвалі.

— Думаеш, чаго Паваляй даходжвае? Пенсію добрую хоча.

— І ты думаеш да пенсіі дарабіць? Доўга табе яшчэ. Прыдумаюць які аўтамат — і закрылася лавачка.

— Пакуль той аўтамат, я столькі назбіраю, што з мяне на сто год хваціць!

Не пахваліцца Моля таксама не мог.

— Твой жа Толік іх за год распатроніць. Ты ж яму і так ужо плоціш...

Пра маладзейшага Моля не любіў, калі гаварылі: і вучыцца не хацеў, і да работы не прыгыркаць. Моля нікому не прызнаваўся, што плаціў сыну пяцёрку, каб адпасвіў чаргу кароў.

— Пойдзе ў армію, абразуміцца, мол, я па сабе ведаю!

Харытонавіч бачыў, як заселі пад кустом пастухі, потым прыехаў Талейкаў хлапчук у камбінезоне і ў ботах. Харытонавіч ведаў ужо, што Талейка запіў. Праз некаторы час пачуўся з кустоў трактарны «пускач», потым выехаў і пайшоў на поле з паднятымі плугамі трактар. Дзіва ў гэтым не было — меншы Талейкаў не першы раз падмяняў на рабоце бацьку.

Заняты кошляй, Харытонавіч не заўважыў, калі да пастухоў прыйшоў Була. Роўна шахала каса, падымалася, прыгравала сонца, пругка, як хвалі вады, наплывалі павевы ветру, лазовае лісце на кусціку над вадой пачынала трымцець, і ў ваду, як лодачкі, падалі першыя пажоўклыя лісткі, шнурочкам сплывалі па плыні. Набліжаўся і аддаляўся роўны гул трактарнага матора, таксама прывычны, нечым у адзінае звязаны з надыходам восені, з першым жоўтым лісцем на пахаладзелай вадзе.

Паглядзець на пастухоў Харытонавіча прымусіў здаровы рогат. Першыя шклянкі віна былі выпіты.

— Була, такую тваю, гаспадар! Як вам не брыдка! Паскуства!

Була першы перастаў смяяцца, расплюшчыў вочы, глянуў імгненна працверазелымі вачыма на старога настаўніка. Перастаў пахіхікваць Моля, гыгыкнуў яшчэ раз колькі Паваляй.

— Плюнь, Коля! Я паеду на абед, вызаву «лятучку»,— гукнуў услед хлапчуку Була, але той быццам і не пачуў.

Той паволі ішоў да трактара, і з-пад ботаў у яго вецер падхопліваў і закручваў пылам. Харытонавічу здалося, што і яму дастала пылам да вачэй.

— Бач, аплік, з гонарам! — мацюкнуўся неяк няўпэўнена Була і загадаў Молю:— Разлівай!

Харытонавіч моўчкі плюнуў, завярнуўся і пайшоў, чуў, як хіхікнуў услед Моля: «Яшчэ адзін ненармальны найшоўся!»

Харытонавіч бачыў, як заглушыў трактар і паехаў з поля хлапчук, хутка знік ад пастухоў і Була. Трактар прастаяў цэлы дзень. Пад вечар прыехала «лятучка», за некалькі хвілін мужчыны нацягнулі гусеніцу і пагналі на ноч трактар на цэнтральную сядзібу.

Стары настаўнік глядзеў услед трактару, і яму ўсё здавалася, што рэжа ў вачах ад пылу з недааранага хлапчуком поля.

*1985*

# ЗМЕСТ

## Аповесці



## Апавяданні

Літаратурна-мастацкае выданне

ЖУК Алесь Аляксандравіч

**ВОДСВЕТЫ ЗОРАК**

Аповесці, апавяданні

*Для старэйшага школьнага ўзросту*

Рэдактар *У. А. Марук*
Мастацкі рэдактар *К. С. Ракіцкі*
Тэхнічны рэдактар *А. В. Русецкая*

Здадзена ў набор 24.06.97. Падпісана да друку 17.19.97. Фармат $84 \times 108^1/_{32}$. Папера друкарская. Гарнітура Тып Таймс. Афсетны друк. Ум. друк. арк. 18,48. Ум. фарб.-адб. 18,90. Ул.-выд. арк. 20,86. Тыраж 3000 экз. Зак. 1987.

Дзяржаўнае прадпрыемства «Выдавецтва «Юнацтва»» Дзяржаўнага камітэта Рэспублікі Беларусь па друку. Ліцэнзія ЛВ № 7, 16.03.1993 г. 220600, Мінск, Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.